# Медыяадукацыя ў школе:

## фарміраванне медыяграматнасці вучняў

дапаможнік-навігатар для настаўнікаў

**Мінск, 2016**

УДК 373.3/.5.02
ББК 74.202

Рэцэнзенты: М.А. Краснова, кандыдат педагагічных навук, дацэнт;
Ю.К. Тарасевіч, настаўнік вышэйшай катэгорыі.

**Медыяадукацыя ў школе: фарміраванне медыяграматнасці вучняў:** дапаможнік для настаўнікаў / М.І. Запрудскі, А.А.Палейка, А.У. Радзевіч, Т.П. Мацкевіч і інш.; пад рэд. М.І. Запрудскага. – Мінск, 2016. – 334 с.

У дапаможніку разглядаецца адукацыйны патэнцыял медыя для арганізацыі сучаснага навучальнага працэсу ў школе, акрэсліваецца роля сродкаў масавай камунікацыі, іх уплыў на людзей і грамадства, вызначаюцца кампетэнцыі, якія складаюць аснову медыяграматнасці. Асаблівая ўвага надаецца крытычнаму мысленню, якое выступае ў якасці фільтра пры аналізе і ацэнцы інфармацыі з розных медыякрыніц. Таксама разглядаюцца магчымасці і прыклады з вопыту работы настаўнікаў па медыяадукацыі вучняў у працэсе правядзення вучэбных заняткаў і пазакласнай выхаваўчай работы.

Педагогам прапануецца не звычайны дапаможнік, а своеасаблівы навігатар. Гэта значыць, што ён змяшчае не толькі тлумачальна-ілюстратыўныя тэксты, пытанні і заданні, але і спасылкі на адмыслова створаныя інтэрнэт-рэсурсы, якія будуць папаўняцца і ўдасканальвацца нават пасля выхаду кнігі.

# Змест



**Раздзел 5.**
**АБ СТВАРЭННІ СІСТЭМЫ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ Ў СУЧАСНАЙ ШКОЛЕ**

# Ад рэдактара

Давайце ўявім сабе сітуацыю, што грамадзяне краіны цалкам вераць таму, што паведамляюць шматлікія айчынныя і замежныя сродкі масавай інфармацыі. Якія наступствы гэтага чакаюць іх асабіста? Гэтыя людзі будуць прымаць рашэнні, якія могуць прынесці ім пэўную шкоду: магчыма ў краме яны набудуць недабраякасны, але прыгожа разрэкламаваны тавар; на выбарах будуць галасаваць, за кандыдата, які, стаўшы ўплывовым палітыкам, будзе працаваць не ў інтарэсах людзей, краіны, а ў асабістых карыслівых мэтах; будуць распаўсюджваць сярод сяброў і знаёмых неправераную інфармацыю і г.д.

Якія ж адмоўныя наступствы такога поўнага даверу будуць для грамадства? Грамадскасць пад уплывам прапаганды можа падтрымліваць не лепшыя палітычныя рашэнні, што прыводзіць да пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў краіне, шкодзіць міжнароднаму аўтарытэту дзяржавы, стварае пагрозу яе суверэнітэту.

Гэтага не здарыцца, калі грамадзяне будуць медыйна адукаванымі асобамі. На наш погляд, менавіта школа павінна несці адказнасць за фармаванне медыйнай граматнасці падрастаючага пакалення, а праз яго — і людзей сталага ўзросту. Зыходзячы з гэтага пасылу напісана кніга, якую вы, калега, чытаеце ў папяровым або ў электронным варыянце.

У першым раздзеле кнігі — «Медыя, медыяадукацыя і медыяграматнасць сучаснага чалавека» расповед ідзе пра месца медыя ў сучасным свеце. Сродкі масавай інфармацыі займаюць у жыцці чалавека настолькі вялікае месца, што нават дзіўна, што дагэтуль яны сістэмна не вывучаюцца ні ў школе, ні ў ВНУ (акрамя факультэтаў журналістыкі). Нас акружаюць флора і фаўна, таму ёсць вучэбны прадмет біялогія; мы маем справу з матэматычнымі вылічэннямі, таму ёсць матэматыка; мы непасрэдна звязаны са з'явамі нежывой прыроды, з тэхнікай, таму — фізіка і да т.п. Мы пагружаны ў інфармацыйныя патокі, а медыя ў школе не вывучаюцца.

Паглядзіце змест кнігі і вы ўбачыце, што першы раздзел уводзіць чытача ў праблему медыяграматнасці, тлумачыць асноўныя паняцці, раскрывае крытычнае мысленне як фільтр, з дапамогай якога чалавек абараняе сябе ад шкоднай інфармацыі і вылучае тую, якая патрэбна для жыцця і прафесійнай дзейнасці. Тут таксама паказана, што PISA — міжнароднае даследаванне якасці адукацыі — у большасці правярае і ацэньвае менавіта медыйную кампетэнтнасць 15-гадовых школьнікаў.

У школах нашай краіны, дарэчы, як і ў многіх іншых, няма спецыяльнага медыйнага вучэбнага прадмета. Таму выйсце мы бачым у медыйным насычэнні

вучэбных заняткаў па традыцыйных дысцыплінах. Як гэта можна зрабіць? Пра гэта распавядаецца ў другім раздзеле. Ён пачынаецца з параграфа, у якім тлумачацца асаблівасці ўрока, на якім, акрамя вырашэння вучэбных задач, фарміруецца медыйная граматнасць вучняў; даюцца парады па праектаванні такіх урокаў, выбары адпаведных метадаў і сродкаў навучання. Затым аўтары асвятляюць свой вопыт медыяадукацыі вучняў на ўроках беларускай літаратуры, англійскай мовы, гісторыі і грамадазнаўства, фізікі, матэматыкі, хіміі, біялогіі і ў пачатковых класах.

Вялікія магчымасці для павышэння медыйнай граматнасці вучняў маюць заняткі па-за ўрокамі, а таксама ва ўстановах дадатковай адукацыі. Гэтаму прысвечаны трэці раздзел. Тут жа вы знойдзеце парады настаўнікам па стварэнні ўласных медыяпаведамленняў, у тым ліку напісанні артыкулаў для публікацыі ў педагагічным друку. Поспех медыяадукацыі залежыць ад сістэмнасці, зладжанасці адпаведнай работы ўсяго педагагічнага калектыву, таму раім пачытаць заключны раздзел кнігі.

Наша кніга мае шэраг адметнасцяў, якія, без перабольшання, робяць яе ўнікальным выданнем:

- яна інавацыйная па форме і па змесце, паколькі дапаможнікі для педагогаў па праблеме медыяадукацыі вучняў у нашай краіне не выдаваліся;
- аўтары кнігі — практыкі: настаўнікі школ, педагогі ВНУ і дадатковай адукацыі дзяцей і педагогаў, а таксама прадстаўнікі адукацыйных грамадскіх арганізацый, якія ўжо маюць станоўчы досвед медыяадукацыйнай дзейнасці;
- тэксты пабудаваны так, што, акрамя асвятлення адпаведных аспектаў тэмы медыяадукацыі, чытачам прапануецца самім выканаць заданні, адказаць на пытанні і, такім чынам, на сабе адчуць практыку выхавання медыяграматнасці або арганізаваць выкананне гэтых практыкаванняў сваімі вучнямі;
- кніга мае мноства прыкладаў, гатовых сцэнароў заняткаў, а таксама спасылак на крыніцы ў друкаваных выданнях і інтэрнэце, таму, як адзначалася ў анатацыі, яна ўяўляе сабой сапраўдны навігатар па акіяне медыя.

Вельмі цікава было працаваць над кнігай. Гэта таму, што кніга — грамадскі праект, яе аўтары — настаўнікі, метадысты, грамадскія дзеячы і выкладчыкі ВНУ — вельмі дасведчаныя, творчыя, адказныя людзі. Яны — прафесіяналы!

*Мікалай Запрудскі*

# Раздзел 1. МЕДЫЯ, МЕДЫЯАДУКАЦЫЯ І МЕДЫЯГРАМАТНАСЦЬ СУЧАСНАГА ЧАЛАВЕКА

*Тамара Мацкевіч*

## 1.1. Медыя ў сучасным свеце

*Магчыма, сярод тых, хто чытае гэты тэкст, ёсць людзі, якія думаюць, што яны маюць настолькі развітае крытычнае мысленне, што медыя на іх не ўплываюць, не маніпулююць імі. Гарантуем, што вы пераканаецеся ў адваротным і здзівіцеся як мінімум тры разы, дачытаўшы гэты раздзел да канца.*

### 1.1.1. Што такое медыя і чаму важна на іх зважаць

Медыя інтэграваныя ў нашае жыццё настолькі, што большасць паведамленняў мы атрымліваем у фонавым рэжыме, не звяртаючы на іх увагі. Можна сказаць, што інфармацыя ўплывае на нашую падсвядомасць, і мы часта не заўважаем, як пачынаем сыпаць цытатамі з рэкламных ролікаў, невядома чаму набываем той ці іншы тавар ці пачынаем горш ставіцца да пэўнай групы людзей, краем вуха пачуўшы пра іх негатыўны рэпартаж па тэлевізары. Людзі не здольныя крытычна асэнсоўваць рэчы, якіх яны не заўважаюць, і медыя дзейнічаюць на іх падсвядома, уплываюць на ўчынкі, фармуюць паводзіны. У большасці выпадкаў гэта не нясе небяспекі, але далёка не заўсёды.

Медыяадукацыя - гэта шлях дапамогі вучням, якія жывуць у інфармацыйным грамадстве, залежаць ад тэхналогій, выхаванне ў іх здольнасці глядзець на свет самастойна і прымаць свае ўласныя рашэнні.

Cynthia L. Scheibe, Faith Rogow
The Teacher's Guide to Media Literacy: Critical Thinking in a Multimedia World

**Медыяадукацыя** ўзнікла як шлях дапамогі вучням, якія жывуць у інфармацыйным грамадстве, залежаць ад тэхналогій, гэта выхаванне ў іх здольнасці глядзець на свет самастойна і прымаць свае ўласныя рашэнні.

**Медыяграматнасць** — сукупнасць навыкаў і ўменняў, якія дазваляюць людзям знаходзіць патрэбнае, аналізаваць, ацэньваць паведамленні ў розных відах медыя, жанрах і формах, а таксама ствараць такія паведамленні.

Такім чынам, **медыяадукацыя** — гэта працэс, а **медыяграматнасць** — вынік адпаведнай адукацыйнай практыкі.

Галоўныя складнікі медыяадукацыі і медыяграматнасці звязаныя з уменнямі:

1. атрымаць доступ да інфармацыі;
2. крытычна яе асэнсаваць (прааналізаваць);
3. ацаніць інфармацыю **з гледзішча закладзенага ў ёй паслання, патрэбнасці, адпаведнасці каштоўнасцям…;**
4. адказна і этычна карыстацца медыяпрасторай і прымаць удзел у яе стварэнні.

Натуральна, пры навучанні медыяграматнасці найперш трэба паказаць вучням, якую ролю медыя адыгрываюць у іх жыцці. Ды і самім настаўнікам не зашкодзіць пераканацца, што медыяграматнасць — не чарговая мода, а адзін з самых неабходных навыкаў выжывання ў інфармацыйным свеце, якому павінна вучыць школа.

Каб усвядоміць, наколькі мы знаходзімся пад уплывам медыя, залежныя ад іх, можна правесці невялікае практыкаванне, яно падыходзіць для любых узроставых катэгорый і не патрабуе папярэдняй падрыхтоўкі.

**Практыкаванне «Сняданак з героем»**

**Мэта:** вучні зразумеюць, наколькі думкі і паводзіны людзей могуць залежаць ад медыя.

1. Прапануйце вучням вызначыць, з кім бы яны хацелі правесці 10—15 хвілін за сняданкам. Патлумачце, што няма абмежаванняў: можна выбраць любую рэальную / гістарычную / фантастычную асобу мінулага, сучаснасці ці будучыні. Дайце на абдумванне 3 хвіліны і папрасіце запісаць свайго героя на аркушыку паперы.

2. Прапануйце агучыць свой выбар некалькім вучням і абгрунтаваць яго. (Для гэтага найлепш скарыстаць метад непадымання рукі, добра знаёмы вам з актыўнай ацэнкі*).
3. Аб’яднайце клас у групы па 4—7 чалавек і прапануйце выбраць кожнай групе аднаго героя.
4. Дайце магчымасць агучыць і абгрунтаваць групавое рашэнне.
5. Потым прадстаўнікі кожнай групы павінны дамовіцца і выбраць адну кандыдатуру для ўсяго класа.
6. Агучце спіс усіх названых герояў і правядзіце абмеркаванне.

*Заўвага.* У залежнасці ад мэты ўрока і часу на практыкаванне пункты 3—5 можна скараціць.

*Пытанні для абмеркавання.* Колькі з названых герояў мы ведаем толькі па медыя? Што можна сказаць пра ўплыў медыя на людзей?

Гэтае практыкаванне мы звычайна праводзім на пачатку заняткаў па медыяграматнасці для настаўнікаў і вучняў. Адказы былі розныя: у настаўнікаў перамагалі Шрэк, Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Караткевіч, Ала Пугачова і нават Джоні Дэп. Вучні называлі, як правіла, вядомых акцёраў, музычных куміраў, трапляўся і Стыў Джобс. Аднак не было выпадку, каб нехта захацеў сустрэцца за сняданкам са сваёй прапрапрабабуляй ці з самім сабой у будучыні, каб запытацца пра сваё блізкае, а не медыйнае.

Удзельнікі лёгка рабілі высновы пра ўплыў медыя на нашыя думкі, меркаванні, дзеянні і ўчынкі. Пасля падобных практыкаванняў міні-лекцыя пра медыя ўспрымаецца аўдыторыяй больш матывавана, бо кожны прымервае змест на свой досвед.

Вызначымся, што мы маем на ўвазе, кажучы пра медыя.

**Медыя** (ад лац. *medium*) — пасярэднік, сродак. Тэрмін можа мець розныя значэнні ў залежнасці ад кантэксту. Напрыклад, у мастацтве гліна або фарбы — гэта таксама сродкі для перадачы пачуццяў мастака. Цяпер кажуць, што школьны падручнік паступова губляе сваю функцыю медыя, саступаючы іншым сродкам, найперш інтэрнэту. Аднак у кантэксце медыяграматнасці тэрмін «*медыя*» тычыцца толькі сродкаў масавай камунікацыі (СМК), да якіх традыцыйна адносяць друк, прэсу, тэлебачанне, кінематограф, радыё, гуказапісы і інтэрнэт.

* Калі настаўнік задае пытанне, ён дае час на абдумванне адказу (мінімум 5 секунд) ці прапануе абмяркоўваць адказ у парах, а потым выклікае не тых вучняў, якія цягнуць руку, а тых, на якіх выпадае лёс (папярэдне ён мае ўсе імёны вучняў і выцягвае таго, хто мусіць адказаць, альбо давярае гэтую справу камусьці з вучняў). Такая тэхніка дазваляе ўключыць у працу ўвесь клас, а не толькі «актыў», які цягне рукі: http://aacenka.by/?p=9078.

**Новыя медыя** — кантэнт, размешчаны на лічбавых платформах.

Сёння кажуць пра канвергенцыю (узаемапранікненне) медыятэхналогій. Нават традыцыйныя друкаваныя крыніцы — падручнікі, газеты — вельмі часта змешваюць тэкст, малюнкі, часам гук і нават відэа. Наш дапаможнік таксама мае як друкаваную, так і электронную версію, старонку ў інтэрнэце, якая будзе абнаўляцца, папаўняцца дадаткамі. Таму гэта новы тып падручніка, які называецца *навігатарам*.

Вельмі важна, каб настаўнік добра ўсвядоміў, што ён будзе мець на ўвазе, гаворачы пра медыя. Ад гэтага залежыць, як ён будзе навучаць медыяграматнасці на практыцы.

У кнізе для настаўнікаў «Медыяадукацыя. Крытычнае мысленне ў мультымедыйным свеце»* вызначаюцца наступныя характарыстыкі медыя:

1. Медыя перадаюць мэсыджы** з дапамогай візуальных сродкаў, мовы і / або гуку.
2. Медыямэсыджы вырабляюцца масава для масавай аўдыторыі і распаўсюджваюцца з дапамогай адпаведных тэхналогій.
3. Тыя, хто ствараюць медыямэсыджы, не знаходзяцца ў той жа фізічнай прасторы, што і рэцыпіент(ы) гэтых мэсыджаў.

### 1.1.2. Віды медыя

Вось прыйшоў час першай спробы здзівіць чытача.

Паспрабуйце зараз проста ўзгадаць і запісаць усе віды медыя, якімі вы карысталіся ці з якімі сутыкнуліся сёння з моманту абуджэння да гэтага часу. Параўнайце, наколькі ваш пералік супадае з тым, які знойдзеце ў канцы гэтага раздзела.

Спадзяюся, вы ўпэўніцеся, наколькі няпоўны ваш спіс. Нават калі занеслі ў яго лагатып на вашым абутку, надпіс на кубку з кавай, музыку, якая гучала ў прадуктовай краме, вы ўсё роўна знойдзеце ў прапанаваным спісе некалькі відаў медыя, якія падсвядома ўплывалі на вас у гэты час.

Аднак, калі мы вядзём гаворку пра медыяадукацыю, будзем гаварыць пра мас-медыя ці СМК, гэта значыць сродкі, якія вырабляюцца для масавай камунікацыі і інфармавання. Да канца XX стагоддзя такіх лічылася шэсць:

* Scheibe, C. The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world. Thousand Oaks / C. Scheibe, F. Rogow. — Corwin, 2012.

** Запазычанае з англ. *message* — паведамленне, пасыл, завуаляванае паведамленне, ідэя, кароткі змест.

- друкаваныя медыя (кнігі, газеты, часопісы...);
- аўдыязапісы;
- кінематограф;
- радыё;
- тэлебачанне;
- інтэрнэт.

Аднак, у сувязі са з'яўленнем новых тэхналогій і ўзаемапранікненнем гэтых медыя, у пералік пачалі ўключаць мабільную тэлефанію, блогі, падкасты, відэагульні...

Пры вызначэнні відаў медыя вы можаце правесці падобнае практыкаванне з вучнямі.

**Практыкаванне «Віды медыя»**

**Мэта:** вучні на ўласным вопыце асэнсуюць уплыў медыя на людзей, пашыраць спіс вядомых ім медыя, прааналізуюць, якія медыя на іх дзейнічалі свядома, а якія падсвядома.

1. Папрасіце вучняў пералічыць медыя, з якімі яны сутыкнуліся за пэўны час.
2. Складзіце агульны спіс на дошцы ці вялікім аркушы паперы.
3. Прапануйце спіс* з нашага дапаможніка і дадайце тыя медыя, якія вучні не заўважылі.
4. Азнаёмце вучняў з азначэннем «медыя» і характарыстыкамі медыя.
5. Правядзіце рэфлексію па пытаннях: Чаму важна, каб мы звярталі ўвагу на прысутнасць медыя ў нашым жыцці, навакольным свеце? Якія могуць быць наступствы, калі мы ўсведамляем адны медыяпасылы, але не ўсведамляем іншыя? Як вы лічыце, ці могуць камп'ютарныя гульні выконваць ролю медыя? Якія віды медыя сустракаюцца толькі ў Беларусі?

Каб вучні адчулі, што гэтае практыкаванне «не для галачкі», важна не абмяжоўвацца тэорыяй, а ўлічыць асаблівасці беларускай медыяпрасторы,

* Гл. старонку 34.



абапірацца на блізкае вучням. Для Беларусі характэрная адсутнасць незалежных электронных медыя, аднак ёсць і спецыфічныя, прысутныя толькі ў нас: «вышымайкі». Які пасыл яны нясуць? Чаму яны такія модныя сярод моладзі?

Некаторыя медыя, напрыклад, георгіеўскія стужкі на антэнах машын, могуць несці неадназначны пасыл беларусам. Дзеці могуць правесці даследаванне — апытаць кіроўцаў, што яны хацелі прадэманстраваць: перамогу ў Другой сусветнай вайне ці падтрымку анексіі Крыма Расійскай Федэрацыяй, і самастойна зрабіць высновы.

У сувязі з увядзеннем новых купюраў з 1 ліпеня 2016 г. актуальным будзе і наступнае практыкаванне.

**Практыкаванне «Грошы як від мэдыя»**

**Мэта:** вучні пашыраць уяўленні пра віды медыя і будуць здольныя вылучаць пасыл, які нясе медыятэкст, і сродкі, выкарыстаныя для перадачы гэтага пасылу.

1. Настаўнік раздае копіі ці дэманструе на экране віды валют некалькіх краін, у тым ліку і Беларусі.
2. Вучні павінны індывідуальна / у парах адказаць на пытанні.

   Што мы бачым на грашовых адзінках розных краін? Што мы можам сказаць пра каштоўнасці тых краін? Чым краіна хоча пахваліцца? Як мы пра гэта здагадаліся? Якіх людзей можна пабачыць на купюрах? Што яны робяць? Каго не стае? Якія сімвалы і мовы можна ўбачыць на купюрах? Што можна сказаць пра стасункі з іншымі краінамі? Як з часам змяняліся выявы на валюце?
3. Праца ў групах. Абмяркуйце, як магла б выглядаць валюта Беларусі, каб вы былі б яе распрацоўшчыкамі. Зрабіце эскіз. Сфармулюйце пасыл, які вы зашыфравалі ў выяве купюры, і назавіце, якія сродкі для гэтага выкарысталі.
4. Прэзентацыя вынікаў.

Для павышэння матывацыі вучняў гэтае практыкаванне можна адаптаваць і правесці на ўроку гісторыі, грамадазнаўства, літаратуры, замежнай і роднай мовы — толькі спыніцца на выяве гістарычнай асобы, будынка, сімвала, правапісу лічэбнікаў, якія звязаны з тэмай урока.

### 1.1.3. Жанры медыя

Жанраў медыя існуе яшчэ больш, чым відаў. Сярод іх рэпартаж, рэкламнае паведамленне, драма, камедыя, дэтэктыў, публіцыстыка, аналітычны артыкул, эсэ, фотарэпартаж і г. д.

Найбольш важна навучыцца адрозніваць *рэпартаж* і *публіцыстыку*.

**Рэпартаж —** гэта жанр, пазбаўлены эмоцый, які лаканічна, дакладна асвятляе актуальныя і / або невядомыя падзеі.

**Публіцыстыка** скіраваная на кантакт з чытачом, на асэнсаванне рэчаіснасці шляхам спалучэння лагічнага і пачуццёва-вобразнага спосабаў даследавання і адлюстравання, прыводзіць дапушчэнні і аргументы, робіць высновы.

Навінавы рэпартаж павінен быць аб'ектыўным, у той час як публіцыстыка перадае меркаванне аўтара, і ўжо ад чытача залежыць, ці пагаджацца з ім.

### 1.1.4. Мова медыя

Кожны від медыя мае сваю «мову» і «граматыку», якія працуюць на перадачу зместу. «Мова» ў гэтым сэнсе азначае тэхнічныя складнікі: знакі ці коды ды абазначэнні, якія прафесіяналы ў галіне медыя і інфармацыі ўмеюць адбіраць і выкарыстоўваць для трансляцыі ідэй, інфармацыі і ведаў.

**Тэхнічныя коды** — гэта гук, ракурс здымкаў, кадраванне, святло. Гэта, напрыклад, трывожная музыка, якая перадае стан небяспекі ў мастацкім фільме, або здымкі, зробленыя адмысловым аб'ектывам для стварэння на фатаграфіі адчування сілы.



*Прыклад: кадр з фільма, дзе з дапамогай асвятлення ствараецца пэўны эмацыйны пасыл.**

* Крыніца http://murderiseverywhere.blogspot.com.by/2012/12/in-living-black-and-white.html.

**Сімвалічнымі кодамі** з'яўляюцца мова, адзенне, паводзіны персанажаў. Гэта могуць быць сімвалы, лёгка зразумелыя кожнаму: сэрца — сімвал любові, сціснуты кулак — знак гневу. Кодамі могуць быць, словы, фразы ці выявы.

Набор кодаў і сімвалаў працуе разам, каб прымусіць вас адчуваць сябе шчаслівым, раз'юшаным ці ўзбуджаным, каб схіліць вас да думкі, што вы хочаце купіць той ці іншы прадукт, новы тэлефон, укладваць валасы пэўным чынам, каб выклікаць спачуванне Герою або нянавісць да Злодзея.



Спасылка па тэме:
**http://www.aup.com.ua/uploads/Audiovisualna_gramotnist.pdf**
Аўдыявізуальная граматнасць.
Прэзентацыя Аксаны Валашанюк.

**Практыкаванне «Герой і антыгерой»**

**Мэта:** *вучні даведаюцца пра візуальныя сродкі, якія ўжываюць медыя, каб аказаць уплыў на гледача. Прааналізуюць кантэнт ТБ з пункту гледжання мовы медыя.*

1. Паглядзіце з вучнямі прэзентацыю, прысвечаную аўдыявізуальнай граматнасці, украінскага медыяпедагога і кінаведа Аксаны Валашанюк.*
2. Дайце вучням заданне да класнай гадзіны ці ўрока праглядзець мастацкі фільм (серыю) па адным з дзяржаўных каналаў тэлебачання. Папрасіце вучняў звярнуць увагу, якія сімвалы і коды нясе галоўны станоўчы персанаж (што нас прымушаюць любіць?), якія аўдыявізуальныя коды вы заўважылі ў адмоўных героях (што нам прапануюць не прымаць?).
3. Абмяркуйце гэта ў класе. Так як вучні будуць глядзець розныя фільмы на розных каналах, можна скласці агульную карціну таго, які пасыл нам нясе тэлебачанне.

Нагадаем, што медыяпаведамленне — гэта канструкцыя, якая складаецца з медыятэксту і пасылу (галоўнай ідэі). Аўдыторыя, у першую чаргу дзіцячая, занадта пасіўная ў адносінах да «чытання» тэкстаў, разумення і аналізу схаваных кодаў і пасылаў, таму мэта медыяадукацыі ў тым, каб дапамагчы дарослым і дзецям «правільна чытаць» медыятэкст.

* Крыніца http://www.aup.com.ua/uploads/Audiovisualna_gramotnist.pdf



Прапануем у якасці прыкладу працы з сімваламі і мовай медыяўрок «Ствараем плакат да 9 мая», які распрацавала і правяла Алена Сом: **http://www.nastaunik.info/node/14991**.

### 1.1.5. Медыятэкст і медыямэсыдж

**Медыятэкстам** ці **медыяпаведамленнем** мы будзем называць любое паведамленне, перададзенае з дапамогай візуальных або аўдыясродкаў. Медыятэкст — гэта паведамленне, тэкст любога медыйнага віду і жанру.

**Медыяпасланне (мэсыдж)** — пасыл, галоўная ідэя медыяпаведамлення. Часта медыяпасланне зашыфраванае ў медыятэксце.

З гэтага можна зрабіць выснову, што ўсе медыятэксты — гэта своеасаблівыя канструкцыі для перадачы пасылу. Прычым вялікая частка пасылаў-паведамленняў адрозніваецца ад зместу самога тэксту альбо зашыфравана ў тэксце.

Разгледзім гэта на прыкладзе рэкламы. Узгадайце рэкламны ролік пра каву, напрыклад, Jacobs Monarch. «Богатый вкус. Знаменитый аромат», — кажа закадравы голас. Пры гэтым мы бачым відэашэраг багатага жыцця на ўласнай яхце з кубкам кавы. Вядома, пасыл тут ясны: «Набывайце гэтую каву, каб вас лічылі багатым і вядомым!». Гэта вельмі просты ролік для разумення пасылу.

Больш складана выявіць пасыл, які навязвае нам рэклама, схаваная ў замоўленых тэкстах, ці прапаганда ў навінах. Каб вылучыць і зразумець пасыл, трэба зрабіць *дэканструкцыю*, або *дэкадаванне*, медыятэксту. Аднак найперш трэба ведаць сродкі, якімі карыстаюцца сучасныя медыя, каб уплываць на людзей.

### 1.1.6. Як медыя маніпулююць нашай свядомасцю і паводзінамі?



Маніпуляцыя — спосаб камунікацыі, мэта якога ў змене ўспрымання або паводзін кагосьці. Маніпулятары выкарыстоўваюць розныя лагічныя памылкі ў разважаннях, апускаюць частку інфармацыі, выбіраюць толькі патрэбную (як разынкі з булкі), параўноўваюць непараўнальнае або адцягваюць увагу нечым іншым. Маніпуляцыя заўсёды дзейнічае на падсвядомасць. *Калі вы разумееце, што вамі маніпулююць, гэта не маніпуляцыя.*

У свеце не знойдзецца чалавека, які хоць аднойчы не стаў бы ахвярай маніпулявання. Якімі разумнымі і адукаванымі мы сябе ні лічылі б, кожны ўспомніць, як не раз, не два ён набыў непатрэбны тавар, паддаўся на ўгаворы махляра, варажбіткі ці экстрасэнса, паверыў рэкламе, прапагандзе. І добра, калі можна проста забыцца на непрыемны эпізод, але часам ён даволі сур’ёзна

ўплывае на нашае жыццё. А каб супрацьстаяць гэтаму, паспрабуем разабрацца, як дзейнічае механізм «прамывання мазгоў»*.

**Пры маніпуляванні масавай свядомасцю фізічных метадаў не выкарыстоўваюць, але найчасцей у ход ідзе псіхалагічны «трохкрокавы» механізм: адключыць логіку (знізіць крытычнасць мыслення); выклікаць страх (стварыць пагрозу); падчапіць чалавека на кручок выратавальніка (прапанаваць выхад).**

**Адключыць логіку.** Звычайна чалавек досыць крытычна ўспрымае інфармацыю. Людзі інстынктыўна праціўяцца новаму, нічога не прымаюць на веру. Мы старанна разглядаем чаравікі, якія збіраемся набыць, нюхаем ежу, перш чым пакласці яе ў рот, з падазрэннем ставімся да навін («Ды нічога такога не бывае!»). Але пры адключэнні логікі наша ratio не працуе, і мы гатовыя паверыць у што заўгодна. Чаму? Рэалістычна «наладжанага» «дарослага» ператвараюць у «даверлівае дзіця» ці зомбі. У нас «адключаюць» крытычнасць і ўсе іншыя сродкі псіхалагічнай абароны асобы. І мы пачынаем выкарыстоўваць штучна створаныя вобразы і «факты» навязанай нам сацыяльнай міфалогіі.

Каб адключыць логіку, чалавека трэба або спалохаць, або здзівіць, або ўвесці ў стрэс, або зрабіць так, каб ён адчуваў сябе вінаватым, або, наадварот, увайсці ў давер, «расслабіць яму мазгі» жоўтай прэсай ці прымусіць смяяцца. Даследаванні паказалі, што спажыўцы таблоідаў, напрыклад, цікавяцца палітыкай нашмат менш, чым тыя, хто зусім не чытае прэсу. Да таго ж эфект адключэння розуму можа адбыцца ад рэзкай экспрэсіўнай прамовы без дыялогу (узгадайце ток-шоу ды іх «экспертаў»), ад яскравай эмацыйнай асацыяцыі (гісторыя «распятага хлопчыка»), шматразовых паўтораў (рэкламныя ролікі), падачы інфармацыі такім чынам, каб яна выклікала шмат эмоцый — ад жаху да захаплення.

**Выклікаць страх.** Як ператварыць рацыянальнага чалавека ў даверлівае дзіця? Стварыць пагрозу яго базавым патрэбам. Галоўнае — любым спосабам прымусіць нас баяцца. Чаго заўгодна: бяссонніцы, голаду, фашызму, пагроз дзецям. Страх гэты абсалютна ірацыянальны, але запалоханыя людзі пойдуць на ўсё. Напрыклад, дастаткова проста вымавіць «міжнародны тэрарызм» — і мы ўжо не пратэстуем, калі ў аэрапорце нас абшукваюць, прымушаюць разувацца і выварочваць кішэні; прыгразіць стратай працы — і чалавек гатовы паставіць свой подпіс пад фальшывым дакументам.

Маніпуляцыя свядомасцю выкарыстоўвае гульню на пачуццях, зварот да падсвядомасці, страхаў і забабонаў, а яны ёсць у кожнага з нас. Як зброю выкарыстоўваюць нацыянальныя стэрэатыпы, міфы. У кожнага народа

* Brainwashing — англ. прамыванне мазгоў. Упершыню гэты тэрмін ужыў у 1950 г. у сенсацыйным артыкуле ў «Miami News» журналіст і супрацоўнік аддзела прапаганды ЦРУ Эдвард Хантэр. Ён літаральна пераклаў кітайскі выраз: так казалі пра метады прымусовага пераканання, якімі ў кітайцаў, выхаваных яшчэ ў дарэвалюцыйную эпоху, выкаранялі «феадальны» склад мыслення.

ёсць нешта, на што можна націснуць, за што зачапіць. Кожны народ чагосьці баіцца. Народы Еўропы, напрыклад, — фашыстаў. За гэтым словам — мільёны загінулых, нянавісць да ворагаў, якія «сожгли родную хату, сгубили всю его семью», нешта страшнае. І кантэкст ужо не мае значэння. Гэты ключык адчыняе дзверы падсвядомага, актуалізуе страхі, націскае на болевыя кропкі. Асабліва гэта дзейнічае на жанчын, дзяцей, малаадукаваных людзей.

Трапляюць у цэль і «мёртвыя словы». У прапагандзе гэта: «фашысты», «бамбёжкі», «хунта», «вайна», «пятая калона»; у рэкламе — «бяссонніца», «боль», «смага». У варажбіткі іншы набор: «замова на смерць», «вянок бясшлюбнасці», «радавы праклён». Чалавека нібы заганяюць у вузкую прастору, у якой няма месца аргументацыі, дзе ў ход ідуць «ярлыкі», інфантыльныя звароты, дзе рэчаіснасць тлумачаць простымі «дзіцячымі» формуламі. «Мёртвыя словы» не разлічаныя на крытычнае ўспрыманне. Яны павінны запусціць пэўныя эмацыйныя рэакцыі: страх, адчуванне пагрозы.

Не трэба думаць, што ў адной краіне такое магчыма, а ў іншай — не. Зразумела, дзесьці людзі ў цэлым больш «дарослыя», яны рацыянальныя, лепш разумеюць свае правы, а дзесьці — больш інфантыльныя, зазнаюць уздзеянне, жывуць міфамі, эмоцыямі, маюць «дзіцячую» свядомасць. Наш народ у большай ступені адносіцца да «дзіцячага» тыпу. Да таго ж мы шматкроць «параненая» нацыя: у нас існуе шмат страхаў, якія маюць рэальны падмурак: голад, рэпрэсіі, акупацыя, войны.

**Кручок выратавальніка.** Чалавека напалохалі, пазбавілі здольнасці крытычна мысліць. І, калі ён ужо адчувае сябе ахвярай і шукае выратавання, з'яўляецца «выратавальнік». І чалавек гатовы падпарадкоўвацца, выконваць любыя загады.

Гэтая тэхніка добра распрацаваная ў «варажбітак». Іх ахвяры аддаюць ім усё добраахвотна. «Як жа так? Мне пагражалі нажом або пісталетам?» — пасля дзівіліся разумныя людзі. Фокус просты. Спачатку «варажбітка» прыцягвае да сябе ахвяру. Потым раптам «заўважае» «псаванне», «вянок бясшлюбнасці», «сурокі» і «страшную хваробу». Любы спалохаецца, а ў стане афекту мы лёгка паддаёмся ўгаворам. У гэты момант «варажбітка» ператвараецца ў «выратавальніка»: «Твайму гору дапамагчы няцяжка. Пазалаці ручку». І далей яна можа рабіць з чалавекам усё што заўгодна.

Сутыкнуўшыся з цяжкасцямі, мы шукаем простых адказаў і імкнёмся выправіць сітуацыю простымі дзеяннямі, у тым ліку зусім неабгрунтаванымі. У рэкламе «выратаванне» таксама заўсёды прапануюць праз псеўдалогіку, выбудоўванне прычынна-выніковай сувязі паміж з'явамі, якія не маюць нічога агульнага: будзеш піць гэтую каву — станеш багатым, жаваць гэтую жуйку — спадабаешся дзяўчатам, мыць бялізну гэтым парашком — і муж ніколі не пойдзе з сям'і.

Прапаганда «працуе» гэтак жа. Нас палохаюць тым, ад чаго нам па-сапраўднаму страшна: войнамі, фашызмам, хунтай, забітымі, параненымі. І на фоне ўсяго гэтага жаху паказваюць: вось ён, шлях выратавання — напрыклад, стварыць моцную дзяржаву, якая абароніць, якой усе астатнія баяцца, ці прагаласаваць «за стабільнасць».

Людзей у масе лягчэй падмануць, чым кожнага паасобку. Людзі ў зносінах уплываюць, заражаюць адно аднаго эмоцыямі. Асабліва заразлівая паніка. Менавіта таму ўплыў на аднаго чалавека патрабуе асаблівага прафесіяналізму, а ў масах заражэнне адбываецца імгненна — цяжка выстаяць, калі ўсе вакол паводзяць сябе пэўным чынам. Эфект натоўпу спрацоўвае, нават калі кожны сядзіць перад сваім тэлевізарам.

Як ні парадаксальна, але тыя ж метады выкарыстоўваюцца ў рэкламе. Зразумела, нас не пазбаўляюць ежы, вады ці сну, але «заводзяць» ва ўяўны свет голаду, смагі, недахопу неабходнага. Чым больш таленавітая рэклама, праўдзівыя вобразы людзей, змучаных недасыпам, сексуальнай незадаволенасцю, голадам, смагай, тым хутчэй мы ператвараемся ў «перапуджанае дзіця» і падпарадкоўваемся ўладзе таго, хто пазбавіць нас ад пакут з дапамогай, напрыклад, бульбяных чыпсаў, жавальнай гумкі з новым смакам, газаванай вады.

**Ёсць тры асноўныя стратэгіі маніпуляцыйных метадаў:**

1. гульня слоў (моўныя маніпуляцыі);
2. зварот да эмоцый;
3. адцягванне ўвагі ад істотнага.

**Моўныя маніпуляцыі**

У СМІ шырока распаўсюджаныя моўныя маніпуляцыі — гульня слоў: неадназначныя словы, перадузятая рыторыка, выкарыстанне эўфемізмаў*, мовы варожасці...

*Прыклад.* Я пазычыў грошы.

*Тлумачэнне.* Гэта неадназначны выраз. Я даў грошы камусьці ў часовае карыстанне з умовай вяртання. Або сам узяў грошы ў кагосьці і пазней вымушаны буду вярнуць.

*Прыклад.* Заява міністра: «Мае падначаленыя сочаць за сітуацыяй вельмі ўважліва, і я магу заявіць, што мой абавязак — рабіць усё магчымае, каб праблема была справядліва вырашана для ўсіх».

* Эўфемізм (ад грэч. euphmeo — кажу ветліва) — замена непрыемнага/непрыстойнага слова (словазлучэння) больш далікатным або прыгожым словам ці выразам.

*Тлумачэнне.* Пустыя словы. Нягледзячы на тое, што аўтар выказвання кажа пра свой абавязак рабіць нейкія захады, ён не кажа, што будзе рабіць, у якія тэрміны і ці напраўду зробіць.

*Прыклад.* Яна добра кіруе машынай, хоць і жанчына.

*Тлумачэнне.* Перадузятасць, заснаваная на гендарных стэрэатыпах.

У табліцы змешчаны прыклады падманлівых эўфемізмаў і іх «пераклад».

**Табліца. Што хаваецца за эўфемізмамі**

| Прыклад | Тлумачэнне |
|---|---|
| Мяцеж | Супраціў |
| Абарона нацыянальнай меншасці | Напад на іншую краіну, каб усталяваць там урад, прыхільны агрэсарам |
| Папераджальны ўдар | Неспраўакаваны напад |
| Спадарожныя страты | Цывільныя асобы, забітыя падчас вайсковых аперацый |
| Прыход стратэгічнага інвестара | Прыватызацыя |
| У яго шырокія косткі | Ён тоўсты |
| Санкцыі супраць краіны | Санкцыі супраць кіраўніка дзяржавы і блізкіх да яго алігархаў |

**Практыкаванне «Моўныя маніпуляцыі»**

**Мэта:** *вучні будуць ведаць метады, якія ўжываюць медыя пры спробе навязаць думку, знойдуць у тэксце прыклады моўных маніпуляцый.*

1. Настаўнік знаёміць вучняў з прыкладамі моўных маніпуляцый*.
2. Вучні выконваюць заданне.

*Заданне.* Знайдзіце моўныя маніпуляцыі ў тэксце, тэлеперадачы ці выпуску навін, патлумачце іх і запішыце.

| Прыклады маніпуляцый | Тлумачэнне |
|---|---|
| | |
| | |

* Пашыраны спіс прыкладаў маніпуляцый свядомасцю можна знайсці на http://businessviews.com.ua/ru/personal-life/id/infografika-dnja-polsotni-sposobov-manipuljacii-soznaniem-734.



*Пытанні для абмеркавання.* Ці можаце ўзгадаць, калі вы сутыкнуліся з перадузятасцю ў мове медыя? Ці ёсць у нашай краіне супольнасць, у дачыненні да якой яна часта ўжываецца? Ці вы самі яе ўжываеце?

**Зварот да эмоцый**

Маніпулятары часта імкнуцца ўплываць на нашыя эмоцыі (ад пазітыўных да негатыўных), каб мы не заўважылі адсутнасці сэнсоўнай аргументацыі.

Прыклады звароту да эмоцый:

- Зварот да большасці: *Зубную пасту маркі N рэкамендуюць большасць дантыстаў.*
- Зварот да пачуццяў: *страху, віны, шкадавання: З-за тваёй прынцыповасці наша школа не зойме першае месца!*
- Зварот да перадузятасці і стэрэатыпаў, угрунтаваных на неадукаванасці, страху перад невядомым, якія не дазваляюць разглядаць рэчы рацыянальна: *Хопіць рэформаў! Яны нічога добрага не прынясуць.*
- Зварот да неадпаведных аўтарытэтаў, «псеўданавуковасці»: *Рэкламны артыкул пра лекі падаецца як навуковы.*




*Тлумачэнне.* Хоць Альбэрт Эйнштэйн быў геніяльным фізікам, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, ён не быў спецыялістам у галіне харчавання. Ягонае меркаванне аб вегетарыянстве нельга лічыць экспертным.

**Метады адцягвання ўвагі**

У гэтым наборы маніпуляцыйных метадаў можам знайсці чатыры асноўныя схемы: фальшывы троп, выбар з двух кепскіх варыянтаў (дзвюх бед), «напад на пудзіла» і замкнёнае кола. Усе яны маюць агульную мэту — адцягнуць увагу ад слабага аргумента.

*Прыклад:* Савецкая сістэма адукацыі была найлепшай у свеце, таму нам трэба яе захаваць, а не рабіць чарговую рэформу. (Фальшывы троп. Аргумент, што выкарыстоўвае гэты маніпуляцыйны метад, мае просты сцэнар: (1) Абмяркоўваем тэму А — патрэбнасць зменаў у адукацыі. (2) Апанент не хоча прызнаваць, што існуе крызіс, таму імкнецца ўзняць тэму Б (якасць адукацыі савецкіх часоў) і пераканаць, што яна звязаная з А (хоць гэта не так). (3) Тэма А сыходзіць на другі план і замяшчаецца тэмаю Б. Замест вырашэння праблем усе пачынаюць абмяркоўваць, ці сапраўды савецкая адукацыя была добрай).

*Прыклад:* У рэкламе пральнага парашку часта паказваюць, як «звычайны» сродак нічога не робіць з плямамі, а рэкламаваны — усё і адразу адчышчае. (Напад на пудзіла: маніпулятар спачатку стварае так званае «пудзіла» — «звычайны парашок», а потым імкнецца разграміць яго, параўноўваючы з ім свой прадукт).

> Прыклад. «Мы не идиоты, чтобы строить небезопасную АЭС»*. (Замкнёнае кола: АЭС бяспечная, таму што мы — не ідыёты?)

**Несвядомыя маніпуляцыі**

Тое, што апісана вышэй, — гэта свядомыя маніпуляцыі. Аднак не заўсёды медыя намі маніпулююць свядома. Параўнайце, калі ласка, плошчы Расіі і Афрыкі, гледзячы на звыклую геаграфічную мапу.



Крыніца: **https://yandex.ru/maps/**.

Насамрэч, плошча Афрыканскага кантынента амаль удвая большая за тэрыторыю Расіі.



Для працы па тэме несвядомых маніпуляцый СМІ мы падрыхтавалі практыкаванне «Як намі маніпулююць геаграфічныя мапы»: **http://www.nastaunik.info/node/14990**. Магчыма, гэтае практыкаванне дапаможа дапытліваму чытачу разбурыць уласныя стэрэатыпы.

* Заява міністра замежных спраў Уладзіміра Макея: http://news.tut.by/politics/498203.html

Калі ж і на гэты раз вы не знайшлі чаму здзівіцца, калі ласка, паглядзіце на гэты малюнак.



Гэтую выяву стварыў Эдвард Г. Адэльсан з Масачусецкага тэхналагічнага інстытута. Прыгледзьцеся да квадратаў, пазначаных літарамі A і B. Ці ёсць розніца паміж адценнямі колеру двух квадратаў? Адказ можаце знайсці па спасылцы*.

Малюнак пацвярджае, што рэчы могуць быць не такімі, якімі нам здаюцца на першы погляд. Крытычнае мысленне ў сваю чаргу павінна дапамагчы нам высветліць гэта.

### 1.1.7. Дэканструкцыя медыятэкстаў. Калі пытанні становяцца адказамі

*Як жа засцерагчыся ад навязвання нам вызначанага кімсьці пункту гледжання або паводзін? Як навучыць вучняў аналізаваць медыятэксты?*

Самы ўдзячны момант у працэсе выкладання — пачуць ад вучня вокліч: «Ого! Дык вось яно што!» Настаўнік разумее, што менавіта ў гэты момант вучань пераходзіць на новы ўзровень ведаў ці набывае новы навык і гатовы ісці далей.

Якраз «глыбокае чытанне» тэкстаў, якому спрыяе медыяадукацыя, часта ўтрымлівае такія моманты. Мы прапануем спосаб разумення і аналізу любога медыятэксту, пры якім настаўнік выступае ў ролі фасілітатара. Авалоданне гэтым метадам — найважнейшы навык для ўсіх педагогаў, якія разумеюць сваю ролю ў працэсе навучання і не жадаюць заставацца ў мінулым стагоддзі.

Працэс аналізу медыядакументаў часта носіць назву «дэкадаванне», ці «дэканструкцыі» (такім чынам адлюстроўваючы ідэю, што ўсе медыятэксты «сканструяваныя»). Дэкадаванне можа тычыцца як карцінкі / відэа, так і звычайнага тэксту, аўдыязапісу або іх спалучэнняў.

Адзіны спосаб сфарміраваць уменне арыентавацца ў інфармацыйнай прасторы, засцерагчыся ад маніпуляцый — выпрацаваць звычку задаваць сабе канкрэтныя пытанні, пералічаныя ў табліцы. Іх можна адаптаваць ці змяняць з улікам віду медыя, узросту вучняў, падрыхтаванасці аўдыторыі і мэтаў навучання. Не ўсе пытанні будуць задавацца да кожнага медыяпаведамлення, і трэба ведаць, што *пытанні часта маюць больш за адзін адказ*. Каб вучань мог лягчэй

* http://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/9/93/Optical_illusion_greysquares.gif.

выпрацаваць звычку даваць адказы, заснаваныя на фактычных звестках, амаль кожнае пытанне павінна суправаджацца доказам (адказамі на пытанні: Чаму вы так лічыце? Што вымушае вас так думаць?). Канчатковая мэта — навучыць вучня задаваць гэтыя пытанні для сябе ўвесь час.

**Табліца. Пытанні для аналізу медыятэксту***

| | | |
|---|---|---|
| Аўтарства і аўдыторыя | Аўтары | Хто гэта зрабіў? |
| | Мэты | Навошта гэта было зроблена? Чаго хацелі ад мяне аўтары? Каму адрасавана пасланне і чаму вы так думаеце? |
| | Эканоміка | Хто за гэта заплаціў? Каму належыць выданне? |
| | Уздзеянне | Хто можа атрымаць карысць ад гэтага паслання?<br>Каму можа быць нанесена шкода?<br>Ці карыснае гэтае паведамленне для мяне і людзей, падобных да мяне?<br>Што аўтар хоча, каб я запомніў? |
| | Адказ | Што я магу зрабіць у адказ на гэтае паведамленне? |
| Паведамленне і значэнне | Змест | Пра што гэтае паведамленне (і што прымушае мяне так думаць)?<br>Якіх высноў ад мяне хацелі? Якія ідэі, каштоўнасці, інфармацыя і / ці пункты гледжання даносяцца ці навязваюцца?<br>Што важнае засталося недагавораным? |
| | Метады | Якія тэхнікі данясення інфармацыі выкарыстоўваюцца і чаму? Як гэтыя тэхнікі суадносяцца з тэмай? |
| | Інтэрпрэтацыя | Ці могуць розныя людзі зразумець гэтае паведамленне па-рознаму? Як я зразумеў(-ла) гэтае паведамленне і што я даведаў(-ла)ся пра сябе, зыходзячы з маёй рэакцыі або дадзенага тлумачэння? |
| Рэпрэзентатыўнасць і рэальнасць | Кантэкст | Калі паведамленне было падрыхтаванае? Пры якіх абставінах? Дзе і як яно распаўсюджанае? |
| | Давер | Гэта факт, чыёсьці меркаванне, інтэрпрэтацыя ці нешта яшчэ?<br>Наколькі праўдападобна гэта (і чаму вы так думаеце)?<br>Якая крыніца інфармацыі, ідэй або сцвярджэнняў?<br>Ці можна даваць гэтай крыніцы? |

* Scheibe, C. The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world. Thousand Oaks / C. Scheibe, F. Rogow. — Corwin, 2012.



Прыведзеная табліца можа выкарыстоўвацца для розных медыяпаведамленняў: навін, рэкламы, гістарычнага фота ці плаката, матэрыялу параграфа школьнага падручніка, калі вам ён падаецца тэндэнцыйным, газетнага артыкула на ўроках замежнай мовы, карціны ці мастацкага фільма, а таксама літаратурнага твора. Вучні могуць выконваць дэкадаванне індывідуальна, у форме пісьмовага задання, але ў цэлым калектыўнае прачытанне, якое выконваецца ў парах ці групах, больш эфектыўнае. У такой сумеснай працы фасілітатар (настаўнік або прызначаны для гэтага вучань) накіроўвае працэс аналізу і абмеркавання з дапамогай пытанняў. Мэта гэтага — не дасягненне кансэнсусу адносна чагосьці канкрэтнага, а хутчэй паглыбленне індывідуальнага разумення. Такая калектыўная дзейнасць — магутны спосаб развіцця навыкаў крытычнага мыслення адначасова з выкладаннем базавага зместу. Калі настаўнік усё робіць правільна, не навязвае сваё бачанне, адбываецца неверагодная рэч: вучні вучацца адзін у аднаго і ў рэшце рэшт здольныя спазнаць больш, чым калі б яны працавалі індывідуальна.

Калектыўны працэс карысны і для педагога. Вядзенне групы навучэнцаў праз дэкадаванне пэўных тэкстаў дазваляе ацаніць узровень разумення, выправіць фактычныя памылкі, даць дадатковую інфармацыю на тую ці іншую тэму, калі ёсць такая неабходнасць, і разабрацца з праблемамі, якія могуць паўстаць, калі вучні даюць розныя тлумачэнні аднаго і таго ж мэсыджу.

### 1.1.8. Як знайсці праўду ў медыя?

Незалежна ад таго, які прадмет вы выкладаеце, вы жадаеце, каб вучні мелі навыкі даследавання, каб яны былі здольныя ідэнтыфікаваць крыніцы інфармацыі і вызначаць іх дакладнасць. А гэта і ёсць базавы навык медыяграматнасці. Каб яго развіць, прапануем перыядычна праводзіць практыкаванні па выяўленні ў навінах праўды. Навіны для аналізу можна падабраць розныя: для інфармацыйнай гадзіны гэта можа быць навіна з любога СМІ, а для ўрока — новы артыкул з навуковага ці навукова-папулярнага выдання, дакументальны фільм, навучальны відэаролік, артыкул з Вікіпедыі ці энцыклапедыі.



***Пытанне для роздуму:*** *Ці з'яўляецца Вікіпедыя надзейнай крыніцай інфармацыі? Ці можна дазваляць вучням спасылкі на Вікіпедыю, калі тыя пішуць рэфераты, рыхтуюць даклады?*

«На момант выпуску са школы вучні, якія маюць навыкі навіннай граматнасці, павінны: быць здольныя адрозніваць факты ад меркаванняў, а таксама журналістаў ад каментатараў і тых, хто адстойвае пэўную пазіцыю; ведаць, што робіць рэпартаж навін надзейным (скажам, праверка фактаў, паказанні сведак, спасылкі на крыніцы); прызнаваць ненадзейнасць спасылак на ананімныя крыніцы; усведамляць, што фотаздымкі могуць падвяргацца лічбавым

маніпуляцыям (абрэзка / апрацоўка ў графічных рэдактарах); усведамляць, што апрацоўкі — мантаж і іншыя тэхналагічныя прыёмы — уплываюць на мэсыджы рэпартажаў; разумець, як важна дазваляць падзеям і асобам казаць самім за сябе»*.

Пададзеная вышэй табліца для дэканструкцыі медыяпаведамленняў — найлепшы спосаб працы з навінамі. Аднак важна растлумачыць вучням некаторыя падставовыя рэчы. Не ўсе дзеці ведаюць, што большасць медыя (тэлеканалы, радыё, прэса) — гэта камерцыйныя структуры, якія жывуць за кошт рэкламы. Для таго, каб прыцягнуць увагу аўдыторыі, яны могуць падаваць навіны такім чынам, што там будзе шмат крымінальнай хронікі, фактаў з жыцця зорак.



Існуе правіла шасці «С» і аднаго «Г», якое часта выкарыстоўваецца для прыцягнення ўвагі: Скандалы, Сенсацыі, Страх, Смех, Сэкс, Смерць і Грошы. Будзьце больш пільнымі, заўважыўшы гэтыя маркеры. Праверце навіну!

Карціна свету, паказаная ў СМІ, не зусім адпавядае сапраўднай. Такім чынам, навучыць, як знайсці ў навінах праўду ці нешта блізкае да яе, а таксама прывучыць не распаўсюджваць у сацыяльных сетках неправераную або няпраўдзівую інфармацыю — праграма-мінімум для любога настаўніка.

**Заданне для настаўнікаў:**

Прагледзьце відэаролік «Як знайсці ў навінах праўду»** (5 хв).

Звярніце ўвагу, што гэты ролік не ўлічвае спецыфіку медыйнага поля Беларусі. Прадумайце, якія парады можна дадаць да прапанаваных аўтарам.

Прачытайце тэкст «**Як чытаць газету**»*** і выканайце **практыкаванне******* да яго.

Адаптуйце прапанаваныя матэрыялы для класа, з якім вы працуеце. Правядзіце інфармацыйную гадзіну па ўласным сцэнары.

Працяг тэмы, як працаваць з навінамі — у раздзеле 3 «Медыяадукацыя па-за ўрокам».

* Scheibe, C. The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world. Thousand Oaks / C. Scheibe, F Rogow. — Corwin, 2012.
** Анімацыйны ролік «How to choose your news — Damon Brown»: http://ed.ted.com/lessons/how-to-choose-your-news-damon-brown, у перакладзе на беларускую: http://www.nastaunik.info/node/13814.
*** http://monda.eu/be/modules/thinking/15.
**** **http://monda.eu/be/modules/thinking/16**.



### 1.1.9. Месца медыя ў школе

Нашыя дзеці растуць ва ўмовах інфармацыйнага грамадства, і школа з яе традыцыйнай граматнасцю вучню здаецца занадта сумнай. Традыцыйнай граматнасці сёння вучню недастаткова, каб арыентавацца ў падзеях і быць канкурэнтаздольным на рынку працы: рэаліі лічбавай культуры, якая дае магчымасць непасрэдна ўдзельнічаць у ёй, азначаюць, што кожны вучань павінен развіць навыкі мыслення больш высокага ўзроўню. Раней інфармацыю трэба было здабыць — гэтаму дапамагала школа. Сёння інфармацыі занадта шмат. Школа павінна навучыць «адфільтроўваць» патрэбнае, пазбягаць небяспекі маніпулявання, адрозніваць факты ад меркаванняў, праўду ад дапушчэнняў.

Здаецца, нішто не замінае настаўнікам выкарыстоўваць медыйныя падзеі для павышэння матывацыі вывучэння той ці іншай прадметнай тэмы (а заадно і да развіцця медыякампетэнцый вучняў). Дастаткова прагледзець стужку навін і выбраць тыя, якія стасуюцца з тэмай ўрока.

Напрыклад, медыйная шуміха вакол ліхаманкі Эбола дапамагла настаўнікам павысіць інтарэс да тэмы «Вірусы», юбілей падзення Берлінскай сцяны — да вывучэння адпаведнай тэмы ў гісторыі, Нобелеўская прэмія Святланы Алексіевіч — для павышэння цікавасці да беларускай літаратуры… Зразумела, каляндарна-тэматычнае планаванне не дае такой гнуткасці, але гэта не праблема для творчага настаўніка.

Амерыканскія медыяпедагогі Сіндзі Шэйбэ і Фэйт Рогаў пішуць: «Важна медыяадукацыю ўключаць у вучэбныя планы ўсіх прадметаў. Толькі так магчыма фарміраванне медыйных кампетэнцый: звычкі аналізаваць усю інфармацыю. Гэта не адмяняе асобнага правядзення факультатываў і інфармацыйных гадзін па медыяграматнасці. Магчыма навучаць крытычнаму мысленню, не выкарыстоўваючы падыходаў медыяграматнасці, і некаторыя школы ўжо шмат гадоў паспяхова дзейнічаюць у гэтым кірунку. Аднак вучні, асабліва малодшыя, не заўсёды аўтаматычна пачынаюць выкарыстоўваць атрыманыя навыкі ў іншых сферах, такім чынам, яны не абавязкова пачнуць крытычна ацэньваць медыя, калі мы не навучым іх, як гэта рабіць. А калі мы вучым аналізаваць усе тыпы медыя, уключаючы і тыя, якія яны самі ствараюць, мы падсвядома прывучаем іх крытычна ацэньваць усё, а не толькі пэўныя формы медыя і кантэнту ў пэўныя прамежкі часу»*.

Наша кніга прысвечана менавіта такому інтэграцыйнаму падыходу да медыяадукацыі. Падобна навучанню традыцыйнай пісьменнасці, медыяграматнасць — набор навыкаў, якія можна прыстасаваць да выкладання любых прадметаў і да ўсіх тыпаў медыя. Такі падыход патрабуе ад настаўніка

* Scheibe, C. The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world. Thousand Oaks / C. Scheibe, F. Rogow. — Corwin, 2012.

толькі жадання і творчасці ў падборы цікавых і актуальных медыяпаведамленняў, але не патрабуе вылучэння асобнага часу на пазапрадметныя веды.

Напрыклад, пры вывучэнні тэмы «Вітаміны, іх роля ў працэсах абмену рэчываў» (біялогія, IX клас) дамашняе заданне можна сфармуляваць двума спосабамі. Стандартны: «*Прачытаць параграф і адказаць на пытанні*» ці больш творчы: «*Знайдзіце рэкламу вітамінаў у інтэрнэце і прааналізуйце, якой важнай для спажыўца інфармацыі там не хапае, дадайце гэту інфармацыю, карыстаючыся параграфам падручніка*». Другое заданне дзеці будуць выконваць з большым інтарэсам, пры гэтым яны будуць набываць медыякампетэнцыі: аналіз медыятэксту, крытычнае стаўленне да рэкламы, стварэнне ўласнага медыяпаведамлення, якое можна будзе змясціць у сацыяльных сетках. Пры вывучэнні тэмы «Прыметнікі» філолагі могуць прапанаваць вучням прагледзець рэкламны ролік і выпісаць усе прыметнікі, якія яны пачулі, прааналізаваць, што яны азначаюць. Потым агучыць і абмеркаваць той самы рэкламны слоган, але выкрасліўшы з яго ўсе прыметнікі ці замяніўшы іх на супрацьлеглыя па змесце.

### 1.1.10. Забараніць ці вучыць карыстацца?

Сёння ў свеце медыя-інфармацыйныя кампетэнцыі выходзяць па важнасці на першае месца. Аднак для Беларусі яны крытычна важныя, бо медыйная прастора нашай краіны не канкурэнтная, што не спрыяе развіццю і павышэнню якасці медыя. Людзі часта не ўсведамляюць, што жывуць у каралеўстве крывых люстэркаў. У іх ствараецца штучнае ўяўленне, што яны інфармаваныя і адкрытыя свету, аднак яны часта атрымліваюць аднабокую інфармацыю, апрацаваную прапагандай пад патрэбы тых, хто мае камерцыйны ці палітычны інтарэс.

Дзеці — найбольш неабароненыя ад шкоднага ўздзеяння медыя. Менавіта яны часцей вераць рэкламе, падпадаюць пад інтэрнэт-залежнасць, злоўжываюць відэагульнямі, праводзяць шмат часу за праглядам фільмаў і відэаролікаў. І здаецца, самы просты спосаб — забараніць шкодныя крыніцы. (**http://news.tut.by/society/468690.html**) Аднак мы катэгарычна не прымаем такі падыход. Па-першае, у сучасным інфармацыйным свеце гэта нерэальна, па-другое, доступ да інфармацыі — гэта неад'емнае права чалавека, па-трэцяе, немагчыма навучыць арыентавацца ў медыйнай прасторы, калі абмяжоўваць доступ да яе.

### 1.1.11. Задачы медыяадукацыі. Кампетэнцыі вучня

Кожная краіна мае сваю спецыфіку і таму складае свой спіс ключавых (у тым ліку і медыя-інфармацыйных) кампетэнцый.

Кампетэнтнасны падыход прапісаны ў арт. 91 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі.

Зважаючы на беларускія рэаліі, мы прапануем разглядаць медыяадукацыю як працэс рэалізацыі наступных педагагічных задач:



- стымуляваць у асобы фарміраванне трывалай каштоўнаснай парадыгмы, якая ўключае ў сябе асноўныя правы і свабоды, беларускую нацыянальнамоўную і еўраатлантычную цывілізацыйную ідэнтычнасць — найбольш эфектыўны фільтр для нейтралізацыі шкодных маніпуляцыйных уздзеянняў;
- вучыць здабываць патрэбную інфармацыю, пры гэтым не абмяжоўвацца рамкамі засваення новых інфармацыйных тэхналогій;
- вучыць аналізаваць інфармацыю, крытычна ставіцца да яе, усталёўваць самыя дасканалыя фільтры, аднак не разглядаць медыя як праблему ці пагрозу, не абмяжоўваць доступу да інфармацыі;
- вучыць разумець небяспеку, якую нясуць медыятэхналогіі, аднак не абмяжоўвацца абаронай ад шкоднага ўздзеяння медыя і рэкламы;
- вучыць уменню распазнаваць вонкавыя маніпуляцыйныя ўплывы на асобу і грамадства ў фармаце інфармацыйнай вайны, у тым ліку скіраваныя на змену нацыянальнай і цывілізацыйнай ідэнтычнасці;
- вучыць выкарыстоўваць усю моц новых мэдыятэхналогій для актыўнага ўдзелу ў стварэнні медыяпрасторы, данясення сваёй пазіцыі, аднак патрабаваць этычнага і адказнага стаўлення, каб выкарыстоўваць тэхналогіі добра і разумна;
- прыцягваць больш шырокі і сучасны кантэнт у звыклыя сродкі навучання, падыходы і педагагічныя практыкі, каб развіваць крытычнае мысленне;
- не супрацьпастаўляць звычайныя друкаваныя медыя лічбавым, не разглядаць іх з пазіцыі канкурэнцыі.



**Рэкамендацыйны спіс медыя-інфармацыйных кампетэнцый беларускага вучня**

Пры заканчэнні сярэдняй школы медыяграматны вучань павінен мець:

***Веды***

Разуменне ролі сродкаў масавай камунікацыі, іх уплыву на асобу і грамадства; базавыя веды пра тэхналогіі інфармацыйнага грамадства, якія забяспечваюць доступ і інтэрактыўныя зносіны ў інфармацыйнай прасторы, магчымасці адбору, метады праверкі надзейнасці крыніц; веды пра бяспеку, магчымасці і патэнцыйныя рызыкі інтэрнэту для асабістага жыцця, камунікацыі, навучання, даследаванняў, працы і грамадскіх зносін. Веданне прававых і этычных нормаў інтэрактыўнага карыстання інфармацыйнымі тэхналогіямі.

***Навыкі***

Неабходныя навыкі ўключаюць здольнасць пошуку, праверкі надзейнасці, адбору і апрацоўкі інфармацыі, а таксама інтэрактыўнага ўзаема-

дзеяння з медыя; уменні дэкадавання медыяпаведамленняў, іх крытычнай ацэнкі, распазнавання няпраўды і маніпуляцыйных прыёмаў. Вучні мусяць мець навыкі карыстання паслугамі інтэрнэту, інструментамі для вытворчасці ўласных медыяпрадуктаў і іх прэзентацыі.

***Каштоўнасную ўстаноўку (пазіцыю)***

Крытычнае і рэфлексіўнае стаўленне да даступнай інфармацыі, адказнае і этычнае карыстанне інтэрактыўнымі сродкамі і інфармацыйнымі тэхналогіямі; павага да аўтарскіх правоў; трыманне трывалай каштоўнаснай пазіцыі, якая ўключае ў сябе асноўныя правы і свабоды, беларускую нацыянальна-моўную і еўраатлантычную цывілізацыйную ідэнтычнасць — як эфектыўны фільтр для нейтралізацыі шкодных і маніпуляцыйных уздзеянняў медыя. Імкненне актыўна карыстацца і ствараць інфармацыйную прастору для культурных, сацыяльных, навучальных і / ці прафесійных мэт.

Такім чынам, медыяграматнасць не адмаўляе традыцыйнай граматнасці, якую дае школа, яна пашырае гэтае паняцце за кошт кампетэнцый, абумоўленых прыходам новых высокатэхналагічных інавацый.

Спадзяёмся, што кожны, хто дачытаў гэты раздзел да канца, калі не здзівіўся, то задумаўся і пачаў задаваць сабе пытанні. Прыкладам, ці аб'ектыўную карціну ствараюць нашы медыя, педагагічная прэса, школьныя падручнікі? Якія стэрэатыпы нам перашкаджаюць? Што мы можам змяніць? Ці можам мы, настаўнікі, выхаваць медыйнаграматнага вучня?

Калі вы задумаліся над гэтымі пытаннямі, прапануем далучыцца да нашай групы медыяпедагогаў (https://www.facebook.com/groups/medyaadukatar). А калі вы ні разу не здзівіліся і задавалі гэтыя пытанні для сябе раней, запрашаем да нас у якасці медыяэксперта!

**Скарыстаныя крыніцы:**

1. **Scheibe, C.** The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world. Thousand Oaks / C. Scheibe, F. Rogow. — Corwin, 2012.
2. **Гуменюк, Л.** Практична медіаграмотність: посібник для бібліотекарів [Электронны рэсурс] / Л. Гуменюк, В. Потапова: **http://aup.com.ua/books/mbm**.
3. **Brown, D.** How to choose your news [Electronic resourse] / D. Brown: **http://ed.ted.com/lessons/how-to-choose-your-news-damon-brown**, у перакладзе на беларускую: **www.nastaunik.info/node/13814**.
4. **Шматмоўны сайт глабальнай адукацыі** [Электронны рэсурс]: **http://monda.eu/be**.

**Дадатак**

## Віды медыя*

- Радыё.
- Тэлебачанне.
- Друкаваная перыёдыка: газеты, часопісы, бюлетэні…
- Плакаты.
- Насценгазеты.
- Інфармацыйныя стэнды (у школе).
- Інтэрнэт-крамы.
- Сацыяльныя сеткі.
- Фільмы.
- Відэаролікі.
- Музычныя запісы.
- Відэа- і камп’ютарныя гульні (не заўсёды!).
- Кнігі.
- Білборды і іншая вулічная рэклама.
- Лагатыпы на адзенні, абутку, кубках…
- Геаграфічныя мапы.
- Вірусная рэклама.
- Sms-паведамленні (прыкладам, запрашэнне на выбары).
- Постары і флаеры.
- Вышымайкі, вышыбайкі.
- Стужкі на антэнах аўтамабіляў.
- Значкі.
- Налепкі на аўтамабілях.
- Аўтаматычныя рэкламныя тэлефонныя званкі.
- Словы / малюнкі на адзенні.
- Купюры нацыянальнай валюты.
- Пакеты, сумкі, іншая ўпакоўка з выявамі.
- Музыка ў краме.
- Сірэна (пажарная, хуткай дапамогі, міліцыі…).
- Транспаранты на дэманстрацыі.
- Татуіроўкі.
- Дошкі аб’яў.
- Абвесткі (на ўваходзе ў будынак).

* Спіс складзены ўдзельнікамі семінараў па медыяграматнасці.

*Алена Палейка*

## 1.2. Медыя-інфармацыйная граматнасць і медыяадукацыя

### 1.2.1. Медыятызацыя жыцця: праявы і наступствы для адукацыі

**Мы спажываем медыя ці медыя спажываюць нас?**

Для ўсведамлення медыянасычанасці нашага існавання і актуальнасці медыя-інфармацыйнай граматнасці ў нашым паўсядзённым жыцці прапануем спачатку выканаць наступныя практыкаванні.

**Практыкаванне «Медыядзённік»***

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць, колькі часу яны праводзяць у медыясферы і што яны там робяць.

1. Прааналізуйце ўласнае спажыванне медыяпрадуктаў. Запоўніце табліцу «Медыядзённік», паказаўшы дадзеныя (у хвілінах) за поўны дзень (дадзеныя за будні і выхадныя дні будуць адрознівацца).
2. **По табліцы** складзіце дыяграму медыяспажывання (пакажыце долі ў працэнтах).
3. Параўнайце свае дадзеныя з дадзенымі калег-настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў.
4. Абмяркуйце атрыманыя вынікі (у групе / класе / на педагагічнай нарадзе / бацькоўскім сходзе).

*Пытанні для абмеркавання:*

1. Колькі часу кожны дзень выдаткоўваецца на медыя? Што вы думаеце на гэты конт?
2. З якіх крыніц вы атрымліваеце навіны?
3. Вэб-сайты якога характару вы наведваеце?
4. Якія забаўляльныя медыя вам падабаюцца?
5. Як вы лічыце, ці аднолькавыя мэты выкарыстання медыя ў вашых аднагодкаў / настаўнікаў / бацькоў?

* Паводле: Флойд, К. Медиакод : Інструкция по выживанию в медийно насыщенной среде / К. Флойд, Ю. Халлин. — FOJO : Media Institute, 2013.



6. Ад якіх медыязвычак вам хочацца пазбавіцца? Чаму?

**Табліца.** Медыядзённік

| КНІГІ | | РАДЫЁ | | | ТЭЛЕБАЧАННЕ | | | | ПРЭСА | | ІНТЭРНЭТ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | В | Н | М | Т | Н | К | Ш | А | Г | Г | Н | І | Г | К | С | К |
| Р | Ы | А | У | Э | А | І | О | Д | А | Л | А | Н | У | І | А | У |
| А | Б | В | З | М | В | Н | У | У | З | Я | В | Ф | Л | Н | Ц | Р |
| Г | А | І | Ы | А | І | О | | К | Е | Н | І | А | Ь | О | С | С |
| Р | Р | Н | К | Т | Н | | | А | Т | Е | Н | П | Н | | Е | Ы |
| А | | Ы | А | Ы | Ы | | | Ц | Ы | Ц | Ы | О | І | В | Т | |
| М | | | | Ч | | | | Ы | | | | Ш | | І | К | |
| А | | | | Н | | | | Я | | | | У | | Д | І | |
| | | | | Ы | | | | | | | | К | | Э | | |
| | | | | Я | | | | | | | | | | А | | |

*Каментар да табліцы.*

Кнігі: чытанне па школьнай праграме, чытанне па ўласным жаданні.

Радыё: выпускі навін, музыка, перадачы для мэтавай аўдыторыі.

Тэлебачанне: навіны, кіно, шоу і забаўляльныя праграмы, адукацыйныя праграмы.

Прэса: газеты, глянцавыя часопісы.

Інтэрнэт: навіны, пошук інфармацыі, гульні, кіно і відэа, сацыяльныя сеткі, курсы і анлайн-навучанне.

**Сацыяльныя сеткі: аб’ядноўваюць людзей ці раз’ядноўваюць?**

Устаноўлена, што ў развітых краінах свету спажыванне медыяпрадуктаў падлеткамі займае да 10 гадзін на дзень. Напрыклад, перапіска ў сацыяльнай сетцы, адначасова прагляд усплываючых рэкламных паведамленняў, праслухоўванне навін і музыкі па радыё, якія граюць як фонавае суправаджэнне падчас падрыхтоўкі дамашняга задання, сталі распаўсюджанай мадэллю паводзін школьнікаў.

Асабліва «зацягваюць» дзяцей і моладзь гульні і сацыяльныя сеткі. Амерыканскі медыяэколаг Лэнс Стрэйт апісвае неадназначныя праявы інтэрнэт-экспансіі на ўзроўні асобы: «Мы ствараем праект саміх сябе праз інтэрнэт, ствараем свае alter ego, электронных двайнікоў, свае адлюстраванні. …Мы павялічваем колькасць роляў, якія іграем, колькасць «Я», якія прымяраем. Мы прыдумваем псеўданімы, ствараем аватаркі, што прыводзіць да дыфузіі асобы. Мы пакідаем сляды нашай асобы, памнажаючы сваё «Я» да ўзроўню, беспрэцэдэнтнага ў сусветнай гісторыі»*.

Можна працягнуць, што часта, маючы вялікую колькасць сяброў і «фаловераў» у сацыяльных сетках, у жыцці людзі застаюцца самотнымі. Апошнім часам з'явілася шмат публікацый па цкаванні, праявах варожасці і нянавісці ў сацыяльных сетках сярод падлеткаў. Праблема ў тым, што настаўнік можа і не ведаць, што ў класе існуюць сур'ёзныя праблемы. Але нашая неабазнанасць можа выклікаць цяжкія наступствы, і таму аб праблемах можна і трэба размаўляць і з дзецьмі, і з бацькамі.

У любой аўдыторыі для пачатку размовы можна выканаць практыкаванне «Дзе я на гэтым дрэве?», якое добра дыягнастуе праблемы асобнага чалавека ці групы ў сацыяльных сетках. Аўтар гэтага практыкавання — вядомы брытанскі псіхолаг Піп Уілсан**. «Дзе я на гэтым дрэве?» створана для школьнікаў з мэтай праверыць, як яны асвоіліся ў школе за першыя тры гады навучання. Аднак пазней высветлілася, што тэст актуальны і для дарослых, бо дапамагае чалавеку вызначыць яго сапраўдны і жаданы эмацыйны стан і нават, у нейкай ступені, усвядоміць сваё становішча ў грамадстве (у нашым выпадку, у сацыяльных сетках).

**Практыкаванне «Дзе я на гэтым дрэве?»*****

**Мэта:** удзельнікі адрэфлексуюць свой сеткавы статус, станоўчыя і адмоўныя аспекты сеткавай камунікацыі.

*Індывідуальная праца.* Вызначце, які з чалавечкаў больш за ўсё падобны да вас. Абярыце чалавечка, да якога вы хацелі б быць падобныя. Растлумачце свой выбар.

*Групавая праца.* Кожны прымацоўвае свой сцікер або зафарбоўвае ці нейкім іншым спосабам выяўляе сваё сённяшняе месца ў сацыяльных сетках (чалавечак на дрэве)****. Удзельнікі па чарзе тлумачаць свой выбар.

---

* Стрейт, Л. Изучение медиа как медиа : Маклюэн и медиаэкологический подход [Электронный ресурс] / Л. Стрейт: http://mediaecology.blogspot.com/2011/02/blog-post_23.html.

** http://www.pipwilson.com/p/blob-tree.html.

*** http://www.schoolslinking.org.uk/wp-content/uploads/2011/07/Q1_Blob_Tree_170211.pdf.

**** http://ecx.images-amazon.com/images/I/91KFcoJZtLL.jpg.




Распачынаючы працу па праблематыцы сацыяльных сетак, неабходна звярнуць увагу на знаходжанне дзяцей і дарослых у розных сетках. Гэта таксама адказ на пытанне: «Чаму настаўнік не ведае, што адбываецца ў яго класе?» Шведскі медыяпедагог Ёран Андэрсан на трэнінгу для беларускіх медыяпедагогаў заўважыў, што, калі бацькі прыйшлі ў Facebook, дзеці пакінулі гэтую сетку і пайшлі ў Instagram ды іншыя. Каб убачыць сеткавую дыферэнцыяцыю і абмеркаваць яе, можна правесці наступнае практыкаванне.

**Практыкаванне «Мы ў сацыяльных сетках»**

**Мэты:** удзельнікі патлумачаць выбар сваёй сеткі, асэнсуюць спрыяльныя і неспрыяльныя ўмовы сеткавай камунікацыі для ўласнага навучання і развіцця.

1. На вялікім плакаце, інтэрактыўнай ці звычайнай дошцы намалюйце наступную табліцу «Сацыяльныя сеткі», папрасіце прысутных «запоўніць» яе з дапамогай каляровых сцікераў, фламастараў ці інш. Для больш нагляднай візуалізацыі інфармацыі бацькам, вучням і настаўнікам трэба выдаць сцікеры рознага колеру (напрыклад, бацькі — сінія, дзеці — жоўтыя, настаўнікі — чырвоныя).
2. Пасля запаўнення табліцы ўдзельнікі абмяркоўваць атрыманыя вынікі па пытаннях:
   - Растлумачце вялікую колькасць / поўную адсутнасць акаўнтаў асобных удзельнікаў?
   - Якія сацсеткі, не названыя ў табліцы, дапісвалі ўдзельнікі?
   - Ці ёсць адрозненні паміж сеткавым выбарам дзяцей, настаўнікаў, бацькоў?
   - Самыя папулярныя / непапулярныя сацсеткі?
   - Што ўдзельнікі робяць у сацсетках: камунікуюць, забаўляюцца, вучацца, супольна вырашаюць нейкія праблемы?
   - Спрыяе ці адмоўна ўплывае сяброўства ў сацыяльнай сетцы на навучанне?

**Табліца.** Сацыяльныя сеткі

| Назва сацсеткі | Ёсць акаўнт, карыстаюся | Не ведаю пра яе | Ведаю, але не карыстаюся | Ёсць акаўнт, але не карыстаюся |
|---|---|---|---|---|
| Facebook | | | | |
| ВКонтакте | | | | |
| Одноклассники | | | | |
| Twitter | | | | |
| Google+ | | | | |
| YouTube | | | | |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Instagram | | | | |
| Мой мир | | | | |
| LinkedIn | | | | |
| Badoo | | | | |
| Pinterest | | | | |
| Tagged | | | | |
| Постила | | | | |
| ... | | | | |

**Выключыце смартфоны і дастаньце падручнік ці... схавайце падручнік і дастаньце гаджэты?**

Апошнім часам вельмі вострым для сучаснай школы стала пытанне гаджэтаў. Настаўнікі падзяліліся на гарачых прыхільнікаў выкарыстання дэвайсаў падчас навучання і тых, хто катэгарычна супраць.

Прапануем партрэт прадстаўніка пакалення Z, якое вырасла ў асяроддзі лічбавых тэхналогій (нарадзіліся ў канцы 1990-х — пачатку 2000-х).



Прадстаўнік пакалення Z*:

- амаль не карыстаецца гарадскім тэлефонам, не памятае нумары сяброў, не выбірае, тэлефон ці інтэрнэт, не піша ад рукі, а звыкла і хутка набірае на клавіятуры;
- кожны дзень карыстаецца камп'ютарам, планшэтам, смартфонам і даволі часта прыстаўкай для гульняў;
- дрэнна запамінае, бо вырас у асяроддзі, дзе пра ўсё можна спытацца ў інтэрнэце, разам з тым паспяхова можа выконваць некалькі задач аднačасова;
- лепш разумее вобраз, чым слова, бо сталеў ва ўмовах дэматыватараў, інфаграфікі, фота сяброў і коцікаў;
- мае сотні сяброў у сацыяльных сетках, не засяроджваецца на трывалых стасунках і лёгка развітваецца, калі адчувае сябе некамфортна;
- галоўная матывацыя — інтарэс, калі не цікава, нічога не будзе рабіць, бо ў яго ўсё ёсць (бацькі забяспечылі);
- неамбіцыйны, але прывык да пахвалы, лайкаў і рэпостаў.

Здаецца, партрэт атрымаўся крыху іранічным, але становіцца не да жартаў, калі чытаеш, якая «лічбавая бездань» нават паміж 20- і 30-гадовымі, а што казаць пра яшчэ маладзейшых і старэйшых? Пра вучняў і настаўнікаў?

Адзначым, што размова ідзе не столькі пра «ўзброенасць» маладых лічбавымі тэхналогіямі, а датычыцца феномена кліпавага мыслення (адаптацыя чалавека да паскораных тэмпаў жыцця ў сучасным свеце, пастаяннай інфармацыйнай перагрузкі). У адукацыйнай практыцы трэба разумець і ўлічваць, што кліпавасць мыслення задае новы дынамізм пазнавальнай дзейнасці.

Па апошніх звестках, у развітых краінах свету ўжо больш за 50 % пяцігадовых дзяцей самастойна заходзяць у інтэрнэт. Што датычыцца школы, то даследаванні паказваюць, што больш за 70 % вучняў выкарыстоўваюць гаджэты на ўроку для пошуку адказаў на пытанні настаўніка, нягледзячы на забарону. Але ці маюць сэнс такія настаўніцкія заданні, калі адказ на іх можна лёгка знайсці ў інтэрнэце? Вучню сумна! І забарона гаджэтаў у гэтых умовах выглядае як настаўніцкае нежаданне мяняць свае традыцыйныя падыходы да навучання. Асабліва архаічна гэтыя забароны выглядаюць на фоне набіраючага моц адукацыйнага трэнду BYOD (Bring your own device). Гэтую абрэвіятуру можна перакласці як «Прынясі свой дэвайс».

* Штурвалов, А. Как ставить задачи нынешним 20-летним? [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://vc.ru/p/generation-z.






Навучанне згодна прынцыпу BYOD* дазваляе вучням не толькі карыстацца звыклымі праграмамі і новымі магчымасцямі сваіх смартфонаў, ноўтбукаў і планшэтаў, але і эфектыўна працаваць ва ўласным асяроддзі сеткавага навучання. Па меркаваннях вучоных Адкрытага ўніверсітэта Вялікабрытаніі, BYOD уваходзіць у дзясятку найбольш значных новаўвядзенняў, якія ў найбліжэйшы час справакуюць сур'ёзныя зрухі ў адукацыйнай практыцы**.



***Пытанне для роздуму.*** *Настаўнік з ЗША Майкл Соскіл (Michael Soskil) лічыць, што ёсць пяць прычын, чаму забарона сотавых тэлефонаў у школах — гэта беспаспяховая і нават шкодная для навучэнцаў мера. Пазнаёмцеся з артыкуламі «Могут ли помочь мобильные телефоны образованию?»* ***http://didaktor.ru/mogut-li-pomoch-mobilnye-telefony-obrazovaniyu****, «Про гаджеты и лицемерие» Т. Лялянковай* ***http://www.svoboda.mobi/a/27317088.html****.*

*Паспрабуйце на гэтую праблему паглядзець з пазітыўнага боку. Што вы, як настаўнік, рэальна можаце зрабіць на ўроках? Ці можна выкарыстоўваць на ўроках у навучальных мэтах вучнёўскія смартфоны?*

* http://blogs.cisco.ru/2012/09/28/byod-a-russian-perspective/

** Паглядзець справаздачу цікавага вопыту «год без паперы ў школе» можна на Students Speak: Is 'Going Paperless' Good for the Classroom? (https://www.edsurge.com/news/2014-06-26-students-speak-is-going-paperless-good-for-the-classroom) і Учебный класс «без бумаги»: хорошо или плохо? (https://newtonew.com/discussions/uchebnyj-klass-bez-bumagi-horosho-ili-ploho).

Безумоўна, кожны настаўнік робіць уласны выбар, дазваляць карыстацца на ўроках сучаснымі гаджэтамі ці не, але, перш чым прыняць рашэнне, трэба мець на ўвазе: тое, што папярэднія пакаленні называлі «новымі тэхналогіямі» або «тэхналогіямі будучыні», для пакалення Z (Generation Z) — ужо цяперашні дзень.

Што рабіць неабыякаваму да гэтых ідэй настаўніку ў нашых рэаліях?

- Трэба пачаць абмяркоўваць пытанні гаджэтаў з самымі зацікаўленымі асобамі — вучнямі і бацькамі, дамаўляцца аб правілах (у тым ліку з адміністрацыяй сваёй школы).
- З дапамогай навучэнцаў не саромецца асвойваць функцыянал гаджэтаў, ацэньваць яго адукацыйны патэнцыял, шукаць прыклады эфектыўнага выкарыстання настаўнікамі і вучнямі гаджэтаў у навучанні (сэрвісы, праграмы, платформы, асяроддзі навучання).
- Спрабаваць «перакуліць» свой урок, убудаваўшы ў яго сістэматычнае выкарыстанне гаджэтаў.

**Практыкаванне «„За" і „супраць" гаджэтаў на ўроках»**

**Мэта:** удзельнікі ацэняць адукацыйны патэнцыял гаджэтаў і супольна выпрацуюць правілы іх выкарыстання на ўроках.

Папярэдне трэба даць магчымасць вучням падрыхтавацца па пытаннях:

1. Калі б вам дазволілі карыстацца гаджэтамі на ўроках, для чаго вы б іх выкарыстоўвалі?
2. Якую працу і на якіх уроках можна зрабіць хутчэй, больш якасна з дапамогай гаджэта? Прывядзіце прыклады.
3. Як можна працаваць з гаджэтамі на ўроках, улічваючы, што яны адрозніваюцца па сваіх магчымасцях і ёсць не ва ўсіх вучняў?

Падчас абмеркавання гэтых пытанняў у класе мэтазгодна запоўніць табліцу «Гаджэты ў навучанні».

- Вучні і настаўнікі на прыкладах прадэманструюць плюсы і мінусы (на іх думку) выкарыстання гаджэтаў на ўроках.
- Удзельнікі абмяркуюць іх і вылучаць умовы, пры якіх гаджэты спрыяюць / перашкаджаюць эфектыўнаму навучанню.
- Сфармулююць правілы, якіх будуць прытрымлівацца ў выкарыстанні гаджэтаў у школе.

**Табліца. Гаджэты ў навучанні**

| | Дапамагаюць | Перашкаджаюць |
|---|---|---|
| Настаўнік | | |
| Вучань | | |
| Правілы выкарыстання гаджэтаў на ўроках | | |

Зыходзячы з разумення медыяжыцця як паўсядзённай практыкі існавання чалавека ў сучасным свеце, адзначым надзвычайную патрэбу ў адпаведнай адукацыі — медыяадукацыі. Падкрэслім, што гэта датычыцца не толькі «прасунутых» карыстальнікаў інтэрнэту і мабільнай тэлефаніі, а пераважнай часткі насельніцтва.

Медыятызацыя нашага жыцця як працэс характарызуецца наступнымі рысамі:

- штодзённае выкарыстанне медыя дзецьмі і маладымі людзьмі значна перавышае медыяспажыванне дарослымі і істотна адрозніваецца па медыякантэнце;
- лічбавы мэдыякантэнт становіцца масава даступным пры дапамозе шматлікіх мабільных прылад;
- маладыя людзі актыўна выкарыстоўваюць магчымасці новых медыя і ствараюць уласны кантэнт;
- у створаных медыяпаведамленнях часта адсутнічае логіка і аргументацыя, прысутнічаюць неправераныя звесткі, правакацыйныя выказванні, нецярпімасць;
- пастаянная анлайн-прысутнасць і сеткавая камунікацыя — норма жыцця для маладога чалавека (у адрозненне ад людзей сталага ўзросту і большасці педагогаў);
- сацыяльныя медыя моцна ўплываюць на стаўленне маладых людзей да сябе і іншых, успрыманне сябе як часткі навакольнага свету, фарміраванне ўласнага «Я».

Падчас педагагічнай працы важна ўлічваць, што: мабільны гаджэт праз падключэнне да інтэрнэту не толькі адкрывае доступ да фільмаў, тэкстаў, відэа, музыкі, фота, прыватнай і публічнай інфармацыі, але і дазваляе апрацоўваць фота, гук, відэа і свабодна распаўсюджваць свой медыяпрадукт; вучні не толькі актыўна спажываюць медыяпрадукты, але і з’яўляюцца стваральнікамі ўласнага

медыякантэнту; не мае практычнага сэнсу імкнуцца забараніць выкарыстанне гаджэтаў вучнямі на ўроках.

### 1.2.2. Крыху тэорыі: медыя, інфармацыя, камунікацыя, медыяадукацыя

**The Medium is the Message, або «Сродак перадачы паведамлення — змест паведамлення»**

***М. Маклюэн.***

Навукоўцы лічаць, што станаўленне сучаснага інфармацыйнага грамадства стала вынікам некалькіх камунікацыйных рэвалюцый, якія змянілі не толькі спосабы апрацоўкі і перадачы інфармацыі, але і сістэму каштоўнасцяў, лад жыцця людзей, спосаб вытворчасці. Рэвалюцыі ў гісторыі сацыяльнай камунікацыі былі звязаныя са з'яўленнем пісьменства, кнігадрукавання, электронных прылад.

Каб быць тэарэтычна падрыхтаваным і абазнаным, медыяпедагогу рэкамендуецца пазнаёміцца з ключавымі ідэямі заснавальнікаў тэорыі медыя, камунікацыі і інфармацыйнага грамадства Г. Ласуэла, М. Маклюэна, Н. Лумана, Л. Стрэйта, Н. Постмана, Э. Тофлера. Рэкамендуем блог «Медыяэкалогія: даследаванні медыйных экасістэм у Інстытуце журналістыкі БДУ»*. Тут зручна скампанаваныя невялікія па аб'ёме матэрыялы, якія можна выкарыстоўваць для самаадукацыі.

Прапануем ключавыя пытанні для працы:

- Зямны шар цяпер не большы за вёску? (М. Маклюэн «Разуменне медыя: знешнія пашырэнні чалавека»)
- Тэлебачанне забівае дзяцінства? (Н. Постман «Знікненне дзяцінства»)
- Як тэхналогія адкрывае чалавека, а медыя трансфармуюць свет і дзяржавы? (Л. Стрэйт «Вывучэнне медыя як медыя»)

**Практыкаванне «Тэкст і гіпертэкст»**

**Мэта:** удзельнікі будуць разумець прызначэнне гіпертэксту і навучацца ім карыстацца.

* http://www.media-ecology.blogspot.com.by/2011/02/blog-post_23.html.

Прачытайце фрагмент з публічнай лекцыі пісьменніка і філосафа Умберта Эка «Ад інтэрнэту да Гутэнберга: тэкст і гіпертэкст»*.

«Часта мне думаецца, што ў найбліжэйшай будучыні нашае грамадства расшчэпіцца — ці ўжо расшчапілася — на два класы: тых, хто глядзіць толькі тэлебачанне, гэта значыць атрымлівае гатовыя вобразы і гатовае меркаванне пра свет, без права крытычнага адбору атрыманай інфармацыі, і тых, хто глядзіць на экран камп'ютара, гэта значыць тых, хто здольны адбіраць і апрацоўваць інфармацыю. Тым самым пачынаецца падзел культур, які існаваў і ў Сярэднявеччы: паміж тымі, хто здольны быў чытаць рукапісы і, значыць, крытычна асэнсоўваць рэлігійныя, філасофскія і навуковыя пытанні, і тымі, хто выхоўваўся выключна з дапамогай вобразаў у саборы — адабраных і апрацаваных іх стваральнікамі. (…) Сярэднявечны сабор быў як бы пастаяннай нязменнай тэлепраграмай, якая давала народу ўсё неабходнае як для штодзённага, так і для замагільнага жыцця».

**Пытанні для абмеркавання:**

- Ці ілюструюць гэтыя радкі змены ў масавай камунікацыі, якія адбыліся ў выніку з'яўлення камп'ютараў і інтэрнэту?
- Ці можна пагадзіцца з аўтарам праз 20 гадоў пасля напісання гэтых радкоў? Аргументуйце свой пункт гледжання.

Зрабіце з гэтага тэксту гіпертэкст і параўнайце яго з гіпертэкстам, які атрымаўся ў вашага аднакласніка, калегі. Ці ёсць адрозненні? Чым гіпертэкст адрозніваецца ад звычайнага тэксту? Вылучыце плюсы і мінусы гіпертэкставасці. Параўнайце свае высновы з матэрыяламі на сайце: **https://sites.google.com/site/seteproekt/1-otlicie-giperteksta-ot-obycnogo-teksta**.

**Як падчас камунікацыі «сустракаюцца» інфармацыя і медыя?**

Камунікацыя — найважнейшая ўмова існавання і арганізацыі грамадства. Гаворка ідзе пра сацыяльную камунікацыю — працэс перадачы і ўспрымання інфармацыі ва ўмовах міжасобасных і масавых зносін па розных каналах з дапамогай розных камунікатыўных сродкаў (*гл. схему*).

* http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Culture/Eko/Int_Gutten.php.

**Схема. Мадэль камунікацыі (паводле Г. Ласуэла)**




Масавая камунікацыя — гэта працэс распаўсюджвання інфармацыі і ўплыву ў грамадстве з дапамогай спецыяльных сродкаў: друку, тэлебачання, радыё, кінематографу, інтэрнэту і г. д., у выніку якіх паведамленне паступае адразу да вялікіх груп людзей. У працэсе камунікацыі важным з'яўляецца не толькі тое, што перадаецца, па якіх каналах праходзіць інфармацыя, але і выніковасць перадачы гэтай інфармацыі. Масавая камунікацыя характарызуецца:

- наяўнасцю тэхнічных спосабаў, якія забяспечваюць рэгулярнасць, масавасць, публічнасць паведамленняў;
- сацыяльнай значнасцю інфармацыі;
- масавасцю аўдыторыі;
- шматканальнасцю з магчымасцю выбару спосабу камунікацыі.

**Практыкаванне «Каналы камунікацыі»***

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць, як працуюць розныя каналы камунікацыі ў залежнасці ад мэтавай аўдыторыі.

Скарыстайце мадэль камунікацыі Г. Ласуэла і прааналізуйце працэс камунікацыі ў інтэрнэце сродкамі электроннай пошты, відэаканферэнцыі, форуму на сайце, чата ў камунікатары,

* Кашуба, В. В школу с медиа : разработки и сценарии уроков, мероприятий / В. Кашуба [и др.]. — Минск : МОИРО, 2015. — С. 12.



сацыяльнай сеткі (каментар, пост, прыватнае паведамленне, чат) для securityрознай аўдыторыі.

**Пытанне для абмеркавання.**

- Якія каналы і чаму выкарыстоўваюцца ў зносінах з аднагодкамі / настаўнікамі; у звароце да арганізацый, ва ўстановы?



«Wiki» ў перакладзе азначае «хуткі» — «хуткая энцыклапедыя». «Вікіпедыя» ствараецца добраахвотнікамі з усяго свету на 285 сусветных мовах. Усяго ў ёй прадстаўлена ўжо больш як 35 мільёнаў артыкулаў. Свабодная энцыклапедыя ўваходзіць у пяцёрку самых папулярных вэб-сайтаў у свеце.

**Практыкаванне «Вікіпедыя як крыніца інфармацыі»***

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць неабходнасць праверкі праўдзівасці інфармацыі, адказнасць стваральнікаў медыятэкстаў.

Знайдзіце артыкулы, прысвечаныя Г. Ласуэлу на Вікіпедыі (напрыклад, на англійскай, рускай, украінскай мовах), прачытайце іх і абмяркуйце ў групе пытанні:

- Ці можна выкарыстоўваць Вікіпедыю ў якасці адзінай крыніцы інфармацыі? Чаму?
- Ці істотна адрозніваецца змест артыкула пра Г. Ласуэла на розных мовах? Чаму?
- На якія крыніцы спасылаюцца ў артыкуле? Ці шмат сярод іх першакрыніц?
- Вікіпедыя захоўвае інфармацыю пра ўсіх аўтараў, якія ўносілі праўкі ў артыкул — гэта «плюс» ці «мінус»?
- Ці патрэбны артыкул пра Г. Ласуэла на беларускай мове? Як вы лічыце, якім варыянтам правапісу (афіцыйны / класічны) хутчэй з'явіцца артыкул пра Г. Ласуэла на беларускай мове?
- Ці трэба медыяпедагогам ствараць артыкулы на Вікіпедыі? Чаму?

* Па матэрыялах артыкула: Нікалаева, Н. «Вікіпедыя» — толькі трамплін / Н. Нікалаева. // Звязда. — 23 ліп. — 2015 г. — Рэжым доступу: http:// zviazda.by/be/news/20150723/1437607434-vikipedyya-tolki-tramplin.

**Як тэорыі медыя паўплывалі на адукацыю?**

Навукоўцы канстатавалі пачатак эры інфармацыйнага грамадства і адзначылі вялікую ролю ў ім медыя. У 1960-я — 1970-я гады ў Заходняй Еўропе і ЗША ў першых медыяадукацыйных праграмах галоўнай мэтай было абвешчана фарміраванне ў маладога пакалення ўменняў разбірацца ў прынцыпах, метадах і мэтах стварэння розных відаў медыятэкстаў і супрацьстаяць іх агрэсіўным метадам уздзеяння. Так нарадзілася так званая «ін’екцыйная тэорыя» медыяадукацыі (ці «пратэкцыяністкая», «прышчэпачная»), бо для выпрацоўкі імунітэту робіцца прышчэпка.

Сёння існуе мноства тэорый, якія можна згрупаваць вакол двух асноўных падыходаў да медыяадукацыі (пратэкцыяністкі і аналітычны). Незалежна ад таго, у рэчышчы якога падыходу мы займаемся медыяадукацыяй, кожнаму медыяпедагогу трэба ведаць базавыя паняцці медыяадукацыі і ўмець з імі працаваць. Такім чынам, мы вяртаемся да галоўнай мэты медыяадукацыйнай дзейнасці — навучыцца педагогу аналізаваць медыятэкст і навучыць гэтаму вучняў.

**Табліца. Асноўныя падыходы* і базавыя паняцці медыяадукацыі****

| Параметры | ПРАТЭКЦЫЯНІСЦКІ ПАДЫХОД | АНАЛІТЫЧНЫ ПАДЫХОД |
|---|---|---|
| Назвы тэорый | Ін’екцыйная, экалагічная, этычная, рэлігійная, эстэтычная, ідэалагічная | Тэорыя развіцця крытычнага мыслення, семіятычная, культуралагічная |
| Педагагічная стратэгія | Абараніць навучэнцаў ад негатыўнага (з іх пункту гледжання) уплыву медыя (уключаючы медыятэксты нізкай мастацкай і сумніўнай маральнай якасці);<br>выхоўваць на «класічных культурных каштоўнасцях», рэлігійных канонах або найлепшых сучасных творах | Трэба даць магчымасць аўдыторыі развіваць крытычнае мысленне на аснове аналізу медыятэкстаў розных відаў і жанраў і мець уяўленне пра механізмы і наступствы ўплыву медыя;<br>неабходна ўлічваць інтарэсы і густы навучэнца, дапамагчы яму сфармуляваць і адстаяць свае медыйныя запатрабаванні |

* Федоров, А. В. Понятие об основных теориях медиаобразования [Электронный ресурс] / А. В. Федоров, А. А. Новикова: http://www.mediaeducation.ru/publ/fedorov/teorii.htm.
** Фёдоров, А. В. Медиаобразование будущих педагогов [Электронный ресурс] / А. В. Фёдоров: http://www.ict.edu.ru/ft/005056/me_futureped.pdf.

| | |
|---|---|
| Асноўныя кампаненты рэалізацыі падыходаў | Атрыманне ведаў па гісторыі, структуры, мове і тэорыі медыя (адукацыйныя складнікі);<br><br>развіццё ўспрымання медыятэкстаў, «чытання» іх мовы;<br><br>развіццё розных відаў мыслення (у тым ліку — крытычнага, лагічнага, творчага, вобразнага, інтуітыўнага);<br><br>развіццё ўменняў усвядомленага разумення ідэй (маральных, філасофскіх праблем, дэмакратычных, гуманістычных прынцыпаў і інш.), вобразаў і г. д.;<br><br>развіццё крэатыўных практычных уменняў на матэрыяле медыя (стварэнне ўласных медыятэкстаў) |
| Базавыя паняцці медыяадукацыі | **Агенцтвы медыя** (вывучэнне працы, функцый і мэт стваральнікаў медыятэкстаў);<br><br>**катэгорыі медыя** (вывучэнне тыпалогіі відаў і жанраў медыя / медыятэкстаў);<br><br>**тэхналогіі медыя** (вывучэнне спосабаў / тэхналогій стварэння медыятэкстаў);<br><br>**мовы медыя** (вывучэнне медыйных моў, г. зн. вербальнага, аўдыявізуальнага, мантажнага шэрагу медыятэкстаў);<br><br>**рэпрэзентацыі медыя** (вывучэнне спосабаў прадстаўлення, пераасэнсавання рэчаіснасці ў медыятэкстах, аўтарскіх канцэпцый і г. д.);<br><br>**аўдыторыі медыя** (вывучэнне тыпалогіі аўдыторыі, тыпалогіі медыяўспрымання) |

### 1.2.3. Медыйная і інфармацыйная граматнасць у дакументах ЮНЕСКА

**Сучасны настаўнік — абавязкова медыяпедагог?**

У кантэксце медыяадукацыі паняцці «медыя» і «інфармацыя» заўсёды разам, звязаныя ў адзінае, непарыўнае цэлае.

Каб не было блытаніны з паняццямі, ЮНЕСКА ўзяла на сябе справу распрацоўкі міжнародных медыяадукацыйных стандартаў і праграмы навучання педагогаў медыйнай і інфармацыйнай граматнасці (**«Медыйная і інфармацыйная граматнасць: праграма навучання педагогаў» (ЮНЕСКА, 2012**)*. Праграма абапіраецца на сучасныя тэндэнцыі канвергенцыі радыё, тэлебачання, інтэрнэту, газет, кніг, электронных архіваў і бібліятэк на адну агульную платформу;

* http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/unescocurr_mil_russian.pdf.

упершыню рэалізуе адзіны падыход да медыя- і інфармацыйнай граматнасці (МІГ); створана з улікам патрэб педагогаў для інтэграцыі ў афіцыйную сістэму іх падрыхтоўкі.




Вылучаны асноўныя ўзаемазвязаныя тэматычныя кірункі, якія ўвайшлі ў праграму навучання педагогаў медыйнай і інфармацыйнай граматнасці:

- веданне і разуменне значэння медыя і інфармацыі для дэмакратычнага развіцця і актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства;
- ацэнка медыятэкстаў і крыніц інфармацыі;
- спажыванне і вытворчасць медыя і інфармацыі.

У згаданай крыніцы вызначаны мэты навучання педагогаў медыйнай і інфармацыйнай граматнасці.

**Табліца. Мэты навучання педагогаў МІГ**

| Медыйная граматнасць | Інфармацыйная граматнасць |
|---|---|
| • разумець ролю і функцыі медыя ў дэмакратычным грамадстве;<br>• разумець умовы, пры якіх медыя могуць выконваць свае функцыі;<br>• крытычна ацэньваць кантэнт медыя;<br>• узаемадзейнічаць з медыя для самавыяўлення і ўдзелу ў дэмакратычных працэсах;<br>• умець ствараць карыстальніцкі кантэнт | • вызначаць і фармуляваць уласныя інфармацыйныя патрэбы;<br>• знаходзіць і атрымліваць доступ да інфармацыі;<br>• ацэньваць, сістэматызаваць і перадаваць інфармацыю;<br>• выкарыстоўваць інфармацыю, захоўваючы этычныя нормы;<br>• умець апрацоўваць інфармацыю, выкарыстоўваючы інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі |
| Акцэнт на здольнасці разумець функцыі медыя, ацэньваць якасць выканання гэтых функцый і ўступаць у рацыянальнае ўзаемадзеянне з медыя для самарэалізацыі | Падкрэсліваецца важнасць доступу да інфармацыі, яе ацэнкі і этычнага выкарыстання |

Наступная схема добра ілюструе высокую ролю медыя- і інфармацыйнай граматнасці грамадзян у сучасным грамадстве і, адпаведна, важнасць місіі педагогаў.

**Схема. Роля медыя і медыя-інфармацыйнай граматнасці ў дэмакратычным грамадстве**




Такім чынам, важнасць уключэння навучання медыйнай і інфармацыйнай граматнасці ў школьны адукацыйны працэс на сістэматычнай аснове

несумненная. Неабходна пазбегнуць «выпадковых і фрагментарных дзеянняў інтуітыўнага характару, часта арыентаваных на другарадныя фактары». Арыенцірамі для практычнай дзейнасці медыяпедагогаў з'яўляюцца адпаведныя ўзросту медыйныя і інфармацыйныя кампетэнцыі навучэнцаў.

У Беларусі дзейныя адукацыйныя стандарты, канцэпцыі і вучэбныя праграмы па школьных прадметах змяшчаюць пэўныя медыяадукацыйныя складнікі. Гэта значыць, існуюць магчымасці для стварэння ўмоў фарміравання і развіцця медыя- і інфармацыйных кампетэнцый усіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу ў нашай школе, нават ва ўмовах адсутнасці медыяадукацыйнага стандарту.

У межах рэалізацыі Праграмы ЮНЕСКА «Інфармацыя для ўсіх» распрацаваны «**Каталог медыйных і інфармацыйных навыкаў»***, дзе прадстаўленыя ключавыя навыкі выкарыстання інфармацыі ва ўсіх яе формах, аб'яднаныя ў рамках сістэмнага падыходу да канцэпцыі медыя-інфармацыйнай граматнасці. Каштоўнасць гэтага выдання ў тым, што ў ім разглядаюцца ўсе ўзроставыя групы ў рамках фармальнай адукацыі (ад дашкольнікаў да студэнтаў) і навучання на працягу ўсяго жыцця.

У якасці тэматычных абласцей навучання школьнікаў і дарослых вылучаны: выкарыстанне інфармацыі, адносіны ў медыяасяроддзі, мова медыя, творчае выкарыстанне медыя, этыка і каштоўнасці ў медыйным і інфармацыйным асяроддзі, бяспека ў інфармацыйным і медыйным асяроддзі, правы ў медыйным і інфармацыйным асяроддзі, эканоміка ўздзеяння медыя.

Звычайна педагогі, узяўшыся працаваць па новай сістэме, спрабуюць адабраць з яе нейкія элементы для найлепшага засваення зместу вучэбнага прадмета. Паспрабуем паглядзець па-іншаму на змест вучэбных праграм па прадмеце, памяняць месцамі змест і вынікі вучэбнай дзейнасці. Сапраўды, чаму нашыя мэты (яны ж прагназаваныя вынікі вучэбнай дзейнасці) знаходзяцца ў вучэбнай праграме пасля таго, за кошт чаго яны павінны быць дасягнутыя?

**Практыкаванне «Працуем з каталогам і вучэбнымі праграмамі»**

**Мэта:** удзельнікі навучацца адбіраць адпаведныя ўзросту навучэнцаў медыйныя і інфармацыйныя навыкі і суадносіць іх з прагназаванымі вынікамі навучання ў адпаведнасці з праграмай па сваім прадмеце; фармуляваць іх як мэты навучання (набытыя ў выніку навучання кампетэнцыі); адбіраць адпаведны змест па вучэбнай праграме прадмета для дасягнення мэты.

* Лічбавая будучыня. Каталог медыйных і інфармацыйных навыкаў, 2013: https://drive.google.com/file/d/0B9VvtmwWQKEhV2YxMGJuUG11QWc/view?pref=2&pli=1



**Інструкцыя:**

1. У «Каталогу медыйных і інфармацыйных навыкаў» знайдзіце і вылучыце адпаведныя ўзросту вучняў ключавыя медыйныя і інфармацыйныя навыкі па кожнай тэматычнай вобласці навучання.

2. Вазьміце вучэбную праграму прадмета, які вы выкладаеце ў школе, і знайдзіце фармулёўкі азначаных медыйных і інфармацыйных навыкаў (запланаваныя вынікі вучэбнай дзейнасці навучэнцаў — метапрадметныя, асобасныя і прадметныя вынікі / кампетэнцыі).

3. Параўнайце адабраныя з каталога ключавыя навыкі і запланаваныя вынікі вучэбнай дзейнасці з праграмы. Як яны суадносяцца? Якія вынікі вучэбнай дзейнасці датычацца медыйнай і інфармацыйнай граматнасці асобы? Якіх ключавых навыкаў не хапае?

4. Паспрабуйце сфармуляваць мэты навучання медыйнай і інфармацыйнай граматнасці на сваім прадмеце з улікам патрабаванняў вучэбнай праграмы.

5. Адбярыце прадметны змест па вучэбнай праграме, які вы будзеце выкарыстоўваць для дасягнення гэтых мэт.

6. Зробленае змясціце ў табліцу.

**Табліца. Медыйныя і інфармацыйныя кампетэнцыі ў кантэксце запланаваных вынікаў вучэбнай дзейнасці**

| **Каталог медыйных і інфармацыйных навыкаў** | | **Праграма вучэбнага прадмета** | |
|---|---|---|---|
| Тэматычная вобласць (блок) | Медыйныя і інфармацыйныя навыкі, адпаведныя ўзросту | Запланаваныя вынікі вучэбнай дзейнасці адпаведна праграме | Змест вучэбнага прадмета |
| | Фармулюем мэты | | |
| Інфармацыя:<br>• крыніцы<br>• пошук<br>• крытычны падыход<br>• выкарыстанне | | | |
| Адносіны ў медыяасяроддзі:<br>• вобраз<br>• зносіны<br>• асяроддзе | | | |
| Мова медыя:<br>• моўная прырода медыя<br>• функцыі паведамленняў<br>• культура зносін з дапамогай медыя | | | |
| Творчае выкарыстанне медыясродкаў:<br>• стварэнне<br>• апрацоўка<br>• прэзентацыя | | | |
| Этыка і каштоўнасці:<br>• камунікацыя і медыя як прадмет этычнага аналізу<br>• этычныя праблемы ў змесце СМК<br>• прававыя нормы ў СМК | | | |
| Бяспека:<br>• абарона прыватнай інфармацыі і рэпутацыі асобы<br>• ананімнасць<br>• бяспека зносін і працы<br>• нагляд за дзейнасцю ў сетцы<br>• звычкі і гігіена ў выкарыстанні медыя | | | |



| | | | |
|---|---|---|---|
| Права ў інфармацыйным і медыйным асяроддзі:<br>• віды, крыніцы і юрыдычныя працэдуры ў кантэксце СМК<br>• СМК і правы чалавека, грамадзяніна і дзіцяці<br>• выключнае права і інтэлектуальныя манаполіі<br>• абарона дадзеных<br>• закон аб тэлекамунікацыях<br>• закон аб СМІ і грамадскіх медыя<br>• правы людзей з абмежаванымі магчымасцямі | | | |
| Эканамічныя аспекты дзеяння медыя:<br>• медыйны рынак<br>• інфармацыя як эканамічныя даброты<br>• фінансаванне медыя<br>• палітыка ў галіне медыя | | | |

Пасля запаўнення табліцы па сваім прадмеце і параўнання яе з табліцамі калег-настаўнікаў іншых прадметаў, можна ўбачыць, што:

- ёсць тэматычныя вобласці (напрыклад, інфармацыя, мова медыя, этыка медыя, творчае выкарыстанне медыясродкаў), па якіх можна працаваць практычна на ўсіх прадметах, а ёсць тэматычныя вобласці (напрыклад, права ў інфармацыйным і медыйным асяроддзі, эканамічныя аспекты дзеяння медыя), па якіх магчымасці нашай школьнай праграмы на сённяшні дзень абмежаваныя;

- некаторыя школьныя прадметы маюць больш высокі патэнцыял у навучанні медыйнай і інфармацыйнай граматнасці (мовы — родная і замежныя, гісторыя, грамадазнаўства).

І галоўнае, для навучання медыйнай і інфармацыйнай граматнасці не трэба ўводзіць яшчэ адзін школьны прадмет, а, увогуле, трэба пачаць адступаць ад «прадметнага шавінізму».

**Табліца. Медыяадукацыйны патэнцыял школьных прадметаў***

| Прадмет | Што можна вывучаць |
|---|---|
| **Мова і літаратура** | • асаблівасці адаптацый / экранізацый друкаваных тэкстаў у розных гістарычных перыядах і абставінах, для розных аўдыторыі;<br>• параўнанне магчымасцей розных медыя (напрыклад, у пабудове характараў персанажаў, аўтарскім пункце гледжання, атмасферы і г. д.);<br>• рэпрэзентацыю / пераасэнсаванне фактаў і меркаванняў у розных медыятэкстах |
| **Замежная мова** | • як медыя краіны, мова якой вывучаецца, выкарыстоўваюць вусную лексіку (напрыклад у рэкламе);<br>• як медыя перадаюць бягучыя падзеі ў краіне (напрыклад, міжнародныя навіны ў газетах ці спартыўных праграмах);<br>• як нацыянальная ідэнтычнасць прадстаўлена ў медыйных паведамленнях (у тым ліку на паштоўках, у турыстычных брашурах) |
| **Гісторыя** | • як гістарычныя падзеі і перыяды могуць быць прадстаўлены ў розных жанрах медыятэкстаў (дакументальных і мастацкіх);<br>• як медыятэксты выкарыстоўваюцца ў якасці прыкладу пры вывучэнні гісторыі;<br>• як аб’ядноўваліся розныя крыніцы і сведкі для маніпулявання медыйнай рэпрэзентацыяй мінулага;<br>• якія гістарычныя персаналіі выкарыстоўваліся медыя ў мэтах улад ці іншага ўплыву |
| **Біялогія, фізіка, матэматыка** | • метады, якія выкарыстоўваюцца вытворцамі медыятэкстаў для адлюстравання навуковых працэсаў і прыроды;<br>• як навукоўцы і навуковы прагрэс прадстаўленыя ў папулярнай медыякультуры;<br>• як навуковыя дасягненні перадаюцца ў дыскусіях і праблемных медыятэкстах, і якія тут розныя інтэрпрэтацыі;<br>• як давер да навукі выкарыстоўваецца ў рэкламных паведамленнях |
| **Музыка** | • як розныя музычныя формы выкарыстоўваюцца, каб стварыць атмасферу і эмацыйныя рэакцыі аўдыторыі;<br>• як розныя тыпы музыкі «спакаваныя» і прадаюцца рознай аўдыторыі па радыё і іншых медыя |

Па даследаваннях Інстытута інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій у адукацыі (ЮНЕСКА) вылучаюцца тры ўзроўні навучання медыйнай і інфармацыйнай граматнасці ў школе, у залежнасці ад адпаведнай падрыхтаванасці настаўніка і наяўнай матэрыяльна-тэхнічнай базы.

* Паводле Д. Букінгэма: http://www.ict.edu.ru/ft/005056/me_futureped.pdf.



## Табліца. Узроўні навучання МІГ*

| Элементарны | Базавы | Павышаны |
|---|---|---|
| • У класе выкарыстоўваюцца пераважна друкаваныя матэрыялы (коміксы, ілюстрацыі, кнігі).<br>• У вучняў няма камп'ютараў, але ёсць камп'ютарнае працоўнае месца настаўніка.<br>• Перыядычна выкарыстоўваюцца простыя медыяпрэзентацыі, выхад на крыніцы інфармацыі ў сетку школы, на сайт школы.<br>• Абмеркаванне медыя адбываецца ў кантэксце індывідуальнага эмацыйнага вопыту.<br>• Базавы досвед працы з абсталяваннем: вучні могуць уключаць і выключаць камп'ютары, запускаць праграмы.<br>• Галоўны ўпор робіцца на стратэгію бяспечных паводзін, а не на аналіз або стварэнне ўласнага медыякантэнту | • У класе выкарыстоўваюцца электронныя і друкаваныя матэрыялы.<br>• У вучняў ёсць доступ да інтэрнэту і магчымасць часта працаваць з камп'ютарамі.<br>• Настаўнік заахвочвае вучняў да актыўных дзеянняў з медыя: глядзець і слухаць медыятэксты, ствараць, напрыклад, рэкламу і постары.<br>• Выкарыстоўваюцца больш складаныя медыйныя формы (напрыклад, відэа).<br>• Вучні знаёмыя з простымі метадамі аналізу медыя.<br>• Вучні набываюць простыя навыкі вытворчасці медыя (запіс гуку, фатаграфаванне, праца з графікай, тэкстамі, прэзентацыямі, сайтамі).<br>• Медыя часта абмяркоўваюцца ў ходзе групавой працы і дыскусіі.<br>• Вучні набываюць досвед у вобласці больш складаных тэхналогій, напрыклад, стварэнне анімацыі і кароткіх фільмаў.<br>• Вучні маюць доступ да бібліятэчных паслуг і крыніц у інтэрнэце.<br>• Асноўны ўпор робіцца на адказнае выкарыстанне медыя | • У класе даступныя і выкарыстоўваюцца разнастайныя медыякрыніцы.<br>• Вучні могуць выкарыстоўваць камп'ютары і інтэрнэт штодня.<br>• Настаўнік рэгулярна выкарыстоўвае розныя мэдыятэхналогіі на ўроках.<br>• У класе выкарыстоўваюцца складаныя медыяпрэзентацыі, створаныя ў іншых культурных кантэкстах (напрыклад, замежныя медыякрыніцы).<br>• Вучні здольныя працаваць з рознымі медыярэсурсамі і ствараюць школьны мэдыякантэнт (школьная тэлестудыя, школьныя выданні, школьны сайт, школьны лічбавы музей, лічбавая медыялабараторыя, блогі і г. д.).<br>• Вучні здольныя ўдзельнічаць у дыскусіі, абмяркоўваць медыя ў малых групах.<br>• Вучні працуюць над праектамі, звязанымі з медыяасяроддзем школы.<br>• Бібліятэчныя паслугі і інтэрнэт даступныя вучням кожны дзень.<br>• Акцэнт робіцца на творчасці ў медыяасяроддзі, юрыдычныя аспекты і крытычнае мысленне |

* «Інфармацыйныя і камунікацыйныя тэхналогіі ў адукацыі» (Інстытут ЮНЕСКА па інфармацыйных тэхналогіях у адукацыі, 2013): http://iite.unesco.org/pics/publications/ru/files/3214728.pdf.

Падсумуем:

- тэорыі камунікацыі, медыя і інфармацыйнага грамадства паспрыялі з'яўленню і ўплываюць на развіццё мноства тэорый медыяадукацыі ў сучасным свеце;
- тэорыі медыяадукацыі можна згрупаваць вакол двух асноўных падыходаў да медыяадукацыі — пратэкцыяністцкага (абарона ад шкоднага ўплыву медыя) і аналітычнага (крытычнае ўспрыманне і ацэнка медыя);
- на сённяшні дзень большасць медыяпедагогаў у практычнай дзейнасці спалучаюць элементы розных падыходаў і тэорый;
- важная роля ў развіцці і распаўсюджванні медыяадукацыі належыць ЮНЕСКА: рэкамендуе ўводзіць медыяадукацыю ўсюды, дзе магчыма: у межах нацыянальных навучальных планаў, гэтак жа як у рамках дадатковай, нефармальнай адукацыі і самаадукацыі на працягу ўсяго жыцця;
- пад эгідай ЮНЕСКА апошнім часам рэалізуецца адзіны падыход да медыйнай і інфармацыйнай граматнасці: распрацаваныя праграма навучання педагогаў медыйнай і інфармацыйнай граматнасці (2012) і каталог ключавых медыйных і інфармацыйных навыкаў (2013) у якасці арыенціраў для практычнай дзейнасці педагогаў;
- ЮНЕСКА вылучае тры асноўныя ўзаемазвязаныя тэматычныя напрамкі: веданне і разуменне значэння медыя і інфармацыі для дэмакратычнага развіцця і актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства; ацэнка медыятэкстаў і крыніц інфармацыі; спажыванне і вытворчасць медыя і інфармацыі;
- навучанне медыйнай і інфармацыйнай граматнасці магчыма і неабходна інтэграваць у адукацыйны працэс школы;
- навучаць медыйнай і інфармацыйнай граматнасці можна на ўсіх школьных прадметах і па-за ўрокамі;
- выкарыстанне ключавых пытанняў для аналізу медыятэксту па базавых паняццях медыяадукацыі — асноўны метад медыяпедагогікі.

*Алена Радзевіч*

## 1.3. Медыя і крытычнае мысленне

*У гэтым параграфе вы пазнаёміцеся з прыёмамі, якія дапамагаюць прааналізаваць і ацаніць якасць медыяінфармацыі ў адпаведнасці з ідэямі крытычнага мыслення; даведаецеся, як выбраць і выкарыстаць на ўроках патрэбныя для навучання крыніцы інфармацыі.*

### 1.3.1. Новыя адукацыйныя рэаліі і задачы: выклікі XXI стагоддзя

*...Калі б мы маглі даць агульнае вызначэнне місіі адукацыі, то сказалі б, што яе асноўнае прызначэнне — даць вучням магчымасць атрымаць карысць ад навучання дзеля паўнавартаснага ўдзелу ў дзяржаўным, грамадскім і эканамічным жыцці.*

New London Group*

У адказ на выклікі сучаснага інфармацыйнага свету мяняюцца адукацыйныя тэхналогіі, змяняецца адукацыйная парадыгма ад канцэпцыі класічнай адукацыі да навучання на працягу ўсяго жыцця. Развіваецца дыстанцыйнае і электроннае навучанне, якое павінна забяспечыць высокі ўзровень граматнасці насельніцтва і рэалізаваць адзін з асноўных адукацыйных прынцыпаў — адукацыя для ўсіх. Веды становяцца адным з рухавікоў эканамічнага развіцця.

Вызначэнне новых падыходаў да адукацыі хвалюе практычна ўсю сусветную супольнасць. Праблемныя пытанні ўзнікаюць праз супярэчнасці паміж патрабаваннем сучаснага грамадства да якасна новага навучання, заснаванага на кампетэнтнасным падыходзе і медыяадукацыі, як новай адукацыйнай парадыгме, і нежаданнем многіх настаўнікаў мяняць свае традыцыйныя педагагічныя падыходы, звычкі і стэрэатыпы.

Доктар педагагічных навук Джэкі Герштэйн вылучыла асноўныя адрозненні сістэмы адукацыі XXI стагоддзя ад традыцыйнай**. Яна звярнула ўвагу на наступныя складнікі.

**Роля настаўніка.** Настаўнік больш не з’яўляецца «мудрацом на сцэне» і адзінай крыніцай ведаў у класе. Ён, хутчэй, падштурхоўвае вучняў. Настаўнікі сёння — гэта фасілітатары, трэнеры і партнёры, якія накіроўваюць навучэнцаў да новых адкрыццяў у іх пазнавальным вандраванні.

* New London Group — каманда з дзесяці акадэмікаў, якія аб’ядналі свае намаганні ў 1996 г. у адказ на выклікі сучаснага грамадства, занепакоеныя тым, як педагогіка можа рэагаваць на хуткае змяненне ролі граматнасці ў сувязі з глабалізацыяй, інфармацыйнымі тэхналогіямі і павышэннем культурнай і сацыяльнай разнастайнасці. http://www.newliteracies.com.au/what-are-new-literacies?/138/.

** http://www.educatorstechnology.com/2014/06/fantastic-chart-on-21st-century.html.

**Роля вучня.** Вучні таксама сталі больш адкрытымі ў сучаснай сістэме адукацыі. Яны больш не з'яўляюцца пасіўнымі слухачамі, чыя роля абмяжоўваецца спажываннем таго, што ім прапануюць іншыя. Школьнікі XXI стагоддзя актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні і сумесным выкарыстанні ведаў.

**Навучальны план.** У традыцыйнай сістэме адукацыі існаваў адзіны рэцэпт для ўсіх, які абапіраўся на адны і тыя ж падручнікі і метадычныя дапаможнікі. Сучасныя праграмы больш разнастайныя, дыферэнцыяваныя і прапануюць мноства самых розных крыніц. Сучасная адукацыя — разнастайная адукацыя.

**Педагогіка.** Педагогіка — люстэрка, у якім бачныя пералічаныя вышэй змены. Адукацыя сёння будуецца не вакол фігуры настаўніка, а вакол фігуры вучня. Памылкі лічацца здаровымі прыкметамі працэсу навучання, а дрэнныя паводзіны разглядаюцца як магчымасць для росту і самаўдасканалення, часта карэктуюцца з дапамогай намаганняў групы.

**Ацэнка.** Цяпер ацэнка — гэта не запознены паказчык, які не дае вучню ніякай інфармацыі, акрамя канстатацыі выніку навучання на пэўным этапе. На сённяшні дзень часцей выкарыстоўваецца актыўная ацэнка. Актыўная ацэнка засноўваецца на зваротнай сувязі, якая паказвае, што вучань зрабіў добра, а таксама на тое, што ён павінен зрабіць па-іншаму. Актыўная ацэнка таксама змяшчае парады: як вучань можа палепшыць работу і як яму трэба вучыцца далей. У сучаснай педагогіцы цэніцца фарміраванне працэсу навучання, а не толькі дасягнуты эфект*.

**Практыкаванне «Вучань сучаснай школы»**

**Мэта:** настаўнікі ўдакладняць уяўленне пра вучня як суб'екта навучання.

Адкажыце на пытанне: ***Якімі якасцямі павінен валодаць школьнік, каб быць паспяховым у XXI стагоддзі?***

Параўнайце адказ з рознымі падыходамі да вызначэння якасцей чалавека XXI стагоддзя. **https://sites.google.com/site/interaktivnyjkurs/modul3**, **www.edutainme.ru/post/griffin/**, **http://ww.nastaunik.info/info/conference/9705**.

Акрамя вышэйвызначаных якасцей, паспяховы чалавек павінен быць не толькі першакласным спецыялістам, але і паспяховым грамадзянінам, паспяховым бацькам, паспяховым спажыўцом і г. д. Паспяховы грамадзянін разумее, з чаго складаецца ўлада, фінансавая сістэма, грамадзянская супольнасць. Паспяховы

* Дыдактычны матэрыял «Актыўная і падсумоўваючая ацэнка». Дыстанцыйны курс «Актыўная ацэнка»: http://dn.aacenka.by.

бацька ведае правілы выхавання і метады развіцця дзіцяці. Паспяховы спажывец ведае, што яму трэба, як і дзе гэта набыць... І ўсё гэта ў хутка зменлівым свеце. Рашэнне вытворчых, маркетынгавых, сацыяльных і нават бытавых задач усё больш патрабуе сістэмнага, міжпрадметнага падыходу, умення бачыць аддаленыя наступствы*.

Ці працуюць метады навучання, якія звычайна выкарыстоўваюцца на ўроках, на фарміраванне і развіццё якасцей сучаснага чалавека? Далёка не заўсёды гэта так. Сучасныя педагогі павінны навучыць дзяцей жыць у свеце, якога самі не ведаюць, таму ў цяперашніх рэаліях немагчыма раз і назаўжды даць вучню веды, якія стануць залогам атрымання «добрага» працоўнага месца і прафесійнага развіцця. Немагчыма прадказаць, якія віды працы будуць актуальнымі ў будучыні, дзе будуць працаваць вучні, якія толькі прыйшлі ў першы клас.

Гэтую праблему ўскладняе інфармацыйны выбух. Падручнік ужо не можа выступаць у якасці адзінай крыніцы інфармацыі, тым больш, пакуль ён выйдзе ў свет, ужо паспее ў значнай ступені маральна састарэць. Акрамя таго, інфармацыя, якую настаўнікі ў стане перадаць, складзе толькі малую частку той інфармацыі, якая спатрэбіцца іх вучням на працягу жыцця. Каб быць паспяховым, патрэбны зусім новыя веды, кампетэнцыі і іх новае асэнсаванне.

Паралельна з неверагодным ростам аб'ёму інфармацыі нарастае колькасць спосабаў яе атрымання. Свет становіцца ўсё больш складаным, на людзей уздзейнічаюць розныя медыя, якія выдаюць супярэчлівую, часам узаемавыключальную інфармацыю пра адны і тыя ж з'явы, падзеі, навуковыя адкрыцці і актуальныя праблемы сучаснасці. Разабрацца вельмі няпроста нават дарosламу, а што гаварыць пра вучня.

Якая задача стаіць перад вучнямі пакалення Z?

Хоць вывучэнне зместу школьных прадметаў застаецца важным, але галоўнай задачай вучняў будзе стаць **адказнымі грамадзянамі, навучыцца вучыцца і думаць крытычна**.

- Сустракаючыся з новай інфармацыяй, навучэнцы павінны ўмець разглядаць яе ўдумліва, умець самастойна ацэньваць ідэі, дзейнічаць суадносна з разуменнем таго, што ў дадзенай інфармацыі можа быць ім карысна.
- Яны павінны ўмець разглядаць новыя ідэі з розных пунктаў гледжання, рабіць высновы адносна дакладнасці і каштоўнасці інфармацыі: вызначаць агульную вартасць ідэй на падставе сваіх патрэб і мэт.
- Каб паспяхова дзейнічаць у зменлівым свеце, навучэнцы павінны ўмець «прасейваць» інфармацыю і прымаць рашэнні.

* http://www.trizway.com/art/form/107.htm

- Ім прыйдзецца разумець, як розныя часткі інфармацыі могуць быць звязаныя паміж сабой, навучыцца разглядаць новыя ідэі і веды ў адпаведным кантэксце, асэнсоўваць значэнне таго новага, з чым яны сутыкаюцца, аспрэчваць тую інфармацыю, якая не мае дачынення да справы ці з'яўляецца няслушнай.

Такім чынам, навучанне ў школе павінна быць пабудавана так, каб выпускнікі сталі медыяграматнымі грамадзянамі, маглі самастойна ставіць і дасягаць мэты, умела і гнутка рэагаваць на розныя жыццёвыя сітуацыі. Тым, хто вырашыць адказаць на новыя выклікі, хто гатовы да заўтрашняга дня, прыйдзецца працаваць побач з тымі, каму мілей учорашні дзень, хто вырашыць пакінуць усё, як было раней. Новае робіць працу больш складанай, але не менш удзячнай і важнай.

### 1.3.2. Крытычнае мысленне — што гэта? Навошта яно сучаснаму чалавеку?

Многія людзі гатовыя карыстацца рэкамендацыямі экспертаў па выбары прадуктаў харчавання, бытавой хіміі або тэхнікі. Для гэтага яны звяртаюцца да розных крыніц інфармацыі, разумеючы, што лепш выдаткаваць час на вывучэнне рынку, чым пакутаваць ад спажывання няякаснага прадукту.

Крытычнае мысленне — такі ж падыход спажывецкай граматнасці, толькі ў адносінах да інфармацыі. Яно неабходна, каб не трапіць у залежнасць ад экспертных ацэнак, інтэрпрэтацый, грамадскага меркавання і маніпулявання СМІ.

Часта робяць памылку, прымаючы крытычнае мысленне за прадмет, які павінен выкладацца ў школе, або за набор навыкаў, метадаў, якія можна выпрацаваць і прымяніць. Калі гэта не вучэбны прадмет, не веды, уменні і навыкі, тады што ж такое крытычнае мысленне?

На думку заснавальнікаў тэхналогіі крытычнага мыслення (Курт Мерэдзіт, Джыні Сціл і Чарльз Тэмпл), крытычнае мысленне — гэта вынік, кропка апоры для мыслення чалавека, натуральны спосаб зносін з інфармацыяй. Чалавек з развітым крытычным мысленнем знаёміцца з інфармацыяй з розных медыярэсурсаў, пры гэтым ён успрымае яе з разумнай доляй скептыцызму, супастаўляе з процілеглымі пунктамі гледжання і разглядае яе магчымыя наступствы.

Крытычнае мысленне не можа развіцца ў выніку перадачы парад, рэцэптаў, выканання пэўнага алгарытму на шляху да яго. Гэта складаны разумовы працэс. Таму многія лічаць, што ён даступны толькі навучэнцам старэйшага ўзросту. Гэта не так. Маленькія дзеці цалкам здольныя выконваць складаныя разумовыя

аперацыі, адпаведныя ўзроўню іх развіцця. Яны ахвотна ўдзельнічаюць у аналізе праблем і дасягаюць высокага ўзроўню прымання рашэнняў.

Д. Халперн вылучае цэлы шэраг якасцяў, якія характарызуюць чалавека з крытычным мысленнем: 1) гатоўнасць да планавання; 2) гнуткасць; 3) настойлівасць; 4) гатоўнасць выпраўляць свае памылкі; 5) усведамленне і аналіз уласных разважанняў; 6) пошук кампрамісных рашэнняў.

Эксперты адзначаюць, што з крытычным мысленнем цесна звязаны шэраг уменняў і навыкаў:

- уменне задаваць пытанні;
- уменне фармуляваць праблему;
- уменне даказваць свой пункт гледжання;
- уменне аналізаваць здагадкі і перадузятасці;
- уменне пазбягаць эмацыйных меркаванняў, спрашчэнняў;
- уменне разглядаць усе наяўныя інтэрпрэтацыі;
- талерантнасць;
- метапазнаннне — уменне думаць пра тое, як я думаю.

Элементы крытычнага мыслення: **НАЗІРАННІ**, у выніку назіранняў мы можам вылучыць **ФАКТЫ**, ад фактаў ці іх адсутнасці мы можам перайсці да **ДАПУШЧЭННЯЎ**, праверыўшы іх абгрунтаванасць, мы пераходзім да **МЕРКАВАННЯЎ**, ад якіх залежаць нашыя **ПЕРАКАНАННІ**. Абапіраючыся на перакананні, мы падбіраем **АРГУМЕНТЫ**, якія грунтуюцца на **СЦВЯРДЖЭННІ**, **ПЕРАДУМОВЕ** і **ВЫСНОВЕ**. А калі мы хочам праверыць аргументы, мы абапіраемся на **КРЫТЫЧНЫ АНАЛІЗ**, з дапамогай якога правяраем нашыя назіранні, факты, меркаванні, перакананні і аргументы*.

Паспрабуем разабрацца ў пералічаных тэрмінах.

**Факт** — гэта інфармацыя, якую мы можам праверыць і засведчыць. Факт, што Зямля сферычная і рухаецца вакол Сонца. Ён пацвярджаецца назіраннямі і фізічнымі вылічэннямі, якія даводзяць, што гэта праўда. Але з цягам часу знаходзім прыклады таго, як чалавецтва прымае за факты таксама непацверджаную, часта супярэчную фізіцы і назіранням інфармацыю таму, што яна ўкладаецца ў яго філасофію. Такі падыход, аднак, цалкам супярэчыць крытычнаму мысленню. Як факт можна разглядаць таксама інфармацыю, не заснаваную на сведчаннях,

* Паводле: http://monda.eu/be.

але ёсць грамадская дамова наконт яе. Напрыклад, факт ёсць тое, што адзін сантыметр складаецца з 10 міліметраў, што ў гадзіне 60 хвілін.

**Дапушчэнне** — гэта сцвярджэнне, якое можа быць праўдай ці не. Напрыклад, калі настаўнікі геаграфіі і беларускай мовы і літаратуры ў вашай школе слухаюць Вівальдзі, можна дапусціць, што ўсе педагогі ўстановы адукацыі слухаюць яго. Аднак, не апытаўшы кожнага, каб спраўдзіць сваё дапушчэнне, нельга разглядаць гэта як факт. Нельга заяўляць, што гэта праўда.

Гіпотэза падобная да дапушчэння. Навукова абгрунтаванае, але яшчэ канчаткова не даказанае дапушчэнне. Гіпотэза часта сустракаецца пры выкананні вучнем даследавання. Пры гэтым ён павінен спачатку выкласці сваю гіпотэзу, каб затым яе пацвердзіць ці абвергнуць.

**Меркаванне** — сцверджанне, якое мы лічым за праўдзівае. Яно залежыць ад нашага пункту гледжання, густу або асабістага досведу. Кожны бачыць свет па-рознаму, і таму ёсць розныя меркаванні пра адно і тое ж. Калі вы, напрыклад, кажаце, што жоўты колер прыгожы, гэта вашае меркаванне, а ваш сябар можа любіць зусім іншыя колеры. Меркаванне можа прымаць розныя формы: асабістыя перавагі — чаму аддаём перавагу, што любім; погляд — што лічым правільным / няправільным, добрым / дрэнным; парада — што іншым варта / не варта рабіць; абагульненне — перакананне ў агульных рэчах, не падмацаванае сведчаннямі або аргументамі і часта заснаванае на стэрэатыпах («Усе людзі ў Афрыцы галадаюць», «Цыганы не хочуць працаваць», «Усе мусульмане агрэсіўныя, небяспечныя»). Мэта крытычнага мыслення — пераадольваць стэрэатыпы.

**Аргумент** — выказванне альбо серыя выказванняў, заяваў ці дапушчэнняў. Мэта аргумента — растлумачыць, пераканаць або давесці штосьці. Змяшчае передумовы і адну выснову, на іх абгрунтаваную. Карэктны аргумент павінен грунтавацца на логіцы і фактах і весці да правільнага рашэння. Аргумент можа абгрунтоўваць пэўнае перакананне, але мы не павінны блытаць яго са звычайным сцвярджэннем.

**Сцвярджэнне** дае аб'ектыўную інфармацыю, але не імкнецца пераканаць. Сказ «Большасць краін у Афрыцы менш развітыя, чым у Еўропе» ёсць сцвярджэнне. Калі гэта быў бы аргумент, то гучаў бы так: «Большасць краін у Афрыцы менш развітыя, чым у Еўропе, бо Еўрасаюз выстаўляе высокія мытныя тарыфы на іх прадукцыю. Таму некаторыя афрыканскія прадукты каштуюць даражэй, чым еўрапейскія».

**Перадумова** — сцвярджэнне, што абумоўлівае выснову з аргумента.

**Выснова** — сцвярджэнне, заснаванае на передумовах, якія яго лагічна абумоўліваюць. Калі хочам атрымаць правільную выснову, трэба працаваць з правільнымі і праверанымі передумовамі.

Такім чынам, атрымліваючы інфармацыю з розных медыякрыніц, важна разумець, што ляжыць у аснове таго ці іншага артыкула, выказвання, паведамлення, навіны (факты, дапушчэнні ці толькі меркаванні), а таксама ведаць, як фармулююцца і з чаго складаюцца аргументы. Значыць, у сучаснай сітуацыі паняцце «крытычнае мысленне» разглядаецца ў кантэксце агульнай крытычнай граматнасці і медыякампетэнтнасці чалавека.

**Практыкаванне «Аналіз артыкула»**

**Мэта:** пазнаёміцца з прыёмамі, якія дапамагаюць прааналізаваць і ацаніць якасць інфармацыі ў адпаведнасці з ідэямі крытычнага мыслення.

1. Прачытайце артыкул «Что еще, кроме взрыва на борту, могло погубить Airbus A-321?» С. Смірнова («Камсамольская праўда», 9 ліст., 2015): **www.kp.by/daily/26455.5/3326036/**.
2. Прааналізуйце яго адпаведна плану.

**План аналізу артыкула**

- Аддзяліце факты, якія паддаюцца праверцы ад інтэрпрэтацый і меркаванняў.
- Вызначце, што ў матэрыяле для вас істотна, а што няважна / непатрэбна.
- Вылучыце недаказаныя або слаба аргументаваныя сцвярджэнні. У чым вы бачыце прадузятасць і неаб’ектыўнасць аўтара? Чаму вы так вырашылі?
- Наколькі можна давяраць гэтай крыніцы? Што для вас з’яўляецца крытэрыем сапраўднасці?
- У чым заключаецца пункт гледжання аўтара гэтага матэрыялу? Чаму вы так лічыце? Ці можна прасачыць логіку разваг, як аўтар прыходзіць да высноў?
- Наколькі моцна аргументаваная пазіцыя аўтара? Ці прапануе ён прыняць свае меркаванні на веру? Ці вы прыйшлі да такой самай высновы?

- Наколькі дакладная інфармацыя ў гэтым матэрыяле? Што вы зрабілі б для таго, каб пераканацца ў яе дакладнасці?
- Ці прыводзіць аўтар альтэрнатыўныя пункты гледжання? Як ён ставіцца да аргументаў апанентаў?

1. Што вы можаце сказаць аб прачытаным артыкуле? Запішыце меркаванне ______________________________
2. Як можна скарыстацца прапанаванай схемай аналізу на ўроку? ______________________________
3. Для якіх відаў працы яна больш за ўсё падыходзіць? ________
4. Якія парады можна даць вучню, які апынуўся перад цяжкім выбарам сярод мноства крыніц, атрыманых у выніку пошуку ў сеціве?
5. Як не застацца падманутым? Чаму нельга давяраць?

Для некрытычнага спажыўца інфармацыя служыць крыніцай таго, што ён лічыць фактамі. Яго веды грунтуюцца на ўспрыманні гэтых «фактаў». Калі ж чалавек думае крытычна, то атрыманая інфармацыя для яго ёсць толькі збор канкрэтных фактаў, дапушчэнняў, меркаванняў, як іх разумее аўтар. Крытычны спажывец адрознівае не толькі змест інфармацыі, але таксама, што яна адлюстроўвае, так як кожны фрагмент інфармацыі — унікальны твор канкрэтнага аўтара.

Некрытычны спажывец чытае артыкул, навіны ці глядзіць тэлевізар, каб знайсці агульнапрынятае тлумачэнне падзей. Чалавек з развітым крытычным мысленнем чытае той жа артыкул ці глядзіць тэлевізар, каб даведацца, як аўтар тлумачыць пэўныя падзеі, і ацаніць, як у гэтых медыякрыніцах падабраныя факты, здагадкі і меркаванні.

Асоба з развітым крытычным мысленнем выкарыстоўвае чатыры асноўныя этапы аналізу інфармацыі: 1) даведваецца, пра што інфармацыя (напрыклад, праз кароткі пераказ — так мы можам зразумець, пра што ідзе гаворка ў тэксце арыгінала); 2) высвятляе мэту аўтара; 3) вызначае танальнасць інфармацыі ці ўжытыя элементы пераканання, у тым ліку метады маніпуляцыі; 4) інтэрпрэтуе інфармацыю ў цэлым (робіць аналіз інфармацыі, каб вызначыць яе агульны сэнс).

### 1.3.3. Як знайсці патрэбную нам кветку ў джунглях, або Дыдактычныя прынцыпы адбору інфармацыі

Англійскі пісьменнік-фантаст Ніл Гейман, аўтар графічных раманаў, коміксаў і сцэнароў фільмаў, наконт прыроды інфармацыі сказаў так: «Інфармацыя мае кошт, а правільная інфармацыя неацэнная. На працягу ўсёй гісторыі чалавецтва мы жылі ў часы недахопу інфармацыі. Інфармацыя была каштоўнай рэччу, і тыя, хто валодалі ёю, маглі разлічваць на ўзнагароджанне. У апошнія гады мы адышлі ад недахопу інфармацыі і падышлі да перанасычэння ёю» (артыкул «Чаму нашая будучыня залежыць ад чытання»*). Эрык Шміт з кампаніі Google адзначае, што цяпер кожныя два дні чалавечая раса стварае столькі інфармацыі, колькі мы выраблялі ад пачатку нашай цывілізацыі да 2003 года. Гэта нешта каля пяці эксабайтаў (1018 байтаў) інфармацыі ў дзень. Зараз задача — не ў тым, каб знайсці рэдкую кветку ў пустыні, а ў тым, каб адшукаць канкрэтную расліну ў джунглях. Нам неабходна дапамога ў навігацыі, каб знайсці сярод інфармацыі тое, што нам сапраўды трэба.

Сучасныя старшакласнікі большую частку інфармацыі атрымліваюць не з кніг, як гэта было раней, а ў інтэрнэце. Чым, на ваш погляд, адрозніваецца чытанне кнігі ад чытання інфармацыйных інтэрнэт-матэрыялаў? Якія ўзнікаюць праблемы? Як гэта ўплывае на ўспрыманне і разуменне інфармацыі?

Існуе многа разнастайных інфармацыйных рэсурсаў у інтэрнэце, і ўсе яны адрозніваюцца па ступені дакладнасці, надзейнасці і каштоўнасці. Інфармацыя існуе ў разнастайных формах (тэкст, фота, відэа, малюнак або статыстычныя дадзеныя, электронны або папяровы фармат), якія могуць быць прадстаўлены ў анлайнавых сховішчах і парталах, віртуальных і рэальных бібліятэках, у калекцыях дакументаў, базах дадзеных, архівах, музеях і г. д. Аднак якасць інфармацыі, прадстаўленай такімі крыніцамі, можа быць ад «вельмі добрай» да «вельмі дрэннай».

Дасведчаны чалавек выбірае некалькі розных тыпаў крыніц і выкарыстоўвае іх у адпаведнасці са сваімі запытамі. Крыніцы інфармацыі можна падзяліць на тры катэгорыі:

1) першакрыніцы** — гэта арыгінальныя крыніцы, якія не прадугледжваюць інтэрпрэтацыі інфармацыі. Першакрыніцы — гэта тэксты, якія напісаны пра людзей або самімі людзьмі, якія перажылі гістарычныя падзеі, якія зрабілі навуковыя адкрыцці, адчулі на сабе іх уплыў. Да першакрыніц могуць мець дачыненні практычна любыя тэксты, лісты, фатаграфіі, дзённікавыя запісы, чарцяжы або малюнкі. У многіх сферах і кантэкстах заўсёды рэкамендуецца выкарыстоўваць па магчымасці першакрыніцы;

* Паводле: Гейман, Н. Почему наше будущее зависит от чтения: http://fit4brain.com/7524

** Брозо, У. Веб-квесты: учимся, исследуя первоисточники / У. Брозо // Перемена. — Т. 7. — №1. — 2006.

2) другасныя крыніцы прадстаўляюць пастаўшчыкі інфармацыі. У гэтым выпадку інфармацыя падвяргаецца інтэрпрэтацыі, аналізу або абагульненню (напрыклад, газетныя рэпартажы пра медыцынскія даследаванні атлусцення, напісаныя больш простай, зразумелай для аўдыторыі мовай). Праз інтэрпрэтацыі і пераказы могуць з'яўляцца недакладнасці. Чытач павінен ведаць гэта і быць асцярожным з інфармацыяй з другаснай крыніцы.

3) трэція крыніцы — гэта кампіляцыі і іншыя падобна арганізаваныя крыніцы (напрыклад, рэфераты, бібліяграфіі, дапаможнікі, энцыклапедыі, паказальнікі, храналагічныя табліцы, базы дадзеных і інш.), якія змяшчаюць інфармацыю з першасных і другасных крыніц.

**Табліца. Параўнанне трох катэгорый крыніц інфармацыі**

| Прадмет / тэма | Першакрыніца | Другасная крыніца | Трэцяя крыніца |
|---|---|---|---|
| «Чалавек і свет» / пачатковыя класы. «Птушкі» | Атлас птушак Беларусі Навукова-практычнага цэнтра НАН па біярэсурсах РБ | Хрэстаматыя для пазакласнага чытання; артыкулы ў СМІ пра птушак, што зімуюць у Беларусі | Базы дадзеных (Птушкі Беларусі) грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» **http://www.ptushki.org/guide.html** |
| Гісторыя. «Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага» | Лісты з-пад шыбеніцы К. Каліноўскага | «Ліст з-пад шыбеніцы». Версія TUT.BY **http://news.tut.by/society/335874.html**; артыкулы ў СМІ, манаграфія пра жыццё і дзейнасць К. Каліноўскага | Рэфераты |
| Фізіка. «Тэорыя адноснасці» | Дзённік Эйнштэйна | Артыкул акадэміка В. Гінзбурга **http://modcos.com/articles.php?id=184**, манаграфія пра жыццё А. Эйнштэйна | Фантастычныя фільмы пра падарожжы ў часе («Інтэрстэлар», «Салярыс», «Назад у будучыню»…) |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Геаграфія. «Вялікія геаграфічныя адкрыцці» | «Кніга аб разнастайнасці свету» Марка Пола | Кароткі нарыс жыцця Марка Пола як вялікага італьянскага вандроўніка і прыродазнаўцы | Табліца «Храналогіі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў» |

Давер да тэксту вышэйшы, калі ён цытуе крыніцы з імем аўтара, назвай і годам публікацыі. У інтэрнэце тэксты часта маюць гіперспасылкі на даследаванні, з якіх бяруцца цытаты. Так вучань можа лёгка знайсці першакрыніцу інфармацыі. У выпадку сумневаў у надзейнасці інфармацыі ён можа знайсці іншыя, незалежныя, крыніцы.

**Практыкаванне «Які тып крыніцы інфармацыі?»**

**Мэта:** атрымаць вопыт вызначэння тыпу крыніцы інфармацыі: першакрыніца, другасная ці трэцяя.

Паспрабуйце вызначыць, якія з медыятэкстаў з'яўляюцца першакрыніцай? Чаму вы так думаеце?

- Канцлер Германии Ангела Меркель (Angela Merkel) ожидает, что общее число беженцев, прибывших в страну в 2015 году, составит один миллион, пишет **Frankfurter Allgemeine Sonntagszeitung** (FAS). Об этом Меркель заявила на экстренном саммите в Брюсселе 25 октября, сообщает FAS в субботу, 31 октября, со ссылкой на источник в кругу участников встречи. Читать полностью: **http://news.tut.by/world/470915.html** .
- Даклад Сусветнага банка «Змена клімату планеты: наступствы для Афрыкі, Азіі і бяднейшага насельніцтва прыбярэжных раёнаў»
- **http://www.worldbank.org/ru/news/feature/2013/06/19/what-climate-change-means-africa-asia-coastal-poor**.
- Навуковыя дадзеныя ААН у галіне змены клімату **http://www.un.org/ru/climatechange/science.shtml**.
- Брэсцкі экалагічны інфармацыйны цэнтр. Артыкул «Глобальное изменение климата»
- «Ученые пришли к выводу, что увеличение температуры на 1,5—4,5°С к концу следующего века, приведет к подъему уровня моря на 40—120 см. Это приведет к затоплению многих малых островов и наводнениям в прибрежных территориях (например, Голландия)» **http://bresteco.by/index.php/globalnoe-izmenenie-klimata**.

Сёння на некаторых традыцыйных уроках захоўваецца дзве нязменна аўтарытэтныя крыніцы інфармацыі: настаўнік і падручнік. І гэта ніяк не залежыць ад узроўню тэхнічнага забеспячэння адукацыйнага працэсу. Аднак настаўнікі могуць павысіць ступень зацікаўленасці навучэнцаў і развіваць іх крытычнае мысленне, пазнаёміўшы іх з цікавымі першакрыніцамі, якія захоўваюцца ў інтэрнэце.

Уільям Дж. Броза, выкладчык універсітэта імя Джорджа Мейсана, Фэрфакс, штат Вірджынія, ЗША, у артыкуле «Вэб-квэсты: вучымся, даследуючы першакрыніцы»* даў парады для настаўнікаў па арганізацыі працы вучняў з першакрыніцамі:

- **Уводзіны.** Важна забяспечыць вучняў інфармацыяй пра мэту працы з першакрыніцамі і чаканыя вынікі.
- **Заданні** павінны адпавядаць узроставым псіхалагічным асаблівасцям і кагнітыўным навыкам вучняў, улічваць даступныя рэсурсы. Акрамя таго, яны павінны быць цікавымі для вучняў.
- **Інфармацыйныя медыякрыніцы.** Акрамя вэб-дакументаў, да медыякрыніц могуць адносіцца інтэрнэт-канферэнцыі і мультымедыйныя крыніцы. Для таго каб вучні не згубіліся ў віртуальнай прасторы, настаўнік можа забяспечыць іх спасылкамі на неабходныя сайты.
- **Працэс.** На дадзеным этапе трэба выразна і дэталёва растлумачыць вучням, як яны павінны выконваць заданні. (*Напрыклад: 1) Вы будзеце працаваць у групах па чатыры чалавекі ў кожнай. 2) Кожны член групы адказвае за прачытанне і / або прагляд адной з першакрыніц. 3) Кожны член групы павінен прааналізаваць сваю крыніцу і сцісла прадставіць свой аналіз у пісьмовым выглядзе. 4) Напішыце групавую справаздачу, якая аб'ядноае індывідуальныя пісьмовыя паведамленні членаў групы ў цэласную карціну. 5) Абярыце дакладчыка, які прадставіць вашу справаздачу класу.*)
- **Кіраўніцтва.** Вучням можа спатрэбіцца дапамога ў сістэматызацыі / аналізе атрыманай інфармацыі. Педагогі могуць даць практычныя парады і падказкі.
- **Завяршэнне.** На гэтым этапе завяршаецца пошук інфармацыі і праводзіцца «інвентарызацыя» ўсяго таго, пра што даведаліся вучні. Заключнае слова настаўніка можа гучаць прыкладна так: «Віншую вас. Дзякуючы выкарыстанню першакрыніц вы маеце больш поўнае ўяўленне пра… Вы таксама навучыліся аналізаваць першакрыніцы як сведчанні аб тых людзях, якія іх стварылі. Выкарыстоўвайце першакрыніцы ў далейшай вучобе і даследаваннях для таго, каб лепш зразумець людзей і падзеі».

* Брозо, У. Веб-квесты: учимся, исследуя первоисточники / У. Брозо // Перемена. — Т. 7. — № 1. — 2006.

Скарыстаўшы гэтыя парады, педагогі на свае вочы ўбачаць, што вучняў куды больш прыцягваюць і інтрыгуюць першакрыніцы, чым традыцыйная інтэрпрэтацыя тэм, прадстаўленая ў падручніках.

Прыступаючы да пошуку інфармацыі, варта асэнсаваць, якая менавіта інфармацыя вам патрэбна. Інфармацыйныя патрэбы — гэта патрэба канкрэтнага карыстальніка (або групы карыстальнікаў) у інфармацыі на пэўную тэму. Для школьнікаў можна прапанаваць наступную памятку для пошуку інфармацыі ў інтэрнэце. Гэты працэс дапаможа выявіць надзейныя інфармацыйныя крыніцы. Перш чым ацэньваць крыніцы інфармацыі, важна вызначыць **мэту атрымання інфармацыі**.

**Правілы пошуку інфармацыі:**

- Трэба дакладна разумець, якую інфармацыю ты хочаш знайсці.
- Ніколі нельга спыняцца на адной крыніцы інфармацыі.
- Калі пошукавая сістэма прапануе шмат старонак, пажадана падумаць, як звузіць пошук; калі мала — падумаць, як пашырыць.
- Важна знайсці правільныя пошукавыя словы (імёны, даследчыкі).

Для **ацэнкі аўтарытэтнасці** крыніц адкажыце на пытанні:

- Ад каго вы атрымалі інфармацыю: ад паважанага спецыяліста ў гэтай галіне або ад суседа?
- Якой крыніцай вы карысталіся: блог незнаёмай асобы або тэкст рэцэнзаваных навуковых выданняў?
- Карыстаецеся матэрыяламі сайта прыватнай кампаніі? Калі так, то якія інтарэсы ў гэтай кампаніі?

Некаторы час таму на конкурс праектных і даследчых работ малодшых школьнікаў былі прадстаўлены работы, якія аб'ядноўвала агульная тэма «Вада і яе ўласцівасці». У аснову «даследаванняў» быў пакладзены фільм пра ваду, які некаторы час таму паказвалі на мностве тэлевізійных каналаў, «Вода. Новое измерение»*, ён быў адзначаны шэрагам прэмій. Гэтыя работы не маглі быць прыняты да разгляду членамі журы, бо не адпавядалі асноўным крытэрыям даследчых прац школьнікаў. Як вы думаеце, чаму?

Пры выкананні работы нельга абапірацца толькі на адну крыніцу, не разгледзеўшы альтэрнатыўныя пункты гледжання, па-другое, нельга прыняць

* http://russia.tv/brand/show/brand_id/10258/.

ідэю фільма, не праверыўшы дакладнасць інфармацыі, па-трэцяе, уласцівасці вады ў фільме прадстаўлены як серыя дапушчэнняў. У вучняў пачатковай школы з несфарміраваным крытычным мысленнем можа развіцца антынавуковы погляд на ваду і яе ўласцівасці.

Але погляд на гэты фільм з пункту гледжання медыяадукацыі ўяўляецца вельмі цікавым. Гаворка там ішла аб тым, што вада нібыта валодае памяццю, свядомасцю і можа рэагаваць на чалавечую дзейнасць. У фільме прыводзіліся фрагменты інтэрв'ю сур'ёзных навукоўцаў, уключаючы аднаго нобелеўскага лаўрэата. Той потым распавядаў, што да яго прыйшла здымачная група, задавалі нейкія дзіўныя пытанні, а потым з гадзіннага інтэрв'ю выбралі дзве фразы, якія ўвогуле ніяк не былі звязаны з вадой. Але закадравы тэкст прывязаў гэтыя выказванні да агульнага кантэксту фільма, а гледачы былі перакананыя, што навуковец сур'ёзна падтрымлівае ідэю гэтай карціны.

Тут быў зроблены прадуманы крок. Калі ў пачатку фільма бачыш вядомых паважаных і аўтарытэтных навукоўцаў, настройваешся на тое, што фільм — сур'ёзны. Але потым, услед за навукоўцамі, у тым жа шэрагу з'яўляецца японец, у субцітрах названы «даследчыкам», да якога гледачы па інерцыі ставяцца сур'ёзна. А гэты чалавек — насамрэч не навуковец. І ён пачынае апавядаць пра не доказаныя навукай рэчы. Выбудоўваецца патрэбны аўтару фільма кантэкст: гледачы лічаць, што ўсе людзі ў гэтым фільме згодныя з гэтым японцам. А яны нават не ведалі пра яго існаванне і яго ненавуковыя, але зразумелыя шырокаму гледачу ідэі.

У той жа час для арганізацыі даследчай працы вучняў існуе мноства крыніц: энцыклапедыі, навуковыя артыкулы, дысертацыйныя даследаванні…

**Практыкаванне «Вызначэнне надзейнасці і рэлевантнасці крыніцы»**

**Мэта:** набыць вопыт аналізу крыніц і выбару з іх найбольш надзейных і аб'ектыўных.

Прааналізуйце крыніцы інфармацыі, адказаўшы на пытанні:

1. Якая крыніца будзе найбольш надзейнай для атрымання інфармацыі ў дадзеным выпадку?
2. Наколькі рэлевантная крыніца (рэлевантнасць — адпаведнасць інфармацыі таму, што чалавек шукаў*)?

* Капустин, В. А. Основы поиска информации в Интернете. Методическое пособие / В. А. Капустин. — СПб. : Институт «Открытое общество». Санкт-Петербургское отделение, 1998. — 13 с.

3. Хто стварыў гэтую старонку?
4. Хто падрыхтаваў матэрыял?
5. У падпарадкаванні якой арганізацыі знаходзіцца старонка?
6. Хто аплачвае?
7. Хто зацікаўлены?
8. Гэта першакрыніца або інфармацыя, перадрукаваная з іншых крыніц?
9. Ці аб’ектыўна прадстаўлена інфармацыя?
10. Для каго існуе гэты сайт (мэтавая група)?
11. Наколькі актуальная інфармацыя? Калі была створаная? Ці пазначаны першакрыніцы?
12. Ці можна давяраць гэтай крыніцы інфармацыі?

Такім чынам, сёння важна, каб вучань не толькі ведаў, як «гугліць», але і ўмеў ацаніць атрыманае і прыняць правільнае рашэнне. Гэта можна лічыць адной з актуальных адукацыйных задач.

Асаблівасцю медыяінфармацыі ў адрозненне ад навучальных матэрыялаў у падручніках з’яўляецца поліфункцыянальнасць і шматпластовасць медыятэкстаў, якія адрасаваны нікому канкрэтна і адначасова кожнаму. Гэта выдатны матэрыял для фарміравання сувязі навучання з рэальным жыццём.

Магчымасць рознай інтэрпрэтацыі дае велізарны дыдактычны патэнцыял для развіцця медыяграматнасці вучняў. Выкарыстанне медыятэкстаў на ўроках дае магчымасць навучання пэўным адносінам да атрыманай інфармацыі, выяўленню ў ёй схаванага сэнсу, разуменню светапогляду аўтара. На такіх матэрыялах вельмі зручна навучаць школьнікаў аргументацыі і фарміраваць уменне не толькі слухаць, але і чуць апанента, адным словам, развіваць крытычнае мысленне.

Выкарыстанне ў адным медыятэксце звестак, якія адносяцца да розных абласцей ведаў, «працуе» на ўсталяванне трывалых міжпрадметных сувязяў. Медыяінфармацыя, па сутнасці, з’яўляецца пазашкольнай, але, уключаная ў кантэкст урока, яна становіцца вучэбнай і інтэгруецца ў змест навучання.

Разгледзім наступны прыклад:

1)




2) «Ніл — найбуйнейшая ў свеце рака, даўжыня якой складае **6671** кіламетр».
**http://afrika.by/articles/nature/reki-afriki**

3) **http://wonderful-planet.ru/gidrosfera/22-reki.html?showall=&start=8**

| № | Назва | Даўжыня (км) | Плошча басейна (тыс. км$^2$) | Сярэдні расход вады ў вусці (тыс. м$^3$/с) | Найбольшы расход вады ў вусці (тыс. м$^3$/с) | Цвёрды сток (млн т/год) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Амазонка | 6992 | 7180 | 220,00 | 360,00 | 498,00 |
| 2. | Ніл | **6670** | 2870 | 2,83 | 6,40 | 110,50 |
| 3. | Янцзы | 5800 | 1818 | 34,00 | 90,20 | 500,00 |

На скрыншоце відаць, што Google, спасылаючыся на Вікіпедыю (як ён часта гэта робіць), паказвае нам даўжыню ў 6853 км. Аднак калі мы адкрыем наступны

сайт, то бачым, што даўжыня Ніла складае 6671 км. У параўнальнай табліцы з трэцяга сайта Ніл мае даўжыню 6670 км. Ці з'яўляецца істотнай розніца ў 183 км? Адкуль яна ўзялася? Акрамя таго, у Вікіпедыі напісана, што «Ніл — рака ў Афрыцы, найвялікшая па працягласці рачных сістэм у свеце», але ў табліцы мы бачым, што найвялікшай ракой па даўжыні з'яўляецца Амазонка. Увогуле, ці ёсць дакладныя дадзеныя па даўжыні Ніла? І з якой дакладнасцю яго можна вымераць? Колькі магчымасцей для вучнёўскага даследавання!

На ўроку вучні могуць адпрацоўваць тэхналогію пошуку інфармацыі, працу з бібліятэчнымі каталогамі, гіпертэкставымі пошукавымі сістэмамі. Роля настаўніка — карэктаваць працу навучэнцаў, вучыць іх граматна складаць пошукавыя запыты, падбіраць ключавыя словы ды інш. У працэсе аналізу інфармацыйных крыніц на прадмет навуковасці, дакладнасці інфармацыі, наяўнасці памылак фарміруецца **ўменне крытычна ацэньваць інфармацыю**, ранжыраваць яе, вызначаць жанры, шукаць схаваны сэнс.



**Карысныя матэрыялы па тэме:**

Радзел, прысвечаны тэме развіцця крытычнага мыслення:
http://www.nastaunik.info/metoda/critical

Шматмоўны сайт глабальнай адукацыі:
http://monda.eu/be/modules

**Літаратура**

Заир-Бек, С. И. Развитие критического мышления на уроке: пособие для учителя / С. И. Заир-Бек, И. В. Муштавинская. — М., 2004.

Клустер, Д. Что такое критическое мышление? / Д. Клустер // Перемена: международный журнал о развитии мышления через чтение и письмо. — 2001. — № 4.

Халперн, Д. Психология критического мышления / Д. Халперн. — СПб. : Питер, 2000.

Челышева, И. В. Анализ и интерпретация медиатекста в отечественном медиаобразовании / И. В. Челышева // Журналистика в 2005 году : трансформация моделей СМИ в постсоветском пространстве. — М. : Изд-во МГУ, 2006. — С. 553—554.

Шейбе, С. Медіаграмотність. Критичне мислення у мультимедійному світі. Підручнік для вчителя / С. Шейбе, Ф. Рогоу ; перакл. з англ. С. Дьома; за загал. ред. В. Ф. Іванова, О. В. Волошенюк. — К., 2014.

*Мікалай Запрудскі*

## 1.4. Міжнароднае даследаванне PISA: ацэнка медыйнай граматнасці вучняў

*Ці можна пагадзіцца з меркаваннем, што медыйна адукаваны вучань пры іншых роўных умовах будзе больш паспяховым на тэстах PISA?*

У 2018 г. ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі нашай краіны ўпершыню плануецца правядзенне даследавання PISA (Programme for International Student Assessment). Гэтае даследаванне — маніторынг якасці адукацыі навучэнцаў — праводзіцца раз на тры гады Арганізацыяй эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (OECD). Пачатак быў пакладзены ў 2000 г. Колькасць краін, якія ўдзельнічаюць у даследаванні, пастаянна расце: у 2015 г. іх стала ўжо 70, што сведчыць пра рост значэння ацэнкі PISA для развіцця нацыянальных адукацыйных сістэм.

Даследаванне ацэньвае, ці атрымлівае моладзь пасля заканчэння базавай школы неабходныя веды, што дазваляюць паспяхова жыць і працаваць. Ні адно міжнароднае параўнальнае даследаванне якасці адукацыі не мае такога ўздзеяння на адукацыю краін, як праграма PISA. Даследаванне дазваляе бачыць і параўноўваць дынаміку змяненняў якасці адукацыі ў розных краінах і ацаніць, наколькі эфектыўныя адпаведныя рашэнні ўрадаў гэтых краін.

### 1.4.1. PISA — працэдура даследавання і змест кампетэнцый, якія правяраюцца

PISA паўплывала на змест рэформаў у адукацыі многіх краін свету. У прыватнасці, калі ў 2000 г. навучэнцы Германіі паказалі вельмі нізкія вынікі, то гэта прывяло да істотных пазітыўных змен у адукацыйнай практыцы гэтай краіны. З іншага боку, стабільна высокія вынікі навучэнцаў Фінляндыі матывуюць да вывучэння вопыту работы фінскіх школ і настаўнікаў. Такім чынам, даследаванне PISA праводзіцца з мэтай ацэнкі здольнасці навучэнцаў прымяняць у рэальным жыцці веды, атрыманыя ў школе, што ў сваю чаргу скіравана на ўдасканаленне і развіццё адукацыйнай практыкі. Значныя поспехі бачны ў школьнікаў суседняй Польшчы. Па выніках даследавання 2012 г. Польшча, разам з Фінляндыяй, Галандыяй, Ліхтэнштэйнам і Эстоніяй, займае пазіцыі лідараў у Еўропе. Расійскія школьнікі дэманструюць даволі пасрэдныя вынікі: напрыклад, па чытацкай граматнасці — 41-е месца*.

Выбарка вучняў у кожнай з краін фарміруецца на аснове імавернасна-прапарцыйнага падыходу: удзельнічаюць 2 % ад агульнай колькасці 15-га-

* Вынікі даследавання можна пабачыць на: http://www.nastaunik.info/expert/13303.

довых грамадзян. Пры гэтым яны прадстаўляюць усе тыпы ўстаноў адукацыі ў той прапорцыі, у якой яны (гэтыя ўстановы) прадстаўлены ў рэальнасці.

**PISA-2012. Еўрапейскія краіны і Расія**

**PISA (Programme for International Student Assessment) 2012**
**(Краіны-члены АЭСР вылучаны тлустым шрыфтам)**

| Матэматыка | | | Прыродазнаўчыя навукі | | | Чытанне і разуменне тэкстаў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | Ліхтэнштэйн | 535 | 5 | **Фінляндыя** | 545 | 6 | **Фінляндыя** | 524 |
| 9 | **Швейцарыя** | 531 | 6 | **Эстонія** | 541 | 9 | **Ірландыя** | 523 |
| 10 | **Нідэрланды** | 523 | 9 | **Польшча** | 526 | 10 | **Польшча** | 518 |
| 11 | **Эстонія** | 521 | 10 | Ліхтэнштэйн | 525 | 11 | Ліхтэнштэйн | 516 |
| 12 | **Фінляндыя** | 519 | 12 | **Германія** | 524 | 12 | **Эстонія** | 516 |
| 14 | **Польшча** | 518 | 14 | **Нідэрланды** | 522 | 15 | **Нідэрланды** | 511 |
| 15 | **Бельгія** | 515 | 15 | **Ірландыя** | 522 | 17 | **Швейцарыя** | 509 |
| 16 | **Германія** | 514 | 19 | **Швейцарыя** | 515 | 18 | **Бельгія** | 509 |
| 18 | **Аўстрыя** | 506 | 20 | **Славенія** | 514 | 19 | **Германія** | 508 |
| 20 | **Ірландыя** | 501 | 21 | **Вялікабрытанія** | 514 | 21 | **Францыя** | 505 |
| 21 | **Славенія** | 501 | 22 | **Чэхія** | 508 | 22 | **Нарвегія** | 504 |
| 22 | **Данія** | 500 | 23 | **Аўстрыя** | 506 | 23 | **Вялікабрытанія** | 499 |
| 24 | **Чэхія** | 499 | 24 | **Бельгія** | 505 | 25 | **Данія** | 496 |
| 25 | **Францыя** | 495 | 25 | Латвія | 502 | 26 | **Чэхія** | 493 |
| 26 | **Вялікабрытанія** | 494 | 26 | **Францыя** | 499 | 27 | **Аўстрыя** | 490 |
| 27 | **Ісландыя** | 493 | 27 | **Данія** | 498 | 28 | **Італія** | 490 |
| 28 | Латвія | 491 | 29 | **Іспанія** | 496 | 29 | Латвія | 489 |
| 29 | **Люксембург** | 490 | 30 | Літва | 496 | 30 | **Люксембург** | 488 |
| 30 | **Нарвегія** | 489 | 31 | **Нарвегія** | 495 | 31 | **Партугалія** | 488 |
| 31 | **Партугалія** | 487 | 32 | **Італія** | 494 | 32 | **Іспанія** | 488 |
| 32 | **Італія** | 485 | 33 | **Венгрыя** | 494 | 33 | **Венгрыя** | 488 |
| 33 | **Іспанія** | 484 | 34 | **Люксембург** | 491 | 35 | Харватыя | 485 |
| 34 | Расія | 482 | 35 | Харватыя | 491 | 36 | **Ісландыя** | 483 |
| 35 | **Славакія** | 482 | 36 | **Партугалія** | 489 | 37 | **Швецыя** | 483 |
| 37 | Літва | 479 | 37 | Расія | 486 | 38 | **Славенія** | 481 |
| 38 | **Швецыя** | 478 | 38 | **Швецыя** | 485 | 39 | Літва | 477 |
| 39 | **Венгрыя** | 477 | 39 | **Ісландыя** | 478 | 40 | **Грэцыя** | 477 |
| 40 | Харватыя | 471 | 40 | **Славакія** | 471 | 41 | Расія | 475 |
| 42 | **Грэцыя** | 453 | 42 | **Грэцыя** | 467 | 43 | **Славакія** | 463 |
| 43 | Сербія | 449 | 45 | Балгарыя | 446 | 44 | Кіпр | 449 |
| 45 | Румынія | 445 | 46 | Сербія | 445 | 45 | Сербія | 446 |
| 46 | Кіпр | 440 | 49 | Румынія | 439 | 50 | Румынія | 438 |
| 47 | Балгарыя | 439 | 50 | Кіпр | 438 | 51 | Балгарыя | 436 |
| 54 | Чарнагорыя | 410 | 56 | Чарнагорыя | 410 | 53 | Чарнагорыя | 422 |
| 57 | Албанія | 394 | 62 | Албанія | 397 | 62 | Албанія | 394 |

Крыніца інфармацыі http://en.wikipedia.org/wiki/Programme_for_International_Student_Assessment

У працэсе маніторынгу ацэньваецца граматнасць чытання, матэматычная і прыродазнаўчая граматнасці. Высвятляецца, наколькі сучасныя школьнікі могуць прымяняць свае веды па-за школай. Гэта важна, паколькі сучасная эканоміка настолькі эфектыўная, наколькі спецыялісты ў розных сферах могуць на высокім прафесійным узроўні прымяняць акадэмічныя веды.

У 2003 і 2012 гг. у даследаванні прыярытэтнай была матэматычная граматнасць (у тэсце было больш за палову заданняў па матэматыцы), прыродазнаўчая — у 2006 і 2015 гг., граматнасць чытання — у 2000 і 2009 гг. і будзе ў 2018 г.

Прымяняецца ўзроўневая ацэнка вынікаў тэставання вучняў:

- 5 і 6 узроўні — уменне самастойна мысліць, аналізаваць і вылучаць уласныя гіпотэзы;
- 4 і 3 — здольнасць выкарыстоўваць свае веды і ўменні для атрымання новай інфармацыі;
- 2 — уменне прымяняць наяўныя веды і ўменні ў простых вучэбных сітуацыях;
- 1 — нізкі ўзровень элементарных ведаў і невялікая верагоднасць паспяховага выканання заданняў.

Змест кожнага задання ўключае тэкст, магчыма, табліцы, дыяграмы, графікі, карты, рэкламныя буклеты, розныя інструкцыі, а таксама пытанні рознага ўзроўню складанасці (3—7). Пытанні скіраваныя на ацэнку здольнасці школьнікаў зразумець праблему, якая вынікае з прадстаўленай у тэксце сітуацыі, і здольнасці вырашыць яе за кошт сваіх ведаў не толькі пэўнай прадметнай вобласці, але і інфармацыі з іншых крыніц.

З трох аспектаў функцыянальнай граматнасці засяродзімся на граматнасці чытання, паколькі менавіта яна ў найбольш значнай ступені стасуецца з медыйнай граматнасцю. Сапраўды, чытацкая граматнасць — гэта здольнасць чалавека разумець і выкарыстоўваць пісьмовыя (друкаваныя і электронныя) тэксты, разважаць пра іх змест і займацца чытаннем для таго, каб дасягаць мэт, пашыраць веды і магчымасці, удзельнічаць у сацыяльным жыцці*.

Ацэньваецца не тэхніка чытання і літаральнае разуменне тэксту, а разуменне і рэфлексія. Калі раней асноўнае чаканне ў адносінах да вучня зводзілася да формулы: «Прачытай і перакажы», то цяпер трэба вучыць пошуку інфармацыі і яе выкарыстанню. Тэст PISA, які вымярае чытацкую пісьменнасць навучэнцаў, сфакусаваны на такіх чытацкіх уменнях, як пошук, выбар, інтэрпрэтацыя і ацэнка інфармацыі з тэкстаў, якія выкарыстоўваюцца ў пазашкольных сітуацыях. «Гэтыя чытацкія ўменні не толькі пэўным чынам развіваюць разумовыя здольнасці навучэнцаў, не толькі служаць базай для вучэбнай паспяховасці ва ўсіх школьных дысцыплінах, але і з'яўляюцца неабходнай умовай паспяховага ўдзелу ў большасці сфер дарослага жыцця»**.

Такім чынам, граматнасць чытання — ступень здольнасці да асэнсавання пісьмовых тэкстаў і рэфлексіі на іх, да выкарыстання іх зместу для дасягнення ўласных мэтаў, развіцця ведаў і магчымасцяў, для актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства.

---

* PISA 2009. Assessment Framework. Key competencies in reading, mathematics and science: http://www.oecd.org. .

** Cunningham & Stanovich, 1998; Smith, Mikulecky, Kibby, & Dreher, 2000.

Тэстам PISA правяраюцца наступныя характарыстыкі чытацкай граматнасці:

1. Уменне знайсці доступ да неабходнай інфармацыі і вылучыць яе з тэксту.
2. Уменне сфарміраваць агульнае разуменне тэксту.
3. Разуменне інфармацыі з тэксту, перавядзенне яе на мову чытача (інтэрпрэтацыя).
4. Разважанне пра змест тэкставага паведамлення і яго ацэнка.
5. Разважанне пра форму тэкставага паведамлення і яе ацэнка.

Гэтыя пяць уменняў абагульнены ў тры: знайсці і вылучыць (інфармацыю з тэксту) — 25 %; інтэграваць і інтэрпрэтаваць (паведамленне тэксту) — 50 %; асэнсаваць і ацаніць (паведамленне тэксту) — 25 %*.

Для ацэнкі ўмення інтэрпрэтаваць тэкст навучэнцам прапануецца параўнаць і супрацьпаставіць пададзеную ў тэксце інфармацыю рознага характару, выявіць довады ў пацверджанне вылучаных тэзісаў, зрабіць высновы са сфармуляваных спасылак, вывесці заключэнне пра намер аўтара або наконт галоўнай думкі тэксту. Для ацэнкі і рэфлексіі неабходна, каб навучэнец, выконваючы заданне, звязаў інфармацыю, выяўленую ў тэксце, з ведамі з іншых крыніц, ацаніў сцвярджэнні, зробленыя ў тэксце, зыходзячы са сваіх уяўленняў пра свет, знайшоў довады ў абарону свайго пункту гледжання.

**Разгледзім заданне «Тэлэкам’юцінг»** на праверку чытацкай граматнасці.**

*Меркаванне Марыі:* «Такой будзе будучыня. Толькі ўявіце, як было б добра выкарыстоўваць тэлекам’юцінг, не выходзячы з дому пераносіцца на працу па электронных каналах і выконваць усе свае абавязкі з дапамогай камп’ютара ці тэлефона! Больш не прыйшлося б пхацца ў бітком набітых аўтобусах або цягніках ці марнаваць бясконцыя гадзіны на дарогу з працы і на працу. Вы маглі б працаваць, дзе вам захочацца, — толькі ўявіце сабе, якія гэта адкрывае магчымасці!»

*Меркаванне Рамана:* «Свет на мяжы бедства. Скарачэнне часу на паездку да працы і назад і памяншэнне энергетычных выдаткаў — несумненна добрая думка. Але такая мэта павінна быць дасягнута за кошт паляпшэння грамадскага транспарту або за кошт таго, каб

---

* У працэнтах указана доля адпаведных заданняў у тэсце; паводле http://2020strategy.ru/data/2011/07/15/1214720557/4.pdf.

** Гэты тэрмін увёў Джэк Нільсан у пачатку 1970-х гг. для апісання сітуацыі, у якой работнікі выконваюць сваю працу з дапамогай камп’ютара, размешчанага не ў цэнтральным офісе, а, напрыклад, дома, і перадаюць дадзеныя / дакументы ў цэнтральны офіс.

працоўныя месцы былі набліжаны да месцаў пражывання людзей. Адважная думка, што тэлекам'юцінг стане часткай ладу жыцця для кожнага, прывядзе да таго, што людзі будуць усё больш раз'яднаныя. Мы сапраўды хочам зусім страціць пачуццё прыналежнасці да чалавечай супольнасці?»

Выкарыстайце меркаванні Рамана і Марыі для адказу на пытанні.

**Пытанне 1.** Як суадносяцца тэксты «Такой будзе будучыня» і «Свет на мяжы бедства»?

**A.** У іх выкарыстаныя розныя аргументы для таго, каб прыйсці да агульнай высновы.

**B.** Яны напісаны ў адным стылі, але прысвечаны зусім розным тэмам.

**C.** Яны выказваюць адзін і той жа агульны пункт гледжання, але прыходзяць да розных высноў.

**D.** Яны выказваюць супрацьлеглыя погляды на адну і тую ж тэму.

*Правяраецца чытацкае ўменне інтэграваць і інтэрпрэтаваць паведамленне тэксту.*

**Пытанне 2.** З якім сцвярджэннем пагадзіліся б як Марыя, так і Раман?

**A.** Людзям варта дазволіць працаваць столькі гадзін, колькі яны захочуць.

**B.** Не вельмі добра марнаваць шмат часу на дарогу да працы.

**C.** Тэлекам'юцінг магчымы не для ўсіх.

**D.** Фарміраванне сацыяльных сувязяў — самая важная частка працы.

*Пытаннем правяраецца чытацкае ўменне інтэграваць і інтэрпрэтаваць паведамленне тэксту.*

**Пытанне 3.** Які від працы будзе цяжкі для выканання ва ўмовах телекам'юцінгу? Прывядзіце прыклад. Адказ абгрунтуйце.

*Гэта пытанне скіравана на праверку чытацкага ўмення асэнсаваць паведамленне тэксту.*



З пададзенага прыкладу можна зрабіць наступныя высновы:

1. Для таго, каб выканаць заданне, навучэнцу патрэбна разумець тэкст, вылучыць істотнае ў ім, умець яго інтэграваць і інтэрпрэтаваць, ацаніць паведамленне, абгрунтаваць у сваім тэксце немагчымасць прымянення тэлекам'юцінгу ва ўсіх прафесіях.

2. Пералічаныя ўменні, як паказана ў папярэдніх параграфах дапаможніка, уваходзяць як неабходныя элементы ў медыйную граматнасць чалавека.

Такім чынам, скіраванасць настаўніка на фарміраванне медыяграматнасці вучняў дазволіць ім не толькі быць медыяадукаванымі, але і паспяховымі ў жыцці і прафесійнай дзейнасці.

### 1.4.2. Чаго не хапае нашым вучням і што можна зрабіць у школах, каб выправіць сітуацыю?

Наколькі нашы вучні валодаюць чытацкай граматнасцю? Адпаведны маніторынг, праведзены супрацоўнікамі Нацыянальнага інстытута адукацыі, паказаў, што «ў сярэднім 15 % пяцікласнікаў і 35 % васьмікласнікаў маюць цяжкасці пры выкананні заданняў, дзе патрабуецца знайсці інфармацыю, зададзеную ў відавочным выглядзе; значная частка пяцікласнікаў (у сярэднім 60 %) і васьмікласнікаў (у сярэднім 70 %) не спраўляецца з заданнямі, у якіх патрабуецца інтэграваць і інтэрпрэтаваць інфармацыю, аналізаваць і ацэньваць змест тэксту. Цяжкасці вучняў пры выкананні заданняў абумоўлены няўменнем: уважліва (удумліва) чытаць прапанаваны тэкст і ўмовы заданняў да яго; пастаянна звяртацца да тэксту ў пошуках адказу на пастаўленае пытанне (як следства, навучэнцы змешваюць інфармацыю, зададзеную ў тэксце, і інфармацыю, якой яны валодаюць на аснове свайго жыццёвага вопыту); знаходзіць прычынна-выніковыя сувязі паміж адзінкамі інфармацыі ў тэксце, рабіць высновы на аснове тэксту; выказваць свае ацэначныя меркаванні і аргументаваць свой пункт гледжання аб прачытаным тэксце»*.

Якія крокі да поспеху вучняў на PISA пажадана зрабіць кіраўніцтву ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі?

1. Ствараць у школе спрыяльную адукацыйную атмасферу і забяспечваць добрыя ўзаемаадносіны паміж настаўнікамі і вучнямі. Чым лепшымі будуць гэтыя адносіны, тым больш зацікаўленасці вучняў у навучанні.

2. Культываваць «вялікія чаканні» ад кожнага настаўніка і вучня. Калі ва ўстанове адукацыі стымулюецца і падтрымліваецца вера, што ўсе вучні і настаўнікі могуць дасягнуць высокіх поспехаў, яны адчуваюць жаданне дзейнічаць і дасягаюць найлепшых вынікаў.

* Рекомендации по совершенствованию читательских умений учащихся учреждений общего среднего образования: http://adu.by/wp-content/uploads/2015/umodos/rekomend-chit-umenija-oso.pdf.

3. Клапаціцца пра павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў. «Якасць» школы не можа быць лепшай за «якасць» або прафесіяналізм яе настаўнікаў і кіраўнікоў. Заўважана, што краіны, якія палепшылі свае паказчыкі ў PISA, шмат зрабілі ў кірунку павышэння прафесіяналізму педагогаў. На занятках метадычных аб'яднанняў, акрамя іншага, рэкамендуецца арганізоўваць практычную работу па выкананні настаўнікамі заданняў PISA і абмеркаванне таго, як вучыць школьнікаў паспяхова працаваць над гэтымі заданнямі.

4. Ключавое рашэнне адміністрацыі школы, якая мае намер забяспечыць валоданне навучэнцамі кампетэнцыямі, у тым ліку — медыйнымі, што правяраюцца ў рамках PISA, — гэта сур'ёзнае, а не фармальнае выкарыстанне кампетэнтнаснага падыходу да зместу і арганізацыі адукацыйнага працэсу. Гэты падыход прадугледжвае разгляд у якасці зместу адукацыі не толькі ведаў і вузкапрадметных уменняў навучэнцаў, але і ключавых кампетэнцый.

   Змест адукацыі — гэта не толькі, скажам, закон Ома і вайна 1812 года, а яшчэ спосабы мыслення і дзейнасці: уменне рабіць і абгрунтоўваць выбар з альтэрнатыў, планаваць працу, праводзіць даследаванне і інш. Пры гэтым трэба разумець, што ведавы аспект заўсёды падвяргаўся кантролю з боку і настаўніка, і адміністрацыі, і на ЦТ, а валоданне ключавымі кампетэнцыямі, па сутнасці, заставалася па-за межамі разнастайных праверак (калі не лічыць само жыццё, якое ўжо пасля заканчэння школы будзе лакмусавай паперкай, што пакажа, у якой ступені выпускнік стане паспяховым, ці валодае ён неабходнымі для жыцця ў грамадстве і для прафесійнай дзейнасці кампетэнцыямі).

5. Стварыць кампетэнтнасную мадэль выпускніка (КМВ) — сукупнасць кампетэнцый, здольнасцяў і асабовых якасцяў вучня. Гэты набор, безумоўна, павінен уключаць тыя ўменні, якія неабходныя для паспяховага выканання заданняў PISA*, якія могуць быць асновай для распрацоўкі мадэлі, што выступае ў ролі мэтавага арыенціра і для школы, і для кожнага настаўніка. Мадэль павінна ствараецца пры ўдзеле ўсяго педагагічнага калектыву для таго, каб кожны педагог адчуваў прыхільнасць да яе і абапіраўся на яе пры вызначэнні сваіх педагагічных задач на ўрок**.

6. Настаўнікам пры праектаванні вучэбных заняткаў патрэбна прымаць рашэнні, на фарміраванне і развіццё якіх каметэнцый будзе скіраваны ўрок, і выбіраць той змест, тыя метады і сродкі навучання, якія найбольш прыдатныя для вырашэння адпаведных педагагічных задач.

* Падрабязней: http://uuringud.ekk.edu.ee/fileadmin/user_upload/documents/sbornik.pdf.

** Запрудский, Н. И. Миссия школы как управленческая инновация / Н. И. Запрудский // Кіраванне ў адукацыі. — 2008. — № 6. — С. 18—22.

У заключэнне адзначым наступнае: міжнароднае даследаванне якасці адукацыі PISA патрабуе фарміравання і развіцця ў вучняў не толькі вузкапрадметных ведаў і ўменняў, але і ключавых кампетэнцый. Для гэтага неабходна, па-першае, стварэнне ва ўстанове адукацыі атмасферы, спрыяльнай для рэалізацыі кампетэнтнаснага падыходу, авалодання настаўнікамі адпаведнымі прафесійнымі ўменнямі; па-другое, на ўроках неабходна ствараць умовы для развіцця кампетэнцый, якія будуць правярацца на PISA. Сярод гэтых кампетэнцый значнае месца займаюць кампетэнцыі медыйныя.

# Раздзел 2. МАГЧЫМАСЦІ І ВОПЫТ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ НА ВУЧЭБНЫХ ЗАНЯТКАХ

*Мікалай Запрудскі*

## 2.1. Праектаванне ўрока, скіраванага на фарміраванне медыйнай кампетэнтнасці вучняў: агульныя рэкамендацыі

Ёсць спадзяванне, што чытачы разумеюць актуальнасць фарміравання ў вучняў медыйнай граматнасці. Але ж у вучэбным плане ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі не прадугледжаны вучэбныя гадзіны для вырашэння гэтай задачы — няма спецыяльнага прадмета. *Ці ёсць у нас магчымасці рабіць вучняў медыйна граматнымі падчас правядзення вучэбных заняткаў?*

Кожны з урокаў праводзіцца адпаведна вучэбнай праграме, якая вызначае змест прадметных ведаў і ўменняў. Ці валодаюць вучні гэтымі ведамі і ўменнямі, правяраецца і настаўнікам, і падчас адміністрацыйнага кантролю, і на экзаменах, і на ЦТ. Зразумела, што педагогі арыентаваныя на фарміраванне ў вучняў таго, што правяраецца — ведаў і прадметных уменняў. З навучаннем прадметнаму складніку зместу адукацыі педагогі спраўляюцца больш-менш паспяхова. Тут ужо сфарміраваўся пэўны вопыт працы.

Медыяадукацыя для школ нашай краіны — гэта адносна новая практыка. Як жа працаваць на медыйную кампетэнтнасць навучэнцаў? Гэта не так проста: перагружаныя вучэбныя праграмы часта не пакідаюць часу на гуманітарныя аспекты адукацыі; склаліся стэрэатыпы працы толькі з арыентацыяй на вучэбную паспяховасць вучняў. Але тлумачальныя запіскі вучэбных праграм 2015 і 2016 гг. ужо прадугледжваюць задачы фарміравання ў вучняў ключавых кампетэнцый, да якіх адносяцца і медыйныя. Яны фактычна патрабуюць ад настаўнікаў кіравацца кампетэнтнасным падыходам да зместу і арганізацыі адукацыйнага працэсу.

Кампетэнтнасны падыход у аспекце фарміравання медыяграматнасці вучняў рэалізуецца на падставе наступных прынцыпаў:



1. *Мадэльнага прадстаўлення аб выпускніку.* Гэты прынцып патрабуе канкрэтнага ўяўлення педагогам (а лепш — усім школьным калектывам) узроўню кампетэнтнасці выпускніка, г. зн. вылучэння набору актуальных прадметных і ключавых кампетэнцый, які, па сутнасці, з'яўляецца для педагогаў адукацыйнай мэтай. Неабходным кампанентам мадэлі выпускніка павінна быць яго медыяграматнасць. Рэкамендацыі па стварэнні кампетэнтнаснай мадэлі выпускніка можна знайсці ў артыкуле*.




2. *Пашыранага разумення зместу адукацыі.* Гэта не толькі прадметныя веды і ўменні, але і ключавыя кампетэнцыі, у склад якіх уваходзяць матывацыйны, зместавы, дзейнасны і каштоўнасна-сэнсавы аспекты медыяграматнасці.

3. *Праектавання дзейнасці па фарміраванні кампетэнцый.* Тут адбываецца вызначэнне неабходнага і дастатковага набору вучэбных задач-сітуацый, у працэсе вырашэння якіх у вучняў з некаторай верагоднасцю фарміруюцца адпаведныя медыйнай кампетэнцыі каштоўнасці, веды і ўменні.

4. *Увядзення ў адукацыйны працэс задач-сітуацый,* якія ствараюць умовы для фарміравання і развіцця кампетэнцый (у тым ліку медыйных).

5. *Аналізу і ацэнкі паспяховасці фарміравання кампетэнцый.* Ацэнка вынікаў навучання заснавана на аналізе ўзроўню адукаванасці, які дасягнулі вучні

* Запрудский, Н. И. Миссия школы как управленческая инновация / Н. И. Запрудский // Кіраванне ў адукацыі. — 2008. — № 6.

ў сэнсе валодання вызначанымі кампетэнцыямі (у прыватнасці, веды, уменні і каштоўнасці, што складаюць медыякампетэнтнасць), якія выступаюць мэтай адукацыйнага працэсу.

Урок, скіраваны, акрамя фарміравання прадметных ведаў і ўменняў, на медыйную кампетэнтнасць вучняў, мае істотныя асаблівасці. Разгледзім іх праз прызму дзейнасці настаўніка пры падрыхтоўцы да ўрока.

**Табліца. Асаблівасці дзейнасці настаўніка пры падрыхтоўцы да «медыйнага» ўрока**

| Кампанент ўрока | Праектаванне вучэбных заняткаў, арыентаваных на фарміраванне прадметных ведаў і прадметных уменняў | Праектаванне вучэбных заняткаў, арыентаваных на фарміраванне медыйнай кампетэнтнасці вучняў |
|---|---|---|
| Пастаноўка мэты | Робіць пералік дзеянняў, якімі вучні павінны авалодаць да канца ўрока, каб узнаўляць у памяці і выкарыстоўваць у практыцы праграмныя веды | Дадаткова: пазначае пералік медыйных уменняў, якімі вучні павінны авалодаць да канца ўрока |
| Адбор зместу ўрока | Абмяжоўваецца матэрыялам з падручніка | Дадаткова знаходзіць матэрыялы з іншых крыніц, магчыма, з альтэрнатыўнымі поглядамі і спосабам падачы інфармацыі |
| Планаванне арганізацыі працэсу | Плануе формы, метады і сродкі навучання правільнаму спосабу рашэння задачы, аналізу зместу мастацкага твора і г.д. | Плануе вучэбныя сітуацыі, у якіх вучні ўспрымаюць інфармацыю, аналізуюць яе, крытэрыяльна ацэньваюць і прымяняюць для стварэння сваіх медыяпасланняў (не абавязкова ўсё з названага на адным уроку) |
| Кантроль і ацэнка | Плануе выхадны кантроль, змест якога скіраваны на праверку засваення тых ведаў і ўменняў, якія адзначаны ў мэце ўрока | Дадаткова плануе ацэнку вучнямі таго, наколькі ўзрасла іх медыйная кампетэнтнасць |

Разгледзім тыя дзеянні, якія настаўніку важна рабіць пры праектаванні навучальных заняткаў, арыентаваных на медыйную кампетэнтнасць вучняў; за дужкамі пакінем бок урока, звязаны з забеспячэннем засваення традыцыйных праграмных патрабаванняў.

1. Ацаніце магчымасці вучэбнага матэрыялу для фарміравання медыйнай граматнасці вучняў. Такія магчымасці ёсць заўсёды, паколькі вучні працуюць з друкаванымі або электроннымі тэкстамі, а іх разуменне — адно з медыя-



і інфармацыйных уменняў. Больш за тое, ёсць тэмы, якія маюць вялікі патэнцыял для развіцця крытычнага мыслення і медыяграматнасці ў цэлым (па матэматыцы — працэнты, па фізіцы — атамная энергетыка, па біялогіі — пытанні аховы навакольнага асяроддзя, па хіміі — карыстанне мыйнымі сродкамі, па грамадазнаўстве і літаратуры — маральныя каштоўнасці і г.д.).

2. Звярніцеся да кампетэнтнаснай мадэлі выпускніка (КМВ), у якой пазначаны аспекты медыяграматнасці. Зыходзім з таго, што такая мадэль у школе ёсць. Калі яе няма, то ў настаўніка ёсць наступныя магчымасці:

1) ініцыяваць стварэнне мадэлі; 2) сфарміраваць сваё ўяўленне аб медыяграматнасці вучняў (іх ведах і ўменнях на выхадзе са школы, выпрацаваць уласнае каштоўнаснае стаўленне да яе); 3) звярнуцца да тлумачальнай запіскі вучэбнай праграмы.



За аснову можа быць узяты каталог уменняў медыяадукаванага вучня*. Гэты матэрыял падрыхтаваны Фондам «Сучасная Польшча» (Fundacja Nowoczesna Polska) у рамках рэалізацыі Праграмы ЮНЕСКА «Інфармацыя для ўсіх». Структурна ён пададзены ў выглядзе табліцы, дзе пералічаны медыйныя і інфармацыйныя ўменні для розных ступеняў навучання: ад дашкольнага ўзросту да адукацыі дарослых людзей. Пры гэтым кожнае ўменне падаецца на трох узроўнях: базавы, сярэдні і высокі. Каталог дае магчымасць мець ідэальнае ўяўленне пра выпускніка школы і паказвае пажаданы вынік фарміравання медыйнай граматнасці на ступенях навучання. Гэта дае адказ на пытанне: *што* з медыяграматнасці і ў якім класе фарміраваць.

Мэтазгодна, карыстаючыся згаданым каталогам, дамовіцца з калегамі, якія працуюць у тым жа класе / паралелі, на якія медыйныя ўменні будуць працаваць настаўнікі гуманітарных прадметаў, на якія — прыродазнаўчых дысцыплін. Гэта прадухіліць дубляванне і дазволіць не пакінуць па-за ўвагай тыя або іншыя важныя аспекты медыяграматнасці. Адпаведная праца, на наш погляд, можа адбыцца як па ініцыятыве адміністрацыі, так і па жаданні саміх настаўнікаў. У бягучым навучальным годзе сказанае асабліва актуальна для настаўнікаў V і X класаў, паколькі вучэбныя праграмы для гэтых паралеляў ужо маюць рэкамендацыі па выкарыстанні кампетэнтнаснага падыходу да зместу і арганізацыі адукацыйнага працэсу.

3. Выберыце з КМВ (або з каталога медыйных уменняў вучняў адпаведнага ўзросту, з тлумачальнай запіскі вучэбнай праграмы) тое ўменне, якім навучэнцы класа не валодаюць зусім / валодаюць недастаткова, якое можа

* http://ifapcom.ru/files/News/Images/2013/mil_cat_rus.pdf.

пасняхова развівацца ў працэсе працы менавіта над запланаваным вучэбным матэрыялам. Напрыклад, калі вучні класа не разумеюць наступствы адсутнасці крытычнага стаўлення да інфармацыйных крыніц, а тэма ўрока звязаная з магчымасцю разгляду альтэрнатыўных пунктаў гледжання на сітуацыю, то такое ўменне можа стаць адным з кампанентаў зместу навучання на гэтым уроку.

4. Вызначыце адпаведную педагагічную («медыякампетэнтнасную») задачу на ўрок. Напрыклад, навучэнцы не зусім валодаюць уменнямі рабіць самастойныя высновы з прачытанага тэксту, а дадзенае ўменне зафіксавана ў КМВ, навучальны матэрыял дае магчымасць для фарміравання дадзенага ўмення. Тады задача на ўрок можа быць такой: садзейнічаць развіццю ўменняў рабіць самастойныя і аргументаваныя высновы з прачытанага тэксту.

5. Выберыце тыя метады і сродкі для ўрока, якія найбольш падыходзяць для вырашэння пастаўленай задачы.

   Выбар залежыць ад многіх фактараў:

   - ад ступені валодання вучнямі вызначаным уменнем;
   - ад таго, наколькі метад і сродак адпавядаюць стылю педагагічнай дзейнасці настаўніка і стылю пазнавальнай дзейнасці вучняў, іх узросту;
   - ад таго, колькі часу спатрэбіцца на іх прымяненне (45 хвілін — гэта няшмат, бо неабходна фарміраваць у вучняў прадметныя веды і ўменні і ствараць магчымасці для іх выхавання і развіцця і г.д.)

Сярод асаблівасцяў метадаў і сродкаў, якія рэкамендуецца прымяняць, іх інтэрактыўнасць, магчымасць з іх дапамогай уключаць вучняў у стасункі і з настаўнікам, і з аднакласнікамі, і са сродкамі масавай інфармацыі. Гэтаму патрабаванню адпавядаюць розныя варыянты групавой працы, а таксама метады тэхналогіі развіцця крытычнага мыслення праз чытанне і пісьмо, метады, якія прыведзены ў раздзеле «Педагогические методы преподавания и изучения МИГ: программа обучения в действии» кнігі «Медийная и информационная грамотность»*.

Сярод метадаў, якія найбольш спрыяльныя для медыяадукацыі вучняў на вучэбных занятках, асаблівае месца займае перакулены ўрок. Так называюць метад навучання, пры якім уся тэарэтычная і лекцыйная праграма вывучаецца дома, а ў класе з настаўнікам падрабязна разбіраюцца заданні і практыкаванні па тэме. Гэта значыць, усё ў гэтым класе наадварот: лекцыі — дома, а «дамашка» — у класе. Вучні папярэдне атрымліваюць ад настаўніка адпаведнае

* Медийная и информационная грамотность : программа обучения педагогов [Электронный ресурс]: http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/unescocurr_mil_russian.pdf.

заданне па працы з вучэбным матэрыялам па падручніку, з дапамогай ролікаў у інтэрнэце або інфармацыі ў іншых медыя. Заданні могуць мець такі характар, што яны наўпрост працуюць на развіццё ў вучняў медыйных кампетэнцый: параўнаць тлумачэнне з'явы, падзеі ў розных крыніцах, спраўдзіць інфармацыю, сфармуляваць пытанні да настаўніка па вывучаным матэрыяле, зрабіць графічную ілюстрацыю звычайнага тэксту і інш. Больш падрабязна пра перакулены ўрок глядзіце, у прыватнасці, у прэзентацыі «Перевернутый класс как организация личностно-ориентированного подхода в образовании»*.

Прывядзём некалькі прыкладаў метадаў і сродкаў навучання, якія дапасаваны да дзейнаснага кампанента медыяграматнасці. Пры гэтым будзем кіравацца наступнай логікай: медыйна-інфармацыйныя ўменні → тэма ўрока → адпаведная задача настаўніка → метады і сродкі навучання → паслядоўнасць дзеянняў настаўніка і вучняў.

**Прыклад 1**

**Уменні:** *умець рабіць пошук інфармацыі ў розных медыякрыніцах: лакалізаваць / вызначыць знаходжанне і атрымаць доступ да крыніцы; знаходзіць неабходную інфармацыю ў розных тыпах медыятэкстаў; захоўваць яе ў тым ліку пры дапамозе тэхнічных сродкаў.*

**Тэма ўрока.** Напісанне рэферата (беларуская мова, VIII клас).

**Задача настаўніка:** стварыць умовы для фарміравання ўменняў планаваць і ажыццяўляць пошук інфармацыі.

**Метад:** групавая праца.

**Паслядоўнасць дзеянняў:**

**Частка I**

1. Вучні аб'ядноўваюцца ў групы па 4—5 чалавек. Кожная група атрымлівае заданне па пошуку інфармацыі.

   *Прыклады заданняў:*

   **А.** Ты атрымаў заданне напісаць рэферат пра каштоўныя віды рыбы ў вадаёмах краіны.

   *Якую інфармацыю трэба знайсці і дзе, каб добра выканаць заданне? Якія ты выкарыстаеш ключавыя фразы для тэгаў пошукавых сістэм інтэрнэту, каб хутчэй знайсці неабходны матэрыял?*

* https://prezi.com/ghqzf6hryi9n/presentation/.

**Б.** Ты вырашыў даследаваць архітэктурныя стылі будынкаў у тваім горадзе.

*Якую інфармацыю неабходна знайсці і дзе, каб добра выканаць даследаванне і пераканаўча яго прэзентаваць аднакласнікам? Спачатку напішы спіс ключавых фраз для пошуку ў інтэрнэце.*

**В.** Вашая сям'я збіраецца на летні адпачынак. Бацькі вырашылі параіцца з табой, куды лепш паехаць: на Кіпр або ў Палангу.

*Якую інфармацыю трэба знайсці, каб твае парады бацькам былі пераканаўчымі і аргументаванымі? Якія з пералічаных крыніц ты выкарыстаеш: рэкламныя ролікі турыстычных фірм, водгукі турыстаў у сацыяльных сетках, на сайтах турфірм, сайты гатэляў, турыстычныя карты курортаў, прайс-лісты гатэляў? Якім з пералічаных крыніц інфармацыі можна давяраць? Калі будзеш карыстацца інтэрнэтам, то якія ключавыя фразы ты выкарыстаеш?*

**Г.** Ты пішаш сачыненне па тэме «Рэцэнзія на мой любімы серыял».

*Якую інфармацыю трэба знайсці і дзе, каб добра выканаць заданне? Якімі крытэрыямі ты будзеш карыстацца пры ацэнцы фільма? Ці будзеш ты абапірацца на станоўчыя ці адмоўныя водгукі на серыял? Чаму?*

2. Вучні па просьбе настаўніка фармулююць з дапамогай пытанняў адпаведныя заданню інфармацыйныя патрэбы.

*Магчымыя пытанні для задання Б:*

– Якія ёсць архітэктурныя стылі і ў чым іх асаблівасці?

– Якія стылі характэрныя для беларускіх гарадоў?

– Якія будынкі горада адпавядаюць кожнаму са стыляў?

– Якія гістарычныя перадумовы абумовілі стылі будынкаў горада?

*Крыніцы для пошуку:* кнігі па архітэктуры, Вікіпедыя, прагулкі па горадзе, наведванне музея.

*Магчымыя пытанні для задання В:*

– Як члены сям'і любяць бавіць вольны час?

– Якія магчымасці для задавальнення забаўляльных патрэб ёсць на Кіпры і ў Паланзе?

*Крыніцы для пошуку:* размовы з бацькамі, фільмы пра вандроўкі на YouTube, інтэрнэт-партал, буклеты турагенцтваў.

3. Прэзентацыя вынікаў працы класу: пытанняў і крыніц для пошуку.

**Частка ІІ**

1. Распрацоўка ў групах планаў пошуку неабходнай інфармацыі. Настаўнік прапануе вучням, працуючы ў групах, пашукаць адказ на пытанне: як трэба спланаваць працэс пошуку інфармацыі, каб палегчыць працу, не патраціць на яе шмат часу і не нарабіць памылак?

2. Вучні прадстаўляюць свае варыянты, якія настаўнік фіксуе на дошцы. У выніку абмеркавання клас спыняецца на плане, які ўключае пытанні:

   – Якая інфармацыя мне неабходна для правільнага рашэння задачы?

   – Якія ключавыя фразы мне неабходны, каб хутка знайсці патрэбную інфармацыю?

   – Да якіх крыніц мне трэба звярнуцца?

   – Ці ўсе гэтыя крыніцы мне даступныя?

   – Ці ўтрымліваюць крыніцы патрэбную і праўдзівую інфармацыю?

   – Ці адпавядаюць атрыманыя звесткі маім інфармацыйным патрэбам?

**Заўвагі:** 1) калі вучні будуць адчуваць цяжкасці ў вызначэнні ключавых фраз для пошуку, настаўнік можа іх прапанаваць; 2) можна прапанаваць для ўсіх груп адно заданне, што дасць магчымасць параўнаць выкананыя работы з агульных пазіцый і павысіць цікавасць вучняў да працы і дакладаў іншых груп.

**Прыклад 2**

**Уменні:** *аналізаваць медыятэкст: вызначаць яго тэму, прадмет, тып, жанр, мэтавую аўдыторыю; вызначаць камунікатыўныя намеры аўтара і сэнсавую дамінанту; вызначаць асноўныя функцыі медыятэксту; вылучаць галоўнае, даследаваць сацыяльны, гістарычны, палітычны, эканамічны і культурны кантэксты стварэння і зместу медыятэксту і інш.*

**Тэма ўрока.** Дыялог культур: нацыянальнае і агульначалавечае ў культуры (грамадазнаўства, IX клас).

**Задача настаўніка:** садзейнічаць развіццю ўменняў вызначаць жанр і мэтавую аўдыторыю тэксту, камунікатыўныя намеры аўтара і сэнсавую дамінанту медыяпасланняў.

**Паслядоўнасць дзеянняў:**

1. Вучні, працуючы ў групах, знаёмяцца з тэкстам, які быў змешчаны на сайце адной са школ: *«В последнее время получило активное развитие новое направление среди неконструктивных организаций — популяризация белорусского языка, традиций и обрядов, презентации книг. Таким образом данные организаторы пытаются подменить сокровенные для белорусов ценности и предоставить обществу всю белорусскую культуру только с узкого националистического угла зрения. Таким ярким примером является деятельность курсов «Мова наНова», раздача «Вышиванок» и т. д.».*

2. Вучні абмяркоўваюць тэкст па пытаннях:

   - У якім жанры напісана нататка?
   - Пазначце адрасную скіраванасць дадзенай нататкі.
   - Пералічыце карыснае для Беларусі і яе грамадзян у змесце паслання.
   - Якія адмоўныя наступствы можа мець гэтае пасланне?
   - З якой мэтай напісана нататка?
   - Хто зацікаўлены ў распаўсюджванні падобных матэрыялаў?

- Як вы лічыце, чаму гэтую нататку з сайта школы хутка выдалілі?

3. Заслухоўваюцца паведамленні груп з адказамі на пытанні.

4. Вучні складаюць альтэрнатыўнае медыяпасланне, абмяркоўваюць, дзе яно можа быць размешчана.

**Прыклад 3**

**Уменні:** *крытычна ацэньваць змест медыятэксту: інтэрпрэтаваць змест праз прызму свайго вопыту, на аснове ўжо сфарміраваных каштоўнасцяў, адносін, светапогляду, набытых ведаў; бачыць маніпуляцыі і распазнаваць фэйкі; на аснове аналізу сацыяльнага і культурнага кантэкстаў будаваць версіі магчымых падзей, наступстваў ці лагічнага завяршэння з'явы; на аснове аналізу сацыяльнага кантэксту ацэньваць значнасць і каштоўнасць медыятэксту для атрымальніка.*

**Тэма ўрока:** Гігіена скуры. Загартоўванне* (біялогія, IX клас).

**Задача настаўніка:** забяспечыць разуменне, што ў рэкламе можа быць як праўдзівая, так і лжывая інфармацыя.

**Метады і сродкі:** праца ў групах, франтальная дыскусія, смартфон, фотаздымкі розных касметычных сродкаў з іх кароткімі апісаннямі (адзін на групу).

**Паслядоўнасць дзеянняў:**

Вучні ў групах высвятляюць сутнасць паняцця «экстракт», што прысутнічае ў апісаннях кожнага касметычнага сродку. Заслухоўваюцца варыянты адказаў, а потым удзельнікі з дапамогай смартфона знаходзяць азначэнне ў інтэрнэце (канцэнтрат выцяжкі з лякарства, з сухіх або свежых раслін).

Далей навучэнцы вывучаюць апісанні сродкаў і знаходзяць, што яны даводзяць да патэнцыйнага пакупніка інфармацыю пра наяўнасць у іх складзе экстрактаў цвёрдых рэчываў: бурштыну, жэмчугу, горнага крышталю або шоўку. Выцяжку з іх атрымаць немагчыма**. Вучні прыходзяць да высновы пра лжывасць рэкламы.

* Прыклад з кнігі: Кашуба, В. В школу с медиа : разработки и сценарии занятий, уроков, мероприятй / В. Кашуба [и др.] — Минск : Мін. обл. ИРО, 2015. — 80 с.

** http://www.perunica.ru/iumor/125-industriya-obmana.html.




Крыніца: http://ditexshop.ru/page/naturalnaya-kosmetika-na-osnove-yantarya/yantarnaya-kosmetika-dlya-tela.

У класе франтальна абмяркоўваюцца пытанні:

– Чаму вытворцы прадукцыі і рэкламшчыкі ідуць на падман і падмену паняццяў?

– Ці азначае, што тавар з рэкламы не прыгодны для выкарыстання, што яго ўжыванне не будзе даваць спажыўцу станоўчы эфект?

Пасля абмеркавання пытанняў удзельнікі дыскусіі прыходзяць да высновы: нельга цалкам давяраць рэкламе, хоць яна і нясе карысную інфармацыю. Найлепшы спосаб успрымання рэкламы — крытычнае стаўленне да яе, пошук магчымасці праўдзіць інфармацыю.



**Прыклад 4**

**Уменні:** *рэпрадуктыўна і прадуктыўна пераўтвараць інфармацыю пры стварэнні новага медыятэксту: правільна вызначаць і ацэньваць аўдыторыю / атрымальніка медыяпаведамлення; эфектыўна і творча выкарыстоўваць вербальныя, аўдыяльныя, візуальныя, графічныя, мультымедыйныя сродкі і спосабы перадачы значэння і сэнсу; будаваць лагічныя ланцужкі разважанняў, прыцягваць і ўтрымліваць увагу мэтавай аўдыторыі; будаваць паведамленне з улікам асаблівасцяў карціны свету партнёра па зносінах.*

**Тэма ўрока.** Цытаты (беларуская мова, IX клас).

**Задача настаўніка:** забяспечыць разуменне вучнямі абавязковасці спасылак на выкарыстаныя крыніцы і ўменне правільна цытаваць і афармляць іх пры напісанні.

**Метады і сродкі:** метад гульні, практычная праца па цытаванні, заданні па падрыхтоўцы тэкстаў, літаратурныя крыніцы і / або інфармацыя з інтэрнэта.

**Паслядоўнасць дзеянняў:**

1. Кожны з вучняў атрымлівае заданне да ўрока: напісаць на асобным аркушы верш / невялікае эсэ, прысвечанае падзеі або блізкаму чалавеку. Прозвішча і імя аўтара павінны быць запісаны ў самым нізе аркуша. Пажадана зрабіць друкаваны тэкст.

2. Работы збіраюцца. Адразаецца подпіс. Твор падпісваецца імем іншага вучня класа. Работы правяраюцца экспертамі — групай вучняў (2—3 чалавекі) — з дапамогай праграмы «Антыплагіят».

3. Перад урокам вучнёўскія работы раскладваюцца на асобных сталах. На пачатку занятку вучні знаёмяцца з работамі. (Лёгка здагадацца, якая будзе рэакцыя ў класе!)

4. Вучні знаходзяць свае работы і ў класе абмяркоўваюць: Чым выклікана незадаволенасць? Ці ведаюць яны, што такое «плагіят»? Як яны да яго ставяцца?

5. Настаўнік дае слова групе экспертаў, якія правяралі тэксты на плагіят. Яны аб'яўляюць (не называючы імёнаў) вынікі свайго даследавання.

6. Міні-лекцыя настаўніка пра аўтарскае права, цытаванне і правілы афармлення цытат.
7. Вучні выконваюць заданне: працуючы з літаратурнымі крыніцамі, кнігамі афарызмаў, у інтэрнэце знаходзяць цытаты і ўстаўляюць іх у свае творчыя работы, якія рыхтавалі да ўрока.
8. Арганізуецца ўзаемнае азнаямленне вучняў з творамі суседзяў па парце і іх ацэнка па наступных крытэрыях: ці пацвярджае цытата думку аўтара; наколькі правільна з пункту гледжання афармлення цытат яна ўведзена ў тэкст?
9. Некалькі вучняў распавядаюць класу пра тое, як іх аднакласнікі выканалі заданне. Пры гэтым яны карыстаюцца планам:
   1. *Мой аднакласнік... у творчай рабоце напісаў пра...*
   2. *Ён выкарыстаў цытату...*
   3. *Зробленае аўтарам цытаванне адпавядае / не адпавядае крытэрыям, паколькі...*
10. Па просьбе настаўніка некаторыя вучні агучваюць высновы, якія яны зрабілі для сябе ў выніку працы на ўроку.

**Вынікі.** Той вопыт, які маюць многія настаўнікі, і змешчаныя вышэй прыклады сведчаць, што нават пры адсутнасці ў вучэбным плане ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі спецыяльнага «медыйнага» прадмета, існуюць магчымасці для медыяадукацыі вучняў. Для гэтага трэба кіравацца логікай: актуальнае для фарміравання медыйнае ўменне, магчымасці вучэбнага матэрыялу, адпаведная задача настаўніка, адэкватныя метады і сродкі навучання, якія дапамагаюць вырашыць задачу. Гэтыя метады і сродкі адпавядаюць формуле: «Вучым таму, з дапамогай чаго вучым» (калі вучым пісаць медыяпаведамленні, то гэта робім практыкай іх напісання; калі вучым інтэрпрэтацыі тэкстаў, то вучні на ўроку робяць свае тлумачэнні тэкстаў і г.д.).

У межах курса дыстанцыйнага навучання «Медыяадукацыя ў школе» была распрацавана спецыяльная арыенціровачная карта для праектавання медыйнага ўрока. Яна можа выкарыстоўвацца і пры падрыхтоўцы настаўніка да заняткаў, і пры арганізацыі павышэння кваліфікацыі настаўнікаў.



## Арыенціровачная карта

**1. Распрацуйце «медыйны» ўрок, для чаго запоўніце наступную табліцу**

| Што патрэбна зрабіць | Што вы зрабілі |
|---|---|
| *Выберыце і запішыце тэму ўрока і клас* | |
| *Запішыце, што ў змесце ўрока менавіта па гэтай тэме мае дастатковы медыяадукацыйны патэнцыял* | |
| *Напішыце тып і месца ўрока ў модулі (блоку) урокаў* | |
| *Напішыце, у якіх умовах будзе праводзіцца ўрок (вучні, праграмныя патрабаванні, вучэбна-метадычнае і тэхнічнае забеспячэнне, памяшканне, месца ў раскладзе і г.д.)* | |
| *Напішыце, як вы створыце асяроддзе, спрыяльнае для навучання* | |
| *Напішыце на мове вучняў навучальную мэту на ўрок.* ***Акрамя мэты па вучэбнай праграме, медыйную, напрыклад: зможаце адрозніваць факт ад меркавання, зможаце выканаць дэкадаванне медыятэксту і г.д.*** *На якой хвіліне ўрока і як вучні даведаюцца пра сваю мэту?* | |
| *Напішыце задачы па фарміраванні медыйнай граматнасці вучняў, а таксама — пад кожную задачу — сродкі і вучэбныя сітуацыі, якія дазволяць гэтую задачу вырашаць. Задачы зручна напісаць з дапамогай дзеясловаў: спрыяць, садзейнічаць, стварыць умовы і г.д.* ***Напрыклад, спрыяць развіццю ў вучняў крытычнага мыслення*** | |
| *Вызначце і запішыце медыйны змест урока: на якім матэрыяле з інтэрнэту, іншых медыя будзе адбывацца фарміраванне медыйных уменняў вучняў* | |
| *Напішыце ключавое пытанне да ўрока* | |

| | |
|---|---|
| *Назва першага этапа ўрока. Што на гэтым этапе будуць рабіць самі вучні і настаўнік? Калі вучням будуць прапаноўвацца заданні, то прывядзіце крытэрыі ацэнкі, якія яны атрымаюць разам з гэтымі заданнямі* | |
| *Назва другога этапа. Што на гэтым этапе будуць рабіць вучні і настаўнік? Калі вучням будуць прапаноўвацца заданні, то прывядзіце крытэрыі ацэнкі, якія яны атрымаюць разам з гэтымі заданнямі* | |
| *Дадайце столькі этапаў, колькі вам патрэбна* | |
| | |
| | |
| *Прыміце папярэдняе рашэнне аб дамашнім заданні. Запішыце вучням крытэрыі, якія вы дасце разам з заданнем* | |
| *Назва заключнага этапа. Як адбываецца ацэнка вучнямі і настаўнікам дасягнутага выніку на ўроку і іх дзейнасці?* | |

**2. Правядзіце распрацаваны ўрок і адкажыце на пытанні:**

1) На фарміраванне якіх медыйных уменняў вучняў быў скіраваны ўрок?
2) Ці паўплывала ўключэнне дадатковага медыйнага зместу ва ўрок на засваенне вучнямі ведаў і ўменняў, якія прадугледжаны вучэбнай праграмай?
3) Якія факты сведчаць, што ўрок станоўча паўплываў на развіццё медыяграматнасці вучняў? Прывядзіце 2—3 выказванні вучняў.
4) Калі вы зноў будзеце праводзіць урок па дадзенай тэме, якія змены вы ў яго ўвядзяце?



Раздзел «Медыяадукацыя» на партале nastaunik.info, дзе накопліваюцца распрацоўкі ўрокаў па розных прадметах, а таксама тэарэтычныя артыкулы па тэме «Медыяадукацыя ў школе»: **http://www.nastaunik.info/media/edu**.

*Галіна Сухава*

## 2.2. З вопыту фарміравання медыйнай граматнасці вучняў на ўроках літаратуры

### 2.2.1. Патэнцыял урокаў літаратуры ў медыяадукацыйнай дзейнасці настаўніка

Сродкі масавай інфармацыі адыгрываюць галоўную ролю ў фарміраванні ў моладзі перакананняў і разумення свету. Яны адваявалі гэтую выхаваўчую функцыю ў барацьбе з мастацкай літаратурай, якая яшчэ ў мінулым стагоддзі на аснове літаратуры крытычнага рэалізму XIX—XX ст. фарміравала светапогляд грамадзяніна. «Адмяніць» наступствы гэтай паразы мы не можам, але ў нашых сілах і магчымасцях сродкамі прадмета навучыць дзяцей аналізаваць, крытычна ацэньваць і ствараць свае медыяпаведамленні.

Здаецца, што гэта рабіць даволі проста, але на практыцы часта назіраецца фармальны падыход, калі імкненне педагогаў да фарміравання медыяадукаванай асобы вучняў толькі дэкларуецца.

Хто з сучасных настаўнікаў-практыкаў не ведае прыёмы развіцця крытычнага мыслення? Як член экзаменацыйнай камісіі па пацвярджэнні настаўнікамі вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі я заўважыла, што тэма «Развіццё крытычнага мыслення вучняў на ўроках беларускай мовы і літаратуры» — адна з папулярных тэм па абагульненні педагагічнага вопыту. Як правіла, змест такой працы складае апісанне метадаў і прыёмаў развіцця крытычнага мыслення на ўроках мовы і літаратуры. Дадаткі да настаўніцкіх апісанняў вопыту перапоўнены «сінквейнамі», «тонкімі і тоўстымі пытаннямі», «6 навошта» і г.д. Таму калегі маюць усе падставы сцвярджаць, што яны даўно займаюцца медыяадукацыяй вучняў і змяняць у падрыхтоўцы да ўрокаў нічога не трэба. Наўрад ці з гэтым можна цалкам пагадзіцца. На жаль, сустракаецца практыка, калі любую педагагічную інавацыю мы асвойваем выключна на метадычным узроўні (на ўзроўні асобных прыёмаў), выпускаючы з-пад увагі філасофію нова-ўвядзення, спыняючыся толькі на павярхоўным засваенні, так і не пабудаваўшы прынцыпова новай сістэмы працы з тэкстам мастацкага твора, са словам.

Многія калегі да гэтага часу прытрымліваюцца думкі, што выкарыстанне на ўроку мультымедыйных сродкаў — гэта і ёсць фарміраванне медыяграматнасці вучняў. Іх уводзіць у зман частка «медыя». Даводзілася неаднойчы назіраць сітуацыю, калі (для засваення зместу праграмнага твора ва ўмовах скарачэння гадзін на яго вывучэнне) настаўнік прапаноўвае вучням паглядзець мастацкі фільм, зняты па матывах твора, дакументальны фільм, прысвечаны біяграфіі пісьменніка, спектакль і г.д. Прысутнасць на ўроку літаратуры

іншых твораў мастацтва не дае падставы называць такія заняткі ўрокамі навучання медыяграматнасці, бо тут адсутнічае самы істотны яе кампанент — супастаўленне трох творчых пазіцый: аўтараў, суб’ектаў і аб’ектаў менавіта літаратурнага твора. Звычайны ўрок з выкарыстаннем медыя накіраваны на ўзнаўленне фактаў і вузкім напрамку распытвання пра падзеі твора. (Медыя ў гэтым выпадку дапамагаюць запомніць яркія вобразы.) Вучню на такім уроку не прапаноўваецца іншы погляд на праблему, іншае «прачытанне» вобраза.

У першую чаргу самому настаўніку трэба зразумець, што мастацкі твор школьнай праграмы ўтрымлівае веды ў шырокім сэнсе, а не толькі тыя, што вызначаны і рэкамендаваны каляндарна-тэматычным планаваннем. Розум вучня, наяўнасць жыццёвага вопыту дазваляюць не абмяжоўвацца запамінаннем зместу твора, а крытычна асэнсоўваць яго, праз твор спасцігаць сучасныя веды пра свет. На занятках па мове і літаратуры мы часта забываем пра гэта і фармулюем вучэбныя задачы ўрока як эквівалент ведаў пра змест твора. Адсюль даволі папулярнае ў настаўніцкім асяроддзі меркаванне адносна непапулярнасці мастацкай літаратуры: маўляў, класічная беларуская літаратура прайграе СМІ па займальнасці і вострасюжэтнасці. Дык гэта ж абсалютна натуральна! Але ж у нас ёсць магчымасць выйграваць, ствараючы вучням на занятках умовы для разважання. Калі ж, спасылаючыся на скарачэнне гадзін для вывучэння мастацкіх твораў, мы ахвяруем думкай на карысць аб’ёму тэксту, ахвяруючы тым самым жыццёвымі перакананнямі, ведамі і ўяўленнямі вучняў пра сучасны свет, то тут весці размову пра фарміраванне медыяграматнасці вучняў не выпадае.

### 2.2.2. Дыягностыка медыйнай пісьменнасці вучняў

Такая дыягностыка асабліва важная, калі настаўнік пачынае працаваць з новым для яго класам. Паколькі ў бягучым годзе я працую ў паралелі пятых класаў, то напачатку навучальнага года правяла даследаванне (стартавы кантроль) узроўню медыяпісьменнасці вучняў V класа. Гэты кантроль дае падставы для роздуму, вызначэння мэтаў і зместу навучання, стратэгіі ўзаемадзеяння з вучнямі на ўроку.

Вучням было прапанавана невялічкае апавяданне «Вельвецік».

Цацачны мішка па мянушцы Вельвецік сядзіць на паліцы ў буйным універмагу. Маленькая дзяўчынка бачыць яго і хоча купіць, але яе маці кажа «не», таму што ў іх няма часу і ў цацачнага мішкі няма гузіка.

Пасля закрыцця крамы мядзведзь шукае свой гузік, таму што ён хоча быць купленым дзяўчынкай. Ён шукае па ўсёй краме і нарэшце апынаецца ў аддзеле ложкаў, дзе бачыць гузік на матрацы і спрабуе яго адарваць. Вельвецік падае з матраца, скідвае лямпу, гэта заўважае начны вартаўнік, знаходзіць цацку і вяртае яе ў цацачны аддзел.

Дзяўчынка вяртаецца (на наступны дзень), купляе яго, прышывае гузік, і Вельвецік шчасліва далучаецца да яе сям'і.

Перад чытаннем тэксту вучні атрымліваюць тлумачальны слоўнік:

Буйны ўнівермаг — вялікі ўнівермаг.

Гузік — пластмасавая кнопка, якая замяняе мішку вочы.

Крама — універмаг, магазін.

Апынуцца — аказацца.

Больш ніякія словы ў тэксце настаўнік не тлумачыць, бо пра іх значэнне вучань здагадваецца кантэкстуальна. Натуральна, што вучні паказваюць розныя ўзроўні аналізу і асэнсавання тэксту.

**Нізкі ўзровень.** Знайсці і атрымаць інфармацыю ў тэксце. Выконваючы першае дзеянне, чытач канцэнтруецца на асобных фрагментах інфармацыі тэксту, самастойна і правільна адказвае на пытанні: Хто такі Вельвецік? Дзе ён знаходзіцца? Як выглядае матэрыял, названы вельветам, і які ён навобмацак? (Пусціце па руках кавалак вельвету.) Як мішка атрымаў імя? Чаму Вельвецік хадзіў па краме? Чаму для яго было важна знайсці гузік?

**Дастатковы ўзровень.** Інтэграваць і інтэрпрэтаваць (паведамленне) — звязваць і тлумачыць. Выконваючы другое дзеянне, чытач злучае фрагменты тэксту ў агульную карціну. Тлумачэнне абапіраецца на цэлы шэраг разумовых дзеянняў: для адказу на пытанне навучэнцам даводзіцца часам рабіць высновы з тэкставага паведамлення, адрозніваць галоўныя і другарадныя дэталі, коратка фармуляваць асноўныя думкі або на аснове сказанага ў тэксце рабіць вывад пра папярэднія падзеі. Пытанні, якія адпавядаюць гэтаму ўзроўню: як яшчэ мішка мог бы вырашыць праблему адсутнасці гузіка? Як вы думаеце, ці мог іншы дарослы купіць мішку без гузіка? Калі не, то чаму? Што адчувае дзяўчынка пасля таго, як яна купіла Вельвеціка? Чаму? Як вы думаеце, што адчуваў Вельвецік, калі яго купіла дзяўчынка? Чаму? Адкуль вы ведаеце? Ці можаце вы ўявіць іншы варыянт канца гэтай гісторыі?

**Высокі ўзровень.** Асэнсаваць і ацаніць (паведамленне). Выконваючы трэцяе дзеянне, чытач суадносіць паведамленне тэксту з пазакантэкставай інфармацыяй (уласным вопытам). Асэнсаванне і ацэнка патрабуюць апоры на веды, ідэі і пачуцці, вядомыя чытачу да знаёмства з тэкстам. Пытанні на асэнсаванне патрабуюць ад чытача звароту да ўласнага вопыту / ведаў для таго, каб параўноўваць, супастаўляць і меркаваць. Пытанні на ацэнку прапануюць чытачу выказаць меркаванне, заснаванае на яго асабістых нормах і мерах: Наколькі важнай была адсутнасць гузіка для мамы? Чаму? Якія аргументы могуць быць у яе? Наколькі важнай была адсутнасць гузіка для дзяўчынкі? Чаму? Наколькі важнай была адсутнасць гузіка для Вельвеціка? Чаму? Што было самым важным

у Вельвеціку для мамы / дзяўчынкі? Чаму дзяўчынцы патрэбны Вельвецік? Што маці / дачка лічыць важным? Адсутнасць гузіка мае значэнне? Чаму так / не? Які ваш самы лепшы аргумент? Каго з герояў апавядання вы разумееце? За каго вы перажываеце? Чаму?

Праведзеная такім чынам дыягностыка дае настаўніку інфармацыю для роздуму, адбору матэрыялу, складання заданняў і пытанняў на ўрок. Калі ж пяцікласнікі ў канцы навучальнага года атрымаюць ад педагога падобнае заданне, то ён зможа ацаніць, наколькі вялікім было прырашчэнне ў разуменні і крытычным асэнсаванні вучнямі тэксту, у іх медыйнай кампетэнтнасці, у чым яны паспяховыя, а якіх уменняў пакуль бракуе.

### 2.2.3. Прыклады з урокаў літаратуры

**Прыклад 1. Вывучэнне аповесці «Гандлярка і паэт» І. Шамякіна (XI клас)**

Узгадаем рэкамендацыі прыкладнага каляндарна-тэматычнага планавання і параўнаем іх з медыйнаскіраваным планаваннем (гл. табл.). Што, калегі, вам больш даспадобы?

**Табліца. Планы вывучэння аповесці «Гандлярка і паэт» І. Шамякіна**

| План, прапанаваны прыкладным каляндарна-тэматычным планаваннем | План, арыентаваны на фарміраванне медыяграматнасці |
|---|---|
| Асноўныя пытанні для вывучэння: жыццёвы і творчы шлях пісьменніка; «Гандлярка і паэт»: гісторыя напісання аповесці, праблематыка, сюжэт; тэма трагічнага лёсу жанчыны на вайне | Асноўныя пытанні для вывучэння: стэрэатыпы і іх прычыны; чаму І. Шамякін прапаноўвае размову пра стэрэатыпы ў аповесці «Гандлярка і паэт»? |
| Асноўныя задачы настаўніка:<br>• пазнаёміць старшакласнікаў з жыццёвым і творчым шляхам пісьменніка, гісторыяй напісання аповесці «Гандлярка і паэт», праблематыкай і сюжэтам твора;<br>• далучыць вучняў да свядомага ўспрымання матэрыялу пра жыццё і творчасць І. Шамякіна;<br>• паспрыяць вучнёўскаму разуменню ідэйнага зместу аповесці, выклікаць цікавасць да твора, а таксама да пісьменніка як грамадзяніна, патрыёта | Асноўныя задачы для вучняў:<br>• убачыць, якія негатыўныя характарыстыкі звычайна прыпісваюцца гандлярам і паэтам;<br>• аргументаваць сваё меркаванне тэкстам;<br>• вызначыць, якія кампазіцыйныя прыёмы дапамагаюць аўтару сфарміраваць у чытача апісаныя ў творы адносіны да персанажаў аповесці;<br>• назваць эпізоды аповесці, якія мяняюць у чытача (ці не) першапачатковае ўяўленне пра герояў;<br>• вызначыць, што ўплывае на фарміраванне адносін паміж людзьмі |

Думаю, параўнанне дзвюх стратэгій працы настаўніка і вучняў пераканала чытача, што навучанне медыяграматнасці на ўроках беларускай літаратуры не парушае канцэпцыі літаратурнага навучання. Аднак можна заўважыць, што ўвага пераразмяркоўваецца з запамінання біяграфіі пісьменніка на разуменне яго жыццёвай пазіцыі, майстэрства пісьма, на такі змест, які спрыяў бы асабоваму развіццю вучняў.

На ўроках па навучанні медыяграматнасці вялікую ролю адыгрывае абмеркаванне, у працэсе якога вучні прыходзяць да адной з галоўных высноў: кожны медыястваральнік мае сваё меркаванне — пункт гледжання. Часта пасыл медыяпаведамлення зыходзіць не толькі з таго, што сказана, але і з таго, што не паведамляецца.

**Прыклад 2. Фарміраванне крытычнага мыслення праз супастаўленне аповесці «Сотнікаў» В. Быкава і фільма «Узыходжанне» Л. Шапіцькі (XI клас)**

Праграмай прапануецца 1 гадзіна на вывучэнне аповесці, таму мэтазгодна на ўроку паказаць фрагмент фільма, бо каштоўнасць такога ўрока — у абмеркаванні.

Праца адбываецца па плане:

1. Дыялагічнае разважанне: параўнанне поглядаў аўтараў аповесці / фільма і іх інтэрпрэтацый.
2. Генерыраванне / ацэнка рашэнняў герояў.
3. Даследаванне думак, заснаваных на пачуццях, і пачуццяў, заснаваных на думках.

- Якому з твораў (аповесці / фільму) вы аднеслі б ацэначныя меркаванні: «партызанская гісторыя», «рэлігійная прытча з містычным адценнем»?
- Чаму і В. Быкаў, і Л. Шапіцька вырашаюць, што Рыбак павінен загінуць?
- Што нам гаворыць адрозненне характараў Сотнікава і Рыбака пра іх жыццёвыя каштоўнасці, пра тое, што яны лічаць важным?
- Ці мае значэнне, як загінуць на вайне? Чаму так / не? Які самы моцны аргумент прыводзяць В. Быкаў, Л. Шапіцька?
- Ці можаце вы ўявіць іншы фінал гісторыі ў аповесці / фільме?

На такіх уроках павінна весціся дыскусія пра адрозненні меркаванняў і нормаў (эталонаў) Сотнікава і Рыбака, В. Быкава і Л. Шапіцькі.

**Прыклад 3. Вывучэнне апавядання «На чацвёртым годзе вайны» М. Стральцова (XI клас)**

Настаўнік прапануе вучням паразважаць над пытаннем: «Чаму чалавеку вельмі цяжка праяўляць сябе сапраўднага?»

Выбраць адну з наступных пазіцый у самым пачатку ўрока вучням дапамагае ўласны жыццёвы вопыт: 1) страх быць адрынутым; 2) жаданне адпавядаць пэўным патрабаванням; 3) адчуванне, што не зможа быць у нечым моцным, таму імкнецца схаваць свае слабасці.

Абмеркаванне апавядання ў асноўнай частцы ўрока павінна прывесці вучняў да пацвярджэння / абвяржэння іх жыццёвай пазіцыі аўтарскім меркаваннем на аснове вывучэння мастацкай будовы тэксту.

Гэты прыклад ілюструе, як настаўнік адвучвае вучняў ад эгацэнтрычнасці (яна тут разумеецца як падмена рэальнага зместу мастацкага твора непасрэдным яго ўспрыманнем). Як часта пры аналізе мастацкага твора, пры адказе на праблемнае пытанне па змесце твора вучні не апелююць да тэксту, аўтарскай пазіцыі, пазіцыі героя, а абмяжоўваюцца фразамі: «Я так думаю», «Я так лічу», «Мне здаецца, што толькі так правільна». На жаль, для многіх настаўнікаў зварот вучня толькі да свайго жыццёвага вопыту ў якасці аргумента да выбранай пазіцыі і ёсць паказчык разумення.

Эгацэнтрычнасць — процілегласць крытычнага мыслення. Вучні з такой пазіцыяй у большай ступені засяроджаны на пошуках праўды і справядлівасці, чым на імкненні самім быць сумленнымі і справядлівымі. Да таго ж такому вучню не хапае рэфлексіўных уменняў пры аналізе ўласнай разумовай дзейнасці.

Відавочна, што мысленне лёгка разглядае сітуацыі, у якіх эгаізм можна прыняць за самаабарону, жорсткасць — за дысцыпліну, зло — за дабро. Крытычнае мысленне не прызнае адназначнасці ў ацэнках мастацкага твора, а вучыць бачыць і (што вельмі важна для сучаснага свету) прымаць розныя меркаванні, з розных пазіцый, пад уплывам розных абставін. Сапраўдная маральная сумленнасць патрабуе інтэлектуальнага разважання і выбару паміж тым, што этычна, палітычна, практычна апраўдана і што сацыяльна адобрана. Іншымі словамі, вучні часта прымаюць за голас сумлення голас бацькоў, настаўнікаў і іншых «старэйшых», якія гавораць унутры іх, ігнаруючы голас аўтара, голас герояў мастацкага твора.

Калі эгацэнтрычнасць — хвароба, то самасвядомасць — лекі. Настаўніку важна ў такой сітуацыі на ўроку папрасіць вучня знайсці, зачытаць радкі з тэксту, якія пацвярджалі б выказанае меркаванне. Калі ўласныя эгацэнтрычныя выказванні вучняў не будуць прымацца настаўнікам на веру, то вучань наўрад ці стане прымаць на веру эгацэнтрычныя вераванні іншых. Вельмі важна на такім уроку

знайсці час і выслухаць меркаванне кожнага вучня, каб мець магчымасць забяспечыць эфектыўную зваротную сувязь у адказ на ўменне вучня лагічна мысліць, дакладна прыводзіць пацвярджэнні з тэксту. Гэтаму можа паспрыяць вынікова заданне:

- У апавяданні «На чацвёртым годзе вайны» Міхась Стральцоў звяртаецца менавіта да гэтага парадоксу: зло прымушае чалавека быць… , а ён робіцца…
- «Каб паставіць сябе ў жыцці, каб не даць у крыўду сябе», трэба быць жорсткім, патрабавальным да сябе і да іншых, бо...
- «Каб паставіць сябе ў жыцці, каб не даць у крыўду сябе», трэба быць мяккім, спачувальным да свайго гора і гора іншых, бо…

**Прыклад 4. Вывучэнне аповесці «Насцечка» К. Чорнага (VI клас)**

На ўроках разглядаецца вобраз Насцечкі і Сержа. Для разумення вучнямі ідэйнага значэння гэтых вобразаў пажадана звесткі пра герояў сістэматызаваць такім чынам, каб былі відаць іх агульныя рысы і адрозненні. На аснове гэтага шасцікласнікі павінны зрабіць вывад, які ўзаемаўплыў аказваюць героі адзін на аднаго. Пазіцыі для параўнання могуць быць прадстаўлены ў табліцы (гл. табл.).

**Табліца. Параўнанне характарыстык герояў твора і вучня класа**

| | Серж | Насцечка | Я |
|---|---|---|---|
| Стаўленне да моды | + | — | |
| Спрыяльная сямейная атмасфера | — | + | |
| Імкненне быць лідарам | + | + | |
| Пачуццё справядлівасці | + | + | |

Каб мысліць крытычна, неабходна разглядаць і станоўчае, і адмоўнае ў супрацьлеглых поглядах герояў. Свет разнастайны, у ім розныя людзі маюць розныя погляды і розныя спосабы мыслення. Таму, калі на ўроку вывучаецца мастацкі твор, у якім некалькі герояў, то, па правілах стварэння канфлікту, пазіцыя герояў адносна нейкай жыццёвай праблемы будзе рознай. У такой сітуацыі даць ацэначнае меркаванне паводзінам герояў і выпрацаваць сваю пазіцыю дапамагае параўнальны аналіз, які зручна рабіць з дапамогай табліцы. Яе запаўненне на ўроку дапамагае дзецям прыняць справядлівае і аргументаванае рашэнне пры ацэнцы паводзін герояў, скарэктаваць уласную жыццёвую пазіцыю.

**Прыклад 5. З урока па вывучэнні творчасці П. Броўкі (XI клас)**

На ўроках літаратуры па вывучэнні зместу мастацкага твора я разам з вучнямі стараюся зразумець тайны сэнс паслання паэта, пісьменніка чытачу. Часам вельмі

цяжка прадбачыць, як дзеці «расчытаюць» той ці іншы вобраз твора, наколькі ім будуць зразумелыя аўтарскія прыёмы раскрыцця ідэі твора. Але ад гэтага ўрок становіцца цікавым і складаным адначасова, ён губляе першапачатковую зададзенасць, прадвызначанасць, пакідае месца для руху думкі, «прачытання» вобраза. Калі на літаратуры мы будзем вучыць адназначнаму ўспрыманню твора, то не трэба дзівіцца таму, што ў пошуках інфармацыі дзеці пойдуць па «першай спасылцы». Вельмі карыснымі становяцца ў гэтым сэнсе літаратурныя парталы, якія даюць магчымасць вучням пераканацца, што нават успрыманне класічнай літаратуры ў сучасным свеце неадназначнае. Не трэба баяцца шматзначнасці меркаванняў, трэба ўмець сярод іх адшукаць праўдзівыя і памылковыя. Адной з такіх спроб стаў урок па вывучэнні творчасці П. Броўкі для адзінаццацікласнікаў. Вядучая ідэя гэтага ўрока — пошук вучнямі адказу на пытанне: «Чым вершы П. Броўкі пасляваеннага перыяду падабаюцца чытачам?» Для гэтага мы звярнуліся да старонак сайта, прысвечанага творчасці П. Броўкі (былі прадэманстраваны «прынтскрыны» старонак сайта).

Верш П.Броўкі
“Александрына”

Маю прабабулю звалі
Госць, Пн, 01/24/2011 - 20:51
**Маю прабабулю звалі Александрына**. Яна была вельмі добрая, шчодрая, міласэрная. Самая лепшая ў свеце... мне вельмі спадабаўся верш. Тым больш, калі ен прысвечаны жанчыне з такім жа імем, як мая прабабуля... Не часта сустракаеш верш, які так прылягае да сэрца. А калі сустракаеш, **хочацца завучыць яго на памяць, і ўспамінаць**, калі захочацца сэрцу...

**Госць, Чт, 03/10/2011 - 18:38**
Мне очень нравится это стихотворение **Во-первых, он про меня...**
адказаць

замечательное стихотворение,
Elena, Пн, 11/21/2011 - 20:16
замечательное стихотворение, очень легко учится, и когда читаешь, **сразу представляются образы**)
Адказаць

Цудоўны твор пра першае
**ГосцьРусак Зінаіда, Пт, 10/26/2012 - 19:11**
Цудоўны твор пра першае каханне, такое шчырае і пяшчотнае. **Верш добра рыфмаваны, лёгка і на - распеў чытаецца і стаў выдатнай песняй знакамітых «Песняроў».**
16

Вучні ўбачылі мноства розных меркаванняў (рэальныя выказванні наведвальнікаў сайта, прысвечанага творчасці П. Броўкі), пераканаліся, што не важна, што думаюць іншыя, як адгукаюцца на розныя падзеі жыцця і з’явы мастацтва, а важна, што сам чалавек думае наконт гэтага, як фарміруецца яго ўяўленне аб прыгожым. У якасці крытэрыю мастацкай вартасці прапанавала «формулу верша — 3 М: мысль, мова, мілагучнасць». Мне думаецца, толькі такая

атмасфера сучаснага ўрока літаратуры можа паспрыяць развіццю крытычнага мыслення, медыяграматнасці.

## Верш П.Броўкі “Вось і лета сышло...”

Госць, Ср, 03/07/2012 - 13:01

Не могу понять, зачем писатель написал это (......)

адказаць

Северына, Вт, 05/15/2012 - 16:32

Напэўна, так пажадаў))
Я вось таксама не разумею сэнсу лірычных вершаў.

адказаць

22

## «У кроплі бачыць цэлы свет» Верш П.Броўкі «А ты ідзі…»

Госць, Ср, 02/29/2012 - 18:08

**А мне верш зусім не спадабаўся. Асноўны заклік не спыняцца, але ж ніхто і не спыняецца. Хочаш не хочаш, а ідзеш!!!Вось ужо ісціну напісаў: трэба ісці! А навошта гэтая ісціна, калі яе і так усе ведаюць**

Госць, Чт, 11/24/2011 - 20:52

Стих очень понравился, "верь в себя, иди, глядя только вперед, и все получится!" Пятрусь Броўка вообще очень хороший писатель.

сложный, очень сложный

Госць, Пн, 12/03/2012 - 21:00

сложный, очень сложный

адказаць

26



Іншыя прыклады фарміравання медыяграматнасці вучняў на ўроках літаратуры можна ўбачыць на сайце nastaunik.info: **http://www.nastaunik.info/node/14580**. Там змешчаныя ўрокі аўтара гэтага параграфа: «Неўміручасць слова» — урок па вывучэнні паэмы «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага і «Дзівак чалавек» — урок па вывучэнні апавядання «Дзівак з Ганчарнай вуліцы» Івана Чыгрынава.

Няўменне ці проста нежаданне педагога памяняць напрацаваную гадамі традыцыйную методыку аналізу мастацкага твора, нават з эпізадычным выкарыстаннем прыёмаў крытычнага мыслення, прыводзіць да таго, што ў вучняў складваецца меркаванне, што беларуская літаратура — нецікавыя гісторыі, якія неабходна запомніць, як і тое, што настаўнік гаворыць пра гэтыя гісторыі. Ад такога запамінання ніякай карысці сучаснаму чалавеку няма. Больш за тое, сёння такі падыход нясе шкоду: мы вучым дзяцей верыць любому друкаванаму слову, схіляем да катэгарычнасці ў ацэнцы мастацкіх з'яў, абапіраючыся на падручнік «крытыкі». Выбар залежыць ад настаўніка, ці будзе ён працягваць ахвяраваць мысленнем дзеля звычайнай фіксацыі ведаў, дзеля фрагментарнага запамінання сюжэта, блытаніны імён, фактаў біяграфіі.

У навучанні медыяграматнасці можна вылучыць два ўзроўні: мікраўменні і макраздольнасці. І калі мікраўменнямі, як элементарнымі прыёмамі крытычнага мыслення, валодаюць многія настаўнікі і вучні, то спосаб крытычнага мыслення другога ўзроўню (макраздольнасці) яшчэ патрабуе грунтоўнага засваення філасофіі медыяадукацыі. У кожнай галіне чалавечай дзейнасці ёсць узровень навучання ўменням, заснаваны на элементарных дзеяннях (нанясенне разнастайных тэнісных удараў аб сцяну, практыка балетных пазіцый), неабходна часта звяртацца да гэтых мікраўменняў, каб гарантаваць засваенне асноўных уменняў (удары тэнісным мячом па сцяне — гэта не гульня ў тэніс, а танцаваць балет не вучацца ля станка). Для дасягнення рэальных вынікаў неабходна перайсці на больш высокі ўзровень. Тое ж і з крытычным мысленнем на ўроках мовы і літаратуры. Вучням трэба дапамагчы асвоіць важныя складнікі крытычнага мыслення: што такое сцвярджэнне, чым прычына адрозніваецца ад наступстваў, што значыць сфармуляваць, выявіць праблему, як прывесці аргументы ў абарону свайго меркавання, як выявіць супярэчнасць ці неадназначнае па сэнсе выказванне. Акрамя гэтага, мы, настаўнікі, павінны навучыцца сістэмна, а не эпізадычна выкарыстоўваць мікраўменні крытычнага мыслення.

На мой погляд, не мае прынцыповага значэння, на якіх кампазіцыйных, вобразна-выяўленчых прыёмах стварэння мастацкага вобраза вы спыніцеся на ўроку. Думаецца, што тут галоўным крытэрыем адбору стане і спецыфіка мастацкага твора, і ўзроставыя асаблівасці, і вучэбная матывацыя, і ўзровень агульналагічных уменняў вучняў. Можна пачаць з развагаў пра сэнс назвы твора,

эпіграфа, далей перайсці да асобных сказаў, значэнне якіх можна выявіць пароznаму, да партрэтных апісанняў, пейзажных замалёвак, мастацкіх дэталяў, дыялогаў, перачытвання асобных сцэн. Важна на ўроку не ахвяраваць інтэрпрэтацыяй асобных элементаў твора на карысць павярхоўнага засваення яго зместу. Рухаючыся далей, несумненна, важна заглыбіцца ў асабісты вучнёўскі вопыт як крыніцу прыкладаў для пацвярджэння слоў аўтара. Ці, наадварот, спачатку знайсці прыклады, якія прыводзіць аўтар у падтрымку сваёй пазіцыі. Усе гэтыя намаганні дапамогуць арганізаваць разумовую дзейнасць вучняў на ўроку як спробу зразумець, што мы чытаем.

Для навучання медыяграматнасці вучню важна чытаць не для таго, каб трэніраваць уменні крытычнага мыслення, а выкарыстоўваць уменні крытычнага мыслення, каб чытаць, разумець і крытычна ацэньваць прачытанае ці дакладна, зразумела для іншых фармуляваць уласныя думкі. У гэтым заключаны асноўны прынцып навучання медыяграматнасці і істотнае адрозненне ад навучання крытычнаму мысленню. Крытычна аналізуючы праграмныя творы і ацэньваючы паводзіны літаратурных герояў, школьнікі навучаюцца свядома і адэкватна ўспрымаць паведамленні разнастайных сродкаў масавай інфармацыі.



Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў-філолагаў

Раздзел «Беларуская літаратура»:
**http://www.nastaunik.info/workshop/biellit**

Раздзел «Беларуская мова»:
**http://www.nastaunik.info/workshop/bielmova**

Раздзел «Руская мова і літаратура»:
**http://www.nastaunik.info/workshop/russian**

*Наталля Катчанка*

## 2.3. Магчымасці і сродкі фарміравання медыйнай граматнасці вучняў на ўроках замежнай мовы

У параўнанні з настаўнікамі іншых прадметаў, настаўнікі замежнай мовы маюць больш магчымасцей для медыяадукацыйнай дзейнасці на ўроку. Для ўвядзення вучняў у іншамоўную камунікатыўную сітуацыю, адпрацоўкі актыўнай лексікі, развіцця навыкаў вуснай мовы нам можна выкарыстоўваць любы фрагмент тэлеперадачы, ролік з інтэрнэту, вытрымку з артыкула, цэлы артыкул ці цытату вядомага чалавека. Можна дыскутаваць, абменьвацца думкамі па розных праблемах у класе, сацыяльных сетках або пісаць на электронную скрыню. У кожным класе можна з поспехам выкарыстоўваць формы навучання, якія будуць накіраваны на павышэнне медыйнай граматнасці вучняў, жадання чытаць, даведвацца пра новае, крытычна ставіцца да інфармацыі, быць аўтарамі медыяпаведамленняў.

### 2.3.1. Медыяадукацыя на ўроках замежнай мовы ў пачатковай школе

Можна пагадзіцца, што ў пачатковых класах вучні толькі-толькі навучыліся чытаць на роднай мове. Што ж казаць пра замежную. Але давайце ўспомнім, што асноўны від дзейнасці, які стымулюе развіццё адукацыйных і выхаваўчых кампетэнцый у «пачаткоўцаў», — гэта гульня. Чым цікавей гульня і чым больш падабаюцца дзецям іх ролі ў ёй, тым больш эфектыўным будзе дасягненне мэты. Дзеці, не асэнсоўваючы, што яны гуляюць, вучацца. Прапануем ім стварыць уласны мультыплікацыйны фільм*. Настаўніца замежнай мовы Святлана Каляда (Жодзіна) стала пераможцай конкурсу, які праводзіла выдавецтва «Аверсэв», менавіта дзякуючы створаным ёй мультыплікацыйным ролікам**. У гэтым нам дапаможа сайт goanimate.com***, дзе даецца месяц свабоднага карыстання пасля рэгістрацыі. Відэа, якое ствараецца, захоўваецца там, як на YouTube, і яго заўсёды можна паглядзець онлайн. Спасылку на яго можна ўстаўляць на любы сайт і ў сацыяльныя сеткі.

Па кожнай тэме можна прыдумаць новых персанажаў (не тых, што ў падручніку, можна нават сваіх сяброў ці аднакласнікаў), даць ім імёны і «ажывіць». Героі будуць размаўляць на англійскай мове, а асаблівасці іх голасу і розныя акустычныя спецэфекты можна выбіраць самім. Напрыклад, па тэме «Ежа» ў III класе можна запрасіць казачнага персанажа ў рэстаран і заказаць незвычайную ежу (безумоўна, з праграмных лексічных адзінак). Тэма «Школа»: што, цікава, можа быць у партфелі Калабка, Папялушкі ці сучасных смурфікаў

* http://www.aversev.by/rus/skachat/konkursnye-raboty

** http://www.aversev.by/rus/skachat/konkursnye-raboty

*** http://www.goanimate.com

і свінкі Пэпы? Хто будзе з імі сябраваць? Прапануйце вучням пафантазіраваць, прыдумаць дыялогі для герояў і кароткі сцэнар для мультыплікацыйнага фільма. Потым пакажыце гатовы ролік з агучваннем на англійскай мове. І ім абавязкова захочацца паспрабаваць самім ці з дапамогай бацькоў. У выніку мы атрымліваем зацікаўленасць і матыв172ванасць на далейшае вывучэнне замежнай мовы і далучаем бацькоў да адукацыйнага працэсу (а гэтага так не хапае сучаснай школе). Паміж настаўнікам і вучнямі ўсталёўваюцца партнёрскія адносіны (усе на роўных удзельнічаюць у абмеркаванні і стварэнні мультфільма), і, безумоўна, дзеці вучацца прыслухоўвацца да меркаванняў іншых, паважаць кожнага члена каманды.

Рэалізуючы такія праекты, настаўнік развівае асноўныя медыйныя ўменні вучняў пачатковых класаў: уменне карыстацца слоўнікамі, як электроннымі, так і друкаванымі; уменне карыстацца рэсурсамі школьнай бібліятэкі, самастойна выбіраць літаратуру і ўсе неабходныя крыніцы для рашэння канкрэтнай задачы. Вучні пачатковай школы разумеюць, што для станоўчага выніку пошуку патрэбнай інфармацыі неабходна правільна сфармуляваць запыт, крытычна паставіцца да інфармацыі (ведаюць, што інфармацыю неабходна праверыць). Разумеюць, што для рознай аўдыторыі — сяброў, настаўнікаў, бацькоў — можа быць розны характар паведамлення.

### 2.3.2. Навучанне медыйнай граматнасці ў сярэдніх класах

Пачынаючы з V класа, актыўна ўводзім камунікацыю ў сацыяльных сетках ці праз асабістую перапіску. Нават калі няма такой тэмы па праграме, як «Знаёмства», не лішнім будзе яшчэ раз «пазнаёміцца» з вучнямі. Мы даём інфармацыю пра сябе і задаём асабістыя пытанні, вучні адказваюць. Некаторыя дзеці саромеюцца пісаць на замежнай мове па прычыне страху дапусціць памылку. Калі мы карэктна выпраўляем памылку ў асабістай перапісцы, то пра яе ніхто не даведаецца. Вучняў можна выклікаць на дыскусію па розных тэмах і прапанаваць абмеркаванне ў інтэрнэце. Якая карысць ад такой формы працы? Дзякуючы сацыяльным медыя, наступае разуменне таго, што кожны можа выказаць сваю думку і падзяліцца ёй з іншымі для таго, каб дасягнуць пастаўленай мэты. Мы можам параўноўваць, ацэньваць, што добра, а што дрэнна, каментаваць, абмяркоўваць і сумесна ствараць новую ідэю. Медыяадукацыя адкрывае новыя магчымасці і для настаўнікаў, і для вучняў у плане асэнсавання сучаснай рэальнасці і нашай ролі ў ёй.

У гэтым узросце вельмі важна развіваць медыйныя ўменні: асэнсаваны пошук інфармацыйнай крыніцы з улікам запытаў, разуменне наступстваў ад карыстання неправеранай інфармацыяй, уменне ажыццяўляць пошук у традыцыйных (друкаваныя) і электронных крыніцах (сайты, блогі, парталы), уменне дакладна фармуляваць запыт. Абавязкова трэба звярнуць увагу на ўменне карыстацца

інфармацыяй: правільна афармляць прэзентацыю, пазбягаць перагружанасці тэкстам і малюнкамі, а таксама граматна будаваць сваё выступленне.

Вучні пятых-шостых класаў, як правіла, шмат чым цікавяцца, дапытліва пазнаюць навакольны свет і лёгка ідуць на кантакт. Гэтым мы можам скарыстацца. Часта настаўнікі, якія былі класнымі кіраўнікамі ў XI класе, на наступны год пачынаюць працаваць з пяцікласнікамі. Сувязі з «мінулымі» першыя год-два пасля заканчэння школы яшчэ моцныя, таму давайце запросім студэнтаў-першакурснікаў на ўрок да малых. Яны раскажуць, дзе вучацца, што змянілася ў іх жыцці. А потым прапануем вучням пятага класа напісаць ліст (на замежнай мове) любому з іх. Расказаць пра сябе і задаць некалькі асабістых пытанняў. Хутчэй за ўсё, студэнты адгукнуцца на такую прапанову. Па-першае, не захочуць адмовіць у просьбе настаўніку, па-другое, ім таксама будзе карысна папрактыкавацца ў пісьмовай замежнай мове. Галоўная ўмова — ліст павінен быць напісаны ад рукі, ніякай электроннай перапіскі!

*Прыклады скан-версій лістоў.*



September
09.09.2015

Dear Alessya

My name's Egor. I'm 11. I'm in Class 6 „A".
I've got two brothers: Artem and David.
I like playing computer games and playing tennis. I hate getting up early. I love drawin in the PhotoShop.
I don't know yet what I'd like to be. Could you tell me something about your future simple? Is it easy or difficult to study at your University?
Did you like to school? Why? (Why not)? Have you got a hobby? What do you do i you have free time? Tell me something about you. Do you miss your school? Your old friends?
Write to me. Bye.

Egor.

Dear Egor,

Hello!!!

I'm glad to read your letter. I'm fine and I like very much my University, my lovely BNTU.

My life was changed very much after leaving school. Time of school exams, centralizing tests and entering the University was rather difficult, but now it is in the past.

I don't know exactly, why I decided to study at BNTU like a customs officer. I think It's rather interesting and very useful for our country, because in the future I can become a lawer, an economist or to stay at the border of our country. My choice was very fast, but I'm happy to study there. Everything is going well now.

How do you do? Do you like to study at the 6 form? I know that now you have physics. Do you like it? This subject is one of the most interesting, but in the same time one of the most difficult. Don't afraid. If you have problems with physics, call me and I will help you.

I remember my school years and I want to say you that it's the best time in my life. Maybe later you will understand me.

I hope, everything will be good and you will be happy.

Write me, please, about your study and hobbies at your next letter. I will wait for it.

With the best wishes
Alessya

Папяровы ліст накладае пэўныя абавязкі на аўтара і адрасата. Яго не так лёгка праігнараваць і абыякава паставіцца да напісання: трэба сачыць і за арфаграфіяй (камп'ютар памылкі не выправіць), і за разборлівым, старанным почыркам. Такім чынам, у нас атрымліваецца сінтэз навучання прадмету, прафарыентацыйнай працы і медыяадукацыі.

Яшчэ адзін з дзейсных варыянтаў — перапіска з замежнымі аднагодкамі. Цудоўная магчымасць для практыкі пісьмовай мовы і навыкаў камунікацыі!

Цікавай для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту будзе праца з коміксамі*. Пажадана падбіраць на ўрок коміксы са зразумелым сюжэтам (не больш за 10 малюнкаў). Спачатку мы не чытаем подпісы, а спрабуем спрагназаваць змест сітуацыі. Затым чытаем дыялогі і каратка (≈ 4 сказы) пераказваем змест. Такая форма працы вучыць вылучаць галоўнае, пераказваць дыялогі пры дапамозе ўскоснай мовы і фармуляваць вуснае выказванне на аснове прачытанага тэксту.

---

* http://www.washingtonpost.com/entertainment/comics/?hpid=z16

**Комікс «For Better or For Worse»**

http://wpcomics.washingtonpost.com/client/wpc/fb/

**Мэта:** *рэпрадуктыўная* (плануецца, што вучні зразумеюць камунікатыўную сітуацыю і сфармулююць вуснае выказванне на аснове прачытанага тэксту) або *прадуктыўная* (плануецца, што вучні зразумеюць камунікатыўную сітуацыю — магчыма, кожны па-свойму — і сфармулююць выказванні ў залежнасці ад свайго бачання сітуацыі).

**Перадтэкставы этап:**

а) прагназаванне камунікатыўнай сітуацыі (толькі па назве): What do you think the story is about? Prove your idea. What do the phrases «do something better» or «do something worse» mean?

б) прагназаванне па малюнках: What do you think the story is about? Prove your idea. Who are the main characters of the story?

Describe the mother and her daughter, their appearance, imagine what kind of people they are, imagine what country they are from, whether they live in a house or in a flat. Give some information about the other members of the family.

(Мэта такога задання — стымуляваць уяўленне вучняў пра паўсядзённыя рэчы, матываваць на непадрыхтаванае выказванне; граматычныя памылкі не павінны быць крытэрыямі ацэньвання.)

в) разбор граматычных структур: such a …; besides setting … and doing …; I'd like you to …; all the houseplants.

**Тэкставы этап:**

а) пошук адказаў на пытанні (падчас чытання): Who? What? Where? When? Why? How?

б) складанне максімальна кароткай тэлеграмы па прачытаным тэксце;

в) замена максімальна магчымай колькасці слоў сінонімамі і пераказ новай гісторыі.

**Паслятэкставы этап** — развіццё навыкаў крытычнага мыслення, пошуку галоўнай інфармацыі і аўтарскай ідэі, развіццё творчасці і ўяўлення:



What is going to happen next? What if… (вучням прапануецца ўявіць развіццё падзей у другой краіне, у іншую пару года, з іншымі галоўнымі дзейнымі асобамі і г.д.)

Этап драматызацыі комікса (як правіла, вучні з вялікім задавальненнем выконваюць такое заданне; можна прапанаваць дадаць некалькі розных эмоцый і выразнасці да дыялогаў).

У гэтым жа ўзросце мы знаёмім вучняў са структурай звычайнай газеты. Уводзім словы па тэме: *advertisement, back page, cartoon, irculation, correspondent, editor, headline, lead story, morning edition, newsprint, newsstand, obituary, tabloid* і г.д. Больш поўны спіс тэматычных лексічных адзінак можна знайсці на studyfun.ru*.

Дзеці паступова авалодваюць такімі медыйнымі кампетэнцыямі, як разуменне адрозненняў паміж інфармацыяй і паведамленнем, меркаваннем і крытыкай, чуткамі і праўдзівай інфармацыяй, «жоўтай» прэсай і сур'ёзнымі выданнямі. Як гэтага дасягнуць? Існуе некалькі дзейсных прыёмаў. У кожнага настаўніка замежнай мовы знойдзецца якое-небудзь англамоўнае выданне (год выпуску не мае значэння).

Мы абавязкова тлумачым функцыю загалоўкаў, расказваем, што існуюць спецыяльныя прыёмы для таго, каб на іх звярнулі ўвагу чытачы. Выкарыстанне розных друкарскіх шрыфтоў, наяўнасць падзагалоўкаў, якія раскрываюць галоўную тэму артыкула, знакі прыпынку, якія надаюць эмацыйнасць: працяжнікі, клічнікі, пытальнікі, шматкроп'е і г.д. Часта аўтары выкарыстоўваюць крылатыя і ўстойлівыя словы і словазлучэнні, прыказкі, прымаўкі, абрэвіятуры.

Крытэрыі паспяховасці: вызначэнне функцый загалоўкаў, класіфікацыя асноўных прыёмаў прыцягнення ўвагі чытача, усведамленне, што прагназаванне зместу па загалоўку не заўсёды можа спраўдзіцца.

У кожным класе праграмай прапануюцца тэмы, па якіх даволі лёгка знайсці цікавы артыкул у любой замежнай газеце. Мне сустрэўся вельмі цікавы матэрыял пра конкурс, які праводзіўся ў Англіі сярод звычайных сем'яў. Мэтай задання было пагрузіць вучняў у атмасферу жыцця XIX ст. Ніякіх тэлевізараў, пыласосаў, камп'ютараў. З шасцікласнікамі мы вывучалі тэму «Абстаноўка ў доме» і для абмеркавання быў прапанаваны гэты тэкст. Добра папрацавалі над лексікай, адказалі на пытанні. Потым вучні атрымалі заданне — паспрабаваць пераканаць суразмоўцу, што вельмі добра, калі дома няма звыклых для нас прадметаў, якія робяць нашае жыццё больш лёгкім і камфортным. Дзеці так актыўна ўключыліся ў гульню, столькі нечаканых аргументаў знайшлі для таго, каб мяне пераканаць у цёмных баках інфармацыйнага грамадства, што я вымушана была «прызнаць сваё паражэнне». Дзеці адчулі сябе пераможцамі, а я радавалася,

* http://studyfun.ru/Слова по теме/СМИ

што яны не баяцца выказваць свае думкі на англійскай мове (моўныя памылкі пры гэтым не ўлічваліся).

### 2.3.3. Медыяадукацыя старшакласнікаў

У параўнанні з пачатковай і сярэдняй школай, вучні старэйшых класаў разумеюць, што інфармацыю трэба адбіраць з улікам дадатковых крытэрыяў: актуальнасць, эфектыўнасць і ўзровень складанасці ў карыстанні. Яны вучацца авалодваць рознымі стратэгіямі пошуку, улічваючы мадэлі інфармацыйных паводзін. Разумеюць, што здольнасць крытычна ацэньваць інфармацыю мае моцны ўплыў на вынік, а таксама ўсведамляюць наступствы некрытычнага падыходу. Вельмі важна на прыкладах паказаць вучням, што пры аналізе палітычных сітуацый пазіцыя аўтара можа мець уплыў на аўдыторыю, такім чынам, уменне крытычна аналізаваць інфармацыю — адно з самых галоўных медыйных уменняў выпускнікоў сучаснай школы.

HubPages » Entertainment and Media

# Funniest Ambiguous Headlines

Updated on August 13, 2012

**Welcome to The World's Funniest Ambiguous Headlines!**

Sometimes words can have more that one meaning, and sometimes this ambiguity can turn the dryest of statements into a hilarious joke....




On this page I have collected together all the humor can possibly find which involves the unintentional consequences of ambiguous language, from the top 20 funny newspaper headlines to the top comedy videos from YouTube.

---

## Death by Chilli

A sign advertising an Indian restaurant proclaimed:
"Try our Curry - you'll never get better."
At least they're honest about it.

---

Асноўны матэрыял, з якім настаўніку прасцей за ўсё працаваць на дасягненне вышэйпералічаных мэт, — гэта друкаваныя і электронныя версіі замежных газет. У сярэдніх класах мы пазнаёмілі вучняў з асноўнай функцыяй загалоўкаў і прыёмамі прыцягнення ўвагі чытача. У старэйшых класах тлумачым, што, прачытаўшы толькі загаловак, часам цяжка спрагназаваць, пра што будзе распавядаць артыкул. Ёсць загалоўкі, па якіх немагчыма прадказаць змест, але тым яны і цікавыя.

Выкарыстоўваецца некалькі варыянтаў працы з загалоўкамі і тэкстам:

**Варыянт 1**

**1)** Чытаем загаловак і прагназуем змест тэксту, адказваем на пытанні:

- Who do you think the person in the picture is?
- What will happen next? Where do you think it is happening?
- Why is the person angry / sad / happy?
- Who is the person mentioned in the heading?
- What part of paper do you think the headline appears in? sport? news?

**2)** Чытаем першы абзац і правяраем правільнасць прагнозаў.

**3)** Абмяркоўваецца некалькі пытанняў аб развіцці падзей у наступных абзацах тэксту, і так да апошняга абзаца.

**4)** Праца з лексікай: прапаноўваем падкрэсліць ці выпісаць словы з тэксту, якія непасрэдна звязаны з загалоўкам ці дапамагаюць перадаць галоўную думку паведамлення. Можна адшукаць словы, якія паказваюць, што гэта факт / меркаванне / дапушчэнне. Разважаем, ці засталася нейтральнай пазіцыя аўтара. Ці ёсць словы — маркеры мовы варожасці, мовы лісліваcці? Знаёмім вучняў з асноўным спісам слоў, што выражаюць меркаванне: *Maybe, Perhaps, Best / Worst, Experts Agree, Successful, Necessary, Apparently, Probably.*

Крытэрыі паспяховасці:

Я магу растлумачыць адрозненне паміж фактам і меркаваннем.

Я магу прывесці свой прыклад факта і меркавання.

*Прыкладны фрагмент урока.*

**Мэта этапу** (запланаваны вынік): праверка разумення адрознення паміж фактамі і меркаваннем.

**Задачы этапу:** прамежкавае падвядзенне вынікаў, зняцце фізічнай стомленасці дзяцей.

| Змест этапу ўрока | | Заўвагі |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| I'll tell you some sentences. If they are facts approach the door, if they are opinion go to the window | Вучні свабодна рухаюцца па класе | Вучні ўспрымаюць інфармацыю на слых |

*Some flowers are larger than others.*

*John F. Kennedy was US President in 1961 — 1963.*

*John F. Kennedy was an excellent President.*

*The adult human body has more bones than necessary.*

*The adult human body has 206 bones.*

*Bridget is a very beautiful young lady.*

*The best way to choose a spouse is based on brain, not beauty.*

У якасці дадатковага задання прапануем адшукаць спасылкі на крыніцу інфармацыі / прыдумаць альтэрнатыўны варыянт загалоўка. Як правіла, вучням такая форма працы вельмі падабаецца (асабліва тым, чыя ідэя была бліжэй да сапраўднага зместу). Другі варыянт — загадзя рыхтуем некалькі загалоўкаў (5—6) і такую ж колькасць тэкстаў да іх. Спачатку прагназуем змест артыкула, потым супастаўляем загаловак з тэкстам. Такім жа чынам арганізуем працу з ілюстрацыямі да тэксту (прагназаванне і супастаўленне з тэкстам).

*Прыклады заданняў да артыкулаў:*

**Sam Mendes: life is sweet**

Арыгінал артыкула: http://www.theguardian.com/culture/2013/apr/19/sam-mendes-life-is-sweet



Match the words with their synonyms :

| | |
|---|---|
| **tricky** | **shocked** |
| **rejecting** | **offensive** |
| **obscurity** | **disappointment** |
| **bafflement** | **darkness** |
| **bemused** | **refusing** |
| **baddie** | **not good** |
| **ticklish** | **difficult** |

1. Explain why the staging was rather difficult?
2. Imagine that you are Sam Mendes. What staff would you invite to stage «Charlie And The Chocolate Factory»?
3. Compare Mendes' version with other ones.

**Miranda Richardson: 'I hate our sneering attitude to success'**

Арыгінал артыкула: http://www.theguardian.com/books/2013/apr/20/miranda-richardson-hate-sneering-attitude.

1. Look at the picture. What can you say about the woman you see in it. Describe her (appearance, character).
2. Match the words with their synonyms :

| | |
|---|---|
| **primed** | **sarcastic** |
| **disdain** | **fear** |
| **murmurs** | **much noise** |
| **hullabaloo** | **disregard** |
| **vitriolic** | **persecuted** |
| **dread** | **gossips** |

3. Read the text. Check your predictions. How successful were you?

4. Imagine you are a film director. What role would you offer Miranda Richardson?

5. Describe her at the interview.

**The 10 best words the internet has given English**

Арыгінал артыкула: **http://www.theguardian.com/books/2013/apr/17/tom-chatfield-top-10-internet-neologisms**.

1. Read the text and explain in what situations you can use these words and expressions?
2. Speak about the origin of any three of them.

Could you invent any new words? (Give some example and reasons for them).

**A mile of meadows goes up in flames**

Арыгінал артыкула: **http://www.theobserver.com/2013/04/a-mile-of-meadows-goes-up-in-flames**.

1. Before reading the text try to describe the pictures.
2. Match the words with their synonyms:

| | |
|---|---|
| **mulch** | **with leaves** |
| **was doused** | **was a problem** |
| **drizzles** | **was put out** |
| **foliage** | **short rains** |
| **was a challenge** | **old straw** |

3. Read the text and explain the reason for the fire.
4. Describe the battle with the fire as if you were in the fire brigade.
5. Make a poster (or a presentation) to prevent such situations.

**Варыянт 2**

**Заданне: скараціць артыкул да чатырох-пяці сказаў.**

Напачатку гэта аказваецца складаным нават вучням старэйшых класаў: не атрымліваецца знайсці галоўную думку (message), распазнаць прычыны і наступствы, але з дапамогай настаўніка яны хутка вучацца. «Вышэйшы пілатаж» — пераказаць (вусна / пісьмова) інфармацыю, але не карыстацца словамі з тэксту.

Абавязкова заахвочваем вучняў на выказванне сваіх адносін да прачытанага пры дапамозе фраз-клішэ: The article surprised me because… I disagree with the writer because… I agree with the view that… I'm not sure about… I'd like to know more about… It's difficult to agree or disagree because… In my opinion…

Для звычайнага пераказу зместу выкарыстоўваем фразы:

*The headline of the article is…*

*It is written by a British (an American) journalist…*

*The article begins with a description of events in…*

*The issue provides much information on…*

*The issue carries numerous articles on foreign (home, sporting) news…*

*The sports column covers the events of the championship…*

*The paper says (writes, reports) that…*

*The paper (article) carries material about…*

*The article reviews the latest events abroad (current events at home)…*

*The article (author) goes on to say that…*

*Then the author speaks about something (reports something) in detail.*

*At the end of the article the author says that…*

*The author draws the conclusion that…*

*From my point of view, the most interesting items (facts) in the article are the following ones: …*

У якасці творчага задання / адукацыйнага праекта можна прапанаваць вучням выдаваць газету на замежнай мове. Знаходзім любую вертыкальную паверхню ў класе (ліст звычайнай фанеры падыдзе ідэальна), мацуем да яе ватман і запаўняем розным матэрыялам: сачыненні па тэме ўрокаў, вершы, малюнкі,

крыжаванкі. Безумоўна, «газетай» гэта можна будзе назваць з цяжкасцю, але першы крок будзе зроблены. Трэба будзе прызначыць адказнага (сочыць за своечасовай зменай і папаўненнем матэрыялу).

У старэйшых класах вучні асвойваюць шэраг кампетэнцый, якія складаюць крытычнае мысленне. Падзеі, што адбываюцца ў свеце, вельмі часта асвятляюцца з розных, нават процілеглых бакоў. Дзе знайсці зерне праўды? Каму верыць? Настаўнік можа прапанаваць параўнаць два артыкулы па адной праблематыцы, знайсці ў кожным з іх аргументы, на якіх аўтары акцэнтуюць увагу. Зрабіць выснову, чые аргументы гучаць больш пераканаўча і чаму. Задача настаўніка ў такім выпадку — паказаць вучням, што існуюць розныя пункты гледжання на адну і тую ж праблему. І каб арыентавацца, трэба ўмець адшукаць праўду, зрабіць правільныя высновы. Трэба найперш навучыцца ацэньваць надзейнасць крыніцы інфармацыі, адшукаць звесткі пра рэпутацыю аўтара.

Вельмі важным з'яўляецца тлумачэнне вучням, што існуюць факты і меркаванні, і навучыць іх адрозніваць першае ад другога. Хутчэй за ўсё настаўнік будзе працаваць у такім выпадку з электроннымі выданнямі англамоўных газет, а заадно і знаёміць вучняў з узорамі якаснай журналістыкі.

### 2.3.4. Карысныя спасылкі на англамоўныя выданні

**The UK**
**www.scotlandonsunday.scotsman.com** — Scotland on Sunday.
**www.guardian.co.uk** — The Guardian.
**www.express.co.uk** — The Daily Express.
**www.theherald.co.uk** — The Herald.
**www.independent.co.uk** — The Independent.
**www.mailonsunday.co.uk** — The Mail on Sunday.
**www.observer.co.uk** — The Observer.
**www.thescotsman.co.uk** — The Scotsman.
**www.spectator.co.uk** — The Spectator.
**www.dailymail.co.uk** — The Daily Mail.
**www.thesun.co.uk** — The Sun.
**www.onlinenewspapers.com/canada.htm** — list of links to Canadian newspapers.
**www.sunday-times.co.uk** — The Sunday Times.
**www.thetimes.co.uk** — The Times.

**Canada**
**www.theglobeandmail.com** — The Globe and Mail.

**The USA**
**www.onlinenewspapers.com/usstate/usatable.htm** — links to the websites of USA newspapers.



**Australia**
**www.onlinenewspapers.com/australi.htm** — links to the websites of major Australian newspapers.
**www.rd.com/** — Reader's digest.

**Першыя старонкі газет:**

**http://kiosko.net/**

**The Guardian** — самая вядомая ліберальная газета Вялікабрытаніі, якая хутка рэагуе на падзеі свету. Вядомасць ёй прынеслі друкарскія памылкі, за якія яе часта высмейвалі. Нават у назве дапускаліся памылкі. Акрамя палітычных навін, газета надае асаблівую ўвагу футбольным навінам, сучасным тэхналогіям, падарожжам, таксама асвятляюцца пытанні эканомікі, культуры, моды, друкуюцца інтэрв'ю з вядомымі людзьмі.

Адной з самых сур'ёзных і вядомых газет сучаснасці лічыцца **The Times**. Цікавы факт: дзякуючы гэтаму выданню з'явіўся шрыфт Times New Roman. Газета асвятляе навіны Вялікабрытаніі і падзеі свету, навіны здароўя, палітыкі, эканомікі, спорту, адукацыі, культуры, навукі і тэхналогіі. Для тых, хто хоча адпачыць, ёсць раздзел DailyLife, які прысвечаны публікацыям пра ежу, падарожжа, псіхалогію, моду. Можна знайсці крыжаванкі і іншыя інтэлектуальныя забавы.

Назва газеты **The Independent** падкрэслівае, што яна абараняе правы чалавека і выступае з крытыкай у адрас таго, хто іх парушае. У газеце прадстаўлены такія раздзелы, як «Палітыка», «Людзі», «Меркаванні», «Жыццё», «Маёмасць», «Мастацтва».

**The Washington Post** — адно з старэйшых амерыканскіх выданняў. Змест газеты ад палітыкі да гумару, на сайце газеты можна знайсці і відэанавіны: **www.washingtonpost.com/posttv**, што будзе вельмі карысна для ўдасканалення навыкаў разумення замежнай мовы на слых. Можна знайсці таксама цікавыя коміксы **www.washingtonpost.com/entertainment/comics/?hpid=z16**, разгадаць крыжаванкі **games.washingtonpost.com/games/daily-crossword?hpid=z16** і судоку **games.washingtonpost.com/games/sudoku**, пагуляць у манджонг **games.washingtonpost.com/games/mahjongg-dimensions**.

Выданне **The positive news** (**positivenews.org.uk**) — маладая брытанская газета, з'явілася ў 1993 г., друкуе толькі пазітыўныя навіны: невялікія артыкулы рознай тэматыкі: мастацтва, культура, падарожжа, ежа, грамадства, навакольнае асяроддзе, навука, здароўе (па тэматыцы поўнае супадзенне з праграмай старэйшых класаў па замежнай мове). Яе дэвіз — «Натхняць і змяняцца да лепшага».

Безумоўна, у старэйшых класах мы надаём вялікае значэнне разуменню вуснай мовы. Ёсць цудоўныя сайты, якія дапамагаюць настаўніку ў гэтай нялёгкай справе. Яны арыентаваны на розныя ўзроўні валодання мовай, некаторыя з іх маюць дадатковы тэкст і нават распрацаваныя заданні.

**Newsinlevels.com** — на гэтым сайце кожная навіна прадстаўлена ў трох варыянтах (для слухачоў з розным узроўнем валодання мовай). Кожны матэрыял суправаджаюць тэксты адпаведнага ўзроўню. Да тэкстаў пачатковага і сярэдняга ўзроўняў дадаецца аўдыязапіс, да вышэйшага — відэаролік. Для кожнага тэксту падрыхтаваны спіс незнаёмых слоў. У навінах лексіка паўтараецца, таму, калі кожны дзень праглядаць тры хвіліны відэанавін, можна пашырыць свой актыўны слоўнікавы запас. Перавагай можна лічыць тое, што навіны чытаюць носьбіты мовы, ёсць розніца ў тэмпе чытання для розных узроўняў.

Карысны сайт з навінамі — **BBC.co.uk**. У пачатку роліка прадстаўляюцца незнаёмыя словы, потым дэманструецца навіна з субцітрамі, у якіх незнаёмыя словы вылучаны. Гэта дазваляе вучыць новыя словы ў кантэксце, пры гэтым яны хутчэй запамінаюцца. Пасля прагляду прапануецца практыкаванне на праверку разумення, а ніжэй даюцца правільныя адказы. На сайце **English-club.tv** формы працы з навінамі аналагічныя.

Калі ёсць неабходнасць параўнаць брытанскі і амерыканскі варыянты англійскай мовы, дапаможа сайт **Lernenglish.voanews.com** — прадстаўлены і аўдыя- і відэаролікі да навін. Калі цяжка ўспрымаць на слых, дапамагаюць субцітры.

Для вучняў з высокім узроўнем валодання мовай ідэальным будзе сайт **Euronews.com**. Тут асвятляюцца самыя апошнія навіны свету без адаптацыі. Можна пачуць розныя акцэнты, мову дзяцей і старых. Бывае вельмі карысна і цікава даведацца, як каментуюцца галоўныя падзеі нашай краіны замежнымі СМІ. Калі цяжка ўсё адразу зразумець, можна скарыстацца субцітрамі.

Сучасныя брытанскія падручнікі апошнім часам будуюць камунікатыўныя практыкаванні на вытрымках з брытанскіх артыкулаў. Вось дзе неабсяжнае поле для ўсіх відаў моўнай дзейнасці: чытання, разумення мовы на слых, пісьма і маўлення! Цудоўнай дапамогай для настаўніка з’яўляюцца комплексы Speak-out, Cuttingedge, Spark і інш. Якую ні вазьмі камунікатыўную сітуацыю, па кожнай ёсць ці то ўрывак з артыкула, ці то вытрымка з сацыяльных медыя, ці інтэрв’ю.

Цікавае заданне ёсць у падручніку Speak-outUpperIntermediate: прыводзяцца загалоўкі, і да іх трэба акрэсліць праблемнае поле.



**Fakebook** — ідэя, якая была запазычана ў шведскіх калег. Прапануем вучням стварыць старонку вядомай асобы: гэта могуць быць вучоныя, мастакі, кампазітары, пісьменнікі. Не забываемся на нашых айчынных знакамітасцей! Уяўляем, які статус размесціць сабе гэты чалавек (напрыклад, Максім Багдановіч), хто будзе яго «сябрам», якія посты ён будзе пісаць.

З вучнямі мы праектавалі старонку Уршулі Радзівіл. Знайшлі, хто жыў разам з ёю ў адну гістарычную эпоху. Гэта былі Джордж Вашынгтон, Адам Сміт, Іаган Себасцьян Бах, Жан-Жак Русо. Пафантазіравалі над магчымымі перапіскамі. Прапановы былі такія: з Бахам Уршуля абмяркоўвае музычнае афармленне, Русо дапамагае маркетынгавы парадамі, Адам Сміт і Дж. Вашынгтон арганізоўваюць сусветны тур для тэатра. У якасці статуса «на сцяне» прапанавалі «Увесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры». Цікава было назіраць за творчым працэсам стварэння такой старонкі.

У якасці творчага задання можна прапанаваць складанне аб'явы аб продажы дома ці кватэры (тэма «Віды жылля», X клас), стварэнне рэкламы фільма, карціны, гаджэта. Па тэме «Адукацыя» можна прапанаваць некалькі выпускаў тэматычнага бюлетэня «Адзін дзень з жыцця маёй школы / аднакласнікаў», які будзе складацца з кароткіх нататак пра школу і настаўнікаў, нечаканых фотаздымкаў, інтэрв'ю з дырэктарам ці педагогамі; абмеркаванне школьнай навіны і погляд на яе з боку вучняў і настаўнікаў / дырэктара. Па тэме «Праблемы моладзі» можна прапанаваць вучням пашукаць інфармацыю ў розных СМІ, зрабіць кампіляцыю і напісаць аналітычны артыкул-разважанне па гэтай тэме. Падаецца цікавай ідэя стварэння калажу на тэму «Мабільны тэлефон — вораг ці сябар?». Дарэчы, па гэтай жа тэме можна правесці ўрок-дыскусію.

Некалькі гадоў запар практыкую ў якасці моўнай зарадкі і ўвядзення ў камунікатыўную сітуацыю кароткі агляд найбольш значных для вучняў старэйшых класаў навін, якія адбыліся ў свеце, нашай краіне ці ў школе. Паведамленне гучыць як анонс навіны (максімальна 2 сказы, у ідэале — 1). Калі ўсе анонсы агучаны, некаторыя з іх могуць зацікавіць і патрабуюць дадатковых пытанняў.

Карысныя ідэі, тэарэтычны і практычны матэрыял, які зацікавіць настаўнікаў, можна знайсці па спасылках:

**www.mediamanual.at/en/media.php** — тэарэтычны матэрыял па медыяадукацыі;

**www.mashable.com/2010/09/29/social-media-in-school** — тэарэтычны і практычны матэрыял па медыяадукацыі для сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў;

**www.learning.blogs.nytimes.com/?_r=0** — заданні, распрацаваныя на аснове сучасных падзей (відэа- і аўдыянавіны);

**www.mediasmarts.ca/teacher-resources/find-lesson** — распрацоўкі ўрокаў па медыяадукацыі (з вызначанымі мэтамі);

**www.mediasmarts.ca/teacher-resources, mediaed.org.uk** — відэарэсурсы і фільмы;

**www.washingtonpost.com/posttv** — відэанавіны;

**www.games.washingtonpost.com/games/daily-crossword?hpid=z16** — крыжаванкі;

**www.games.washingtonpost.com/games/sudoku/** — судоку.

Існуе безліч магчымасцей зацікавіць вучняў замежнай мовай, навучыць іх крытычна ставіцца да інфармацыі і матываваць на пошук новай. Давайце самі будзем цікаўнымі і творчымі, а наша энергія абавязкова перадасца дзецям.

### 2.3.5. Прыклад урока медыяадукацыйнай накіраванасці

**Types of Media**

**Мэта:** плануецца, што ў канцы ўрока вучні будуць ведаць віды СМІ і змогуць адрозніць факт ад меркавання ў артыкуле.

**Задачы:** фарміраваць спецыяльныя веды па тэме ўрока; актывізаваць і ўдасканальваць навыкі маўлення; развіваць уменні крытычнага мыслення; спрыяць авалодванню асноўнымі формамі разумовай дзейнасці (параўнанне, аналіз, прагназаванне, абагульненне); вучыць апаніраваць і рэцэнзаваць.

**НаШтоБуЗу:**

Я буду ведаць не менш чым 5 сродкаў масавай інфармацыі.

Я магу растлумачыць адрозненне паміж фактам і меркаваннем.

Я магу прывесці свой прыклад факта і меркавання.

**Ключавое пытанне:** Наша школа — найлепшая ў горадзе. Гэта факт ці меркаванне?

**Абсталяванне:** дошка, мультымедыйны праектар з камп'ютарам, раздрукаваныя табліцы з тэкстам, палоскі паперы для лёсавання.

**I. Арганізацыйна-матывацыйны этап**

- ***«Пагружэнне» ў іншамоўную камунікатыўную сітуацыю*** *(2 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): стварэнне станоўчай матывацыі да пазнавальнай дзейнасці.

*Задачы этапу:* стварэнне атмасферы іншамоўнай камунікацыі і настрой на сітуацыю поспеху.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Вітае вучняў:<br>Good morning, friends!<br>I'm glad to see you.<br>How are you?<br>Ask how your friend is | Вітаюць настаўніка:<br>Good morning!<br>I'm glad to see you!<br>P1. I'm fine, thank you.<br>P2. I'm OK, thank you.<br>And how are you? | |

**II. Мэтавызначэнне** (4 хв.)

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): актуалізацыя суб'ектнага вопыту вучняў.

*Задачы этапу:* вызначэнне мэты ўрока і крытэрыяў поспеху.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Without thinking a lot answer the following questions:<br>What can't you (your parents) imagine your life without? What do you (your parents) usually do in your (their) spare time? What is the most popular answer? | Хутчэй за ўсё, вучні адкажуць: searching the net, chatting with friends in social sites, playing on-line games, reading news. | Вучні па чарзе адказваюць (1—2 словы). |

| | | |
|---|---|---|
| So, what do you think it is important to know to feel safe and sure in the world of information? What should we learn about it? Is the statement «Our school is the best in our town» a fact or an opinion? | Вучні фармулююць мэты ўрока: to learn about the main types of Media; to know the difference between a fact and an opinion | Настаўнік схематычна запісвае мэты на дошцы ў выглядзе НаШтоБуЗу (дадае «прывесці свой прыклад факта і меркавання» |

**III. Асноўная частка**

- ***Інфармацыйна-дзейнасны этап*** *(6 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): вызначэнне асноўных відаў СМІ.

*Задачы этапу:* навучанне ўспрыманню і разуменню мовы на слых.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Настаўнік прапануе вучням прагледзець відэаролік і знайсці адказы на пытанні (запісаны на дошцы) | Адказваюць на пытанні пасля прагляду: What forms of the Media are mentioned in this video? What is the oldest form of the Media? Can you prove that the Media surrounds us everywhere? How much media do you see or watch every day? | https://youtu.be/X8Vu90vnFeU<br><br>Апытанне праводзіцца метадам «лёсавання» |

- ***Актывізацыя ўласнага вопыту*** *(7 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): вызначэнне асабіста найбольш важных відаў СМІ для кожнага вучня.

*Задачы этапу:* навучанне крытычнаму мысленню, уменню аб'ектыўна ставіцца да сябе.

| Змест этапу ўрока | | Заўвагі |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| How much time do you spend on different types of media a day? Fill in this table | Запаўняюць табліцу і дапаўняюць сказы | Табліца і тэкст падрыхтаваны для кожнага вучня. Метадам «лёсавання» заслухоўваюцца адказы 2—3 вучняў |

**Your Media Chart**

| Type of Media | Hours Seen or Heard |
|---|---|
| **Television** | |
| **Radio** | |
| **Internet** | |
| **Videogames** | |
| **Books** | |
| **Magazines** | |
| **Newspapers** | |
| **Others** | |

Media tells us to buy one brand of shoes. It tells us to eat one type of ice-cream. It even lets us know that if we use some tools we will be happier.

The people who make media know that it has power. They see that if they put a fluffy kitten in an ad of milk we will want to buy a carton. They know that if a popular singer wears one kind of shirt we will want to wear it too.

Direction: Look at your chart. What is your favourite form of media? Write it in this space:______________________________________________

Your favourite form of media makes you feel good. A girl who loves music is happy when she listens to her favourite radio. A boy who loves comic books is happy to buy a new series.

How does your favourite form of media make you happy? Describe your feelings in one or two sentences. My favourite form of media makes me:

_________________________________________________________________

- ***Інфармацыйна-дзейнасны этап*** *(11 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): разуменне адрознення паміж фактам і меркаваннем.

*Задачы этапу:* навучанне чытанню з пошукам асноўнай думкі зместу.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| All information can be a fact or an opinion. Let's try to distinguish between them. You have some texts with the necessary information. Work in pairs doing the following tasks | Вучні ў парах працуюць над тэкстам і шукаюць адказы на пытанні | |

1. Give definitions to the words «fact» and «opinion».
2. Give some examples of a fact and an opinion from the lesson material.
3. Find facts and opinions in the text about Abraham Lincoln.
4. Think about your own examples.

**Differentiate Between Fact and Opinion.**

Sometimes information is presented as a fact when it may be an opinion. When scientific conclusions are reported, it is important to recognize whether they are based on solid evidence. Again, you may find it helpful to ask yourself some questions.

**1. What is the difference between a fact and an opinion?**

A **fact** is a piece of information that can be strictly defined and proved true. An **opinion** is a statement that expresses a belief, value, or feeling. An opinion cannot be proved true or false. For example, a person's age is a fact, but if someone is asked how old they feel, it is impossible to prove the person's answer to be true or false.

**2. Can opinions be measured?**

Yes, opinions can be measured. In fact, surveys often ask for people's opinions on a topic. But there is no way to know whether or not an opinion is the truth.

**HOW TO DIFFERENTIATE FACT FROM OPINION**

**Human Activities and the Environment.**

Unfortunately, human use of fossil fuels is one of the most significant developments of the past few centuries. Humans rely on fossil fuels, a nonrenewable energy resource, for more than 90 percent of their energy needs.

This careless misuse of our planet's resources has resulted in pollution, global warming, and the destruction of fragile ecosystems. For example, oil pipelines carry more than one million barrels of oil each day across tundra regions. Transporting oil across such areas can only result in oil spills that poison the land for decades.

Opinions.

Notice words or phrases that express beliefs or feelings. The words unfortunately and careless show that opinions are being expressed.

Facts.

Statements that contain statistics tend to be facts. Writers often use facts to support their opinions.

***There are Certain Words that will Warn You that You are Being Given an Opinion and Not a Fact!***

Perhaps, Best / Worst, Experts Agree, Successful, Necessary, Apparently, Maybe? Probably.

**Examples of facts and opinions are:**

**Fact.**

1. Dogs have fur.
2. One Direction is a band.

3. The last day of school is May 31st.

**Opinion.**

1. Dog fur is pretty.
2. One Direction sings great songs.
3. May 31st is the best day of the year.

Abraham Lincoln was the 16th president of the United States. He grew up in a log cabin in the state of Kentucky. He is the president responsible for the Emancipation Proclamation, the document abolishing slavery. He gave many speeches as president, and was the most eloquent president. He was assassinated on April 15, 1865.

- ***Прамежкавы кантроль засваення матэрыялу, рухальная рэлаксацыя*** *(5 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): праверка разумення адрознення паміж фактамі і меркаваннем.

*Задачы этапу:* прамежкавае падвядзенне вынікаў, зняцце фізічнай стомленасці.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Listen to my statements. If they are facts, approach the door, if they are opinion, go to the window | Вучні свабодна рухаюцца па класе | Вучні ўспрымаюць інфармацыю на слых |

Some flowers are larger than others.

John F. Kennedy was the US President in 1961—1963.

John F. Kennedy was an excellent President.

The adult human body has more bones than necessary.

The adult human body has 206 bones.

Bridgett is a very beautiful young lady.

The best way to choose a spouse is based on brains, not beauty.

The car probably stopped running because it ran out of gas.



The Learning Center is in the Educational Services Building.

If I were to go on to receive my Bachelors, I would not be successful.

There are 121 prescription drugs that come from plants.

- ***Складанне ўласных прыкладаў*** *(6 хв.).*

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): усведамленне адрознення паміж фактамі і меркаваннем.

*Задачы этапу:* прымяненне ведаў на практыцы.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Give at least 5 examples of facts and opinions | Вучні складаюць індывідуальныя прыклады, абменьваюцца імі з суседам па парце і вусна каментуюць (факт / меркаванне) | |

**IV. Рэфлексія. Падвядзенне вынікаў урока** (4 хв.)

*Мэта этапу* (запланаваны вынік): усведамленне значнасці атрыманых ведаў

*Задачы этапу*: ацэнка эфектыўнасці дзейнасці на ўроку.

| **Змест этапу ўрока** | | **Заўвагі** |
|---|---|---|
| **Дзейнасць настаўніка** | **Дзейнасць вучняў** | |
| Is it easy or difficult to distinguish between a fact and an opinion?<br><br>Can you answer the key-question of our lesson now? Our school is the best in our town, is it a fact or an opinion?<br><br>Your home task is to prove your answer (Why do you think that it's a fact or an opinion?) | Вучні выказваюць меркаванні | |

| | | |
|---|---|---|
| Additional task (or homework): check your knowledge with the help of this test: **http://www.econedlink.org/interactives/multiple-choice/index.php?lid=647&gid=1**. Good-bye and good luck! | | |



**Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў замежных моваў**

Раздзел «Замежныя мовы»:
**http://www.nastaunik.info/workshop/foreign**

*Наталля Ільініч, Алена Палейка*

# 2.4. Рэкамендацыі па фарміраванні медыйнай граматнасці вучняў на ўроках гісторыі і грамадазнаўства

## 2.4.1. Медыйны патэнцыял праграм па гісторыі і грамадазнаўстве

Вучэбныя прадметы «Гісторыя Беларусі», «Сусветная гісторыя» і «Грамадазнаўства» маюць вялікі патэнцыял для медыяадукацыі, таму што гісторыя чалавецтва — «медыязаваная», а наша грамадства ўступіла ў інфармацыйную эру. Засяродзімся на спецыфіцы зместу школьнай гісторыка-грамадазнаўчай адукацыі як сродку фарміравання медыя-інфармацыйных кампетэнцый навучэнцаў і адпаведных медыятэкстаў (прэзентацыя рэалізацыі медыяадукацыйнага падыходу ў выкладанні гісторыі і грамадазнаўства ў школе*).

У школе існуюць рэальныя магчымасці для фарміравання і развіцця медыя-інфармацыйных кампетэнцый усіх удзельнікаў адукацыйнага працэсу. Сярод задач гістарычнай адукацыі ў вучэбных праграмах па гісторыі для V—XI класаў стаіць задача «авалоданне вучнямі спосабамі пошуку, збору і выкарыстання сацыяльна-гістарычнай інфармацыі, атрымання новых ведаў»**, у якасці медыя-інфармацыйных складнікаў у дзейным стандарце, канцэпцыі і праграме вучэбнага прадмета «Грамадазнаўства» можна вылучыць:

- стварэнне ўмоў для гарманізацыі духоўнага і сацыяльнага развіцця асобы, здольнай самастойна арыентавацца ў самай разнароднай *інфармацыі*, складаных працэсах грамадскага жыцця;
- практычная скіраванасць грамадазнаўчай адукацыі рэалізуецца праз засваенне ведаў, уменняў і навыкаў, якія дапамагаюць выпускніку школы быць кампетэнтным у *сферы масавай камунікацыі (знаходзіць, крытычна ўспрымаць і выкарыстоўваць інфармацыю, якая перадаецца па каналах СМІ)*;
- вучні здолеюць ажыццяўляць *пошук сацыяльна-гуманітарнай інфармацыі ў розных крыніцах, аналізаваць і інтэрпрэтаваць яе; ацэньваць розныя меркаванні* пра сацыяльныя з’явы і працэсы; *фармуляваць і аргументаваць уласныя меркаванні* па вызначаных сацыяльных праблемах;
- выкладанне вучэбнага прадмета «Грамадазнаўства» прадугледжвае шырокае выкарыстанне *аўдыявізуальных і электронных сродкаў навучання* на ўсіх этапах арганізацыі вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў.

* https://docs.google.com/presentation/d/1Ry-iWli_3FfnaTKFgrEiB9Fj70BmFwGX54P2fj-1A0E/present?pli=1&ueb=true&slide=id.p.

** Праграмы па прадметах Гісторыя Беларусі, Сусветная гісторыя, Грамадазнаўства на Нацыянальным адукацыйным партале: http://adu.by/?p=6676.

На кожным уроку гісторыі і грамадазнаўства мы можам аналізаваць розныя крыніцы інфармацыі: гістарычныя дакументы, тэкст падручніка, змест газетнага артыкула, тэленавіну, відэаролік, фільм, карціну, плакат і да т. п. — знайсці галоўную думку, крытычна ацаніць, параўнаць, зрабіць вывады. Фактычна ў гэтым і заключаецца сэнс медыяадукацыі. «Мы заўсёды так рабілі», — скажуць калегі, настаўнікі гісторыі. Што ж тады змянілася ў нашай працы ў сувязі з выклікамі інфармацыйнага грамадства? Шведскі медыяпедагог Ёран Андэрсан так адказаў на гэта пытанне: «Яшчэ 20 гадоў таму я стаяў перад вучнямі і настаўнікамі і вучыў іх чытаць газеты, цяпер жа я вучу іх таму, як крытычна ставіцца да той інфармацыі, што ёсць у мабільных сродках. Раней захоўваў для працы сотні выразак з газет, а сёння іх мне замяніў інтэрнэт. Медыяландшафт моцна змяніўся. Інфармацыя паступае да моладзі з тысяч розных крыніц, і калі мяне папрасілі б вызначыць галоўны пункт медыяадукацыі, то я сказаў бы, што гэта *уменне крытычна ставіцца да таго, што ты чытаеш…*»*.

Сістэматычнае выкарыстанне медыятэкстаў (стварэнне ўласных медыяпрадуктаў) падчас навучання гісторыі і грамадазнаўству спрыяюць: павышэнню цікавасці вучняў да гістарычных падзей і сучасных тэндэнцый развіцця грамадства, успрыманню гісторыі ў кантэксце, асэнсаванню плюралізму думак, поглядаў і інтэрпрэтацый, развіццю крытычнага мыслення і разумення медыяманіпуляцый, станаўленню грамадзянскай культуры асобы.

### 2.4.2. Дэкадаванне вучнямі медыятэкстаў у працэсе выкладання гісторыі і грамадазнаўства

Нагадаем, што *медыятэксты* — прадукты медыя. Кожны медыятэкст створаны адмыслова для перадачы *мэсыджу*. Кожны мэсыдж ствараецца чалавекам / групай для дасягнення пэўнай мэты і ўтрымлівае пункт гледжання або сістэму каштоўнасцяў, выкарыстоўваецца для атрымання кантролю над думкамі, рашэннямі, выбарам медыяспажыўца. Каб вылучыць і зразумець пасыл — трэба зрабіць *дэканструкцыю*, або *дэкадаванне,* медыятэксту. Працуючы з медыятэкстамі, трэба найперш ведаць сродкі, якімі карыстаюцца сучасныя медыя, каб аказваць уплыў на людзей: *маніпуляцыя, прапаганда, стэрэатып, фэйк*.

Дэкадаванне рэкламы, фільма, газетнага артыкула, фота, плаката, гістарычнага дакумента, тэксту школьнага падручніка, літаратурнага твора адбываецца з дапамогай набору спецыяльных пытанняў:

- Хто напісаў / зняў / зрабіў гэта? Хто за гэта заплаціў?
- Для каго гэта напісана / знята / зроблена?
- Якія прыёмы выкарыстаны, каб перадаць інфармацыю?

* Нікалаева, Н. Як прайшоў дзень у… інтэрнэце? / Н. Нікалаева // Звязда. — 17 студз. — 2015.

- Якія ідэі, каштоўнасці, пункты гледжання даносяцца?
- Што важнае засталося па-за паведамленнем?
- Калі, дзе і як гэты медыятэкст выйшаў?
- Гэта факт, пункт гледжання ці нешта іншае?
- Ці можна давяраць гэтай крыніцы?
- Як розныя людзі гэта могуць інтэрпрэтаваць?
- Хто выйграе, а каму зашкодзіць гэты мэсыдж?
- Якая мая інтэрпрэтацыя гэтага мэсыджу?
- Якія мае дзеянні ў адказ на гэты мэсыдж?

Вучні могуць выконваць дэкадаванне індывідуальна ў пісьмовай форме, але калектыўнае прачытанне значна эфектыўней. Такая калектыўная дзейнасць — магутны спосаб развіваць спектр навыкаў крытычнага мыслення адначасова з выкладаннем базавага зместу.

**Суадносіны медыя і грамадства: ці з'яўляецца свабода выказвання перадумовай дэмакратыі?**

Дэмакратыя і развіццё грамадства немагчымыя без свабодных медыя і медыяграматных грамадзян. З дапамогай медыя фарміруецца пачуццё прыналежнасці да супольнасці, нацыі. Медыя спрыяюць празрыстасці грамадскага жыцця, кантралююць уладу, з'яўляюцца гарантам свабодных і сумленных выбараў.

У арт. 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека сказана: «Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае іх выражэнне; гэта права ўключае свабоду беспераШкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў»*.

Мы вывучаем на ўроках грамадазнаўства пытанні правоў чалавека, дэмакратыі як палітычнага рэжыму, прававой дзяржавы і грамадзянскай супольнасці. Каб зразумець, што свабода не роўная ўсёдазволенасці і звязаная з вялікай адказнасцю аўтараў медыятэкстаў за свае словы і ўчынкі, прапануем выканаць практыкаванні.

**Практыкаванне 1. «Этыка медыя»**

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць, што прытрымлівацца этычных правілаў неабходна не толькі журналістам, але і кожнаму карыстальніку і стваральніку медыякантэнту.

**Інструкцыя.**

1. Зайдзіце на сайт Беларускай асацыяцыі журналістаў*, прачытайце Дэкларацыю прынцыпаў прафесійнай этыкі журналіста.
2. Паводле Дэкларацыі складзіце памятку «10 правілаў стварэння медыятэкстаў».
3. Прааналізуйце з дапамогай памяткі і параўнайце некалькі медыятэкстаў пра падзею, якая выклікала вялікі грамадскі рэзананс. Ці ўсе правілы этыкі выконваюцца? Чаму?
4. Стварыце ўласны медыятэкст (пост у сацыяльнай сетцы, артыкул для школьнай газеты ці інш.) пра названую падзею. Ці цяжка вам было прытрымлівацца этычных правілаў? Ці хацелі б вы, каб аўтары прытрымліваліся нормаў этыкі заўсёды? Чаму?

Паўнавартасна рэалізаваць свае правы можа толькі медыяпісьменны чалавек. Названыя медыя-інфармацыйныя кампетэнцыі дапамагаюць чалавеку прымаць разумныя і своечасовыя рашэнні, што тычацца самога чалавека, яго сям'і, здароўя, дабрабыту, адукацыі, грамадзянскай пазіцыі, і быць паспяховым у жыцці. Для разумення важнасці існавання свабодных медыя і іх ролі ў жыцці грамадства асабліва эфектыўнай на ўроках грамадазнаўства з'яўляецца праца з рэйтынгамі, якія публікуюць медыя.

**Практыкаванне 2. «Аналізуем рэйтынгі»**

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць узаемасувязь паняццяў «свабодныя медыя» і «дэмакратыя» і здолеюць абгрунтаваць іх узаемазалежнасць.

**Інструкцыя:**

1. Зайдзіце на сайт Transparency International і вывучыце мапу «Індэкс успрымання карупцыі ў краінах свету»**, вылучыце пяцёрку сусветных лідараў і аўтсайдараў, знайдзіце месца нашай краіны ў гэтым рэйтынгу. Якія краіны з'яўляюцца нашымі суседзямі па рэйтынгу? Гэты вынік чаканы / нечаканы для вас асабіста? Чаму?

---

* http://old.baj.by/be/node/133.

** **http://www.transparency.org/cpi2015**.

2. Зайдзіце на сайт «Рэпарцёры без межаў»* і вывучыце мапу «Індэкс свабоды прэсы»: вылучыце пяцёрку сусветных лідараў і аўтсайдараў, знайдзіце месца нашай краіны ў гэтым рэйтынгу. Якія краіны з'яўляюцца нашымі суседзямі ў гэтым рэйтынгу? Гэты вынік чаканы / нечаканы для вас асабіста? Чаму?

3. Складзіце табліцу і параўнайце вынікі двух рэйтынгаў.

4. Адкажыце на наступныя пытанні:

   Ці можна ўстанавіць залежнасць узроўню карупцыі ад свабоды медыя? Ці можна звязаць гэтыя пазіцыі з узроўнем медыйнай і інфармацыйнай пісьменнасці грамадзян? Абгрунтуйце свой пункт гледжання.

5. Знайдзіце і параўнайце загалоўкі розных медыяпаведамленняў, у якіх публікуюцца вынікі рэйтынгу. Складзіце спіс медыя, якія апублікавалі / не апублікавалі рэйтынг. Як месца краіны ў рэйтынгу падаецца ў розных медыя? Ці ёсць спасылкі на сайт-першакрыніцу? Чаму?

**Ці спрыяе медыяадукацыя станаўленню актыўнай грамадзянскай пазіцыі асобы і сацыяльнага актывізму?**

Крытычнае мысленне грунтуецца на матываваным разглядзе інфармацыі, яе ацэнцы праз задаванне пытанняў, уліку розных пунктаў гледжання і праяўляецца ў адказнай сацыяльнай актыўнасці. Гэта тлумачыцца тым, што адно з галоўных медыяадукацыйных пытанняў: што я магу зрабіць у адказ на гэта медыяпаведамленне? Вельмі важна, каб, пабачыўшы вялікія магчымасці медыя маніпуляваць свядомасцю, вучні не расчараваліся і не сталі цынікамі, а актыўна і адказна самарэалізоўваліся, у тым ліку праз медыя.

Вялікую ролю ў практычнай медыяадукацыі адыгрываюць сацыяльныя медыя як інструмент для дыялогу і самаарганізацыі грамадства. Ёсць розныя погляды на т. зв. «лічбавы актывізм»: адны разглядаюць сацыяльныя медыя як інструменты дэмакратызацыі, другія — бачаць у іх у найлепшым выпадку аддушыну, а ў горшым — інструмент кантролю і рэпрэсій з боку ўладаў і карпарацый. Адно несумненна: сацыяльныя медыя — неад'емная частка жыцця большасці насельніцтва і «месца перасячэння інтарэсаў розных бакоў: карпарацый і ўрадаў, звычайных карыстальнікаў і актывістаў»**.

* https://rsf.org/en/ranking.

** Гербаўда, П. Лічбавы актывізм і новая культура пратэсту: http://budzma.by/event/lyekcyya-lichbavy-aktyvizm-i-novaya-kultura-pratestu.

TRANSPARENCY INTERNATIONAL
the global coalition against corruption

# CORRUPTION PERCEPTIONS INDEX 2015

The perceived levels of public sector corruption in 168 countries/territories around the world.




| RANK | COUNTRY/TERRITORY | SCORE |
|---|---|---|
| 1 | Denmark | 91 |
| 2 | Finland | 90 |
| 3 | Sweden | 89 |
| 4 | New Zealand | 88 |
| 5 | Netherlands | 87 |
| 5 | Norway | 87 |
| 7 | Switzerland | 86 |
| 8 | Singapore | 85 |
| 9 | Canada | 83 |
| 10 | Germany | 81 |
| 10 | Luxembourg | 81 |
| 10 | United Kingdom | 81 |
| 13 | Australia | 79 |
| 13 | Iceland | 79 |
| 15 | Belgium | 77 |
| 16 | Austria | 76 |
| 16 | United States | 76 |
| 18 | Hong Kong | 75 |
| 18 | Ireland | 75 |
| 18 | Japan | 75 |
| 21 | Uruguay | 74 |
| 22 | Qatar | 71 |
| 23 | Chile | 70 |
| 23 | Estonia | 70 |
| 23 | France | 70 |
| 23 | United Arab Emirates | 70 |
| 27 | Bhutan | 65 |
| 28 | Botswana | 63 |
| 28 | Portugal | 63 |
| 30 | Poland | 62 |
| 30 | Taiwan | 62 |
| 32 | Cyprus | 61 |
| 32 | Israel | 61 |
| 32 | Lithuania | 61 |
| 35 | Slovenia | 60 |
| 36 | Spain | 58 |
| 37 | Czech Republic | 56 |
| 37 | Korea (South) | 56 |
| 37 | Malta | 56 |
| 40 | Cape Verde | 55 |
| 40 | Costa Rica | 55 |
| 40 | Latvia | 55 |
| 40 | Seychelles | 55 |
| 44 | Rwanda | 54 |
| 45 | Jordan | 53 |
| 45 | Mauritius | 53 |
| 45 | Namibia | 53 |
| 48 | Georgia | 52 |
| 48 | Saudi Arabia | 52 |
| 50 | Bahrain | 51 |
| 50 | Croatia | 51 |
| 50 | Hungary | 51 |
| 50 | Slovakia | 51 |
| 54 | Malaysia | 50 |
| 55 | Kuwait | 49 |
| 56 | Cuba | 47 |
| 56 | Ghana | 47 |
| 58 | Greece | 46 |
| 58 | Romania | 46 |
| 60 | Oman | 45 |
| 61 | Italy | 44 |
| 61 | Lesotho | 44 |
| 61 | Montenegro | 44 |
| 61 | Senegal | 44 |
| 61 | South Africa | 44 |
| 66 | Sao Tome and Principe | 42 |
| 66 | The FYR of Macedonia | 42 |
| 66 | Turkey | 42 |
| 69 | Bulgaria | 41 |
| 69 | Jamaica | 41 |
| 71 | Serbia | 40 |
| 72 | El Salvador | 39 |
| 72 | Mongolia | 39 |
| 72 | Panama | 39 |
| 72 | Trinidad and Tobago | 39 |
| 76 | Bosnia and Herzegovina | 38 |
| 76 | Brazil | 38 |
| 76 | Burkina Faso | 38 |
| 76 | India | 38 |
| 76 | Thailand | 38 |
| 76 | Tunisia | 38 |
| 76 | Zambia | 38 |
| 83 | Benin | 37 |
| 83 | China | 37 |
| 83 | Colombia | 37 |
| 83 | Liberia | 37 |
| 83 | Sri Lanka | 37 |
| 88 | Albania | 36 |
| 88 | Algeria | 36 |
| 88 | Egypt | 36 |
| 88 | Indonesia | 36 |
| 88 | Morocco | 36 |
| 88 | Peru | 36 |
| 88 | Suriname | 36 |
| 95 | Armenia | 35 |
| 95 | Mali | 35 |
| 95 | Mexico | 35 |
| 95 | Philippines | 35 |
| 99 | Bolivia | 34 |
| 99 | Djibouti | 34 |
| 99 | Gabon | 34 |
| 99 | Niger | 34 |
| 103 | Dominican Republic | 33 |
| 103 | Ethiopia | 33 |
| 103 | Kosovo | 33 |
| 103 | Moldova | 33 |
| 107 | Argentina | 32 |
| 107 | Belarus | 32 |
| 107 | Côte d'Ivoire | 32 |
| 107 | Ecuador | 32 |
| 107 | Togo | 32 |
| 112 | Honduras | 31 |
| 112 | Malawi | 31 |
| 112 | Mauritania | 31 |
| 112 | Mozambique | 31 |
| 112 | Vietnam | 31 |
| 117 | Pakistan | 30 |
| 117 | Tanzania | 30 |
| 119 | Azerbaijan | 29 |
| 119 | Guyana | 29 |
| 119 | Russia | 29 |
| 119 | Sierra Leone | 29 |
| 123 | Gambia | 28 |
| 123 | Guatemala | 28 |
| 123 | Kazakhstan | 28 |
| 123 | Kyrgyzstan | 28 |
| 123 | Lebanon | 28 |
| 123 | Madagascar | 28 |
| 123 | Timor-Leste | 28 |
| 130 | Cameroon | 27 |
| 130 | Iran | 27 |
| 130 | Nepal | 27 |
| 130 | Nicaragua | 27 |
| 130 | Paraguay | 27 |
| 130 | Ukraine | 27 |
| 136 | Comoros | 26 |
| 136 | Nigeria | 26 |
| 136 | Tajikistan | 26 |
| 139 | Bangladesh | 25 |
| 139 | Guinea | 25 |
| 139 | Kenya | 25 |
| 139 | Laos | 25 |
| 139 | Papua New Guinea | 25 |
| 139 | Uganda | 25 |
| 145 | Central African Republic | 24 |
| 146 | Congo Republic | 23 |
| 147 | Chad | 22 |
| 147 | Democratic Republic of the Congo | 22 |
| 147 | Myanmar | 22 |
| 150 | Burundi | 21 |
| 150 | Cambodia | 21 |
| 150 | Zimbabwe | 21 |
| 153 | Uzbekistan | 19 |
| 154 | Eritrea | 18 |
| 154 | Syria | 18 |
| 154 | Turkmenistan | 18 |
| 154 | Yemen | 18 |
| 158 | Haiti | 17 |
| 158 | Guinea-Bissau | 17 |
| 158 | Venezuela | 17 |
| 161 | Iraq | 16 |
| 161 | Libya | 16 |
| 163 | Angola | 15 |
| 163 | South Sudan | 15 |
| 165 | Sudan | 12 |
| 166 | Afghanistan | 11 |
| 167 | Korea (North) | 8 |
| 167 | Somalia | 8 |

#cpi2015
www.transparency.org/cpi


CANADA
UNITED STATES
CUBA
BRAZIL
PERU
BOLIVIA
PARAGUAY
CHILE
ARGENTINA
ICELAND
NORWAY
SWEDEN
FINLAND
UNITED KINGDOM
IRELAND
GERMANY
POLAND
FRANCE
SPAIN
ITALY
UKRAINE
ROMANIA
RUSSIA
KAZAKHSTAN
UZBEKISTAN
KYRGYZSTAN
TURKMENISTAN
TAJIKISTAN
MONGOLIA
CHINA
NORTH KOREA
SOUTH KOREA
JAPAN
MOROCCO
TUNISIA
ALGERIA
LIBYA
EGYPT
SYRIA
IRAN
SAUDI ARABIA
INDIA
LAOS
PHILIPPINES
MAURITANIA
MALI
NIGER
SUDAN
ERITREA
YEMEN
SOMALIA
KENYA
TANZANIA
NAMIBIA
SOUTH AFRICA
MADAGASCAR
INDONESIA
PAPUA NEW GUINEA
FIJI
AUSTRALIA
NEW ZEALAND
GOOD SITUATION
SATISFACTORY SITUATION
NOTICEABLE PROBLEMS
DIFFICULT SITUATION
VERY SERIOUS SITUATION
REPORTERS WITHOUT BORDERS
FOR FREEDOM OF INFORMATION
FREEDOM OF THE PRESS WORLDWIDE IN 2016



Тэрмін «слактывізм» — транслітарацыя англійскага slacktivism, утворанага ад slacker — лайдак і activism — актывізм. У англамоўных краінах слова існуе ўжо 20 гадоў і выкарыстоўваецца для апісання дзеянняў, накіраваных на падтрымку сацыяльнай кампаніі / арганізацыі, якія маюць невялікі або цалкам адсутны вынік (акрамя таго, што слактывіст адчувае задавальненне ад удзелу ў стварэнні сацыяльнай выгады)*.



Пакінем складанне пратаколаў за жорсткае абыходжанне з жывёламі за міліцыяй!




Абараніце студэнтаў ад набораў адміністрацыі!



Дапамажыце захаваць нашыя лясы! (Абноўлена)




Аб правядзенні мясцовых рэферэндумаў пры будаўніцтве небяспечных вытворчых аб’ектаў (ПЛАНУЕЦЦА)

Праблемнае поле для дыскусіі на ўроку грамадазнаўства можна акрэсліць пытаннямі: Ці могуць падабайкі (лайкі) і рэпосты вырашаць сацыяльныя праблемы? Што трэба, каб лайкі ператварыліся ў рэальныя дзеянні?

Падчас вывучэння тэмы па органах дзяржкіравання мэтазгодна выканаць практыкаванне па стварэнні электроннага звароту / петыцыі, бо адно з патрабаванняў вучэбнай праграмы па грамадазнаўстве — самастойнае вызначэнне навучэнцамі інстанцыі, куды неабходна звяртацца для вырашэння той ці іншай праблемы.

* Ізмесьцева, К. Слактывізм : Як лайкі і рэпосты могуць вырашаць сацыяльныя праблемы: http://belngo.info/2015.slakty-vizm-yak-lajki-i-re-posty-moguts-vy-rashats-satsy-yal-ny-ya-prablemy-tsi-u-syo-zh-nya-moguts.html.



**Практыкаванне 3. «Ствараем зварот ці петыцыю»**

**Мэта:** удзельнікі прааналізуюць магчымасці сэрвісаў для стварэння электронных зваротаў і петыцый і ацэняць мэтазгоднасць стварэння электроннага звароту ці петыцыі для вырашэння канкрэтнай праблемы.

**Інструкцыя:**

1. Зайдзіце на сайт zvarot.by, вывучыце інфармацыю пра сэрвіс, як напісаць зварот і якія кампаніі былі праведзены за апошні год.
   - Да якіх кампаній далучылася больш удзельнікаў? Чаму?
   - Якія кампаніі можна назваць паспяховымі? Ці была вырашана ўзнятая праблема? Як?
2. Параўнайце сэрвіс zvarot.by з глабальнай платформай для стварэння кампаній Change.org па прапанаваных пытаннях па петыцыях з Беларусі.
   - Вылучыце плюсы і мінусы электронных зваротаў. Аргументуйце свой пункт гледжання на стварэнне электронных зваротаў.
   - Прапануйце сваю тэму для звароту або петыцыі.

### 2.4.3. Актуальная навіна як прадмет аналізу на ўроку грамадазнаўства

Цяжка ўявіць, што магчыма разуменне палітыкі, эканамічных працэсаў, міжнародных падзей, розных этнасаў і культур па-за медыя. Як адзначыў Ніклас Луман, «...усё, што мы ведаем пра наша грамадства, нават пра свет, у якім мы жывём, мы ведаем, дзякуючы масмедыя»*. Выкарыстанне актуальных медыятэкстаў — навін (на радыё, па тэлебачанні, у прэсе і сацыяльных сетках) на ўроках і пазаўрочнай працы па гісторыі і грамадазнаўству робіць выкладанне больш складаным для настаўніка, але ў той жа час навучанне робіцца больш цікавым, дынамічным, эмацыйным. Самае цяжкае — навучыцца адрозніваць праўду ад хлусні, асабліва актуальная такая задача ў інтэрнэце. Для гэтага трэба зрабіць некалькі крокаў.

* Луман, Н. Реальность массмедиа / Н. Луман; пер. с нем. А. Ю. Антоновского. — М. : Праксис, 2005. — С. 8.

**Табліца. Праца з інфармацыяй**

| Крок | Рэкамендацыі |
|---|---|
| 1. Аддзяленне фактаў ад меркаванняў, пунктаў гледжання, ацэнак | • меркаванне ў тэксце можна знайсці ў выглядзе каментару, інтэрпрэтацыі;<br>• ацэнка заўсёды выказвае суб'ектыўную пазіцыю, эмацыйнае стаўленне, заклік да нейкіх дзеянняў;<br>• факт не дае ацэнак, ні да чаго не заклікае.<br>Чытаючы і слухаючы, мы можам адрозніць меркаванне ад фактаў па *словах-маркерах*, якія дапамагаюць распазнаваць наяўнасць у тэксце ацэначнай інфармацыі (*каштоўная інфармацыя, складаная сітуацыя, неапраўданыя дзеянні, фанатык, рамантык, дэмагог* і да т. п.) |
| 2. Праверка крыніцы інфармацыі | • неабходна насцярожана ставіцца да навінаў з ананімных крыніц, бо ананімнасць пазбаўляе адказнасці за пададзеную інфармацыю;<br>• неабходна адрозніваць першасную і другасную крыніцы інфармацыі, бо праз інтэрпрэтацыю і пераказ могуць з'яўляцца недакладнасці;<br>• крыніца лічыцца тым больш надзейнай, чым больш нейтральным (непрадузятым) з'яўляецца яе стаўленне да тэмы або падзеі, пра якую гаворыцца ў навіне;<br>• істотнай з'яўляецца кампетэнтнасць крыніцы, яе блізкасць (але бесстароннасць) да падзеі, працэсу або з'явы, якія асвятляюцца ў навінах. Калі крыніца мае спецыфічныя інтарэсы або датычная да падзеі, тады яе нейтральнасць ставіцца пад сумнеў;<br>• якасныя медыя паважаюць сваю рэпутацыю і ніколі не стануць рызыкаваць, публікуючы тэндэнцыйную або наўмысна скажоную інфармацыю (варта пачытаць гісторыю рэдакцыі, даведацца імёны яе кіраўнікоў, азнаёміцца з водгукамі чытачоў і меркаваннямі экспертаў) |
| 3. Параўнанне крыніц інфармацыі | • неабходна правяраць інфармацыю з дапамогай некалькіх крыніц (чым большую колькасць крыніц мы даследуем, тым больш гарантыі дакладнасці інфармацыі);<br>• папулярнасць і аўтарытэтнасць крыніцы яшчэ не з'яўляецца гарантыяй дакладнасці. Любы факт павінен быць пацверджаны вынікамі незалежных даследаванняў. Незалежныя даследнікі павінны прыйсці да адных і тых жа высноў;<br>• да выпадковых, адзінкавых звестак неабходна ставіцца з вялікай асцярогай. Чым больш аднолькавых звестак атрымана з розных крыніц, тым больш дакладныя гэтыя звесткі |

| | |
|---|---|
| 4. Аўтарства крыніцы інфармацыі | • варта паставіцца да тэксту максімальна скептычна, калі аўтар не пазначаны;<br>• калі аўтар пакідае электронную пошту для сувязі / магчымасць каментавання, узровень даверу да тэксту расце;<br>• важна, ці аўтар спасылаецца на нейкія публікацыі як крыніцы прыведзеных ім фактаў, і наколькі аўтарытэтнымі з'яўляюцца аўтары гэтых публікацый? Іншыя сайты спасылаюцца на гэтую старонку? Якія? |

Важна вучыцца аддзяляць факты ад меркаванняў і ў падручніках гісторыі і грамадазнаўства.

**Практыкаванне 4. «Факты і меркаванні»**

**Мэта:** удзельнікі навучацца з дапамогай слоў-маркераў вылучаць меркаванні аўтара і аддзяляць іх ад фактаў.

**Інструкцыя.** Прапануем вучням раздатачны матэрыял з фрагментамі тэксту розных падручнікаў гісторыі (К. А. Іванова, выд. 1908 г. і А. Агібалава, выд. 1962 г.). Аўтарства і дата выдання падручніка не паведамляюцца. Праца індывідуальная, кожны ўдзельнік атрымлівае тэксты.

**Заданне.**

1. Прачытайце тэксты.

2. Падкрэсліце прамой лініяй інфармацыю — факт.

3. Падкрэсліце хвалістай лініяй інфармацыю — меркаванні аўтара.

**Альтэрнатыўнае выкананне задання.** Запоўніце табліцу.

| № | Факты | Меркаванні / інтэрпрэтацыя | Словы-маркеры |
|---|---|---|---|
| | | | |

1. Якая з калонак аказалася больш запоўненаю: фактаў / меркаванняў?

2. Што вы аднеслі да фактаў? (Настаўнік-фасілітатар удакладняе азначэнне «факт».)

3. Што вы аднеслі да меркаванняў?

4. Навошта гэты тэкст быў напісаны? Кім і для каго?

5. Якая эмацыйная афарбоўка тэксту? Як, на думку аўтара, вы павінны на яго рэагаваць? Згодныя з гэтым?

6. Ці можна напісаць гэты тэкст па-іншаму?

7. Чые ідэі і перакананні адлюстраваны ў тэксце, а чые праігнараваныя?

8. Ці няма ў аўтара прадузятага стаўлення да пэўных груп людзей?

Прапануем паглядзець выпуск навін на працягу 5 хвілін і прааналізаваць яго па пытаннях у групах, а потым абмеркаваць калектыўна. Можна скарыстацца памяткай па маніпуляцыях у медыя*.

**Практыкаванне 5. «Аналіз выпуску навін»**

**Мэта:** удзельнікі вылучаць маніпуляцыйныя прыёмы ў прапанаваным медыятэксце і сфармулююць правілы абароны ад маніпуляцый.

1. Ці выкарыстаны маніпуляцыйныя прыёмы і «хітрыкі» ў гэтым фрагменце?
2. Ці можаце вы іх пералічыць?
3. У інтарэсах каго інфармацыя прадстаўлена менавіта ў такой форме?
4. Да якой высновы прыйшла ваша група?
5. Лёгка / складана вам было вылучаць спосабы маніпуляцый і прапаганды?
6. Як абараніць сябе ад маніпуляцый? Якія навыкі дапамагаюць чалавеку супрацьстаяць маніпуляцыям?

Падкрэслім, што асноўнай практыкай на ўроках грамадазнаўства становіцца аналіз навіны. Акрамя дэкадавання самой навіны, можна выкарыстоўваць і іншыя метады. Напрыклад, прапанаваць параўнаць дзве ці тры навіны пра адну і тую ж падзею ў розных медыя.

* https://sites.google.com/site/medyaadukatar/medyafenomen/manipulacya.




Крыніца: **http://www.xpomo.com/ruskolan/polit05/polit-05-077.jpg**

У гэтым выпадку для абмеркавання можна выкарыстаць пытанні:

- Якія падабенствы і адрозненні вы заўважылі ў выразах і кантэнце? Чым яны абумоўлены?
- Ці аднолькавыя артыкулы па аб'ёме?
- Ці ёсць адрозненні ў тоне загалоўкаў?
- Якія выявы выкарыстаны і які іх памер?
- Які тон паведамлення: нейтральны або эмацыйны?
- Якія адрозненні ў стылі паведамленняў?
- Чые галасы можна пачуць у паведамленні?
- Аднолькавыя ці розныя крыніцы і меркаванні экспертаў, выкарыстаныя ў навінах?

### 2.4.4. Ці працуе фота як медыятэкст на ўроках гісторыі?

Фотаздымак можа быць самым дакладным гістарычным дакументам. Звярніце ўвагу на фатаграфію першага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў Беларусі «Маладняк», 1924 г. У 1930-я гады большасць маладнякоўцаў была рэпрэсаваная. Як на ўроку ці ў даследчай працы вучняў можа быць выкарыстаны гэты фотаздымак?



Крыніца фота: **https://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/thumb/7/7d/Ma%C5%82adniak2.jpg/800px-Ma%C5%82adniak2.jpg**.

Праца з фотаздымкамі пры навучанні гісторыі не толькі «ажывіць» урок гісторыі ці праілюструе апавяданне, але і дапаможа развіць іншыя здольнасці вучняў, у тым ліку і крытычнае мысленне, здольнасць заўважаць дэталі, чытаць сімвалы. Як і ў выпадку з іншымі матэрыяламі, пры працы з фатаграфіяй важным з'яўляецца аналіз выяў на фотаздымках. Фармат працы з фатаграфіяй можа быць разнастайным: пытанні задае настаўнік, вучні адказваюць вусна ці працуюць з рабочым лістом (дамашняе заданне), у групах і інш.

**Табліца. Схема аналізу фатаграфіі**

| Этап аналізу | Пытанні і практыкаванні |
|---|---|
| **Апісанне.** Дакладна апішыце, што вы бачыце.<br>На гэтай стадыі не трэба імкнуцца будаваць здагадкі пра тое, што вы бачыце | • апішыце асоб, што вы бачыце на фатаграфіі, а таксама іх дзеянні і / або аб’екты, паказаныя на здымку;<br>• як згрупаваныя людзі і / або аб’екты?<br>• апішыце, што вы бачыце на заднім / пярэднім плане, у цэнтры, з левага / правага боку фатаграфіі |
| **Інтэрпрэтацыя, доказы.** Чаму вы так думаеце? Якія сродкі выкарыстоўвае аўтар? | • што адбываецца на гэтай фатаграфіі?<br>• хто гэтыя людзі, чым яны займаюцца, якія гэта аб’екты?<br>• час, калі (прыкладна) быў зроблены здымак (год; перыяд; падзеі)<br>• ці змяшчаецца ў фатаграфіі тэкставая інфармацыя: плакаты, рэклама, подпісы?<br>• гэта пастановачны фотаздымак?<br>• чаму менавіта ў гэтым месцы і менавіта ў гэты час з’явіўся чалавек з фотаапаратам?<br>• на якія пытанні фатаграфія не можа адказаць? Якая інфармацыя адсутнічае? |
| **Дадатковыя пытанні, рэфлексія** | • ці дапамаглі вам пры выкананні практыкавання вашы веды па гісторыі?<br>• што ў вас выклікала цяжкасці, чаму? |

*Праца з сямейным фотаальбомам* — адзін са спосабаў уключэння фатаграфіі ў больш шырокі гістарычны кантэкст. Вучні могуць у якасці дамашняга задання праглядзець сямейны фотаальбом, абмеркаваць фота з сям’ёй: хто сфатаграфаваны, калі і дзе было зроблена фота. Вучань атрымае ўяўленне пра змены ў сям’і ў часе, на аснове сямейных фатаграфій будзе развіваць сваю канцэпцыю мінулага. Фатаграфія становіцца важным сведкам так званай «малой» гісторыі, гісторыі сям’і.

Яшчэ адну магчымасць працы з фатаграфіяй даюць *пары фатаграфій*: два здымкі, якія зроблены ў адным і тым жа месцы, але ў розны час (часцей за ўсё фатаграфіі гістарычных месцаў супрацьпастаўляюцца сучасным). Пары фотаздымкаў дэманструюць вучням выдатную мадэль змены месца ў часе. Вучні могуць ствараць пары фатаграфій і самастойна на аснове старых здымаць новыя.

Найноўшая гісторыя аздоблена фатаграфіямі, якія называюць *культавымі*. Такія здымкі маюць цікавую гісторыю, бываюць адзначаны прэміямі, рэгулярна змяшчаюцца ў падручніках. Часта гэта вельмі вядомыя дакументальныя

фота, якія адлюстроўваюць важныя гістарычныя падзеі, напрыклад, фота Рады БНР 1918 г.

Аднак вучні павінны ведаць, што не ўсе фота — гэта дакументы. Фатаграфія з'яўляецца лёгкай мішэнню для маніпуляцый — вядомыя прыклады рэтушы і апрацоўкі фотаздымкаў, для якіх сёння дастаткова мець толькі патрэбную камп'ютарную праграму. Важную ролю мае не толькі суб'ектыўны погляд фатографа, але і кантэкст, у якім мы разглядаем фатаграфіі. Як і любы іншы медыятэкст, фатаграфія нясе пасыл, які трэба дэкадаваць.



Крыніца: **http://minsk-old-new.com/minsk-2610-ru.htm**

### 2.4.5. Ці трэба глядзець фільмы на ўроках гісторыі і грамадазнаўства і як гэта лепш рабіць?

Гісторыя чалавецтва адлюстравана і «занатавана» ў фільмах, дзе паказаны гістарычныя падзеі; кіно моцна ўздзейнічае на свядомасць і эмоцыі чалавека, бо спалучае выяву, гук, рух, форму і колер; вучні любяць кіно, фільмы складаюць значную частку іх медыяспажывання.

Настаўнікі павінны разумець самі і данесці гэта вучням, што кіно і тэлебачанне маюць сваю спецыфіку: яны здольны ствараць ілюзію рэальнасці. Кіно гэтак жа моцна і непасрэдна ўплывае на пачуцці чалавека, як і рэчаіснасць, а ўзмоцненая разнастайнымі спецэфектамі, якія немагчыма перажыць



у рэальнасці, перасільвае яе ўплывам. Фільм — гэта прыдуманыя аўтарамі знакі і іх прачытанне патрабуе навыкаў.

Мы мяркуем, што, хоць вучань і прывык да фільмаў у штодзённай практыцы, праца ў школе адточвае яго аналітычныя здольнасці, ён вучыцца дыстанцыявацца ад матэрыялу, задаваць крытычныя пытанні. Гэтыя навыкі могуць быць перанесены на прагляд іншых фільмаў і ў цэлым выпрацоўваць крытычны погляд на аўдыявізуальныя матэрыялы (у т. л. тэлебачанне).

Фільмы падзяляюцца на дакументальныя, мастацкія і анімацыйныя. Дакументальныя фільмы паказваюць рэальныя гісторыі, але варта памятаць, што яны таксама суб’ектыўныя, бо дэманструюць погляд стваральніка на дадзеную праблему.

Пры працы з мастацкімі фільмамі вучні разумеюць, што гэта выдумка і яго трэба аналізаваць. Калі мы працуем з гістарычным фільмам, важна звярнуць увагу, што ў фільме адлюстраваны грамадскі і культурны кантэкст, у якім ён быў зняты. Калі фільм быў зняты і калі адбываецца яго дзеянне? — такімі павінны быць першыя пытанні, якія варта паставіць.

На ўроку ў нас мала магчымасцей глядзець цэлыя фільмы. Таму настаўнік можа прапанаваць вучням паглядзець фільм дома, а абмеркаваць яго ў класе на ўроку. Прапануецца супрацьпаставіць кінаматэрыял іншым гістарычным крыніцам. Прапануючы паглядзець гістарычны фільм, можна даць вучням заданне ідэнтыфікаваць дакладнасць ці недакладнасць гістарычных падзей, паказаных у папулярных фільмах.

Добрым варыянтам будзе праца з урыўкам фільма. Урывак пабуджае да аналізу і інтэрпрэтацый значна мацней, чым фільм цалкам.





Кадры з фільма «Анастасія Слуцкая» («Беларусьфільм», 2003)

Крыніцы: **http://afisha.tut.by/news/kaleidoscope/385034.html**, **http://www.belarusfilm.by/studio/projects/541/**

**Практыкаванне 6. «Аналіз фрагмента фільма»**

**Мэта:** удзельнікі зразумеюць, якім чынам фільм рэпрэзентуе пэўную гістарычную эпоху ці падзею.

**Каментар.** Калі настаўнік вырашыць выкарыстаць фрагмент фільма, ён можа вывесці сюжэт фільма на задні план і працаваць толькі з асобнай сцэнай. Тут важна засяродзіцца на дэталях (напрыклад, апісаць персанажаў, іх узаемаадносіны, асяроддзе, рысы гістарычнай эпохі, сімвалы).

**Пытанні:**

- Якая галоўная тэма фрагмента? Дайце назву фрагменту.
- Дзе адбываецца дзеянне? Апішыце сцэну. Апішыце персанажаў, прадстаўленых у фрагменце. Назавіце іх і дайце ім ацэнку: якія з іх з'яўляюцца станоўчымі, а якія — адмоўнымі?
- Якія кінематаграфічныя прыёмы былі выкарыстаныя (праца аператара, мантаж, музычнае суправаджэнне)?
- Як суадносіцца фрагмент з гістарычнай рэчаіснасцю?

Пытанні можа задаваць настаўнік або вучні могуць самастойна працаваць з рабочымі лістамі; магчымая і праца ў групах, а найлепшым будзе калектыўнае абмеркаванне. У выпадку канфрантацыі поглядаў навучэнцы ўмацоўваюць свае навыкі аргументацыі. Не існуе дрэнных адказаў: яны адрозніваюцца глыбінёй аналітычнага погляду і ўстойлівасцю інтэрпрэтацыйных канструкцый.

Выдатныя магчымасці навучання медыя-інфармацыйнай граматнасці дае школьны кінаклуб. Зацікаўлены настаўнік гісторыі можа арганізаваць такі кінаклуб у сваёй школе (гл. раздзел 3).

### 2.4.6. Навошта працаваць з відэа- і аўдыязапісамі ўспамінаў сведак падзей?

З 1980-х гг. на ніве гістарычнай навукі з'яўляецца т. зв. вусная гісторыя — гісторыя, расказаная відавочцам падзей, сведкам. Гэты падыход пранікае і ў школьныя класы, куды настаўнікі запрашаюць сведак, каб «дамаляваць» і «ачалавечыць» гісторыю «вялікую». Заклікаем карыстацца сайтам Беларускага архіву вуснай гісторыі* — онлайн-сховішчам электронных дакументаў вуснай гісторыі Беларусі XX стагоддзя.

* http://www.nashapamiac.org/archive/home.

З аповедам сведкі ў працэс навучання прыходзіць і неадназначнасць гісторыі, пранікаюць эмоцыі, гісторыя набывае твар.

Аповед сведкі, зразумела, мае і свае асаблівасці. Гістарычныя падзеі раскрываюцца скрозь прызму палітычнай, рэлігійнай або маральнай арыентацыі сведкі. Да таго ж, характар чалавечай памяці зманлівы, і сведкі не заўсёды бываюць здольныя ўспомніць канкрэтныя абставіны, таму інфармацыю гэтую трэба правяраць у іншых крыніцах.

Роля настаўніка заключаецца ў падкрэсліванні плюралізму гісторыі, множнасці інтэрпрэтацый і поглядаў на гістарычныя падзеі, неабходна выклікаць крытычную рэфлексію вучняў (яны павінны задумацца, хто, з якой пазіцыі распавядае пра дадзеныя падзеі). Вучань развівае крытычнае мысленне, вучыцца аддзяляць факты ад меркаванняў, правяраць інфармацыю ў розных крыніцах; успрымае гісторыю ў кантэксце і ўсведамляе плюралізм меркаванняў, поглядаў і інтэрпрэтацый; навучаецца дыялогу пакаленняў, стварае ўласную сістэму каштоўнасцей.

Мы можам уключаць у навучанне аповед сведкі ў розных формах. Прапануецца запрасіць на размову сведку (члена сям’і, вядомага мясцовага жыхара, сведку канкрэтнай падзеі). У гэтым выпадку варта папярэдне дэталёва абмеркаваць ход, мэты і чаканні абмеркавання.

Іншы варыянт — праца з пісьмовым ці аўдыявізуальным запісам з архіваў. Трэцяя магчымасць — дамашняе заданне, для выканання якога трэба распытаць членаў сям’і (напрыклад, даведацца, як адзначалі Вялікдзень). Гэта выключае працяглую падрыхтоўку, і на ўроку вы можаце засяродзіцца на працы з вынікамі: параўноўваць успаміны і больш дэталёва разбіраць розныя пункты гледжання.

**Паслядоўнасць працы са сведкам або аўдыявізуальным сведчаннем:**

1. Кантэкст. Неабходна растлумачыць вучням, з кім яны сустрэнуцца (хто гэта, якім было яго жыццё, калі ён нарадзіўся, і чаму мы запрасілі яго на ўрок або выкарысталі запіс сведкі).

2. Ход сустрэчы. Дазвольце сведку распавядаць, а потым дайце вучням магчымасць задаць пытанні. У выпадку працы з аўдыявізуальным сведчаннем праглядзіце запіс двойчы. У першы раз заданнем кожнага вучня будзе адзначыць:

   - Мяне здзівіла, што...
   - Я не зразумеў...
   - Былі згаданыя паняцці, якіх я не ведаю…

У другі раз кожны вучань павінен засяродзіцца на сваёй тэме. Дазвольце абраць з паведамлення сведкі адну фразу / групу слоў, якая, на іх думку, характарызуе яго аповед, ці выбраць ключавыя / цікавыя словы.

3. Рэфлексія. Варта правесці сумесны аналіз, падчас якога абмяркуюцца падобныя / розныя інтэрпрэтацыі пачутага і падкрэсліцца неадназначнасць гістарычных падзей, апісаных у падручніку.

- Якая тэма ўрыўка / гутаркі?
- Як распавядае сведка? Якія эмоцыі вы адчулі?
- Што паўплывала на яго апісанне і ацэнку эпохі?
- Дзе мы можам спраўдзіць / удакладніць аповед?
- У якой меры сцверджанні сведкі адпавядаюць таму, што вы ведалі раней?

Трэба распавесці вучням, якія існуюць гістарычныя крыніцы і якую ролю сярод іх адыгрывае вусная гісторыя (яе плюсы і мінусы). Зрабіць гэта можна праз пытанні.

- Што мы можам даведацца пра чалавека і гісторыю з апавяданняў асобных людзей?
- Што можа адсутнічаць у такім апавяданні, а што, наадварот, мы нідзе больш не знойдзем?
- Што і якім чынам мы памятаем з таго, што мы перажылі? Што на гэта ўплывае?
- Што з таго, што мы памятаем, мы расказваем?
- Як на нашыя апавяданні пра мінулае ўплываюць сучаснасць і падзеі, што адбыліся з моманту, пра які мы апавядаем?
- Як на іх уплывае тое, хто слухае апавяданне і хто задае пытанні?

Карысныя матэрыялы па дадзенай тэме можна знайсці на сайце «Інтэрактыўная гісторыя»*.

### 2.4.7. Палітычны плакат і карыкатура як медыясродкі для ўрокаў гісторыі



Плакат — кідкі, як правіла, буйнафарматны малюнак, што суправаджаецца кароткім тэкстам, зроблены ў агітацыйных, рэкламных, інфармацыйных або навучальных мэтах. Плакат павінен

* https://sites.google.com/site/interaktivnaaistoria/home/vusnaa-gistorya.



быць бачны на адлегласці, зразумелы і добра ўспрымацца гледачом. У плакаце часта выкарыстоўваецца мастацкая метафара, фігуры рознага маштабу, малюнкі падзей, што адбываюцца ў розны час і ў розных месцах, контурнае абазначэнне прадметаў.

Плакат з'явіўся ў выніку эвалюцыі тэатральных афіш і аб'яў у Заходняй Еўропе ў II пал. XIX ст. Рост папулярнасці плаката звязаны з развіццём і павелічэннем колькасці прамысловых і мастацкіх выстаў, з'яўленнем мітынгаў і маніфестацый.




Сучасны плакат, аўтар Zivis Laimīgs



Кастрычнік 2015. «Арт Сядзіба» распачынае акцыю салідарнасці #ПагоняПобач. Галоўная задача акцыі адна — каб любы пераслед за выкарыстанне «Пагоні» спыніўся, і ўсе дзяржаўныя службоўцы, міліцыянеры ды чыноўнікі ўсвядомілі, што гэта нацыянальны сімвал, які трэба паважаць, а не зневажаць. І памятайце, што «Пагоня» не забаронены сімвал, а гістарычная каштоўнасць Беларусі!

Крыніца: **http://artsiadziba.by/news/2015/10/18/pahoniapobacz/**

**Схема аналізу плаката:***

1. Вызначыць падзею (яе дату), якой прысвечаны плакат.
2. Вызначыць, па чыім палітычным заказе ён быў выраблены і для якой аўдыторыі.
3. Прааналізаваць персанажаў і сімвалы плаката.
4. Звярнуць увагу, якія фігуры, аб'екты вынесены на першы план і аднесены на другі план.
5. Прааналізаваць, якія фігуры і аб'екты намаляваныя вялікімі, а якія маленькімі і чаму. Сфармуляваць паведамленне, якое плакат быў прызваны данесці да аўдыторыі.

**Практыкаванне 7: «Другая сусветная вайна на плакатах»**

**Мэта:** прааналізаваць плакаты часоў Другой сусветнай вайны (СССР, ЗША, Германіі, Італіі).

**Рэсурс:** прапагандысцкія плакаты Другой сусветнай вайны: http://lifeglobe.net/entry/1425.

**Заданне групам.** Адкажыце на пытанні:

- Плакаты якіх краін намаляваны? Што неабходна ведаць, каб гэта вызначыць?
- Ці можна па гэтых плакатах вызначыць перыяд іх стварэння? Чаму для адных плакатаў гэта лёгка зрабіць, а для іншых складана? Што можа дапамагчы ў вашым вызначэнні?
- Якая мэтавая аўдыторыя гэтых плакатаў? Якія з гэтых плакатаў Другой сусветнай вайны разлічаны на насельніцтва акупаваных тэрыторый, насельніцтва сваёй краіны? Чаму вы так вырашылі?
- Якія мастацкія асаблівасці плаката (адзін плакат на выбар групы)? На якую рэакцыю разлічвалі аўтары плакатаў?
- Якія агульныя рысы (групы рысаў), ідэі нямецкіх, савецкіх, амерыканскіх плакатаў вы маглі б вылучыць.
- Якія сімвалы, коды, маніпуляцыі вы заўважылі?

Карыкатура — сатырычны ці гумарыстычны малюнак, у якім камічны эфект ствараецца перабольшваннем і завастрэннем характэр-

* Крыніца: Матеріали_семінару_«Практична_медіаграмотність_МАТРА»: https://drive.google.com/folderview?id=0B-MvlOQWK6U8MDVZaGVsVlpWZU0&usp=sharing.





ных рыс, нечаканымі супастаўленнямі і прыпадабненнямі. Росквіт карыкатуры звычайна звязаны з перыядам буйных грамадскіх канфліктаў, палітычнай нестабільнасці, войнамі.

Карыкатура — адзін з самых старажытных відаў малюнка. Яна адлюстроўвае праблемы грамадства і з ранніх часоў служыла метадам самасцвярджэння над крыўдзіцелем. Так кпілі з ворагаў, уладароў або прыгнятальнікаў. Звычайна гэта быў малюнак з грубымі скажэннямі рысаў крыўдзіцеляў або прымаляванымі рагамі, хвастом і да т. п.




**Першы падзел Рэчы Паспалітай. Карыкатура таго часу.**

Крыніца: **http://www.belhistory.com/history_1772.shtml**




**Беларуская карыкатура 1921 г.**

Крыніца: **http://dic.academic.ru/pictures/wiki/files/67/Caricature_for_Riga_Peace_1921.png**

**Схема аналізу карыкатуры:***

1. Апішыце вобразы, персанажаў, задні план.
2. З дапамогай якіх мастацкіх сродкаў створаны вобразы і персанажы?

Інтэрпрэтацыя.

1. Паглядзіце на час стварэння карыкатуры. Якой падзеі яна прысвечана?
2. Ці пазналі вы персанажаў? Чаму вы так думаеце? Калі гэта рэальныя фігуры, — назавіце іх і ролю, якую яны адыгрывалі на той час і ў тых падзеях, якія суправаджалі з'яўленне карыкатуры.
3. Вызначыце, якія сімвалы выкарыстаў мастак? Чаму ён да іх звярнуўся?
4. Якое стаўленне да персанажаў — станоўчае ці адмоўнае — выяўляе карыкатура?
5. Як інтэрпрэтуе карыкатура персанажаў? Ці згодныя вы з ёй?
6. Якія ідэі і палітычная пазіцыя аўтара? Як бы вы іх вызначылі?
7. Што вы ведаеце з іншых крыніц пра падзеі, якім прысвечана карыкатура? Як вашае веданне суадносіцца з тым, пра што вы даведаліся дзякуючы карыкатуры?

* Крыніца: „Матеріали_семінару_Практична_медіаграмотність_МАТРА" [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу : https://drive.google.com/folderview?id=0B-MvlOQWK6U8MDVZaGVsVlpWZU0&usp=sharing.



### 2.4.8. Праца з архіўнымі дакументамі

Праца з архіўнымі дакументамі на ўроках і факультатывах па гісторыі будзе добрым спосабам развіцця крытычнага мыслення і паспрыяе адкрыццю праўдзівай гісторыі Айчыны.

**Практыкаванне 8: Аналіз архіўнага дакумента «Другая ўстаўная грамата да народаў Беларусі»**

**Мэта:** *на ўроку вучні ўдасканаляць свае ўменні аналізаваць гістарычныя дакументы, а таксама змогуць пераканацца ў скажэнні гісторыі Беларусі савецкімі гісторыкамі і ў магчымасці гэтае скажэнне выявіць пры ўважлівым вывучэнні архіўнага дакумента.*

Крыніца: **http://pravo.by/main.aspx?guid=6441**

Урок гісторыі Беларусі ў X класе «Стварэнне беларускай дзяржаўнасці ў 1917—1919 г.г.» Вывучаючы пытанне пра ўзнікненне БНР, прапануем вучням уважліва прачытаць тэкст архіўнага дакумента «Другая ўстаўная грамата да народаў Беларусі».

Адкажам на пытанні:

*Якія правы і свабоды для грамадзян абвяшчаліся ў II устаўной грамаце?* (Вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумлення, нізачэпнасьць асобы і памешкання, усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію; абвешчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі).

*Чыёй уласнасцю абвяшчалася зямля?* (У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ей працуюць).

*Які лад абвяшчаўся гэтым дакументам на Беларусі: буржуазны ці сацыялістычны?*

Як вядома, савецкія гісторыкі адмаўлялі БНР з-за таго, што гэта быццам бы была буржуазная дзяржава, таму яе, маўляў, і ліквідавалі бальшавікі. Але ж з уважлівай працы з гістарычным дакументам вынікае, што па сутнасці БНР насамрэч была дэмакратычнай сацыялістычнай дзяржавай.

*Для чаго ж тады была прыдумана гэта хлусня ў савецкай гісторыі, што БНР — дзяржава на буржуазнай аснове, таму яе бальшавікі і ліквідавалі?*

У выніку працы над архіўным дакументам вучні пераканаюцца, што віна дзеячаў БНР была толькі ў тым, што яны імкнуліся стварыць сапраўдную незалежную дэмакратычную беларускую дзяржаву.



**Дадаткі па тэме ў інтэрнэце**

Распрацоўкі заняткаў па гісторыі на партале nastaunik.info: **http://www.nastaunik.info/workshop/history**.

Распрацоўкі заняткаў па грамадазнаўстве на партале nastaunik.info: **http://www.nastaunik.info/workshop/hss**.

Грамадскі вэб-архіў «Вытокі»: **http://vytoki.net/**.

Беларускі архіў вуснай гісторыі: **http://www.nashapamiac.org/archive/home**.

Больш за 550 тыс. алічбаваных відэасюжэтаў ад архіву British Movietone: **https://www.youtube.com/channel/UCHq777_waKMJw6SzdABmyaA**.

«Як гэта было» — гістарычная відэахроніка Беларусі — сумесны праект Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў і партала TUT.BY: **http://news.tut.by/tag/1184-kak-eto-bylo.html?utm_source=news-bottom-block&utm_medium=news-tags&utm_campaign=news-tags**.

**Літаратура:**

Ваврова, Т. Краткое пособие по преподаванию новейшей истории / Т. Ваврова, Ч. Пыха ; сост. П. Данек. — Прага, 2015. — 43 с.

Іванов, В. Ф. Медіаосвіта та медіаграмотність : підручник / ред.-упор. В. Ф. Іванов, О. В. Волошенюк ; за навук. ред. В. В. Різуна. — Київ : Центр Вільної Преси, 2013. — 352 с.

Шейбе, С. Медіаграмотність. Критичне мислення у мультимедійному світі : підручник для вчителя / С. Шейбе, Ф. Рогоу ; перекл. з англ. Академія української преси, 2014. — 319 с.

Медіаграмотність на уроках суспільних дисциплін : посібник для вчителя / за ред. В. Іванова, О. Волошенюк, О. Мокрогуза. — К. : Центр вільної преси, Академія української преси, 2016. — 201 с.

## 2.5. Медыяадукацыйная практыка настаўніка фізікі: з вопыту працы

### 2.5.1. Магчымасці заняткаў па фізіцы для фарміравання ўменняў крытычна ацэньваць медыяінфармацыю

Адна з задач навучання — пабудова навуковай карціны свету — г. зн. сістэматызацыя і абагульненне ведаў аб з'явах прыроды і соцыуму. Медыяадукацыя, інтэграваная ў школьны курс фізікі, у значнай ступені нацэлена на той жа вынік, што і навучанне фізіцы: разумець з'явы і падзеі, якія адбываюцца ў навакольным свеце; валодаць неабходнымі ведамі для іх тлумачэння; умець выкарыстоўваць гэтыя веды на практыцы.

Медыяграматнасць выступае як ключавая кампетэнцыя, што характарызуе дзелавыя якасці сучаснага чалавека: уменне хутка падрыхтаваць неабходны дакумент і аформіць яго належным чынам; скласці якасную справаздачу, заснаваную на матэматычных разліках, забяспечыўшы пры гэтым яе наглядным графікамі і ілюстрацыямі; звязацца праз камп'ютарную сетку і хутка атрымаць аператыўныя і надзейныя дадзеныя з інфармацыйна-даведачнай сістэмы; актыўна выкарыстоўваць магчымасці анімацыі, гуку і музыкі ў распрацоўках, праектах і справаздачах.

Навучальны матэрыял і сродкі навучання па сваёй прыродзе поліфункцыянальныя і могуць служыць асновай для дасягнення як мэтаў навучання фізіцы, так і мэтаў медыяадукацыі. Таму на ўроку фізікі па-ранейшаму вядучай застаецца фізіка, а інтэграцыя медыяадукацыі ў працэс навучання фізіцы ўзбагачае яго новымі метадычнымі прыёмамі і формамі працы, адначасова спрыяе фарміраванню медыя-інфармацыйных кампетэнцый вучня.

У навучанні медыяграматнасці ў рамках прадмета «Фізіка» можна вылучыць некалькі напрамкаў: праца з тэкстамі, візуалізацыя інфармацыі, аналіз рэкламы і відэафрагментаў, праектаванне і правядзенне ўрокаў-канферэнцый і перакуленых урокаў, выкарыстанне кейс-тэхналогій у даследчай практыцы і на вучэбных занятках.

### 2.5.2. Праца з тэкстамі

Медыяадукаванага чалавека адрознівае схільнасць да крытычнага мыслення. Уменне крытычна мысліць можна развіваць, прапаноўваючы навучэнцам *знайсці памылкі ў прапанаваным медыятэксце*: памылкі друку ў падручніку, дадатковай літаратуры, газетах, часопісах, інтэрнэт-паведамленнях. Фізічныя памылкі сустракаюцца ў мастацкай, навукова-фантастычнай і вучэбнай

літаратуры, фільмах, урыўкі з якіх варта выкарыстоўваць на ўроках. Разгледзім некалькі прыкладаў.

**Прыклад 1.** У фільме «Гравітацыя» паказваецца, што касмічныя абломкі даганяюць МКС кожныя 90 хвілін. Прыкладна столькі ж часу займае перыяд звароту рэальнай МКС вакол Зямлі. Атрымліваецца, што абломкі альбо стаяць на месцы, альбо рухаюцца ў два разы хутчэй. Але стаяць на месцы яны не могуць у прынцыпе, а рухацца ў два разы хутчэй — таксама ніяк, інакш яны змянілі б арбіту. Нават калі выказаць здагадку, што абломкі рухаліся насустрач з той жа хуткасцю, як у МКС (хай будуць на адной арбіце), то тады яны сустракаліся б кожныя 45 хвілін.

**Прыклад 2.** Артыкул «Ищем комп недорогой и учебно-игровой» з «Камсамольскай праўды»*: «Маніторы бываюць двух відаў: плоскія, тонкія ВК і груваcткія ЭПТ (з электронна-прамянёвай трубкай). Лічыцца, што апошнія больш шкодныя для здароўя. З гэтым цяжка не пагадзіцца. Хоць выпраменьванне ідзе як ад ВК, так і ад ЭПТ. Проста калі дзіця будзе сядзець перад ЭПТ-маніторам, пучок электронаў будзе біць яму проста ў твар». Як вам «пасаж» з пучком электронаў? Вучні, пазнаёміўшыся з прыкладамі няслушнай трактоўкі журналістамі фізічных з'яў, самі зробяць высновы, што не заўсёды ў газетах пішуць праўду, інфармацыю трэба правяраць.



Дадатак па тэме: Разбор артыкула «Умные алгоритмы помогли совершить открытие в физике элементарных частиц», які можна выкарыстаць на занятках па тэме «Фізіка атамнага ядра»: **http://elementy.ru/lib/430431**.

**Прыклад 3.** Вынаходніцтва радыё. Задайце вучням пытанне: «Хто на самой справе першым вынайшаў радыё?» Калі вучні звернуцца да інтэрнэт-крыніц, то знойдуць розныя погляды на гэтую праблему. Агульнапрызнаным вынаходнікам радыё лічаць італьянскага інжынера Гульельма Марконі, які ў 1895 г. стварыў першы радыёпрымач. Зрэшты, у кожнай краіне ёсць свой «першаадкрывальнік» радыёхваль. У ЗША даказваюць, што радыё вынайшоў Нікола Тэсла, які запатэнтаваў у 1893 г. радыёперадавальнік, а ў 1895 г. — радыёпрымач. Яго перавага (над Марконі) была прызнана ў судовым парадку ў 1943 г. У Індыі першую радыёперадачу ў міліметровым дыяпазоне ў лістападзе 1894 г. правёў Джагадзіш Чандра Башэ. Англія ганарыцца Оліверам Джозэфам Лоджам, які ў 1894 г. прадэманстраваў радыёперадачу і радыёпрыём на адлегласці 40 м. У Расіі вынаходнікам радыё

* http://www.kazan.kp.ru/daily/23769/243131.



называюць Аляксандра Папова, які 7 мая 1895 г. паўтарыў доследы Лоджа, выкарыстаўшы ўдасканаленую прыладу англічаніна.




*Хто насамрэч вынайшаў радыё: Якуб Наркевіч-Ёдка, Аляксандр Папоў, Гульельма Маркoні ці Нікола Тэсла?*

А ў пратаколе пасяджэння Французскага фізічнага таварыства за снежань 1898 г. занатавана: «Лоджу належыць першая ідэя тэлеграфіі без правадоў, калі мы не пажадаем узгадаць Наркевіча-Ёдку, які двума-трыма гадамі раней выканаў у Вене вельмі цікавыя перадачы са шпуляй Румкорфа, злучанай з зямлёй, антэнай і прымачом...»*. Выходзіць, што наш зямляк правёў першыя радыёдоследы ў 1891—1892 гг. — раней за астатніх вынаходнікаў! Нам ёсць чым ганарыцца.

Вучань павінен усвядоміць прыкметы «добрасумленнай» навуковай навіны: яна мае сэнс, дакладная і зразумелая, упісваецца ў агульную паслядоўнасць папярэдніх матэрыялаў па гэтай тэме; на яе падставе чытач можа зразумець, якія практычныя дзеянні можна чакаць далей; змяшчае спасылкі на падборку больш ранніх навін і на аглядныя артыкулы рознага ўзроўню, а таксама на арыгінальныя навуковыя публікацыі; яна распавядае, навошта навукоўцы гэтым займаюцца і якія адносіны гэтыя даследаванні маюць да паўсядзённага жыцця.

### 2.5.3. Візуалізацыя інфармацыі

Уменні *пераводзіць візуальную інфармацыю ў вербальную знакавую сістэму і наадварот, трансфармаваць інфармацыю* — кампаненты медыйнай культуры чалавека. Фарміраваць гэтую кампетэнцыю можна, выкарыстоўваючы на ўроках фізікі тэхналогію мнагамерных дыдактычных інструментаў (МДІ). Сродкі тэхналогіі МДІ — логіка-зместавыя мадэлі (ЛЗМ) і інтэлект-карты (ІК). Іх эфектыўна выкарыстоўваць на ўроках падагульнення, факультатыўных

* Алхимик из-под Узды изобрел радио раньше Маркони и Попова, Камсамольская праўда, 20.01.2011 г. http://www.kp.by/daily/25624.3/790194/

занятках у якасці «шпаргалкі»; на ўроках вывучэння новага матэрыялу яны — сродкі візуалізацыі тэорыі.

Пры стварэнні МДІ вучням трэба валодаць наступнымі ўменнямі: знаходзіць галоўнае ў тэксце, устанаўліваць прычынна-выніковыя і лагічныя сувязі, пераводзіць славесную інфармацыю ў знакавую і наадварот. У якасці самастойнай працы можна прапанаваць вучням пры дапамозе праграмы XMind або ў анлайн-рэжыме (**http://drichard.org/mindmaps/**) у папяровым выглядзе зноскай пад зорачкай скласці ІК па канкрэтнай вучэбнай тэме. Пры выбары тэмы для стварэння ЛЗМ і ІК пажадана браць не лінейны, а разгалінаваны тэкст, у якім шмат тэрмінаў, узаемасувязей («Крыніцы святла»,VIII клас; «Рух па акружнасці», IX клас; «Ізапрацэсы», X клас і г.д.; падагульненне па раздзеле «Кінематыка», «Электрастатыка»).




**Малюнак. ЛЗМ па тэме «Электрастатыка»**

Пры складанні інструментаў МДІ вытрымліваецца паслядоўнасць працэдур:

1) у цэнтр змяшчаецца «ключавое слова» — фокус увагі (як назва ўсёй тэмы, так і асобнае паняцце, закон і г. д.): *электрастатыка*;

2) вызначаецца набор каардынатаў — кола пытанняў, параметраў, характарыстык, якія аб'ядноўваюцца ключавым словам (назвы параграфаў): *электрычныя зарады, напружанасць, патэнцыял, электраёмістасць*;

3) зыходзячы са зместу параграфаў ключавых фактараў, для кожнай групы каардынатаў лагічным / інтуітыўным шляхам вызначаецца набор галоўных зместавых элементаў (вузлоў);

4) расстаўляецца на каардынатах (ЛЗМ) або «галінах» (ІК) элементаў змест у лагічнай паслядоўнасці.



Больш падрабязна аб тым, як складаць і прымяняць інтэлект-карты, можна прачытаць на: **www.mind-map.ru**.

### 2.5.4. Праца з рэкламай

*Праца з рэкламнымі паведамленнямі* карысная для фарміравання крытычнага мыслення. Вучні цытуюць рэкламу даслоўна, але механічна, дзякуючы яе частаму паўтарэнню, некрытычна ўспрымаюць яе змест як факт. Трэба ўмець аналізаваць яе праўдзівасць, для гэтага вучням мэтазгодна прапаноўваць заданні па тэкстах тэлевізійнай рэкламы.

**Практыкаванне «Фізіка супраць рэкламы»**

Вучні знаёмяцца з тэкстам рэкламы:

Відэа рэкламы: **https://www.youtube.com/watch?v=6HUiLKWzgXs**

«Прибор полифакторной лазерной терапии Рикта — «Витязь» имеет шесть предустановленных целебных программ. Он работает через сеть, и его отличительной особенностью является синий (бактерицидный) свет. Приборное устройство находится прямо в излучателе.

Являясь отличным средством профилактики и борьбы с недугами и недомоганиями, лазерный аппарат «Витязь» действует экологически безопасными излучениями: это лазерный импульс, инфракрасный спектр, постоянное магнитное поле и красный свет.

Лазерный прибор «Витязь» борется с огромным количеством заболеваний, число которых достигает две сотни (200!). Прибор эффективно справляется с тяжелыми хроническими болезнями и успешно применяется при артрозах и артритах, остеохондрозе и суставных недугах, ЛОР-болезнях, трофических язвах, геморрое, невритах, бронхиальной астме и так далее.

Синий свет используют при обострениях различных болезней, обладает успокаивающим и обезболивающим действием, а также противоотечным эффектом. Красный свет активизирует про-

цессы восстановления и кровеносную систему, а кроме того, это отличное обезболивающе и иммунокоррегирующее средство, борющееся с воспалениями. Кроме того, красный свет справляется с хроническими заболеваниями». (Крыніца: **http://rikta-russia.ru/index.php?route=product/product&path=59&product_id=54**).

Пытанні:

1. Хто прапаноўвае гэтую рэкламу, каму і з якой мэтай?
2. Ці выклікае ў вас давер «эксперт»?




3. Чым можна пацвердзіць правільнасць назвы: «Апарат квантавай тэрапіі»? Што яна азначае?
4. Знайдзіце фізічныя памылкі ў тэксце. Ці можа прыборная прылада знаходзіцца ў выпраменьвальніку (унутры лазернага дыёда)? Што, на вашу думку, азначаюць тэрміны «квантавая медыцына», «поліфактарнае ўздзеянне», «бактэрыцыднае сіняе святло», «экалагічна бяспечныя выпраменьванні», у пераліку якіх узгадваецца пастаяннае магнітнае поле і інфрачырвоны спектр? У чым навізна гэтых адкрыццяў?
5. Які механізм уздзеяння ЭМП на арганізм чалавека? Ці можа гэта ўздзеянне нанесці чалавеку шкоду? Як вы ставіцеся да прапаганды самалячэння? Адказ абгрунтуйце.
6. Што трэба ведаць, каб не «павесціся» на такую рэкламу?

Для развіцця ўменняў падачы інфармацыі прапануецца заданне прыдумаць рэкламу тэхнічнай прылады, якая вывучаецца на ўроку. У рэкламным тэксце павінны падкрэслівацца істотныя станоўчыя якасці прылады і замоўчвацца яе недахопы.

**Практыкаванне «Стварэнне рэкламы»**

Клас можна аб’яднаць у групы, якія атрымаюць адпаведныя заданні:

1) выберыце тып цеплавога рухавіка, складзіце тэкст яго рэкламы і назавіце перавагі дадзенага рухавіка;

2) знайдзіце ў дадатковай літаратуры праекты «вечных цеплавых рухавікоў», дакажыце іх працаздольнасць (у гэтым выпадку задача астатніх вучняў — выявіць памылкі ў прапанаваных праектах);

3) усе вымяральныя прыборы, якімі вы карыстаецеся, — крыніцы інфармацыі, абгрунтуйце дакладнасць гэтай інфармацыі. Чым гэтая дакладнасць абмяжоўваецца? Стварыце рэкламу дадзенага фізічнага прыбора.

### 2.5.5. Падрыхтоўка і правядзенне ўрокаў-канферэнцый

Канферэнцыя як форма правядзення ўрока развівае медыйныя кампетэнцыі: уменні аналізаваць і сінтэзаваць інфармацыю, задаваць іх і адказваць на пытанні, весці дыскусіі, падмацоўваць сцверджанні аргументамі і г.д. Змест вучэбнага матэрыялу на ўроках-канферэнцыях павінен выклікаць эмацыйны водгук, задавольваць патрэбы ў новай інфармацыі. Па гэтай прычыне пры планаванні дакладаў пажадана выкарыстоўваць тыя тэмы, якія актуалізуюць раней атрыманыя веды (пытанні праграмы, не ў поўнай меры раскрытыя настаўнікам / у падручніку); праблемныя пытанні; пытанні будучыні; пытанні найбольш эфектыўнага прымянення фізічных тэорый у тэхнічных прыладах і г.д.

Настаўнік фізікі ліцэя БРУ (Магілёў) *Аляксандр Плятнёў* прапануе заданні для падрыхтоўкі канферэнцыі, зыходзячы з роляў, якія выбіраюць навучэнцы.

| | |
|---|---|
| **Навуковец** | 1. Старанна прааналізуйце матэрыял па вашай тэме ў падручніку.<br>2. Падбярыце цікавую інфармацыю па тэме ў дадатковай літаратуры і інтэрнэце.<br>3. Падрыхтуйце кароткі план выступлення:<br>• прывітальнае слова (Добры дзень, паважаныя калегі і прадстаўнікі прэсы, я... прадстаўляю вашай увазе даклад на тэму...);<br>• актуальнасць вашай працы (па пунктах; не менш за 3);<br>• выснова па кожным пункце;<br>• падзяка слухачам, заклік да дыялогу (Дзякуй за ўвагу, калі ёсць пытанні, то я гатовы на іх адказаць).<br>4. Падрыхтуйце мультымедыйную прэзентацыю, якая будзе адлюстроўваць асноўныя тэзісы выступлення, суправадзіце свой выступ ілюстрацыямі.<br>Прэзентацыя можа быць выканана ў любой зручнай для вас праграме: Microsoft Power Point, Microsoft Visio і інш. (напрыклад, відэафільм, выкананы з дапамогай Windows Movie Maker, дазволіць накласці голас на відэашэраг і дакладна вытрымаць рэгламент выступлення — 7 хвілін).<br>5. Прыдумайце сабе цікавую пасаду і вучонае званне. Зрабіце сабе прыгожы бэйдж. |
| **Журналіст** | 1. Старанна прааналізуйце матэрыял па вывучанай тэме ў падручніку.<br>2. Падбярыце цікавую інфармацыю па тэме ў дадатковай літаратуры і інтэрнэце.<br>3. Прыдумайце, прадстаўніком якога СМІ вы жадаеце быць на канферэнцыі. Прыдумайце сабе цікавую пасаду. Зрабіце прыгожую вокладку вашага выдання.<br>4. Падрыхтуйце пытанні (не менш за 2) і знайдзіце да іх правільныя адказы.<br>5. Можна (па жаданні) падабраць пытанне, на якое не змогуць адказаць не толькі «навукоўцы», але і настаўнік.<br>6. Вучыцеся слухаць і правільна задаваць пытанні. |
| **Фотарэпарцёр** | 1. Старанна прааналізуйце матэрыял па вывучанай тэме ў падручніку.<br>2. Падбярыце цікавую інфармацыю па тэме ў дадатковай літаратуры і інтэрнэце. Падбярыце цікавыя ілюстрацыі.<br>3. Зарадзіце акумулятары фотакамеры.<br>4. Зафіксуйце самыя цікавыя моманты, падзеі канферэнцыі: адкрыццё, даклады, дэманстрацыі, працэс абмеркавання...<br>5. Запішыце пералік дакладаў, самых цікавых пытанняў і нестандартных сітуацый.<br>6. Па выніках канферэнцыі выпусціце газету, стварыце прэзентацыю / старонку ў інтэрнэце. |

| Аналітык | 1. Старанна прааналізуйце матэрыял па вывучанай тэме ў падручніку.<br>2. Падбярыце цікавую інфармацыю па тэме ў дадатковай літаратуры і інтэрнэце.<br>3. Уважліва выслухайце ўсе паведамленні, пытанні і дыскусіі, паспрабуйце спачатку вылучыць самыя цікавыя і прыемныя моманты канферэнцыі, адзначыць самых актыўных удзельнікаў, самыя цікавыя даклады, потым карэктна звярніце ўвагу на недахопы і недакладнасці, заўважаныя ў адказах, арганізацыі канферэнцыі. |
|---|---|

*Магчымыя тэмы для правядзення канферэнцый:* «Электрычны ток у розных асяроддзях», «Актуальныя пытанні сучаснай энергетыкі», «Цеплавыя рухавікі: „за" і „супраць"», «Ваганні ў прыродзе і тэхніцы», «Ядзерная энергетыка: праблемы і перспектывы», «Дзейнасць чалавека і ахова навакольнага асяроддзя», «Простыя механізмы ў жыцці чалавека», «Сілы ў прыродзе і тэхніцы», «Электрамагнітныя хвалі».

### 2.5.6. Перакуленыя ўрокі як методыка фарміравання медыйнай граматнасці вучняў

Арганізацыя перакуленых урокаў забяспечвае: навучанне ўспрыманню і перапрацоўцы інфармацыі, якая перадаецца ў СМІ; уключэнне пазашкольнай інфармацыі ў кантэкст фізічнай адукацыі, сістэму прадметных ведаў і ўменняў; фарміраванне ўменняў знаходзіць, рыхтаваць, перадаваць і прымаць неабходную інфармацыю, у тым ліку з выкарыстаннем рознага тэхнічнага інструментарыю.

Школьнікаў «інфармацыйнага свету» неабходна вучыць ствараць уласную інфармацыю. Любы настаўнік скажа, што нашы дзеці ў пераважнай большасці дрэнна размаўляюць і яшчэ горш пішуць. Гэта вынік таго, што на ўроках вучні пераважна слухаюць і менш гавораць самі. Перакулены ўрок забяспечвае ўмовы стварэння дыскусійнага поля на занятках (тэарэтычны матэрыял адпрацоўваецца дома).

Сутнасць мадэлі перакуленага ўрока — прыцягнуць вучняў да дзейнасці на ўроку. Для гэтага мяняецца змест дамашняй работы і працы на ўроку. У якасці дамашняга задання вучні атрымліваюць навучальнае відэа / электронны адукацыйны рэсурс для вывучэння новага матэрыялу. Зрабіць гэта яны могуць у любы зручны для іх час, у зручным месцы, прагледзеўшы некалькі разоў складаныя тэарэтычныя блокі. Да наступнага ўрока яны павінны сфармуляваць пытанні, якія ўзніклі ў працэсе вывучэння новага матэрыялу, скласці схему, табліцу і інш.

На ўроку настаўнік арганізуе сумесную дзейнасць па вывучанай тэме: абмеркаванне пытанняў, рашэнне задач, стварэнне міні-праектаў, складанне алгарытмаў, правядзенне эксперыментаў і г.д. Калі перакулены ўрок правільна арганізаваць, то вучні выкарыстаюць урочны час не для слухання аповеду настаўніка па новай тэме, а для групавой працы, рашэння задач, а магчымасці сеткі — для чытання, прагляду відэа і іншых навучальных матэрыялаў па-за школай. Такім чынам будуць выкарыстаны, перавагі абодвух навучальных асяроддзяў: онлайну і школы.

**Тэма ўрока: Работа ў тэрмадынаміцы. Колькасць цеплыні (X клас).**

Па гэтай тэме ў папярэдніх класах:

- вывучалі сэнс фізічных паняццяў: колькасць цеплыні, удзельная цеплаёмістасць, удзельная цеплыня згарання паліва, удзельная цеплыня плаўлення, тэмпература плаўлення (крышталізацыі), удзельная цеплыня параўтварэння, тэмпература кіпення (кандэнсацыі);
- практыкаваліся: знаходзіць па табліцах значэнні ўдзельнай цеплаёмістасці рэчыва, удзельнай цеплыні згарання паліва, удзельнай цеплыні плаўлення, удзельнай цеплыні параўтварэння; рашаць якасныя, графічныя і разліковыя задачы на вызначэнне колькасці цеплыні ў розных цеплавых працэсах, на прымяненне ўраўнення цеплавога балансу.

Пажадана, каб да гэтага ўрока вучні валодалі ўменнямі складаць карты памяці.

**Мэта настаўніка на ўрок.** Плануецца, што ў выніку ўрока вучні: 1) будуць ведаць формулу работы газу, геаметрычны сэнс работы; будуць умець рашаць якасныя, графічныя і разліковыя задачы на вызначэнне работы газу, колькасці цеплыні; 2) навучацца распазнаваць метады рашэння задач (аналітычны і графічны) на вызначэнне работы;

**Мэта на мове вучняў.** Я буду ведаць, як рашаць задачы на вызначэнне работы з дапамогай формул і графіка, змагу рашыць задачы з выкарыстаннем ураўнення цеплавога балансу.

**Табліца. Дзейнасць пры арганізацыі перакуленага ўрока**

| Настаўнік | Вучні |
|---|---|
| **Дома** | |
| Шукае рэсурсы для рэкамендацыі вучням. Магчыма, размяшчае адпаведныя тэксты / відэаматэрыялы на сваім сайце ці ў блогу. Прэзентацыя для VIII класа з сайтаў **www.alsak.ru**, **www.globalphysics.ru**, падручнік па фізіцы для VIII класа. Вучням можна сказаць, што яны могуць карыстацца і іншымі крыніцамі.<br>Прапануе навучэнцам крытэрыі ацэнкі выкананых заданняў:<br>1. Карта памяці ўтрымлівае чатыры галіны (награванне, плаўленне, кіпенне, гарэнне) і адпаведныя падраздзелы.<br>2. Сфармуляваны не менш за 3 пытанні.<br>Рыхтуе выніковы тэст са зваротнай сувяззю (1—2 варыянты) | Праглядаюць дома прапанаваны матэрыял.<br>Складаюць карту памяці па матэрыяле VIII класа.<br>Фармулююць пытанні, якія ўзніклі пры азнаямленні з новым матэрыялам |
| **У класе** | |
| 1. Арганізуе групавую працу вучняў па выніках выканання дамашняга задання<br>2. Арганізуе франтальнае абмеркаванне вынікаў працы ў групах.<br>3. Дапамагае вучням зразумець і прыняць мэту ўрока.<br>4. Робіць абагульненне па выніках вывучэння тэорыі і праводзіць карэкцыю.<br>5. Арганізуе самаацэнку па эталоне табліцы.<br>6. Арганізуе практычную працу вучняў па прымяненні тэарэтычных ведаў, кансультуе.<br>7. Прадстаўляе эталон для ўзаемаацэнкі з пісьмовымі каментарамі, напісанымі на адваротным баку тэста, для выбару дамашняга задання.<br>8. Стварае сітуацыю рэфлексіі з дапамогай пытанняў:<br>Наколькі вам дапамог дасягнуць вашай мэты паўтор вучэбнага матэрыялу?<br>Прывядзіце тры аргументы на карысць рашэння задач разам з суседам па парце.<br>Што трэба зрабіць, каб наступны раз было менш памылак у тэсце? | Праца ў групах: абмяркоўваюць інтэлект-карты і адказваюць на пытанні, якія ўзніклі пры выкананні дамашняй работы.<br>Асэнсоўваюць мэту ўрока.<br>Запаўняюць табліцы «з белымі плямамі»<br>Працуюць у парах над рашэннем задач.<br>Выконваюць выніковы тэст: формулы, выбар метаду і задача на складанне ўраўнення цеплавога балансу, разлік работы па графіку.<br>Робяць узаемаацэнку. Самавызначаюцца з дамашнім заданнем.<br>Навучэнцы прагаворваюць, у якой ступені выкананая праца дазволіла дасягнуць мэты, пастаўленыя ў пачатку ўрока, наколькі праца ў парах была прадуктыўнай, наколькі карысны для іх перакулены ўрок |

**Эталон запаўнення табліцы**

| Працэс | Формула | Участак графіка | Тлумачэнне |
|---|---|---|---|
| Награванне, астуджэнне | Q = cmΔt | | c — удзельная цеплаёмістасць (Дж/кг °C) |
| Плаўленне, крышталізацыя | Q = λm<br>Q = -λm | | λ — удзельная цеплыня плаўлення (Дж/кг) |
| Параўтварэнне, кандэнсацыя | Q = Lm<br>Q = -Lm | | L — удзельная цеплыня параўтварэння (Дж/кг) |
| Згаранне паліва | Q = qm | | Q — удзельная цеплыня згарання паліва (Дж/кг) |



**Інтэрнэт-матэрыялы па выкарыстанні методыкі «перакулены ўрок»**

Раздзел, прысвечаны методыцы перакуленага класа, на партале nastaunik.info:
**http://www.nastaunik.info/metoda/flipped**

Людміла Каралёва, «Радыеактыўнасць», урок, праведзены ў ДУА «Гімназія № 192 г. Мінска»:
**http://www.nastaunik.info/node/14597**

Афіцыйны канал Акадэміі Хана (на рускай мове):
http://www.youtube.com/KhanAcademyRussian

Марына Курвітс, артыкул «Перакулены клас як арганізацыя асабова-арыентаванага падыходу ў навучанні»:
http://blognauroke.blogspot.com/2013/09/blog-post.html

Онлайн курс «Перевернутый класс: сценарии в педагогической практике» https://www.youtube.com/playlist?list=PLf7CBqXKVRrHvvcvSLcU_z-DqGlVE9ocW

### 2.5.7. Прыклады ўключэння пытанняў медыяадукацыі ў раздзелы школьнай фізікі

У адрозненне ад мабільных тэлефонаў і сацыяльных сетак, законы Ньютана дзеці самастойна не засвояць, калі пра іх не распавядуць у школе. Задача настаўніка — навучыць працаваць на ўроку фізікі з фізічнай інфармацыяй, якая сустракаецца ў медыякрыніцах. І калі медыйныя крыніцы інфармацыі будуць інтэграваны ў кожны раздзел прадмета «Фізіка», вучні будуць разам з прадметнымі кампетэнцыямі набываць і медыйныя.

Разгледзім, як гэта можна зрабіць пры выкладанні раздзела «Фізіка ядра і элементарныя часціцы». Матэрыял быў распрацаваны ўдзельнікамі летніка «Альхоўка-2015» *Аленай Ананчыкавай, Дзмітрыем Бондарам, Яўгенам Пархоменкам, Аляксандрам Саковічам, Элай Якубоўскай*.

**Тэма 1. Пратонна-нейтронная мадэль будовы ядра атама. Энергія сувязі ядра атама**

У працэсе арганізацыі перакуленага ўрока навучэнцам прапануецца дома выканаць заданні:

1. Паглядзець два відэаролікі па доследзе Рэзерфорда (гістарычны і эксперыментальны) (http://interneturok.ru/ru/school/physics/9-klass/stroenie-atoma-i-atomnogo-yadra-ispolzovanie-energii-atomnyh-yader/modeli-atomov-opyt-rezerforda) і відэа з прэзентацыі «Будова атама» (http://web-physics.ru/index.php/materials/prezent/prezent11.html). Параўнаць падачу інфармацыі. Якая больш дакладная, а якая больш цікавая? Чаму так?
2. Прааналізаваць інфармацыю з розных крыніц пра Вернера Гейзенберга і Дзмітрыя Іваненку. Якія крыніцы і як ацэньваюць іх унёсак у стварэнне мадэлі будовы ядра? Чаму так падаецца інфармацыя?
3. Скласці карту памяці / параўнальную табліцу «Развіццё мадэлі атамнага ядра» ад Рэзерфорда да сучасных тэорый. Абмеркаваць, ці можна падобную

табліцу / карту скласці па матэрыялах падручніка, якія перавагі і недахопы падручнікаў пры гэтым выяўляюцца.

**Тэма 2. Ядзерныя рэакцыі. Законы захавання ў ядзерных рэакцыях. Энергетычны выхад ядзерных рэакцый**

1. Доказ фэйку. Артыкул «Сомнений не осталось, LENR существует»*.

«На секцыі халоднага ядзернага сінтэзу National Instruments Week (Austin, USA; 5—8 жніўня 2013 г.) найбольшае ўражанне зрабілі дзве залатыя сферы, пагружаныя ў пласт срэбных пацерак.




Залатыя сферы, што вылучаюць цеплыню днямі і месяцамі без падводу знешняй энергіі. Узорная сфера злева (84 °С), кантрольная сфера справа (79,6 °С), алюмініевая скрыня са срэбнымі пацеркамі (80 °С).

Тут не падводзіцца ніякай цеплыні, няма ніякіх патокаў вады, але ўся сістэма застаецца гарачай (80 °С) дні і месяцы. Яна ўтрымлівае актываваны вугаль, у порах якога маецца нейкі сплаў, магнітны парашок, матэрыял, які ўтрымлівае вадарод і газападобны дэйтэрый. Мяркуецца, што цеплыня вылучаецца пры ядзернай рэакцыі $D + D = 4He + Q$. Для падтрымання моцнага магнітнага поля сфера ўтрымлівае раздробнены магніт $Sm_2Co_7$, які захоўвае магнітныя ўласцівасці пры высокіх тэмпературах. У канцы канферэнцыі на вачах удзельнікаў сферу разрэзалі, каб прадэманстраваць, што ў ёй няма ніякіх «фокусаў» кшталту літыевай батарэі або спальвання бензіну».

Вучням прапануецца адказаць на пытанне: «Чаму гэта можна лічыць фэйкам?»

*Магчымыя аргументы*: Няма спасылкі на матэрыялы канферэнцыі. Навошта выкарыстаны срэбныя пацеркі і залатыя шары? Пераблытаны градусы Цэльсія і Фарэнгейта. Такі суперэфект абяцае шматмільённыя звышпрыбыткі, калі гэта не было б фэйкам, то ніхто ніколі не паказаў бы, папярэдне

* http://maxpark.com/community/5654/content/2383215.



не запатэнтаваўшы, бо паўтарыць усё вышэйпрыведзенае і назваць сваім, запатэнтаваўшы, зможа любы.

2. Аналіз навіны пра навуковае даследаванне.

   Вучням прапануецца артыкул «Халодны разлік» Я. Носава («Навукоўцы наблізіліся да стварэння крыніцы энергіі, якая некалі загубіла магутную цывілізацыю атлантаў»)*. Ці можна лічыць гэтую інфармацыю праўдзівай? Прывядзіце аргументы.

**Тэма 3. Радыеактыўнасць. Закон радыеактыўнага распаду**

1. Пошук дадатковай інфармацыі, адыход ад стэрэатыпаў. Часцей за ўсё вобраз вучонага-першаадкрывальніка трактуецца ў падручніках (калі пра іх увогуле ўзгадваюць) як вобраз героя, не ўлічваючы тыя складанасці, а часам і трагедыі, якія суправаджаюць працэс знаходжання ісціны.

   Напярэдадні ўрока двум вучням прапануецца падрыхтаваць невялікае паведамленне «Ці толькі герой?» (на прыкладзе жыцця Марыі Складоўскай-Кюры і Анры Бекерэля), на ўроку ставяцца пытанні: «Якія крыніцы даюць сапраўдную і поўную біяграфічную інфармацыю вучоных? Што цікавага вы даведаліся з дадатковых крыніц?»

2. Параўнанне розных крыніц інфармацыі, якія змяшчаюць альтэрнатыўныя пункты гледжання на адну і тую ж праблему. Настаўнік прадстаўляе дзве навіны СМІ (**http://ivona.bigmir.net/health/advice/389538-Dlja-chego-delajut-fljuorografiju** і **http://medakon.ru/**) пра карысць і шкоду флюараграфіі. Потым прапануе навучэнцам прааналізаваць гэтую інфармацыю з розных пунктаў гледжання і выказаць абгрунтаваныя аргументы «за» і «супраць» кожнай.

3. Стварэнне медыяпаведамлення «Метад пазначаных атамаў». Ацэньванне па крытэрыях (змястоўнасць, якасць візуалізацыі, крэатыўнасць, рэакцыя слухачоў).

**Тэма 4. Дзяленне ядраў. Ланцуговыя ядзерныя рэакцыі**

Арганізацыя дыскусіі на ўроку. Акцэнтуецца ўвага, што сфера выкарыстання ядзерных рэакцый вельмі шырокая: энергетыка, ваенная галіна, медыцына. Дэманстрацыя прэзентацыі** ці знаёмства з матэрыяламі СМІ***. Абмеркаваць пытанні: Якія наступствы прымянення ядзерных рэакцый вы бачыце? Ад чаго залежыць карысць і шкода прымянення фізічных адкрыццяў? Адказ абгрунтуйце.

---

* http://yarcenter.ru/articles/science/science/kholodnyy-raschet-67814.

** http://ppt4web.ru/fizika/chto-my-znaem-o-jadernojj-ehnergii.html

*** http://fb.ru/article/198185/primenenie-yadernoy-energii-problemyi-i-perspektivyi

**Тэма 5. Ядзерны рэактар. Рэакцыі ядзернага сінтэзу**

**Заданне.** Падрыхтуйце паведамленні па тэмах:

- Прэса пра АЭС да і пасля аварыі (Чарнобыль, Фукусіма).
- Найбуйнейшыя аварыі (прычыны замоўчвання).
- Што было б, калі б навукоўцы нацысцкай Германіі першымі сканструявалі атамную бомбу? Што для гэтага яны рабілі?

**Тэма 6. Іанізаваныя выпраменьванні. Элементы дазіметрыі. Паскаральнікі**

1. Дэманстрацыя відэа «Энцыклапедыя атама. У свеце з радыяцыяй», прэзентацыі «Паскаральнікі»* і фармулёўка пытанняў, што датычацца ролі прадстаўленых фактаў у іх жыцці.
2. Выкажыце аргументы «за» і «супраць» выкарыстання падобных загалоўкаў у СМІ.

   - «Радыеактыўныя адыходы выкідаюць проста пад ногі гараджанам!»

   - «У пункты прыёму другаснай сыравіны пачалі здаваць радыеактыўны металалом!»

   - «Грошы схільныя не толькі да інфляцыі, але і да радыяцыі!»

   - «У радыеактыўных сценах людзі могуць пражыць, ні пра што не здагадваючыся, дзясяткі гадоў!»

   - «Хадзіць па ягады на рынкі трэба з дазіметрам!»

### 2.5.8. Прымяненне метаду кейсаў (case study)

Задачы маюць выразна сфармуляваную ўмову. Пры традыцыйным навучанні вучні бяруць з падручніка пэўныя формулы і прымяняюць іх на практыцы. У рэальным жыцці задачы і праблемы амаль заўсёды зададзены няяўна, не маюць дакладных межаў, «засмечаныя» староннняй інфармацыяй, і чалавеку, які ніколі раней не сутыкаўся з падобнымі задачамі, прыходзіцца не заўсёды проста. Тэхналогія «case study» прывучае да вырашэння падобных задач.

Прымяненне кейсавых практык пры навучанні фізіцы можна разглядаць як магчымасць перанесці практычную задачу з жыцця ва ўрочную / пазаўрочную дзейнасць навучэнцаў. Кейсы дапамагаюць фарміраванню і развіццю навыкаў рашэння практычных задач, крытычнага мыслення, аналізу інфармацыі. Для стварэння кейсаў выкарыстоўваем розныя медыярэсурсы. Па ходзе навучання даследчай дзейнасці на ўроках фізікі дзяцей можна паспяхова вучыць знаходзіць доступ да медыяпрадуктаў, аналізу ўсіх іх формаў, перапрацоўцы інфармацыі.

* http://web-physics.ru/index.php/materials/prezent/prezent11.html

**Кейс «Геолагі».** «Улетку 2011 г. група геолагаў, якія працуюць ва Усходняй Сібіры, вырашыла праехацца па дарозе ў пошуках вяснова-летніх адмываў з новых пластоў зямлі. Навукоўцы шукалі дагістарычныя рэшткі жывёльнага свету, якія з'яўляліся падчас вясновай паводкі, хоць асноўнай мэтай геалагічнай экспедыцыі быў пошук і даследаванне мінеральнага складу глеб, дзе прысутнічае кімберліт. Вяртаючыся да лагера іншым шляхам, геолагі ўбачылі, што бачная частка дарогі скончылася ля бурнай ракі, праз якую неабходна пераправіцца і працягнуць шлях уздоўж іншага, больш высокага, берага. Спецыяльных збудаванняў для пераправы на іншы бераг не было, паліва на вяртанне не хапала. Экспедыцыйнае абсталяванне каманды: падрыхтаваны аўтамабіль для перасечанай мясцовасці, рыдлёўкі, сякеры, бензапіла, ліны і тросы».

**Заданне.** Якім чынам трэба сканструяваць пераправу, каб яна вытрымала вагу аўтамабіля?

*Настаўнік можа задаць свае дадатковыя ўмовы для большай факусіроўкі ўвагі: якія дошкі ўваходзілі ў абсталяванне геолагаў? Фокус увагі можа выбіраць сам вучань, але спачатку лепш, каб яго задаваў настаўнік.*

У ходзе рашэння задачы вучань стварае індывідуальны праект, які ўтрымлівае вывучэнне кейса, планаванне і вырашэнне вучэбнай сітуацыі. У далейшым гэтыя праекты ці фота-/відэасправаздачы збіраюцца ў партфоліа, якое дэманструе не толькі адукацыйныя поспехі навучэнца, але і поспехі пазаўрочнай актыўнасці, самастойнасці, адказнасці, развітасці мыслення.

**Кейс «Шыпучкі».** «Напачатку 60-х гг. XX стагоддзя доктар фармацэўтычнай кампаніі UPSA Жан Бру стварыў першую шыпучую таблетку аспірыну з вітамінам С. З тых часоў «шыпучая» тэхналогія стала адной з найбольш перспектыўных у фармацэўтыцы, забяспечваючы хуткадзейнасць і павышаную эфектыўнасць лекавых прэпаратаў».

**Заданне.** Кіньце шыпучую таблетку ў ваду. На працягу 3 хвілін паназірайце за паводзінамі таблеткі, зафіксуйце працэсы, якія вы бачыце. Сфармулюйце як мага больш пытанняў. Якія пытанні можна сфармуляваць, каб растлумачыць працэсы, якія вы назіраеце? Гэта могуць быць пытанні ў любых прадметных галінах.

*Варыянты пытанняў, сфармуляваных вучнямі:* Таблетка спачатку тоне, а потым усплывае. Чаму так адбываецца? Што гэта за бурбалкі, адкуль яны бяруцца? З-за чаго вада мяняе колер? Навошта выдумалі шыпучыя таблеткі? Чаму нельга адразу прадаваць раствор? Якая сіла цягне таблетку ўніз, а потым уверх? Бабуля кажа, што амерыканскія таблеткі дапамагаюць толькі амерыканцам, ці праўда гэта? Чаму таблетка ў нейкі момант пачынае раствараецца павольней? А калі ваду спачатку падсаладзіць, таблетка будзе раствараецца гэтак жа?

Пытанні, што ставяцца ў ходзе назірання за феноменам, — не рашэнне кейса, рашэнне — праект пошуку спосабаў адказаў па пытанні:

1. Праект навуковага даследавання (вывучэнне шэрагу аспектаў феномена).
2. Праект экспертызы аб'екта (ацэнка рызыкаў і станоўчых перспектыў назіранага феномена).
3. Праект рэканструкцыі досведу (аднаўленне назіранага працэсу ў іншых умовах).
4. Блок-схема: «Як гэта працуе?» або інтэлект-карта аб'екта (стварэнне мадэлі назіранага феномена).
5. Праект аптымізацыі (паляпшэнне аб'ектаў / працэсаў, звязаных з назіранай з'явай).

У ходзе вырашэння кейса навучэнец можа стварыць даследчы або канструктарскі праект, які праходзіць працэдуру абароны і атрымлівае публічную ацэнку. Вынікі абароны таксама адлюстроўваюцца ў партфоліа і суміруюцца з іншымі вынікамі па індывідуальных праектах навучэнца.

Ва ўсіх выпадках метадалогія рашэння кейса вучнем адбываецца па формуле ад прыватнага да агульнага, потым ад агульнага да прыватнага. Ад прыватнага да агульнага: вучань павінен пабудаваць сувязі паміж канкрэтнай праблемай або з'явай і тымі прадметнымі ведамі, якія яму даюцца ў школе. Ад агульнага да прыватнага: на гэтым этапе вучань павінен прымяніць прадметныя веды і навык рашэння прадметных задач да канкрэтных жыццёвых сітуацый.

**Кейс «Падтапленне дамоў».** Паведамленне СМІ: «У гэтым годзе ў Беларусі ў зоне буйнога падтаплення апынуліся звыш 600 дамоў і падворкаў. Як паведамляе МНС, да некаторых вёсак дабрацца складана: пад вадой апынуліся 12 буйных участкаў дарог. Больш за ўсё пацярпелі паўднёвыя і заходнія рэгіёны краіны — Брэсцкая, Гомельская і Гродзенская вобласці. У вышэйзгаданых абласцях з берагоў выйшлі Прыпяць, Гарынь, Простыр, Уза, Пціч, Ведрыч і іншыя рэкі. Аднак жыццезабеспячэнне ў пацярпелых населеных пунктах не парушана, ратавальнікі пастаянна адсочваюць сітуацыю. Найбольш складаная сітуацыя на Палессі, дзе паводка набліжаецца да свайго піку. Такіх моцных паводак у гэтым рэгіёне не было апошнія 10 гадоў. За суткі ў Гомельскай вобласці — традыцыйна самым праблемным рэгіёне — колькасць падтопленых падворкаў скарацілася на некалькі дзясяткаў. Многія жылыя дамы пацярпелі не з-за разліву рэк, а з-за раставання снегу: яго ў гэтым годзе выпала як ніколі шмат. Калі на брэсцкім Палессі зараз — самы пік паводкі і хутка, па прагнозах, вада пойдзе на спад, то ў Гомельскай вобласці найбліжэйшы тыдзень стане выпрабаваннем: падымаюцца Днепр і Сож. Усё наперадзе і ў водных артэрый цэнтральнай часткі Беларусі — яны толькі пачынаюць вызваляцца ад ледзяных кайданоў».

1. Якія сапраўдныя прычыны паводкі (група 1)?

2. Якія працэсы, з пункту гледжання фізікі, негатыўна ўплываюць на кругазварот вады, правакуючы паводкі (група 2)?

3. Якія меры неабходна прыняць, каб паменшыць верагоднасць паводак у будучыні (група 3)?



**Інтэрнэт-матэрыялы па выкарыстанні методыкі case study.**

http://kopilkaurokov.ru/fizika/uroki/konspiekt-uroka-na-tiemu-moliekuliarno-kinietichieskaia-tieoriia-v-nashiei-zhizni-s-primienieniiem-kieis-tiekhnologhii — распрацоўка ўрока па фізіцы з выкарыстаннем кейс-метаду на тэму «Малекулярна-кінетычная тэорыя ў нашым жыцці».

http://enauki.prosv.ru/case/ — распрацоўка кейса па фізіцы «Праблемы цеплавых рухавікоў»

http://nsportal.ru/shkola/fizika/library/2013/04/26/lopushnyan-ga-primenenie-keys-metoda-na-urokakh-fiziki-razrabotka — метадычныя распрацоўкі да ўрока «Рашэнне энергетычнай праблемы ў Калінінградскай вобласці» з выкарыстаннем кейс-метаду.

https://sites.google.com/site/metodcasestudy/materialy — старонка прызначана для размяшчэння распрацовак педагогаў, якія асвойваюць тэарэтычныя асновы і метадычныя асаблівасці метаду case study ў педагагічнай практыцы.



**Інтэрнэт-рэсурсы і электронныя сродкі навучання**

Раздзел «Фізіка» на партале nastaunik.info з матэрыяламі па тэме «Медыяадукацыя на ўроках фізікі»: http://www.nastaunik.info/workshop/physics

http://allforchildren.ru/scivideo/physics0.php — навукова-папулярныя фільмы па фізіцы.

http://elementy.ru/lib/430431 — артыкул «Анатомія адной навіны, або Як на самай справе фізікі вывучаюць элементарныя часціцы»; на прыкладзе падрабязнага аналізу тэксту навіны «Навукоўцы

наблізіліся да разумення будовы зямной матэрыі»
аўтар тлумачыць, у чым заключаюцца памылкі.

**http://globalphysics.ru/** — сайт «Фізіка ад А да Я» змяшчае навіны, падручнікі, аўдыя- і відэаматэрыялы па фізіцы.

**http://vikent.ru/enc/5316/** — 15 прыкмет псеўда-навукі ў артыкуле, кнізе, тэлеперадачы, вэб-сайце.

**http://www.alsak.ru/** — сайт для школьнікаў і настаўнікаў «Школьная фізіка ад Саковіча».

**http://www.poznavayka.org/** сайт навукова-папулярнага часопіса «Познавайка».

**http://elementy.ru/index.html** — сайт па фундаментальнай навуцы: навіны, энцыклапедыя тэрмінаў і законаў, навуковы каляндар, навука і права, бібліятэка артыкулаў.

**http://school-collection.edu.ru/** — калекцыя лічбавых адукацыйных рэсурсаў.

**https://newtonew.com/overview/youtube-science-for-kids** — на сайце сабраны рускамоўныя YouTube-каналы, якія рэгулярна папаўняюцца свежымі эксперыментамі, заняткамі і адукацыйнымі ролікамі для дзяцей.

**http://videouroki.net/index.php?subj_id=4** — відэаўрокі па фізіцы.

**http://interneturok.ru/** — адукацыйны партал: у адкрытым доступе і без рэкламы калекцыя ўрокаў (відэа, канспекты, тэсты і трэнажоры) па асноўных прадметах школьнай праграмы.

*Тамара Мацкевіч, Міхась Булавацкі*

## 2.6. Аб медыяадукацыі на ўроках матэматыкі

Настаўніку матэматыкі з медыяадукацыяй, можна сказаць, пашанцавала больш за ўсіх. Кожны дзень у СМІ з'яўляюцца звесткі з лічбамі, графікамі, прагнозамі, спартыўнай статыстыкай, якія могуць быць выкарыстаны для павышэння цікавасці да тэмы ўрока, яе актуалізацыі. Выкарыстанне медыя дапамагае настаўніку дасягнуць не толькі адукацыйных мэт урока, а таксама задач асабовага развіцця вучняў.

### 2.6.1. Прыклады з жыцця пры фармуляванні матэматычных задач

**Прыклад 1.** Паводле статыстыкі 59 % падлеткаў размяшчаюць у сацыяльных сетках прыватную інфармацыю, якая можа быць выкарыстана супраць іх і іх сем'яў. Палічыце, колькі вучняў нашага класа знаходзяцца пад пагрозай? Да якой групы вы адносіце сябе?

Пасля рашэння гэтай задачы можна нават не падводзіць «маральныя вынікі» — большасць задумаецца над зместам сваіх старонак.

**Прыклад 2.** Паводле даследаванняў, у Швецыі 31 % школьнікаў «сябруюць» у сацыяльных сетках з бацькамі. Палічыце, колькі працэнтаў вучняў вашага класа маюць бацькоў у «сябрах».

**Прыклад 3.** Энергазберагальная лямпачка ў 20 *Вт* стварае светлавы струмень, роўны светлавому патоку звычайнай лямпы напальвання 100 *Вт*. Энергазберагальныя лямпы зніжаюць выдаткі электраэнергіі на 80 % без страт асветленасці пакоя. За гадзіну працы такая лямпа дае эканомію электраэнергіі на 80 *Вт/г*, калі кожныя суткі лямпа будзе ўключана, у сярэднім, на працягу 5 гадзін — сярэднесутачная эканомія складзе 400 *Вт/г*, а сярэднямесячная (30 сутак) — 1,2 *кВт/г*.

*Заданне:*

- Складзіце формулу для разліку сярэднямесячнай эканоміі электраэнергіі ад выкарыстання энергазберагальных лямп. Выкарыстайце гэту формулу пры рашэнні задачы:

Замянілі 5 лямп напальвання магутнасцю па 60 *Вт* на энергазберагальныя лямпы магутнасцю 12 *Вт* кожная. На колькі знізіўся выдатак электраэнергіі ў лістападзе, калі святло штодня ўключалі з 17 да 22 гадзін? Наколькі пры гэтым знізілася аплата электраэнергіі? (Тарыф на электраэнергію вучні павінны адшукаць самастойна ў медыя.)

Аналагічныя задачы можна скласці амаль на любую тэму, замяніўшы стандартныя фармулёўкі больш актуальнымі — з медыяадукацыйным зместам.

### 2.6.2. Пошук недакладнасцяў у СМІ

Апошнім часам у СМІ з'яўляецца шмат «інфармацыйных качак», якія дапамагае выкрыць простая школьная матэматыка.

З аповесці расійскага пісьменніка Вячаслава Кандрацьева: «*Сталі яны па чатыры ў рад і пайшлі. Чалавек трыста іх было, вось і расцягнулася калона на паўкіламетра…*». Падлічым: 300 чалавек па 4 у рад. Гэта 75 радоў (74 прамежкі паміж радамі). Адлегласць паміж радамі ў калоне — два крокі — паўтара (ну няхай два) метры. Больш за 150 метраў ніяк не атрымліваецца. Дзе ж тут паўкіламетра? Пралічыўся пісьменнік. Але пісьменніку такое перавелічэнне можна дараваць: гэтай завышанай лічбай ён паказаў, што калона *здавалася* доўгай. А вось журналістам, ад якіх патрабуецца дакладнасць, такое дараваць нельга.

Апошнім часам вельмі папулярная сярод журналістаў фраза: «Гэта на парадак болей». Напрыклад, журналіст паведамляе: «У гэтым годзе гаспадарка сабрала 680 тысяч тон збожжа, гэта на парадак болей, чым у мінулым годзе…» Цікавімся, колькі ж было ў мінулым годзе — аказваецца, 360 тысяч тон. Такім чынам, павелічэнне амаль удвая, але не на парадак.

Парадак — гэта дакладны матэматычны тэрмін. Што ён азначае? Калі лік запісаць у выглядзе здабытку двух множнікаў, адзін з якіх паміж адзінкай і дзясяткай, а другі выяўляецца ступенню дзясяткі, то такі запіс ліку называюць у матэматыцы *стандартным*. Напрыклад, лік 76 у стандартным выглядзе запішацца так: $7{,}6 \cdot 10^{1}$. Адпаведна, $2\ 331\ 900 = 2{,}3319 \cdot 10^{6}$ або $0{,}0000245 = 2{,}45 \cdot 10^{-5}$ і г.д. Стандартным запісам карыстаюцца тады, калі традыцыйны запіс выглядае доўга і яго цяжка ўсвядоміць і нават прачытаць. Напрыклад, маса зямнога шара роўна 5980000000000000000000000 *кг* або маса атама вадароду — 0,00000000000000000017 *г*. Калі ж запісаць стандартным выглядам ($5{,}98 \cdot 10^{24}$ *кг* або $1{,}7 \cdot 10^{-19}$ *г* адпаведна), то атрымліваецца і карацей, і зручней для ўсведамлення. Дык вось, у стандартным запісе ліку $\mathbf{a} \cdot 10^{\mathbf{n}}$ (дзе $1 \leq a < 10$, а **n** — цэлы лік) лік **n** і называюць парадкам ліку. Зямны шар мае масу 24-га парадку (у *кг*), а атам вадароду мае масу мінус дзевятнаццатага парадку (у *г*). Такім чынам, двухзнакавыя лікі заўсёды маюць парадак 1, пяцізнакавыя лікі маюць парадак 4. Лікі 360 і 680 маюць аднолькавы парадак 2, тут не на парадак болей.

На парадак болей — гэта калі дадаецца яшчэ адна лічба ў цэлай частцы ліку. «На парадак болей» — гэта даволі расплывісты, няпэўны тэрмін, бо, напрыклад, лік 102 на парадак большы, чым лік 99, хоць лікі амаль аднолькавыя. У той жа час, лік 996 на парадак большы за лік 12, хаця першы большы за другі ажно ў 83 разы.

Таму папулярная журналісцкая фраза «на парадак болей» — зусім недарэчная, бо яна нічога канкрэтнага не гаворыць пра змену велічыні (можа, яна змянілася з 96 на 101, г. зн. зусім нязначна, а мо — з 15 на 830, тут адрозненне вельмі істотнае). Можна параіць журналістам, якія забылі школьную матэматыку, замест гэтага недарэчнага параўнання карыстацца тэрмінам адноснасці: удвая болей, утрая, у сем разоў або ў працэнтах: на 150 % болей (г. зн. у два з паловай разы). Бо тут змяненне цалкам зразумелае.

**Тэма ўрока.** Падабенства трохвугольнікаў (VII клас). Задача на трэцюю прымету падобнасці трохвугольнікаў.

Параўнальна нядаўна на ўсіх каналах быў сюжэт пра Boeing-777 авіякампаніі Malaysia Airlines, які ляцеў рэйсам МН17 Амстэрдам (Нідэрланды) — Куала-Лумпур (Малайзія) і разбіўся на ўсходзе Украіны 17 ліпеня 2014 г., як мяркуецца, ён быў збіты ракетай з зямлі. Гэтая падзея нікога не пакінула абыякавым, бо ў катастрофе загінула 298 чалавек, сярод якіх 85 дзяцей. Вучні праглядаюць сюжэт I канала расійскага тэлебачання, дзе дэманструюць доказ, што гэты пасажырскі самалёт над тэрыторыяй Данбасу быў збіты ракетай, выпушчанай з іншага самалёта-знішчальніка, які ёсць на ўзбраенні Украіны. (Відэа: **https://www.youtube.com/watch?v=B5k2fvV84Mk**, **http://www.1tv.ru/news/social/271859**. Навіна на Лайфньюс: **http://lifenews.ru/news/145022**.)

Эксперт у пацверджанне гэтай версіі дэманструе фотаздымак, зроблены са спадарожніка, на якім зафіксаваны 2 самалёты і след выпушчанай ракеты.



**Заданне.** Устанавіце праўдзівасць дадзенай навіны, выкарыстоўваючы веды з тэмы ўрока. Пры наяўнасці часу вучні самастойна знаходзяць дадзеныя з інтэрнэт-крыніц: размах крылаў самалёта Боінг-777 — 60,93 *м* (паводле спецыфікацыі самалёта); праекцыя самалёта на зямлю — 4310 *м* (з праграмы **https://maps.google.com**)*; вышыня палёту самалёта — 10 000 м (дадзеныя чорнай скрыні); вышыня арбіты спадарожніка — каля 200 000 м. Будуюць чарцёж і правяраюць, ці могуць падобныя трохвугольнікі мець такія параметры.*

Умова гэтай задачы можа быць сфармулявана і па-іншаму: *На якой вышыні павінен знаходзіцца спадарожнік, каб зрабіць здымак самалёта размахам крылаў 60,93 м, які ляціць на вышыні 10 км, калі яго праекцыя на паверхню зямлі склала 4 км 310 м? Ці мае задача рашэнне, калі ніжняя мяжа арбіты спадарожніка 150 км?*




*Рашэнне:*

$$\frac{x + 10000}{x} = \frac{4310}{60,93}$$

$x = 143$ *м*

$h = 143+10000 = 10143$*(м)*

*Адказ.* Спадарожнік, з якога нібыта зроблены гэты здымак, павінен быў знаходзіцца на вышыні 10 143 м над зямлёй, што немагчыма, спадарожнікі на такой вышыні лётаць не могуць — яны згарэлі б у атмасферы.



Вось яшчэ некалькі задач, якія прапануюць з сайта illari.ru: http://illari.ru/article/mh17/.

**Задача № 1**

*Дадзена:*







Вышыня арбіты спадарожніка $A_1B_1$ = 200 км.
Даўжыня самалёта Боінг B-777 = 63,72 м.
Вышыня самалёта над зямлёй $BB_1$ = 10 км.
Знайсці $B_1C_1$.

*Рашэнне:*

Адлегласць ад спадарожніка да самалёта $AB = A_1B_1 - BB_1$ = 190 км
$AB / A_1B_1 = BC / B_1C_1$
$B_1C_1 = BC \cdot A_1B_1 / AB$
$B_1C_1 = 63{,}72 \cdot 200000 / 190000 = 67{,}07$ м

*Адказ.* Здымак зроблены не са спадарожніка. Памер праекцыі самалёта на зямлю павінен быць параўнальны з самім самалётам. А на здымку памер праекцыі не меншы за 4 км.

**Задача № 2**

Дапусцім, вышыня палёту самалёта невядомая (хоць на самай справе гэта 10 км).

*Дадзена:*
Вышыня арбіты спадарожніка $A_1B_1$ = 200 км.
Даўжыня самалёта $BC$ = 63,73 м.
Даўжыня праекцыі $B_1C_1$ = 4 км 900 м.

*Пытанне:* на якой вышыні ляціць самалёт ($B_1B$)?

Параўнайце свой адказ з вядомымі загадзя дзесяццю кіламетрамі.

Гэты ж прыклад «медыйнай качкі» можна выкарыстаць у якасці ключавога пытання на ўроку фізікі пры вывучэнні оптыкі, сілы трэння і на ўроку інфарматыкі, пры навучанні карыстанню пошукавымі сэрвісамі. Галоўнае, каб вучні самі зрабілі высновы пра неабходнасць аналізаваць інфармацыю і патрэбных для гэтага ведах.

Дарэчы, блогеры праз 30 хвілін распазналі фэйк расійскага тэлебачання і абвясцілі, што фота са спадарожніка — гэта 100 % падробка. Аднак шмат інфармацыйных каналаў транслявалі гэты «доказ» яшчэ некалькі месяцаў.




**Дэматыватар, які з'явіўся ў сацыяльных сетках пасля фэйкавай навіны расійскага тэлебачання.**



**Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў матэматыкі**

Раздзел «Матэматыка» на партале **nastaunik.info** з матэрыяламі па тэме «Медыяадукацыя на ўроках матэматыкі»: **http://www.nastaunik.info/workshop/math**



*Алена Сеген*

## 2.7. Аб медыяадукацыі вучняў на ўроках хіміі

### 2.7.1. Магчымасці заняткаў хіміі для фарміравання ўменняў крытычна ацэньваць медыяінфармацыю

У розных раздзелах і тэмах вучэбнай праграмы па хіміі заключаны розныя магчымасці для медыяадукацыі вучняў. Найбольш прыдатныя тэмы, якія непасрэдна звязаны з жыццём і дзейнасцю чалавека наступныя: «Солі ў прыродзе і штодзённым жыцці чалавека», VII клас; «Вада і растворы ў жыццядзейнасці чалавека», VIII клас; «Ахова навакольнага асяроддзя ад забруджвання пры перапрацоўцы вуглевадародаў», IX клас.

Як паказвае вопыт, мае значэнне не толькі змест, але і форма правядзення ўрока. Вялікія магчымасці для развіцця крытычнага мыслення маюць урокі-канферэнцыі і ўрокі-дыскусіі. Пры падрыхтоўцы да такіх урокаў усе вучні, аб'ядноўваючыся ў групы, атрымліваюць ролі: энергетыкі, фізікі, хімікі, эколагі, медыкі, гісторыкі і журналісты. Вучні кожнай групы загадзя праводзяць пошук інфармацыі з розных крыніц па сваіх пытаннях. Настаўнік дае крытэрыі пошуку інфармацыі (актуальнасць, навізна, незвычайнасць, цікавасць, праўдзівасць, даступнасць). Уся інфармацыя (тэкставая, графічная, відэаінфармацыя, анімацыі), знойдзеная вучнямі, спачатку аналізуецца ў групах на прадмет адпаведнасці пастаўленай настаўнікам задачы і крытэрыям. Затым, непасрэдна пры правядзенні ўрока, вучням кожнай групы даецца слова для паведамлення. Праз усе нетрадыцыйныя ўрокі праходзіць інтэрактыўнае апытанне па прынцыпе гульні «Святлафор», калі заклікаHы выказвае асабістае стаўленне да пытанняў, якія разглядаюцца. Такім чынам, праведзеныя мерапрыемствы змяняюць адносіны многіх вучняў да закранутых тэм і спрыяюць фарміраванню медыяграматнасці школьнікаў.

Аналітычным уменням і развіццю крытычнага мыслення спрыяе выкананне заданняў па любімых вучням творах кінематаграфіі: знайсці ў прагледжаным фрагменце фільма хімічныя веды, апісаць убачанае на тэлеэкране на мове хіміі (з дапамогай хімічных формул і ўраўненняў). У вучняў развіваюцца назіральнасць, уменні перакадзіроўкі інфармацыі: памяншэнне яе аб'ёму ў працэсе вылучэння галоўнага, змена формы падачы і знакавай сістэмы.

**Прыклад.**

Вучням прапануецца праглядзець урывак мастацкага фільма «Гаспадыня меднай гары» і знайсці ў медыя фотаздымкі рудаў, якія ўтрымліваюць медзь (хальказін, купрыт, азурыт, кавелін).

Вучні робяць выснову пра правільнасць падабранай колеравай гамы фільма.



Уключэнне медыятэкстаў у кантэкст урока дазваляе паказаць ролю хіміі і значэнне хімічных ведаў у паўсядзённым жыцці. Так, невялікі фрагмент з добра знаёмага мастацкага фільма «Белае сонца пустыні», які дэманструе выбух чыгуначнай цыстэрны з нафтай, падводзіць вучняў да разумення якасцяў гэтага прыроднага рэчыва. А відэафрагмент камедыі «Аперацыя „Ы“ і іншыя прыгоды Шурыка» Леаніда Гайдая, дзе галоўны герой «змагаецца» з цестам, можна выкарыстаць для вывучэння спіртавога закісання глюкозы і практычнага прымянення вугляводаў.

Добры прыём для дасягнення мэтаў медыяадукацыі — пошук памылак, недакладнасцяў у паведамленнях, прапанаваных СМІ. Могуць разглядацца газетныя артыкулы, тэлевізійныя перадачы, рэкламныя ролікі. Школьнікі вучацца крытычна ўспрымаць інфармацыю, бачыць супярэчнасці паміж навуковымі ведамі, прапанаванымі ў школе, а не слепа давяраць аўтарам паведамленняў.

На фоне агульнага пагаршэння экалагічнага становішча ў газетах, радыё- і тэлеперадачах усё больш гаворыцца пра забруджванне вады цяжкімі металамі, якія могуць стаць прычынай сур’ёзных захворванняў. Кожныя суткі спажыванне іонаў медзі (II) больш за 50 *мг* прыводзіць да парушэння дзейнасці печані, іонаў цынку больш за 15 *мг* — да анеміі, жалеза — да павышэння ўспрымальнасці да інфекцый. Але ў гэтых паведамленнях нічога не гаворыцца пра тое, што адсутнасць гэтых жа іонаў у прадуктах харчавання не менш небяспечная для чалавека. На ўроках хіміі школьнікі пазнаюць, што калі чалавек будзе працяглы час спажываць ежу і ваду з сумарным утрыманнем іонаў медзі (II), меншым за 2 *мг* у суткі, то вынікам стане анемія і захворванні касцяной сістэмы. Спажыванне іонаў цынку менш за 15 *мг* у суткі — прычына карлікавага росту, выключэнне



з рацыёну іонаў жалеза або нават зніжэнне сутачнага спажывання да 15 мг і менш прыводзіць да зніжэння канцэнтрацыі гемаглабіну ў крыві.

Фарміраванне медыяграматнасці вучняў будзе адбывацца падчас калектыўнага абмеркавання, параўнання артыкулаў, тэкстаў, выбраных на гэтую тэму з розных крыніц.

Можна прапаноўваць вучням на ўроках або ў якасці дамашніх заданняў праглядзець рэкламныя ролікі, фрагменты фільмаў па літаратурных творах альбо радкі з мастацкіх твораў, якія змяшчаюць памылкі або недакладнасці, і знайсці памылкі.

Пры вывучэнні тэмы «Уласцівасці фосфару» (IX клас) можна прапанаваць вучням знайсці істотную хімічную памылку ў тэксце твора / фрагменце з фільма «Сабака Баскервіляў». «Велізарная пашча сабакі ўсё яшчэ свяцілася блакітнаватым полымем, дзікія вочы былі абведзеныя агністымі коламі. Я дакрануўся да гэтай святлівай галавы і, падняўшы руку, убачыў, што мае пальцы таксама засвяціліся ў цемры. — Фосфар, — сказаў я».

*(На паветры белы фосфар, сапраўды, свеціцца ў цемры. Але ўжо пры слабым награванні, для чаго дастаткова простага трэння, фосфар запальваецца і згарае. Значыць, калі б ён пакрываў поўсць сабакі, то яна ў першы ж дзень атрымала б апёкі.)*

Падчас вывучэння тэмы «Прамысловае значэнне металаў груп B і іх злучэнняў» (XI клас) пры замацаванні ўласцівасцяў металаў можна прапанаваць вучням асэнсаваць радок са зборніка «Вечар» Ганны Ахматавай: «…На мыйніку маім пазелянела медзь» і растлумачыць уласцівасці медзі.

*(У радку дапушчана недакладнасць: медзь сама па сабе не можа зелянець, такі колер даюць злучэнні медзі. Медзь узаемадзейнічае з кіслародам з утварэннем аксіду, а затым з вуглякіслым газам і вадой, ператвараючыся ў асноўны карбанат медзі — малахіт зялёнага колеру —* $2Cu + O_2 = 2CuO$, $2CuO + CO_2 + H_2O = (CuOH)_2CO_3$*.)*

Пры паўтарэнні важнейшых злучэнняў металаў можна прапанаваць вучням зборнік «Выбраная лірыка» І. Сельвінскага, дзе можна прачытаць: «Бачыш мармур? Гэта — проста кальцый», і папрасіць назваць склад мармуру і даць другія назвы гэтага злучэння.

*(На самай жа справе мармур не кальцый, а яго соль — карбанат кальцыю* $CaCO_3$*, ён яшчэ мае назву «вапняк, крэйда».)*

Пры вывучэнні тэмы «Паветра як сумесь газаў» (VII клас) вучням будзе цікава прачытаць вытрымку з твора «Палаючы востраў» А. Казанцава («…Паветра складаецца з азоту і кіслароду. Злучэнне гэтых двух газаў, якое да гэтага часу праходзіла з вялікай цяжкасцю, і ёсць гарэнне паветра») і адказаць на пытанні: Ці дакладнае гэта сцверджанне? Як называецца гэты працэс ? Дзе і калі ён працякае ў прыродзе?

Вельмі часта масмедыя выкарыстоўваюць навукова недакладную інфармацыю для маніпулявання свядомасцю чалавека, каб «прасунуць» на рынак тавар альбо паслугу. Асабліва часта гэта сустракаецца ў інфармацыйных рэкламных паведамленнях на тэму здароўя чалавека. Выкарыстанне тэлевізійных рэкламных прадуктаў на ўроках хіміі дазваляе вырашаць адукацыйныя і медыяадукацыйныя задачы: фарміруе ўменне крытычна ацэньваць ступень праўдзівасці атрыманай інфармацыі, спрыяе засваенню зместу на ўзроўні запамінання і разумення, дапамагае стварэнню праблемнай сітуацыі.

Вывучэнне тэмы «Хімічныя ўласцівасці кіслот» (VII клас): напрыканцы ўрока пры замацаванні ведаў можна паказаць відэаролік з рэкламай лякарства «Рэні», які часта паказваюць па тэлевізары, і прапанаваць вучням адказаць на пытанне: «Колькі разоў нас падманулі»? :

*(1. Гаворка ідзе пра кіслату, якая ўтвараецца ў страўніку. Значыць гэта саляная кіслата. З урокаў хіміі мы ведаем, што раствор салянай кіслаты — гэта бескаляровая вадкасць. Нам жа дэманструюць вадкасць чырвонага колеру. 2. Можна выказаць здагадку, што выкарыстоўвалі індыкатар. Але ніводны індыкатар не дае ў кіслым асяроддзі чырвонага колеру, а ў нейтральным — бескаляровага. 3. Ёсць індыкатар, які дае падобны эфект — гэта фенолфталеін. Калі гэта здагадка дакладная, тады ў шклянцы замест раствору кіслаты павінен знаходзіцца раствор шчолачы. 4. Кіслата не можа ператварыцца ў ваду. У выніку рэакцыі нейтралізацыі ўтворыцца соль і вада. Наяўнасць солі можна даказаць эксперыментальна. 5. Ні ў якім разе нельга паліваць расліны вадой з вялікім утрыманнем солі. 6. Асяроддзе страўнікавага соку не павінна быць нейтральным, яно павінна быць кіслотным.)*

Аналіз рэкламных медыяпаведамленняў дае падставу для дасканалага разумення працэсаў хіміі і глыбокага засваення прадмета. Можна прапанаваць вучням у якасці дамашняга задання прагледзець рэкламныя ролікі, якія дэманструюцца па розных каналах тэлебачання і вызначыць хімічныя памылкі.

У рэкламе сланечнікавага алею «Чумак» заяўляюць пра вартасці прадукту «з вітамінам E», што «не змяшчае халестэрыну».

*(Халестэрын — рэчыва, якое ў раслінах не змяшчаецца ўвогуле, а вітамін E ёсць у любым раслінным алеі.)*

Калі па тэлевізары рэкламуюць зубную пасту «Colgate максімум», то падкрэсліваюць, што яна змяшчае фтор і вадкі кальцый.

*(Фтор — гэта агрэсіўны «газ-забойца», які разбурае зубы, выклікае хімічныя апёкі, відавочна, маюцца на ўвазе злучэнні фтору. Кальцый — гэта метал з тэмпературай плаўлення 851 ˚C, г. зн. пры нармальных умовах ён не можа быць вадкім.)*

У рэкламе заяўляецца, што пена для валасоў «Wella color» «не наносіць ніякай шкоды валасам, бо не змяшчае ні аміяку, ні іншых акісляльных рэчываў».

*(Аміяк, дакладней гідраксід амонію, які ўваходзіць у склад шматлікіх сродкаў для афарбоўкі валасоў, не з'яўляецца акісляльнікам.)*

Калі рэкламуецца дэзадарант для жанчын «Сакрэт», то гаворыцца, што ён «узаемадзейнічае з жаночым узроўнем pH і надзейна ліквідуе пах поту».

*(pH — гэта не рэчыва, а паказчык канцэнтрацыі вадародных іонаў у растворы і ўступаць у хімічнае ўзаемадзеянне не можа.)*

У рэкламе чуем, што газіроўка «Coca-Cola Zero» «змяшчае 0 калорый».

*(Нуль калорый можа быць толькі ў дыстыляванай вадзе. Усе астатнія напоі маюць некаторую — хай і малую — энергетычную вартасць.)*

Чуем, што «звычайныя шампуні на 80 % складаюцца з вады. Шампуні „Чыстая лінія" на 80 % складаюцца з адвару травы».

*(Любы адвар травы на 99 % складаецца з вады.)*

### 2.7.2. Аб падрыхтоўцы вучнямі паведамленняў па хіміі

Пры падрыхтоўцы медыяпаведамленняў па хіміі школьнікі вучацца шукаць у СМІ патрэбную інфармацыю, развіваюць свае здольнасці як аўтараў тэкстаў. Медыяпаведамленні вучняў могуць быць пра вялікіх хімікаў, адкрыцці хімічных элементаў або сінтэз новых рэчываў, пра станаўленне навуковых тэорый і г.д.

Усю неабходную інфармацыю навучэнцы могуць знайсці самастойна. Але выбраць, прааналізаваць і сістэматызаваць патрэбную інфармацыю з агромністай колькасці, якую прапаноўвае інтэрнэт, вельмі няпроста. Напрыклад, Google на запыт «перыядычная сістэма хімічных элементаў» прапануе 170 000 вынікаў. Таму настаўнік павінен даць вучням адпаведныя парады: спасылкі на

інтэрнэт-крыніцы; прапанаваць выкарыстоўваць энцыклапедыю для праверкі праўдзівасці інфармацыі; крытэрыі ацэнкі паведамлення, якія тычацца яго формы і зместу (навізна, абгрунтаванне праўдзівасці, указанне на спосаб праверкі, аб'ем тэксту і інш.).

*Прыклад задання.* Карыстаючыся інфармацыяй (спасылкамі), размешчанай на вэб-старонцы па адрасе…, падрыхтуйце паведамленне пра..., аб'ёмам не больш за 2 старонкі. Паведамленне павінна быць цікавым, навуковым, наглядным, даступным (зразумелым), мець спасылкі на крыніцы.

Такім чынам, школьнікі вучацца ствараць уласныя інфармацыйныя паведамленні адпаведна ўзроўню ведаў, а не проста выводзіць на прынтар знойдзеныя вэб-старонкі.

Для больш глыбокага вывучэння хіміі для высокаматываваных дзяцей можна даць заданне падрыхтаваць на школьны сайт медыяпаведамленне пра віртуальную экскурсію на хімзавод. Настаўнік абавязкова павінен акрэсліць яго крытэрыі: 1) вызначана мэта віртуальнай экскурсіі; 2) выкарыстана інфармацыя сайтаў розных вытворчых прадпрыемстваў; 3) аб'ём паведамлення не большы за адну старонку; 4) прадстаўлены маршрут экскурсіі з падрабязным апісаннем аб'ектаў; 5) забяспечана зваротная сувязь «мэта — вынік»; 6) прадстаўлена інфармацыя пра сферы выкарыстання прадукцыі хімзавода.

Такім чынам, выкарыстанне ў навучальным працэсе новых метадычных прыёмаў, форм, сродкаў навучання хіміі і медыяадукацыі спрыяе засваенню не толькі трывалых і ўсвядомленых хімічных ведаў, але і фарміраванню медыйнай граматнасці.



**Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў хіміі**

Раздзел «Хімія» на партале nastaunik.info з матэрыяламі па тэме «Медыяадукацыя на ўроках хіміі»:
**http://www.nastaunik.info/workshop/chemistry**

**http://www.chemnet.ru** — партал фундаментальнай хімічнай адукацыі Расіі. Змешчаны каталог спасылак на замежныя інтэрнэт-базы дадзеных па хіміі, электронную бібліятэку па хіміі, электронныя версіі часопісаў.

**http://www.alhimik.ru** — праграмы школьнага і вышэйшага курсаў хіміі, метадычныя знаходкі, рэкамендацыі дыстанцыйнай адукацыі, анонсы кніг. Інтэрнэт-клас (пачатковы курс хіміі), хімічная кунсткамера, чытальная



зала, віртуальны кансультант, электронныя навучальныя дапаможнікі па курсе неарганічнай хіміі, задачнік, практыкум, хімічны даведнік, метадычныя артыкулы, хімія на кожны дзень: у садзе, на кухні, навука пра чысціню, хатняя аптэчка, касметыка, хатні майстар, экалогія дома, карысныя спасылкі, адказы на пытанні, хімічныя навіны і інш.

**http://college.ru/chemistry** — інтэрактыўны курс хіміі, які ўключае падручнік, вялікую колькасць мадэляў і дэманстрацый, даведачныя матэрыялы, тэсты, зваротную сувязь з вучнямі.

**http://www.informika.ru/text/database/chemy/START.html** — сайт «Хімія для ўсіх», серыя «Навучальныя энцыклапедыі» змяшчае тэкставыя і графічныя матэрыялы, навучальныя праграмы па хіміі. Раздзелы: «Агульная хімія», «Неарганічная хімія», «Арганічная хімія», «Тэсты», «Даведачныя матэрыялы», «Стэрэамадэлі малекул».

**http://school-sector.relarn.ru/nsm/chemistry/Rus/chemy.html** — «Хімія для ўсіх» — электронны падручнік. Ілюстраваныя матэрыялы па раздзелах: агульная, арганічная і неарганічная хімія. Даведнік, тэсты, відэа.

**http://cnit.ssau.ru/organics/index.htm** — «Арганічная хімія» — электронны падручнік для сярэдняй школы. Ёсць спасылкі на кароткае апісанне падручніка, рэкамендацыі для навучэнцаў, навучальны комплекс.

**http://www.chemicool.com** — інтэрактыўная перыядычная сістэма хімічных элементаў для школьнікаў. Звесткі аб кожным элеменце (фізіка-хімічныя ўласцівасці).

**http://school2.kubannet.ru** — праект настаўніка хіміі М. Салаўёвай. На сайце прадстаўлена інфармацыя пра хімічныя элементы на нашай планеце, асобна пададзены займальныя артыкулы пра макра- і мікраэлементы, размешчана перыядычная табліца элементаў. Сайт можна выкарыстоўваць як дапаможнік для ўрокаў і факультатыўных заняткаў па хіміі.

*Вольга Жыткая*

## 2.8. З вопыту фарміравання медыяграматнасці вучняў пры навучанні біялогіі

Вучэбны прадмет «Біялогія» мае медыяадукацыйны патэнцыял, які можа быць паспяхова рэалізаваны, калі настаўнік разумее актуальнасць медыйнай граматнасці вучняў, валодае адпаведнымі метадамі і сродкамі навучання. На канкрэтных прыкладах разгледзім, як на вучэбных занятках па біялогіі можна фарміраваць медыйную кампетэнтнасць вучняў. Зробім гэта, кіруючыся наступнай логікай: тэма ўрока → магчымасці тэмы для медыяадукацыі вучняў → задачы настаўніка → арганізацыя дзейнасці вучняў → высновы, якія робяць вучні.

### 2.8.1. Прыклады фарміравання медыяграматнасці на ўроках

**Тэма.** Біялогія — навука аб жывой прыродзе (VII клас).

*Магчымасці тэмы для фарміравання медыйнай граматнасці вучняў:* арганізаваць пошук і аналіз інфармацыі з разнастайных крыніц для складання логіка-сэнсавай мадэлі; аналіз інтэрнэт-паведамленняў з мэтай выяўлення іх праўдзівасці.

*Задача настаўніка па фарміраванні медыякампетенцый вучняў:* стварыць умовы для развіцця аналітычных здольнасцей вучняў праз аналіз інфармацыі; садзейнічаць развіццю ўменняў візуалізацыі і трактоўкі графічнай інфармацыі; спрыяць фарміраванню ўменняў правяраць праўдзівасць медыяпасланняў.

*Арганізацыя дзейнасці вучняў на ўроку.* Вучні ўжо ведаюць паняцці «аўтатрофы» і «гетэратрофы», іх ролі ў прыродзе, царствы жывых арганізмаў і прыводзяць прыклады прадстаўнікоў гэтых царстваў. Пры вывучэнні ролі раслін у прыродзе і жыцці чалавека вучні працуюць у групах.

Група 1 складае логіка-сэнсавую мадэль па матэрыялах падручніка; група 2 складае мадэль па тэксце інтэрнэт-паведамлення (**http://www.rasteniya-lecarstvennie.ru/9548-rol-rasteniy-v-zhizni-cheloveka-i-prirody.html**); групы 3 і 4 аналізуюць інтэрнэт-паведамленне на прадмет праўдзівасці (**http://www.valleyflora.ru/rol-rasteniy.html**).

Крытэрыі ацэнкі падрыхтаваных вучнямі логіка-сэнсавых мадэляў:

1. Мадэль павінна быць нагляднай, не перагружанай тэкстам.
2. Інфармацыя павінна быць даступнай для разумення.
3. Павінна быць прыведзена па 3 прыклады расліны на кожнае значэнне.
4. Прадстаўленне прадукту не павінна быць даўжэйшым за 3 хвіліны.

Вучні прэзентуюць вынікі працы. Пасля прэзентацыі настаўнік прапануе вучням адказаць на пытанні: Чым адрозніваюцца прэзентацыі груп 1 і 2? Чаму ёсць адрозненні? Якая з груп прадставіла больш праўдзівую мадэль? Чаму? Якія высновы можна зрабіць на падставе выступленняў груп 3 і 4?

*Высновы, якія зрабілі вучні* (з дапамогай настаўніка): 1. Каб мець разнастайныя веды, неабходна карыстацца разнастайнымі крыніцамі. 2. Не заўсёды трэба давяраць інтэрнэт-крыніцам, неабходна ставіцца да іх крытычна. Без ведаў чалавека лёгка ўвесці ў зман.

У XI класе вучні стаяць на парозе самастойнага жыцця, якое патрабуе ўмення мець уласнае меркаванне, прызнаць уласныя памылкі, мэтанакіравана ісці да рэалізацыі сваіх мэт. Таму вельмі важна абмяркоўваць з вучнямі сур'ёзныя жыццёвыя праблемы, знаходзячыся з імі ў ролі суразмоўцы, партнёра. Настаўнік не павінен даваць гатовыя адказы на пытанні, гатовыя рашэнні вучэбных і жыццёвых праблем, а матываваць вучняў праз развіццё крытычнага мыслення да выказвання меркаванняў і да самастойных рашэнняў.

**Тэма.** Пагроза экалагічных катастроф і іх папярэджанне (XI клас).

Тэма мае шырокія магчымасці для фарміравання медыяграматнасці вучняў. Назапасілася шмат фактаў пра экалагічныя катастрофы па віне чалавека. Чалавецтва, каб задаволіць патрэбы, працягвае інтэнсіўна ўплываць на навакольнае асяроддзе. Як пазбегнуць экалагічнай катастрофы?

*Навучальная мэта на ўрок:* арганізаваць дзейнасць вучняў, у выніку якой яны набудуць веды пра маштабы экалагічных пагроз і шляхі іх папярэджання.

*«Медыйная» задача настаўніка:* забяспечыць развіццё крытычнага мыслення: стварыць умовы па фарміраванні навыкаў аналізу інфармацыі з розных крыніц; садзейнічаць развіццю ўменняў

будаваць выказванні, абгрунтоўваць меркаванні; спрыяць фарміраванню адказнасці вучняў за ўласныя ўчынкі.

*Сродкі навучання:* фотаздымкі смецця, лясных папялішч, разліву нафты (пажадана на матэрыяле з мясцовых газет, сайтаў рэгіянальных выданняў), аварыі на ЧАЭС; відэаролікі: «Зона адчужэння» (**www.youtube.com/watch?v=m56Us206Ds0**), «Аварыя на АЭС „Фукусіма-1": прычыны і наступствы» (**www.youtube.com/watch?v=A6rYwQPC8Bs**), «НЗ у Мексіканскім заліве» (**http://www.vesti.ru/theme.html?tid=79973#/media/3**); кадры з фільма «Дзень касмічных адкрыццяў» (праблема знікнення Аральскага мора).

*Арганізацыя дзейнасці вучняў на ўроку.*

1. З падручніка вучні ведаюць, што па маштабе экалагічныя праблемы падзяляюцца на лакальныя, рэгіянальныя і глабальныя. Настаўнік дэманструе вучням фатаграфіі, якія спачатку абмяркоўваюцца ў парах, а потым школьнікі адказваюць на пытанне: «Якія маштабы экалагічных праблем паказаны на фота і чаму вы так думаеце? Адказ абгрунтуйце».

2. Вучні праглядаюць відэаролікі, абмяркоўваюць і адказваюць на пытанні: Якое ваша меркаванне наконт прычыны кожнай з экалагічнай катастроф? Ці заўсёды да нас даносіцца ўся праўда? Ці заўсёды трэба гаварыць праўду? Да якіх наступстваў прывядзе кожная з катастроф, якія вы ўбачылі ў роліках? Ці можна было папярэдзіць катастрофы, пазбегнуць іх? Якія ўрокі павінны вынесці людзі з гэтых экалагічных бедстваў?

У выніку абмеркавання фота і відэаролікаў і адказу на пытанні вучні павінны прыйсці да высновы, што ў аснове ўсіх памылак ляжыць чалавечы фактар. Каб не паўтараць памылак, трэба фарміраваць экалагічную самасвядомасць, развіваць экалагічнае мысленне і фарміраваць адказнасць за ўласныя дзеянні.

### 2.8.2. Далучэнне вучняў да аналізу рэкламных відэаролікаў

На сучасным этапе развіцця грамадства жыццёвае асяроддзе фарміруецца пад уплывам СМІ. Каб быць паспяховым у гэтым асяроддзі, дзяцей трэба вучыць прымяняць атрыманыя веды пры аналізе медыяпаведамленняў і фарміраваць уласнае меркаванне. З розных каналаў тэлебачання і ў інтэрнэце на нас сыплецца рэклама прадуктаў харчавання: чыпсы, сухарыкі, шакаладныя батончыкі, газаваныя напоі. Вучні, выкарыстоўваючы веды ўрокаў біялогіі,

атрыманыя пры вывучэнні пэўнай тэмы, робяць аналіз зместу рэкламы і прадукту, які яна прапануе, фарміруюць уласнае меркаванне і развіваюць свае здольнасці да крытычнага мыслення.

**Тэма.** Асновы рацыянальнага харчавання. Гігіена харчавання (IX клас).

*Магчымасці тэмы для фарміравання медыйнай граматнасці вучняў.* У інтэрнэце, тэлеперадачах, кінафільмах вучні бачаць мноства меркаванняў, прапаноў, парад, папярэджанняў наконт гігіены харчавання, часам супрацьлеглага характару. Як у гэтым мностве ўбачыць рацыянальнае зерне?

*«Медыйная» задача настаўніка:* стварыць умовы па развіцці крытычнага мыслення сродкамі аналізу рэкламных ролікаў пра прадукты харчавання.

*Медыйныя сродкі:* рэкламныя відэаролікі: «Хрусцім» з папулярным у моладзі вядучым Паўлам Волям (**www.youtube.com/watch?v=mhFIJQu1xLU**); «Ты не ты, калі галодны. Не тармазі, снікерсні» з Містэрам Бінам (**www.youtube.com/watch?v=wDWEkau2r1A**); «Новая Coca-Cola Zero без калорый» (**www.youtube.com/watch?v=4Wuqeqlo2xQ**).

*Арганізацыя працы на ўроку.* Спачатку вучням прапануецца на матэрыяле падручніка пазнаёміцца з гігіенічнымі патрабаваннямі да харчавання. Потым настаўнік стварае праблемную сітуацыю (прагляд відэаролікаў) і ставіць пытанні: Што неабходна для паўнавартаснай працы галаўнога мозга і мышцаў цела? З якіх прадуктаў харчавання складаецца ваш рацыён? Ці часта вы ўжываеце прадукты, якія прапануе рэклама, ці хапае энергетычнай каштоўнасці гэтых прадуктаў, каб «забяспечыць» арганізм? Як я зразумеў гэту рэкламу? Што я магу зрабіць: уключыць гэтыя прадукты харчавання ў свой рацыён, тым самым падтрымаю вытворцу гэтай прадукцыі, ці адмовіцца ад іх ужывання? Чаму для здымкаў рэкламы запрашаюць вядомых акцёраў?

*Высновы, да якіх павінны прыйсці вучні:* 1. Крытычна падыходзіць да інфармацыі, якую прапануе рэклама. 2. Фарміраваць уласнае меркаванне пра дадзеную рэкламу. 3. Не заўсёды давяраць іміджу знакамітых людзей (адмова ад стэрэатыпаў).

Мэтазгодна прапанаваць схему аналізу рэкламных паведамленняў:

1. Хто стваральнік рэкламы? Хто яе заказчык?
2. З якой мэтай была выпушчана рэклама прадукту? Што хацелі ад мяне аўтары? Якой катэгорыі грамадзян адрасавана пасланне. Чаму вы так думаеце?
3. Ці карысная гэтая рэклама? Чаго хоча вытворца?
4. Хто можа атрымаць карысць, а хто шкоду ад гэтай рэкламы?
5. Што я магу зрабіць у адказ на гэтую рэкламу?
6. Пра што гэтая рэклама і што прымушае мяне так думаць? Якіх высноў хацелі ад мяне аўтары? Якія ідэі, каштоўнасці або пункты гледжання даносяць або навязваюць стваральнікі рэкламы?
7. Якія метады данясення інфармацыі выкарыстоўваюць і чаму? Як гэтыя тэхнікі суадносяцца з тэмай?
8. Ці могуць розныя людзі па-рознаму зразумець гэтую рэкламу?
9. Як я зразумеў гэтае паведамленне? Што я магу зрабіць: пагадзіцца / выказаць сваё меркаванне, карыстаючыся ведамі з розных крыніц? Ці можна давяраць гэтай рэкламе?

*Заданне:* Стварыце ўласны медыяпрадукт рэкламы айчыннага тавару, які выпускаецца ў вашым рэгіёне.



**Спіс рэкламных ролікаў, якія можна выкарыстоўваць на занятках:**
ролікі крэкераў «Тис» «Штучка, просто бомба, пальчики оближешь, так бы и съел»
www.youtube.com/watch?v=D3lgLSzJKpg);
шакаладны батончык «Снікерс» — Robotsrace.
www.youtube.com/watch?v=ixHZTzx_Vn4);
чыпсы Lay's з футбалістам А. Аршавіным
www.youtube.com/watch?v=z32MrAActh4),
Л. Мэсі
www.youtube.com/watch?v=ZGnEVhurtXU);
газаваны напой «Sprite» — «Живи жаждой. Имидж — ничто, жажада — всё. Не дай себе засохнуть»
(www.youtube.com/watch?v=tdUL8FxvzVk);
шакаладны батончык ад «Спартака»
(www.youtube.com/watch?v=DANAMHSwB0I).



### 2.8.3. Аналіз біялагічнай інфармацыі ў сацыяльных сетках

Не сакрэт, што вучні «завісаюць» у такіх сацыяльных сетках. Разам з карыснымі звесткамі, у сетках шмат няпраўдзівай інфармацыі, маніпуляцыйнага і агрэсіўнага характару. Неабходна крытычнае стаўленне вучняў да яе.

**Тэма.** Шапачкавыя грыбы (VII клас).

*Магчымасці тэмы для фарміравання медыйнай граматнасці.* Вучні ўжо ведаюць агульную характарыстыку грыбоў. Для вывучэння тэмы «Шапачкавыя грыбы» можна дэманстраваць фота шапачкавых грыбоў, а скончыць паказ можна фотаздымкамі з сацыяльных сетак.

*Задача настаўніка па развіцці медыяграматнасці:* стварыць умовы па развіцці крытычнага мыслення; спрыяць фарміраванню ўменняў правяраць праўдзівасць медыяпасланняў.

*Медыйны змест і сродак.*

Вучням прапануоўваецца фота з «Аднакласнікаў» (**http://ok.ru/profile/569808279050/album/553331148298/621886767114**).



*Ключавое пытанне.* Што гэта: праўда ці фэйк? Ці могуць быць грыбы такіх памераў? Адказ абгрунтуйце.

*Арганізацыя працы на ўроку.*

1. Вучні выказваюць свае меркаванні. Настаўнік не дае каментарыі.
2. Школьнікі працуюць з адпаведным тэкстам падручніка: вывучаюць асаблівасці будовы і жыццядзейнасці шапачкавых грыбоў.
3. Вучні зноў звяртаюцца да ключавога пытання. Абмеркаванне можа ісці да канца вывучэння новага матэрыялу, пакуль не будзе знойдзена ісціна.

*Высновы, да якіх павінны прыйсці вучні:* любую інфармацыю трэба аналізаваць і правяраць, а для гэтага патрэбны веды.

### 2.8.4. Аб медыяадукацыі вучняў пры правядзенні біялагічных экскурсій

Амаль у кожнага вучня ёсць мабільны тэлефон з відэа- і фотакамерай. Таму гэты сродак можна выкарыстаць у якасці сродку дасягнення адукацыйнай мэты.

**Тэма.** Відавая разнастайнасць жывых арганізмаў (лес / парк / вадаём / наваколле школы).

*Магчымасці тэмы для фарміравання медыйнай граматнасці вучняў.* Далучыць вучняў да стварэння ўласных медыяпаведамленняў: прэзентацый, відэаролікаў з выкарыстаннем смартфонаў.

*Задача настаўніка па фарміраванні медыякампетэнцый:* садзейнічаць развіццю ўменняў вучняў ствараць уласныя медыяпрадукты як вынік справаздачы аб экскурсіі; спрыяць фарміраванню адказнасці за інфармацыю, прапанаваную ў медыяпрадукце.

*Этапы працы.*

1. На экскурсійным маршруце вучні рабілі фотаздымкі / відэасюжэты пра жывёл.
2. Выконвалі адзін з варыянтаў дамашняга задання.



*Варыянт 1.* Стварыць прэзентацыю / відэаролік «Разнастайнасць жывёл наваколля школы», выкарыстоўваючы матэрыял і веды, атрыманыя падчас экскурсіі.

*Варыянт 2.* Зрабіць прэзентацыю пра жывёлу, якая найбольш спадабалася ў час экскурсіі, выкарыстоўваючы дадатковыя крыніцы інфармацыі.

3. Прэзентавалі свае медыйныя прадукты на ўроку.

*Высновы, да якіх прыйшлі вучні.* 1. Мабільныя тэлефоны дае магчымасці для творчай самарэалізацыі. 2. Аўтар нясе адказнасць за інфармацыю, якую ён прапануе ў медыяпрадукце, і за якасць медыяпрадукту. 3. Удалыя прэзентацыі і відэаролікі магчыма размясціць у сацыяльных сетках.

Для апошняга пункту мэтазгодна распрацаваць разам з вучнямі *крытэрыі якасных візуальных медыяпаведамленняў* (прэзентацый і ролікаў).



**Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў біялогіі**

Раздзел «Біялогія» на партале nastaunik.info з матэрыяламі па тэме «Медыяадукацыя на ўроках біялогіі»:

**http://www.nastaunik.info/workshop/biology**

*Ірына Буторына*

# 2.9. Медыяадукацыя вучняў у пачатковай школе

## 2.9.1. Асаблівасці ўспрымання інфармацыі вучнямі малодшых класаў

Вандраваць па сцяжынках медыя сучасныя дзеці пачынаюць вельмі рана. Крок за крокам з цікаўным агеньчыкам у вачах яны, як умеюць, спасцігаюць інфармацыю тэлебачання, радыё, перыядычнага друку, захапляюцца мультыплікацыйнымі і мастацкімі фільмамі, камп'ютарнымі гульнямі, шмат часу праводзяць у інтэрнэце. Аднак недастатковая сфарміраванасць пазнавальных і эмацыйна-валявых працэсаў, адсутнасць дастатковага жыццёвага вопыту робіць маленькіх медыяпадарожнікаў безабароннымі перад уздзеяннем медыя. Малодшыя школьнікі яшчэ не разумеюць, што сродкі масавай камунікацыі фарміруюць узоры паводзінаў, каштоўнасныя арыентацыі, адносіны да свету, людзей і самога сябе, культуры і мастацтва, даюць уяўленне пра маральныя, прававыя нормы грамадства. Для значнай часткі дзяцей і падлеткаў сучасныя медыя (асабліва інтэрнэт) становяцца не толькі сродкам вывучэння навакольнага свету, але і часткай іх уласнага свету. Аб'ектыўнай патрэбай становіцца фарміраванне ў вучняў асноў медыяграматнасці, каб даць ім магчымасць адэкватна ўспрымаць інфармацыю, асэнсоўваць і выкарыстоўваць яе, а таксама знізіць негатыўны ўплыў медыя.

На шляху рашэння акрэсленых вышэй праблем шырокія і разнастайныя магчымасці дае медыяадукацыя. Адукацыйны і выхаваўчы патэнцыял закладзены ў магчымасцях тэлебачання, радыё, кінематографа, перыядычных выданняў і ў разнастайных медыяматэрыялах (радыё- і тэлепраграмах, дакументальных, мастацкіх і мультыплікацыйных фільмах, артыкулах часопісаў і газет, фотаздымках, рэкламных паведамленнях і інш.).

У працэсе медыяадукацыі важна ўлічваць узроставыя асаблівасці вучняў. Сярод характэрных асаблівасцей малодшага школьнага ўзросту педагогі і псіхолагі вылучаюць наглядна-вобразнае мысленне, няўстойлівасць увагі, рухомасць інтарэсаў, актыўнасць і дапытлівасць. Успрыманне інфармацыі ў большасці выпадкаў характарызуецца павярхоўнасцю, фрагментарнасцю, мае сітуацыйны характар. Вучні часта акцэнтуюць увагу на другасных дэталях, не заўважаюць істотных прымет. Паводзіны і ўчынкі вучняў у значнай ступені маюць імітацыйны характар: дзеці капіююць мадэль паводзінаў вядомых герояў мультыплікацыйных і мастацкіх фільмаў, тэлепраграм, рэкламных ролікаў.

У гэтым узросце інтэнсіўна развіваюцца ўсе віды памяці вучняў, разам з тым назіраецца нераўнамернасць у запамінанні асобных частак артыкула,



кінафільма, тэлепраграмы: запамінаюцца найбольш эмацыйна афарбаваныя фрагменты медыятэкстаў. Паступова ў вучняў фарміруецца ўнутраны план дзеянняў, здольнасць да рэфлексіўнай ацэнкі сваіх паводзінаў і эмацыйнага стану. Унутраны план дазваляе загадзя ставіць і вырашаць пэўныя задачы, планаваць ход выканання дзеянняў, аналізаваць атрыманыя вынікі. Вучні, якія валодаюць у дастатковай ступені сфарміраванымі рэфлексіўнымі ўменнямі, здольныя аналізаваць, аднаўляць не толькі схему ўласных дзеянняў, але і іх магчымыя вынікі.

Сярод характарыстык малодшага школьнага ўзросту трэба назваць і імкненне да творчасці. Разнастайныя праекты і конкурсы, якія прапануюцца СМІ (у радыёэфіры, на старонках дзіцячай перыёдыкі і інш.), могуць садзейнічаць развіццю творчых здольнасцей, стымуляваць фантазію, а таксама падказаць педагогу цікавыя формы працы з вучнямі.

Інтэграцыя разнапланавых, адпаведных узросту медыятэкстаў у змест вучэбных заняткаў дазволіць павысіць матывацыю да вучэбнай дзейнасці, прадэманструе шляхі і спосабы выкарыстання ведаў у штодзённым жыцці. Медыяінфармацыя можа быць пададзена ў выглядзе праблемнай сітуацыі, вырашэнне якой дазволіць вучням зрабіць новыя веды ўласным, самастойна адкрытым набыткам.

### 2.9.2. Фарміраванне медыя-інфармацыйных уменняў на ўроках і ў пазаўрочнай дзейнасці

Адзначым эфектыўнасць выкарыстання інтэрактыўных метадаў і формаў дзейнасці ў працэсе працы са сродкамі масавай камунікацыі. Прыкмета інтэрактыўнага навучання — актыўнасць вучняў і спалучэнне розных яе відаў: фізічнай (свабоднае перамяшчэнне па класе, змена працоўнага месца, магчымасць маляваць, рабіць нататкі і г.д.), сацыяльнай (абмен думкамі, аргументацыя свайго пункту гледжання і г.д.), пазнавальнай (усведамленне сябе як крыніцы вопыту, пошук рашэння праблем і г.д.) адначасова.



Прапануем азнаёміцца з планам і відэазапісам урока літаратурнага чытання, праведзеным Святланай Локіс у ІІ класе. Тэма: С. Маршак «Друзья-товарищи». Педагог на прыкладзе літаратурнага твора і мультфільма «Малы і Карлсан» дапамагае вучням зразумець, што такое маніпуляцыі і што такое шчырае сяброўства, а таксама вучыць карыстацца пошукавымі сістэмамі інтэрнэту: **http://www.nastaunik.info/node/15011**.

Пры ўжыванні інтэрактыўных метадаў навучання педагог фарміруе навыкі самастойнай пазнавальнай пошукавай, даследчай дзейнасці вучняў, самастойнае

рашэнне праблем*. Далей вучні самі пачынаюць карыстацца гэтымі навыкамі пры праглядзе пэўнай тэлепраграмы, фільма, чытанні часопісаў і газет.

Разнастайныя формы заняткаў па медыяадукцыі могуць быць арганізаваны пасля ўрокаў, у шосты школьны дзень, падчас канікул.

Спецыфіка арганізацыі пазавучэбнай дзейнасці заключаецца ў дамінаванні эмацыйнага аспекту над рацыянальным. Вучань удзельнічае ў адборы зместу, праводзіць рэфлексіўную ацэнку ўласнай дзейнасці і эмацыйнага стану, разам з тым ён авалодвае навыкамі самастойнага крытычнага аналізу інфармацыйных паведамленняў.

Варта асобна адзначыць магчымасці развіцця творчай сферы асобы вучняў шляхам стварэння калектыўных і індывідуальных работ, удзелу ў конкурсах друкаваных выданняў, стварэння літаратурных і мастацкіх твораў, стварэння пад кіраўніцтвам педагогаў і бацькоў рэкламных ролікаў, распрацоўкі сцэнароў мультыплікацыйных фільмаў паводле прачытаных мастацкіх твораў, удзелу ў сюжэтна-ролевых гульнях («Наш радыётэатр», «Ствараем пазнавальную тэлепраграму для дзяцей») і інш.

Пры фарміраванні ўменняў пошуку, асэнсавання, перапрацоўкі, трансляцыі інфармацыі часта без увагі застаюцца маральна-этычныя аспекты. Аднак, асаблівасці сучаснага інфармацыйнага соцыуму патрабуюць, каб «этычны запас трываласці» асобы быў значна вышэйшым, чым у традыцыйнай культуры**. Працэс выхавання маральнай сталасці вучняў звязаны перш за ўсё з фарміраваннем у іх станоўчых адносінаў да агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей. Метады і прыёмы працы з інфармацыяй дазваляюць праводзіць выхаваўчую працу на патрэбным наглядным узроўні, але без празмернай назідальнасці з боку педагога. Напрыклад, абмеркаванне ўчынкаў герояў вядомых мультфільмаў, тэхнічных сродкаў, з дапамогай якіх аўтар уздзейнічае на ўспрыманне гледача / слухача, аналіз мовы персанажаў, вызначэнне тэмы і галоўнай думкі газетнага артыкула, фарміраванне ўяўлення пра разнастайнасць аўтарскіх трактовак вобразаў з абавязковым улікам маральнай афарбоўкі, пастаноўка вучняў у сітуацыю маральнага выбару разам з героямі фільмаў і інш.

Медыяадукацыя мае шырокія магчымасці ва ўзаемадзеянні сям'і і школы: інфармацыйна-асветніцкія дыскусіі на бацькоўскіх сходах, арганізацыя калектыўных кінапраглядаў і абмеркавання твораў дзіцячага кінематографа, тэлепраграм, сумесная творчасць бацькоў і дзяцей дазваляюць фарміраваць і ўдасканальваць сямейную медыяграматнасць, выхоўваць чулыя і добразычлівыя адносіны паміж членамі сям'і.

* Выготский, Л. С. Педагогическая психология / Л. С. Выготский; под ред. В. В. Давыдова. — М. : Педагогика, 1991.

** Кашлев, С. С. Интерактивные методы обучения : учеб.-метод. пособие / С. С. Кашлев. — Минск : ТетраСистемс, 2011. — 224 с.

### 2.9.3. Змест і сродкі фарміравання медыяграматнасці вучняў на факультатыўных занятках

Адна з форм пазаўрочнай дзейнасці — факультатыўныя заняткі. У 2014 г. прэзідыумам Навукова-метадычнага савета пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь па дашкольнай, агульнай сярэдняй, спецыяльнай адукацыі была рэкамендавана да выкарыстання ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі праграма факультатыўных заняткаў «Інфармацыйны навігатар» для вучняў III (IV) класаў.



Праграма «Інфармацыйны навігатар» размешчана на Нацыянальным адукацыйным партале: **http://adu.by/?p=7575**.

Праграма факультатыўных заняткаў «Інфармацыйны навігатар» разлічана на 35 гадзін (пры правядзенні заняткаў 1 раз на тыдзень), складаецца з трох узаемазвязаных раздзелаў: «Бязмежныя гарызонты інфармацыі» (11 г.), «Інфармацыйныя лабірынты» (12 г.), «Мой інфармацыйны канструктар» (12 г.). Структура заняткаў мае камбінаваны характар: прадугледжана знаёмства вучняў з тэарэтычнымі звесткамі і замацаванне атрыманых ведаў шляхам выканання займальных практычных заданняў.

Такім чынам, мэтанакіраванае педагагічнае кіраўніцтва настаўнікам медыяадукацыйнай дзейнасцю вучняў малодшага школьнага ўзросту прадугледжвае:

- атрыманне вучнямі першапачатковых уяўленняў аб інфармацыі, яе значэнні і відавой разнастайнасці ў сучасным свеце;
- знаёмства з асаблівасцямі падачы інфармацыі рознымі сродкамі масавай камунікацыі, фарміраванне ўмення вызначаць галоўную і другасную інфармацыю;
- фарміраванне ўменняў пошуку, крытычнага асэнсавання інфармацыі, атрыманай па каналах сродкаў масавай камунікацыі, асабістай інтэрпрэтацыі і выкарыстання інфармацыі ў вучэбнай і пазавучэбнай дзейнасці;
- атрыманне і засваенне ведаў, якія стымулююць успрыманне і асэнсаванне зместу медыятэкстаў;
- удасканаленне ўменняў азнаямляльнага, праглядавага, пошукавага, выбарачнага чытання, развіццё ўменняў аналізу зместу ілюстрацый і фотаздымкаў;
- пашырэнне ўяўленняў вучняў пра ўплыў інфармацыі на фізічнае і псіхічнае здароўе чалавека і неабходнасць выконваць правілы здаровага ладу жыцця;

- развіццё маральнай сферы асобы вучняў, далучэнне іх да агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей;
- выхаванне эстэтычнага густу, культуры чытача, гледача, слухача, інтэрнэт-карыстальніка пры ўсведамленні і выкананні этычных нормаў паводзінаў;
- павышэнне матывацыі да самастойнага крытычнага аналізу інфармацыйных паведамленняў, атрыманых з розных крыніц;
- удасканаленне камунікатыўных навыкаў, тактоўных дыялагічных зносін;
- развіццё культуры маўлення вучняў, пазнавальных і творчых здольнасцей;
- арганізацыю творчай дзейнасці вучняў, стварэнне пад кіраўніцтвам настаўніка ўласных медыятэкстаў на аснове атрыманых ведаў і сфарміраваных каштоўнасных арыенціраў.

Прапануем каталог, які дапаможа выбраць пэўную медыяадукацыйную форму, метад ці прыём дзейнасці на вучэбных і выхаваўчых занятках. Прафесійная кампетэнтнасць настаўніка дазволіць пры неабходнасці напоўніць прапанаваныя формы і метады працы новым зместам ці распрацаваць на аснове прапанаваных уласныя прыёмы, акрэсленыя пэўнымі адукацыйнымі і выхаваўчымі задачамі.

**Табліца. Каталог медыяадукацыйных форм, метадаў і прыёмаў у вучэбнай дзейнасці**



| Вучэбныя прадметы | Тэлеперадачы, мастацкія і мультыплікацыйныя фільмы | Дзіцячыя перыядычныя выданні | Радыё | Інтэрнэт-рэсурсы |
|---|---|---|---|---|
| **Беларускае і рускае літаратурнае чытанне** | • «Стоп-кадр»: дэманстрацыя аднаго кадра з папярэднім заданнем: здагадацца, з якога фільма паводле раней прачытанага твора ён узяты.<br><br>• «Казка ў кіно і мультыплікацыі»: аналіз выяўленчых сродкаў, якія выкарыстоўваюцца ў кіно для стварэння казачных вобразаў.<br><br>• «Што было далей?»: складанне працягу фільма / тэлеперадачы з наступным праглядам і абмеркаваннем.<br><br>• Складанне мінісцэнара мультфільма, створанага паводле мастацкага твора.<br><br>• Аналіз паводзінаў і ўчынкаў, мульт- і кінаперсанажаў з маральнага пункту гледжання. | • Наведванне дзіцячых бібліятэк з мэтай сістэматычнай працы з дзіцячымі перыядычнымі выданнямі.<br><br>• Гутарка «Ці ведаеце вы, што…»: пашырэнне ўяўленняў вучняў пра газеты і часопісы як друкаваныя выданні, іх адрозненне ад іншых крыніц інфармацыі.<br><br>• Аналіз зместу нумара часопіса з мэтай знаходжання інфармацыі пра жыццё і творчасць пісьменніка, знаёмства з яго новымі творамі і інш.<br><br>• Знаёмства з вершамі, апавяданнямі, казкамі, дасланымі чытачамі на літаратурныя конкурсы. | • «Размова ў прамым эфіры»: трэнінг культуры маўлення, замацаванне ўмення будаваць вуснае выказванне, задаваць пытанні і адказваць на іх.<br><br>• Ролевая гульня «Наш радыётэатр»: выразнае чытанне і інсцэніраванне мастацкіх твораў.<br><br>• «Віншаванне па радыё»: замацаванне ўменняў вуснага выказвання, ужывання ветлівых выразаў у маўленні.<br><br>• Удзел у радыёконкурсах на тэмы літаратурнай творчасці.<br><br>• «Аўдыязагадка»: слуханне дыялогаў, у якіх парушаны парадак рэплік, без дэманстрацыі выявы людзей, якія размаўляюць, з наступным аднаўленнем | • Віртуальнае наведванне дзіцячых бібліятэк, праца з электронным каталогам мастацкіх твораў, знаёмства з анонсам мерапрыемстваў на бліжэйшы час.<br><br>• Віртуальнае наведванне літаратурных музеяў, выстаў.<br><br>• Наведванне сайтаў дзіцячых часопісаў і газет (http://www.veselka.by; http://www.p-shkola.by; http://www.zorika.by) і інш.<br><br>• Знаходжанне пад кіраўніцтвам настаўніка звестак пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў, гісторыю стварэння твораў.<br><br>• Знаходжанне пад кіраўніцтвам настаўніка навін на літаратурныя тэмы |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | • «Тэлеграмы ад казачных герояў» (паводле кіна- і мультыплікацыйных фільмаў).<br>• Сюжэтна-ролевая гульня «Тэлеінтэрв'ю».<br>• Тэлемост бацькоў і дзяцей «Любімыя дзіцячыя мультыплікацыйныя і кінафільмы — экранізацыі дзіцячых мастацкіх твораў».<br>• «Візуальная загадка»: дэманстрацыя фрагментаў вядомых мультфільмаў без гукавога суправаджэння з папярэднім заданнем успомніць назву мультфільма, імёны яго герояў, узнавіць прыкладны дыялог герояў (карыстаючыся тэкстам твора) і параўнаць, як гэты эпізод разглядаецца ў кнізе і фільме | • Удзел у конкурсах літаратурнага кірунку, абвешчаных на старонках дзіцячых часопісаў і газет.<br>• Складанне вершаванага чатырохрадкоўя па прапанаваных рыфмах па ўзоры твораў равеснікаў з часопісаў і газет.<br>• Чытанне мастацкіх твораў, змешчаных у перыёдыцы, разгляд ілюстрацый, стварэнне ўласных ілюстрацый паводле прачытаных твораў.<br>• Прадстаўленне сюжэту вывучанага твора ў выглядзе кадраў мультфільма, комікса.<br>• Стварэнне нататак, падбор літаратурнага матэрыялу з часопісаў і газет для класнай насценнай газеты.<br>• Правядзенне заняткаў пазакласнага чытання ў выглядзе дыялогу бацькоў і дзяцей на тэму «Дзіцячы часопіс і газета ў нашай сям'і» | правільнай паслядоўнасці выказванняў, вызначэннем тэмы размовы.<br>• Правядзенне ўрока замацавання ведаў у форме радыёперадачы.<br>• «Чароўны мікрафон»: праца над выразным чытаннем (правільнае артыкуляванне, захаванне розных відаў інтанацыі, сэнсавых і лагічных паўз і інш.) мастацкіх твораў розных жанраў.<br>• Правядзенне стымулюючых заняткаў у форме гульні «Школа юных радыёкарэспандэнтаў».<br>• Хіт-парад «Гарачая старонка»: правядзенне апытання сярод вучняў класа пра прачытаны твор, які найбольш спадабаўся, падлік галасоў і абагульненне адказаў | (арганізацыя літаратурных выстаў і інш.).<br>• Метад гейміфікацыі: прадстаўленне сюжэту прачытанага мастацкага твора ў выглядзе камп'ютарнай гульні.<br>• Імітацыя электроннай перапіскі з мэтай абмеркавання любімых мастацкіх твораў.<br>• Знаёмства з новымі кнігамі на сайтах выдавецтваў.<br>• Знаходжанне, разглядванне і абмеркаванне фотаздымкаў вокладак падручнікаў па літаратурным чытанні, дзіцячых кніг розных гадоў.<br>• Распрацоўка сцэнара літаратурнага падарожжа ў форме камп'ютарнай гульні.<br>• Стварэнне віртуальнай выставы дзіцячых малюнкаў паводле прачытаных твораў.<br>• Напісанне электроннага ліста ў рэдакцыю часопіса |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | «Вясёлка», «Бярозка» з прадстаўленнем літаратурнай творчасці вучняў класа, школы |
| **Беларуская і руская мова** | • Аналіз мовы (асобных вусных выказванняў) персанажаў мульт- і кінагерояў.<br>• Складанне вуснага выказвання на тэму, узнятую ў медыятэксце.<br>• Прагляд і аналіз фрагментаў фільмаў, у якіх героі на ўласным вопыце пераконваюцца ў неабходнасці спасцігаць веды; павышэнне матывацыі да вучэбнай дзейнасці.<br>• Правядзенне серыі ўрокаў у форме адукацыйнай тэлепраграмы «Навіны» | • Знаходжанне рубрык у часопісах і газетах, дзе змяшчаюцца матэрыялы для замацавання вывучанага на ўроках беларускай мовы.<br>• Гульня «Тлумачалачка»: тлумачэнне незнаёмых слоў, якія сустрэліся ў артыкулах, пашырэнне слоўнікавага запасу вучняў.<br>• «Пра што паведаміў загаловак?»: устанаўленне адпаведнасці паміж зместам і загалоўкам, падбор і абмеркаванне ўласных загалоўкаў.<br>• Конкурс на афармленне вокладкі часопіса, які прапануе заданні па замацаванні моўных ведаў | • Знаёмства з прыказкамі і прымаўкамі, замацаванне іх у маўленні ў выглядзе радыёперадачы «Скарб мовы».<br>• Праслухоўванне фрагментаў рэальных радыёпраграм на беларускай, рускай мовах з мэтай аналізу пабудовы сказаў, выкарыстання розных відаў інтанацыі, захавання сэнсавых і лагічных паўз і інш.<br>• Конкурс на складанне назвы тэматычнай радыёпраграмы з выкарыстаннем апавядальных, клічных, пытальных сказаў | • Стварэнне рэкламнага паведамлення пра важнасць вывучэння мовы і распаўсюджванне яго праз электронную перапіску.<br>• Выкананне заданняў па прынцыпе электроннага трэнажора, размешчанага ў інтэрнэце.<br>• Знаёмства з правапісам некаторых агульнаўжывальных слоў, сэнсава звязаных з інтэрнэт-прасторай.<br>• Знаходжанне ў інтэрнэце малюнкаў і фотаздымкаў для выкарыстання ў час правядзення розных відаў слоўнікавых дыктантаў |
| **Матэматыка** | • Складанне калекцыі мультфільмаў, у якіх | • Аналіз зместу часопісаў і газет з мэтай знаходжання | • Практыкаванні ў мэтанакіраваным | • Стварэнне праекта інтэрнэт- |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | выкарыстоўваюцца лічбы і матэматычныя аперацыі.<br>• Аналіз жыццёвых сітуацый, падказаных мультфільмамі, дзе чалавеку вельмі патрэбна матэматыка.<br>• Знаёмства з храналогіяй стварэння і развіцця мультыплікацыі, выкананне практычных заданняў на падлік колькасці гадоў, якія прайшлі з дня першага выхаду ў свет пэўнага мультфільма | дат, лічбаў пра падзеі, загадзя акрэсленыя настаўнікам.<br>• «Калі гэта было?»: праца з ксеракопіямі артыкулаў, са зместу якіх загадзя выдалены важныя даты; аднаўленне фактычнай даты падзеі, усведамленне ролі датаў, лічбаў у дакладнасці, праўдзівасці інфармацыі.<br>• Звяртанне ўвагі на даты, лічбы, задачы розных відаў, іншыя матэматычныя дадзеныя, якія дапамагаюць больш дакладна прадставіць інфармацыю.<br>• Падбор матэрыялаў і афармленне рубрыкі насценнай газеты «Дзівосы матэматыкі» | успрыманні на слых інфармацыі, якая ўтрымлівае лічбы, і дакладным вусным пераказе яе.<br>• Уважлівае чытанне і разбор задач розных тыпаў па прыкладзе размовы паміж радыёдыктарам і слухачом; фарміраванне ўменняў вылучаць галоўную інфармацыю, дакладна ставіць пытанне і інш.<br>• Выразнае чытанне і рашэнне вершаваных задач па прыкладзе размовы ў прамым радыёэфіры | сайта «Вясёлая матэматыка».<br>• Праца з фотаздымкамі звяроў, птушак, насякомых і інш. прадстаўнікоў жывой і нежывой прыроды, знойдзенымі пад кіраўніцтвам настаўніка ў інтэрнэце, з мэтай засваення вучнямі мер даўжыні.<br>• Стварэнне слайдаў мультымедыйных прэзентацый для правядзення матэматычных алімпіяд з выкарыстаннем інфармацыі адпаведных узросту вучняў інтэрнэт-сайтаў |
| **Чалавек і свет** | • Складанне медыятэкі «Свет жывёл і раслін» у мастацкім кіно і мультыплікацыйных фільмах.<br>• Супастаўленне звестак пра жывую і нежывую прыроду, атрыманых на ўроку, са | • Разгляд фотаздымкаў, знаходжанне артыкулаў пра прадстаўнікоў флоры і фауны, аналіз галоўнай думкі інфармацыі, змешчанай на плакаце (постары) у часопісе.<br>• Знаходжанне ў часопісах | • Праслухоўванне інфармацыі на пэўную тэму, пашырэнне яе звесткамі, атрыманымі з вучэбных прадметаў, з даведачнай літаратуры.<br>• Правядзенне абагульняючага ўрока па тэме | • Знаходжанне малюнкаў прадстаўнікоў жывёльнага і расліннага свету ў прыродзе, у выглядзе казачных, мультыплікацыйных персанажаў, персанажаў на старонках часопісаў і газет. |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | змestam кіно. Абмеркаванне казачнага і рэальнага.<br>• Віктарына «Энцыклапедыя кінагледачоў — сяброў прыроды».<br>• Стварэнне рэкламнага роліка, які заклікае да сур'ёзнага вывучэння прадмета з дэманстрацыяй магчымых у будучым перспектыў дзейнасці.<br>• Складанне рэбусаў, крыжаванак паводле твораў кінематографа, героямі якіх з'яўляюцца звяры, птушкі і інш. | загадак, вершаў, казак па вывучаных тэмах (жывёльны і раслінны свет, вада, паветра і інш.)<br>• Складанне і адгадванне фотазагадак на аснове вядомай з падручнікаў інфармацыі і знойдзенага ў часопісе ці газеце фотаздымка.<br>• Знаходжанне на геаграфічнай карце населеных пунктаў Беларусі, рэк, азёраў, пра якія даведаліся з падручніка, часопісаў і газет | ў форме складання калектыўнага сцэнара радыёпраграмы.<br>• Падбор тэкставай інфармацыі розных жанраў па тэмах пораў года («Зімовыя радыёсюжэты», «Вясновыя замалёўкі» і інш.). Стварэнне сцэнара і запіс радыёпраграмы на аўдыяносьбіт.<br>• Творчы конкурс «Радыёблакнот»: назіранне за прыродай, запіс кароткіх уласных замалёвак пра жывёл, птушак, расліны з наступным агучваннем | • «Турнір знаўцаў прыроды» — абмеркаванне пытання ў сацыяльных сетках.<br>• Стварэнне сцэнара вэб-квеста «Першыя крокі ў навуку»: комплекс адукацыйных заданняў на вызначаную тэму, якія адсылаюць вучняў на канкрэтныя інтэрнэт-старонкі да пошуку інфармацыі па прапанаваных гіперспасылках.<br>• Бліц-гульня «Пытанні Чамучак»: фарміраванне ўмення шукаць адказ на пэўнае пытанне ў інтэрнэце, параўноўваць інфармацыю, знойдзеную на розных інтэрнэт-сайтах |
| **Выяўленчае мастацтва і працоўнае навучанне** | • Назіранне за выяўленчымі сродкамі кіно і мультыплікацыі, знаёмства з тэхнікай стварэння мультыплікацыйнага фільма (пластылінавая, лялечная, маляваная, камп'ютарная | • Знаходжанне ў часопісах апісання розных тэхнік малявання і паслядоўнасці дзеянняў.<br>• Афармленне вокладкі часопіса з выкарыстаннем ведаў, атрыманых на ўроках | • «Радыё як крыніца інфармацыі пра мастацтва»: устанаўленне пераваг і недахопаў прад'яўлення інфармацыі пра творы мастацтва.<br>• Складанне шэрагу магчымых | • Віртуальнае наведванне музеяў народнай творчасці, мастацкіх музеяў з азнаямленнем з тэхналогіяй выканання вырабаў з саломкі, ільну, гліны і інш.<br>• Стварэнне навучальна- |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | анімацыя).<br>• Назіранне ў час кінапраглядаў па тэме «Гульня святла і цені ў творах кінематографа».<br>• Абмеркаванне ўздзеяння выяўленчых сродкаў на ўспрыманне гледача.<br>• Сямейная медыя-эстафета «Лянота і працавітасць у кінамастацтве» | выяўленчага мастацтва (памер, прапорцыі прадметаў і інш.).<br>• Стварэнне карціннага плану прачытаных артыкулаў.<br>• Прыдумванне магчымых рубрык па тэмах выяўленчага мастацтва ў дзіцячых перыядычных выданнях.<br>• Стварэнне малюнкаў, іншых творчых вырабаў для ўдзелу ў конкурсах часопісаў і газет | радыёпраграм на тэмы выяўленчага мастацтва, народных рамёстваў і інш. з падборам назваў, стварэннем анонса кожнай радыёперадачы.<br>• Наведванне выставы карцін, складанне вуснага радыёпаведамлення «Думкі і мары, якія падарылі мне творы мастацтва» | забаўляльнай камп'ютарнай гульні з выкарыстаннем раней створаных малюнках вучняў.<br>• Наведванне сайтаў музеяў, галерэй, праца з інфармацыяй, якая будзе спрыяць выхаванню эстэтычнага густу (http://bel-art.by і інш.) |
| **Музыка** | • Аналіз музычнага суправаджэння кінафільмаў і мультыплікацыйных фільмаў.<br>• Абмеркаванне пытання ўдзелу музыкі ў характарыстыцы дзейных асоб фільма. Эмацыйнае сперажыванне. Узбагачэнне ўнутранага свету чалавека.<br>• Гульня «Адгадай мелодыю з мультфільма».<br>• Падбор музычнага суправаджэння да эпізодаў фільмаў, аналіз сродкаў | • Чытанне мастацкіх твораў на музычную тэму ў часопісах.<br>• Развучванне новых песень, нотны запіс якіх прапануецца ў дзіцячай перыёдыцы.<br>• Знаёмства з афішай музычных мерапрыемстваў на бліжэйшы час у часопісах і газетах.<br>• Аналіз зместу часопісаў і газет з мэтай знаходжання інфармацыі пра заняткі навучэнцаў музычных, | • Разважанне «Музыка ў радыёэфіры».<br>• «Музычны буквар»: праслухоўванне ўрыўкаў з класічных музычных твораў з вызначэннем іх жанраў.<br>• Праслухоўванне і развучванне народных песень і танцаў з мэтай знаёмства з нацыянальнай культурнай спадчынай.<br>• Запіс аўдыяхрэстаматыі «Мы вучымся спяваць»: харавое выкананне вучнямі класа | • Чытанне твораў на музычныя тэмы на сайтах часопісаў і газет.<br>• Знаёмства ў інтэрнэце з афішай музычнага жыцця горада, краіны. Параўнальная характарыстыка розных відаў афіш.<br>• Праца з фотаздымкамі музычных інструментаў.<br>• Прагляд відэаролікаў на тэму выканання розных відаў танцаў, акрэсленых вучэбнай |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | музычнай выразнасці, якія дапамагаюць стварыць пэўны настрой.<br>• Знаёмства з імёнамі таленавітых музыкантаў, спевакоў, танцораў паводле мастацкага, дакументальнага кіно, тэлерэпартажаў і інш. | харэаграфічных школ.<br>• Чытанне артыкулаў, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра канцэрты, гастролі, выступленні музыкантаў, аркестраў.<br>• Праца з малюнкамі і фотаздымкамі, змешчанымі ў дзіцячай перыёдыцы, з мэтай пашырэння музычнай эрудыцыі вучняў | вывучаных на ўроках музыкі песень.<br>• Гутарка «Што такое музычны sms-эфір?»<br>• Чытанне па ролях урыўкаў з мастацкіх твораў, падбор музычнага суправаджэння для іх агучвання | праграмай па музыцы.<br>• Увядзенне ў тэму з выкарыстаннем віртуальных сустрэч з вядомымі музыкантамі |
| **Фізічная культура і здароўе** | • Прагляд фрагментаў спартыўных спаборніцтваў розных гадоў.<br>• Прагляд і абмеркаванне мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў пра фізкультуру і спорт у жыцці людзей.<br>• Стварэнне спартыўнага відэалато на аснове стоп-кадраў з твораў кінематографа і мультыплікацыі. | • Знаходжанне рубрык у газетах і часопісах, якія змяшчаюць нататкі і артыкулы на спартыўныя тэмы.<br>• «Эрудыт-марафон чытача» «Героі спорту».<br>• Складанне крыжаванкі паводле артыкулаў пра розныя віды спорту. | • Конкурс радыёвядучых «Ранішняя гімнастыка ў прамым эфіры».<br>• Каментаванне спартыўных спаборніцтваў у форме радыёрэпартажу.<br>• Падвядзенне вынікаў урока фізічнай культуры ў форме радыёінтэрв'ю | • Прагляд у інтэрнэце спартландый розных гадоў.<br>• Наведванне пад кіраўніцтвам настаўніка адпаведных узросту спартыўных сайтаў.<br>• Дэманстрацыя настаўнікам магчымасці назіраць за спаборніцтвамі па розных відах спорту ў інтэрнэце.<br>• Знаходжанне інфармацыі пра гісторыю алімпійскіх гульняў і іх сімвалы розных гадоў |

**Табліца. Каталог медыяадукацыйных форм, метадаў і прыёмаў у пазавучэбнай дзейнасці**

| **Напрамак выхавання** (згодна з «Канцэпцыяй бесперапыннага выхавання дзяцей і моладзі ў Рэспубліцы Беларусь»* | **Тэлеперадачы, мастацкія і мультыплікацыйныя фільмы** | **Дзіцячыя перыядычныя выданні** | **Радыё** | **Інтэрнэт-рэсурсы** |
|---|---|---|---|---|
| **Грамадзянскае і патрыятычнае выхаванне** | • Прагляд і абмеркаванне дакументальных фільмаў пра вядомых гістарычных дзеячаў краіны.<br>• Прагляд дакументальных фільмаў пра святкаванне Калядаў, Масленіцы, Гукання вясны; стварэнне відэазапісаў святкавання народных святаў вучнямі класа, школы.<br>• Абмеркаванне пытання: «Якія жыццёвыя ўрокі могуць даць гледачам мультыплікацыйныя і мастацкія фільмы?»<br>• Аўкцыён адказаў на | • Знаёмства з гісторыяй стварэння дзіцячых газет і часопісаў у Беларусі.<br>• «Інфармацыйны калейдаскоп»: чытанне і аналіз мастацкіх твораў, артыкулаў, нататак пра родны горад (вёску). Вызначэнне галоўнай і дадатковай інфармацыі.<br>• Пашырэнне інфармацыйных інтарэсаў вучняў.<br>• Гульня «Чароўная сумка паштальёна»: устанаўленне адраснасці інфармацыі газет і часопісаў, вызначэнне тэматыкі і праблематыкі | • Складанне сцэнарыя мінірадыёперадачы «Навіны нашага горада (вёскі)».<br>• Падрыхтоўка пытанняў і правядзенне радыёвіктарыны на краязнаўчыя тэмы.<br>• Абмеркаванне пытання: «Чаму радыёхвалі называюць секунднай стрэлкай гісторыі?»<br>• Падбор матэрыялу для гульні «Эстафета радыёпытанняў».<br>• «Я — радыёвядучы»: выразнае чытанне празаічных і паэтычных твораў.<br>• Стварэнне радыёчасопіса | • Віртуальныя экскурсіі па знакамітых музеях Беларусі і свету.<br>• Краязнаўча-турыстычная эстафета паводле інфармацыі інтэрнэт-рэсурсаў.<br>• Пошук тэкставых, графічных і інш. матэрыялаў па тэме «Летапіс майго горада (вёскі)».<br>• Заданне «Блытаніна»: фарміраванне ўмення вызначаць сувязі паміж гістарычнымі падзеямі, фактамі, імёнамі.<br>• Інфармацыйная інтэрнэт-гульня «Машына часу». |

* Концепция непрерывного воспитания детей и учащейся молодежи // Национальный образовательный портал: http://adu.by/?p=7769.



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | пытанне: «Якога тэлегледача можна назваць удумлівым? Як ім стаць?» | артыкулаў.<br>• Гульня «Фотафакт»: вызначэнне, якому з артыкулаў пра жыццё краіны адпавядае фотаздымак; знаходжанне галоўнай і другаснай інфармацыі | «Зямля пад белымі крыламі».<br>• Творчы праект «Стварэнне ілюстраванай праграмы радыёперадач „Мая Беларусь”» | • Наведванне сайта часопісаў «Вясёлка», «Рюкзачок», газеты «Зорька» (**http://www.veselka.by**; **http://www.p-shkola.by**; **http://www.zorika.by**). |
| **Маральнае выхаванне** | • Прагляд і аналіз твораў кінамастацтва з выкарыстаннем метаду эмацыйна-каштоўнасных кантрастаў: звяртанне ўвагі вучняў на дэманстрацыю ў кіно супрацьлеглых каштоўнасцей, абуджэнне ў вучняў перажывання вышэйшых пачуццяў і ўсведамленне агульначалавечых каштоўнасцей.<br>• Аналіз даступных узросту этычных сітуацый на розныя тэмы, прадэманстраваных у аўдыявізуальных | • «Інфармацыйны калейдаскоп»: падбор артыкулаў па тэмах добразычлівых узаемаадносінаў паміж людзьмі, павагі да пажылых людзей і інш.<br>• Складанне дыялогаў паводле прачытаных у перыядычным друку артыкулаў пра культуру паводзінаў у школе, тэатры, музеі, бібліятэцы.<br>• Стварэнне артыкулаў на тэму «Сусед па парце — мой сябар» у выглядзе сітуацыі ўдзелу ў конкурсе.<br>• Падбор прыказак да артыкулаў маральна- | • Імітацыя сітуацыі «Віншаванне па радыё» з мэтай замацавання ў маўленні ветлівых слоў і выразаў, правілаў культуры маўлення.<br>• «Радыёхвілінкі ўзаемаветлівасці»: стварэнне кароткіх тэкстаў па тэмах штодзённага маральнага выхавання.<br>• Гульня «Інфармацыйны святлафор»: дыялог радыёвядучага з аўдыторыяй на аснове сітуацый з мастацкай літаратуры і рэальнага жыцця.<br>• Стварэнне радыёрэпартажаў пра праведзеныя ў класах | • Імітацыя электроннай перапіскі з мэтай замацавання правілаў этычных і бяспечных паводзінаў і інтэрнэце.<br>• Абмеркаванне правілаў этыкету пры складанні каментарыяў у гасцявой кнізе на сайтах часопісаў і газет.<br>• Абмеркаванне праблемна-этычных сітуацый на тэмы зносінаў у сацыяльных сетках.<br>• Анкетаванне вучняў з наступным абмеркаваннем вынікаў адказаў на пытанне: «Чаму могуць навучыць камп'ютарныя гульні?»<br>• Абмеркаванне станоўчых і адмоўных |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | медыятэкстах.<br>• Прагляд і аналіз фільмаў-казак розных гадоў.<br>• Абмеркаванне маральнай праблематыкі ў творах кінамастацтва: добро і зло, сумленнасць і падман, сяброўства і здрада.<br>• Прагляд і аналіз з маральна-этычнага пункту гледжання даступных узросту вучняў рэкламных ролікаў | этычнага зместу на аснове аналізу зместу перыядычнага друку.<br>• Творчы праект «Дапішы артыкул»: складанне працягу прачытанага ў дзіцячай перыёдыцы артыкула на маральна-этычную тэму.<br>• Творчае заданне «Калектыўны ліст у рэдакцыю часопіса» (апавяданне пра важную для жыцця класа падзею) | выхаваўчыя мерапрыемствы.<br>• Падрыхтоўка напрыканцы вучэбнага года радыёканцэрта песень і вершаў «па заяўках» бацькоў.<br>• «Дыскусійны радыёклуб „Астэроід Б-612" (так называлася планета Маленькага Прынца), дэвіз якога: «Мы ў адказе за тых, каго прыручылі!» | мультыплікацыйных вобразаў у форме зносінаў у сацыяльных сетках.<br>• Гутарка «І жартам, і ўсур'ёз»: усведамленне правілаў выкладвання ў інтэрнэт фотаздымкаў толькі з дазволу людзей, сфатаграфаваных на іх, абмеркаванне тэм добрага смеху і злой насмешкі |
| **Полікультурнае выхаванне** | • Завочнае падарожжа «З гісторыі тэлебачання. Папулярныя тэлепраграмы для дзяцей учора і сёння» (можа быць выкарыстана інфармацыя музея тэлебачання і радыё ў інтэрнэце /www.tvmuseum.ru).<br>• Прывядзенне прыкладаў грамадска-палітычных; адукацыйных; забаўляльных тэлепраграм. | • Знаходжанне ў дзіцячых часопісах і газетах артыкулаў пра сусветныя традыцыі, святы.<br>• Гульня «Хуткая інфармацыйная дапамога»: назапашванне матэрыялаў пра культуру народаў свету.<br>• Выпуск насценнай газеты-маланкі з абмеркаваннем вынікаў праведзенага мерапрыемства і прапановамі новых ідэй. | • Высвятленне асаблівасцей радыё на падставе праслухоўвання і аналізу фрагментаў радыёперадач.<br>• Дыскусія «Тры пытанні на розных мовах»: трэнінг культуры маўлення, замацаванне ўмення будаваць вуснае выказванне, задаваць пытанні і адказваць на іх.<br>• Складанне вуснага выказвання па ўзоры радыёінтэрв'ю «Свет маіх | • Паняцце пра электронную і віртуальную бібліятэку. Знаёмства з электроннымі даведнікамі і энцыклапедыямі.<br>• Знаходжанне інфармацыі па тэме «Шэдэўры сусветнай культуры».<br>• Гутарка «Што такое Вікіпедыя?», знаёмства з матэрыяламі Вікіпедыі, прадстаўленымі на розных мовах.<br>• Правядзенне апытання |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Абмеркаванне іх назваў і зместавага напаўнення.<br>• Назіранне за культурай выказвання пачуццяў у слоўнай і невербальнай форме.<br>• Гульня «Люстэрка тэлегледача»: улік жыццёвага вопыту вучняў у час выбару тэлеперадач | • Гульня «Фотаздымкі за нашымі вокнамі»: літаратурна-мастацкая дзейнасць па стварэнні пейзажных фотаздымкаў, абмеркаванне фотасюжэтаў у часопісах і газетах | захапленняў».<br>• Правядзенне выхаваўчага мерапрыемства ў форме радыёканцэрту.<br>• Пашырэнне ўяўленняў вучняў пра спосабы захоўвання інфармацыі ў розныя гістарычныя перыяды: фотаплёнка, магнітныя стужкі, грампласцінкі, аўдыязапіс, відэазапіс, лічбавы запіс інфармацыі і інш. | «Крыніцы інфармацыі, якімі я карыстаюся найбольш часта».<br>• Заданне-роздум «Свет за тваёй спінай»: пашырэнне кругагляду вучняў, прафілактыка інтэрнэт-залежнасці |
| **Эканамічнае выхаванне** | • Гульня «Уважлівы тэлеглядач»: на асэнсаванне інфармацыі пра фінансавую граматнасць.<br>• Прагляд і абмеркаванне фрагментаў тэлепраграм пра планаванне сямейнага бюджэту.<br>• Калектыўны праект «Ствараем пазнавальную праграму для дзяцей».<br>• Хіт-парад мультфільмаў, | • «Школа гаспадара і гаспадыні»: пошук матэрыялаў на тэмы вядзення хатняй гаспадаркі, дапамогі бацькам па гаспадарцы.<br>• Стварэнне настольнай гульні «Мой бізнес-план».<br>• Праца з фотаздымкамі часопісаў і газет на тэмы гісторыі стварэння прадпрыемстваў Беларусі<br>• Стварэнне насценнай газеты «Што я ведаю пра эканоміку?» | • Праслухоўванне даступных узросту ўрыўкаў радыёпраграм на эканамічныя тэмы.<br>• Прадстаўленне інфармацыі на эканамічную тэму ў выглядзе радыёпаведамлення.<br>• Складанне тэксту радыёрэкламы на эканамічныя тэмы.<br>• Радыёапытанне «Самы гаспадарлівы казачны герой». | • Пошук інфармацыі на вызначаную тэму, азнаямленне з інфармацыяй, каментаванне.<br>• Абмеркаванне зместу даступнай узросту рэкламы продажу цацак.<br>• Правядзенне сумесных вебінараў школ з прадстаўнікамі прадпрыемстваў |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | якія могуць навучыць разумнаму планаванню расходаў, гаспадарлівасці, прадпрымальніцтву | | • «Моўныя хвілінкі»: знаёмства з новымі словамі са свету эканомікі ў форме радыёсюжэтаў | |
| **Выхаванне культуры бяспекі жыццядзейнасці** | • Складанне медыятэкі мультыплікацыйных і дзіцячых мастацкіх фільмаў на тэмы супрацьпажарнай бяспекі, правілаў дарожнага руху, правілаў паводзінаў на вадзе і інш.<br>• Творчае заданне «Парады героям мультфільмаў»: аналіз учынкаў герояў і фармуляванне высноў.<br>• Гутарка «„Плюсы" і „мінусы" 3D-праглядаў».<br>• Тэлемост «Тэлеглядач і экран» | • Пошук інфармацыі пра шляхі выхаду з экстрэмальных сітуацый. Вызначэнне ў артыкулах галоўнай і дадатковай інфармацыі.<br>• Складанне апавяданняў з памылкамі: пераказ прачытаных матэрыялаў з наўмысна дапушчанымі 2—3 памылкамі.<br>• Знаходжанне практычнай інфармацыі па барацьбе з пажарамі, неабходнасць выканання правілаў дарожнага руху, правілы бяспекі на вадзе і інш. | • Складанне радыёпаведамлення «Дзеянні ў небяспечнай сітуацыі» па папярэджанню небяспечнай сітуацыі.<br>• Абмеркаванне жыццёвых сітуацый у радыёэфіры.<br>• Стварэнне сцэнара адукацыйнай радыёпраграмы.<br>• Прыдумванне імёнаў, апісанняў характараў персанажаў, якія маглі б размаўляць у радыёэфіры з дзецьмі пра бяспеку жыццядзейнасці | • Гутарка «Калі інтэрнэт будзе сябрам: захаванне фізічнага і псіхалагічнага здароўя падчас працы ў інтэрнэце».<br>• Замацаванне правілаў захавання фізічнага і псіхічнага здароўя вучняў у форме гульні «Інфармацыйная аптэка».<br>• Віртуальнае падарожжа па інтэрнэт-сайце часопіса «Юны выратавальнік» http://www.spasatel.by |
| **Эстэтычнае выхаванне** | • Аналіз выяўленча-вобразных сродкаў кіно, атрыманне першапачатковых мастацтвазнаўчых ведаў пра асаблівасці кіно. | • Пошук матэрыялаў у друку пра культуру маўлення, неабходнасць удасканалення ўласнага маўлення. Трэнінг маўленчых сітуацый паводле знойдзеных матэрыялаў. | • Праслухоўванне радыёпраграм пра музеі свету, выставы жывапісу, жыццё і творчы шлях мастакоў. | • Наведванне інтэрнэт-сайтаў дзіцячых музычных школ, студый, у якіх займаюцца вучні класа, з мэтай знаёмства іншых вучняў з дзейнасцю канкрэтнай музычнай школы. |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | • Метад эмацыйна-каштоўнасных кантрастаў: настаўнік з улікам узроставых і індывідуальна-псіхалагічных асаблівасцей звяртае ўвагу на дэманстрацыю ў кіно супрацьлеглых каштоўнасцей, абвастрае ў вучняў перажыванне важных пачуццяў і ўсведамленне агульначалавечых каштоўнасцей.<br>• Прагляд экранізацый мастацкіх твораў з мэтай назірання за стварэннем вобразаў у літаратуры і кінамастацтве, разнастайнасцю аўтарскіх трактовак зместу і вобразаў.<br>• Творчае заданне «Стварэнне афішы да кінафільма».<br>• Выхаванне эстэтычных адносін да прыроды на | • Ілюстраванне зместу прачытаных артыкулаў.<br>• Лепка з пластыліну, салёнага цеста герояў літаратурных твораў, з якімі пазнаёміліся на старонках часопісаў і газет.<br>• «5 здзіўленняў за 5 хвілін»: складанне калектыўнага хіт-параду па выніках чытання і абмеркавання чарговага нумару часопіса ці газеты.<br>• Актуалізацыя ведаў вучняў пра коміксы. Групавая праца па стварэнні і агучванні коміксаў.<br>• Калектыўны творчы праект «Колеры нашых талентаў. Ствараем часопіс (газету)» | • Праслухоўванне музычных твораў з выкарыстаннем метаду кантрастнага супастаўлення.<br>• Сюжэтна-ролевая гульня «Тэатр ля мікрафона», у якой акцёрамі выступаюць вучні.<br>• Метад інтанацыйнага аналізу слоўнай, музычнай інфармацыі.<br>• «Палітра фарбаў і гукаў»: узбагачэнне эмацыйнай сферы асобы вучняў адценнямі пачуццяў паводле пачутых у радыёэфіры класічных музычных твораў.<br>• Конкурс юных чытальнікаў мастацкіх твораў.<br>• «Творчая гасцёўня»: сустрэча з сем'ямі вучняў, якія захапляюцца эстэтычнай творчасцю ў форме радыёпраграмы «Размова ў прамым эфіры».<br>• Стварэнне дыскусійнага радыёклуба «Сцяжынкі да творчасці» | • «Давайце пазнаёмімся»: наведванне інтэрнэт-сайтаў музычных, тэатральных, харэаграфічных школ, каледжаў рэспублікі з мэтай заахвочвання вучняў да заняткаў у адпаведных установах у вольны час.<br>• Наведванне інтэрнэт-сайтаў беларускіх тэатраў з мэтай знаёмства з рэпертуарам, афішай, гісторыяй тэатра.<br>• Пошук і абмеркаванне інфармацыі пра беларускіх мастакоў, музыкантаў, дзеячаў культуры і мастацтва свету.<br>Стварэнне вэб-квэсту, які ўключае наведванне сайтаў розных культурных устаноў, пошук і інфармацыі, стварэнне на яе аснове ўласнага медыятэксту |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | прыкладзе твораў дакументальнага і мастацкага кіно.<br>• Прагляд фрагментаў фільмаў з выразнымі пейзажнымі замалёўкамі, падбор музычнага суправаджэння да іх | | | |
| **Выхаванне псіхалагічнай культуры** | • Знаёмства з паняццем «інфармацыйная культура чалавека», на зразумелых прыкладах асэнсаванне яе неабходнасці ў жыцці кожнага сучаснага чалавека.<br>• Гульні паводле прагледжаных тэлепраграм, фільмаў, накіраваныя на развіццё памяці, увагі, творчага ўяўлення.<br>• Заданне «А як бы зрабіў ты?» паводле абмеркавання канфліктных сітуацый паміж дзецьмі з вядомых мастацкіх і анімацыйных фільмаў. | • Складанне алгарытму пошуку інфармацыі на прапанаваную тэму ў перыядычным друку.<br>• Чытанне і напісанне артыкулаў па тэмах неабходнасці самаразвіцця, рэфлексіі, самаадукацыі.<br>• Заданне-роздум «Яго Вялікасць Учынак».<br>• «Героі нашага часу»: абмеркаванне артыкулаў пра дзяцей і падлеткаў, якія дасягнулі добрых вынікаў у розных відах дзейнасці, павышэнне матывацыі вучняў да самаўдасканалення асобы. | • Абмеркаванне жыццёвых сітуацый на тэму выхавання культуры радыёслухача.<br>• Творчае заданне «Радыёліст у будучыню» з запісам на аўдыяносьбіт.<br>• Азнаямленне з інфармацыяй радыё для вызначэння аўдыторыі, якой яна адрасавана; змена адрасату (узроставай аўдыторыі, людзей пэўнай прафесіі і інш.).<br>• Стварэнне музычнай характарыстыкі герояў мастацкіх твораў.<br>• Правядзенне выхаваўчых мерапрыемстваў у форме музычнай радыёгасцёўні. | • Даследчая дзейнасць вучняў «Знайдзі адрозненні»: аналіз інфармацыі па адной і той жа тэме, прадстаўленай рознымі інтэрнэт-рэсурсамі.<br>• «Віншаванне з Днём нараджэння»: абмеркаванне этычных момантаў паведамлення асабістай інфармацыі ў сацыяльных сетках.<br>• Гульня «Прыгоды ў інтэрнэце»: пошук выйсця з нестандартных сітуацый.<br>• «Правілы без выключэнняў»: абмеркаванне з псіхалагічнага боку ролі камп'ютарных гульняў у жыцці сучасных дзяцей і дарослых |



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | • Развіццё творчага патэнцыялу вучняў: складанне працягу фільма.<br>• Разважанне, як паводзілі б сябе героі мінулых стагоддзяў, калі б трапілі ў нашы дні? Як бы паводзілі сябе мы ў мінулых стагоддзях?<br>• Аналіз назваў тэлепраграм, мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў | • Выкарыстанне тэхнікі арт-тэрапіі на матэрыялах дзіцячай перыёдыкі.<br>• Афармленне выстаў перыядычных выданняў для дзяцей.<br>• Аўкцыён адказаў на пытанне: «Што значыць умець чытаць паміж радкоў?» | • «Я-рэальнае і я-ідэальнае». Развіццё эмацыйна-каштоўнаснай сферы асобы ў форме размовы ў прамым радыёэфіры.<br>• «Дзіцячы радыётэатр»: трансляцыя радыёпастановак, інсцэніраваных твораў з фондаў Беларускага радыё | |
| **Выхаванне культуры здаровага ладу жыцця** | • Дыскусія «Медыя і рэжым дня» з абмеркаваннем аптымальных суадносін рэжымных момантаў, прывядзенне прыкладаў з жыцця.<br>• Абарона творчых праектаў «Мультфільм / мастацкі фільм, пасля прагляду якога я стаў уважлівым да свайго здароўя».<br>• Калектыўная сістэматызацыя | • Разглядванне вокладак, зместу часопісаў, газет, знаходжанне па загалоўках артыкулаў на тэмы выхавання здаровага ладу жыцця.<br>• Пошук тэкставых і ілюстрацыйных матэрыялаў для стварэння мультымедыйнай прэзентацыі пра фізкультуру і спорт.<br>• Хіт-парад «Найлепшы артыкул пра здаровы лад жыцця». | • Трэнінг «Вучымся размаўляць і слухаць»: усведамленне важнасці выканання правілаў гігіены слыху.<br>• Сюжэтна-ролевая гульня «Актуальны рэпартаж»: складанне кароткага змястоўнага паведамлення на тэмы здаровага ладу жыцця з наступным агучваннем яго «у радыёэфіры».<br>• Конкурс назваў і сцэнароў радыёпраграм для дзяцей. | • Стварэнне мультымедыйнай прэзентацыі паводле інтэрнэт-версій плакатаў пра здаровы лад жыцця.<br>• Інтэрнэт-эстафета розных школ на тэму абмену досведам пра найбольш цікавыя мерапрыемствы.<br>• Стварэнне малюнкаў, вершаў, казак, апавяданняў на тэмы спартыўнага жыцця сям'і і школы і стварэнне віртуальнай выставы на |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | матэрыялаў класнай бібліятэкі, медыятэкі.<br>• Абмеркаванне зместу рэкламных тэлевізійных паведамленняў з пункту гледжання выканання правілаў здаровага ладу жыцця | • Конкурс плакатаў «Крокі да здароўя».<br>• Стварэнне рэкламнага паведамлення на тэму адказных адносінаў людзей да свайго здароўя «Ліст да самога сябе» | • Распрацоўка сцэнара радыётрансляцыі школьнага спартыўнага свята «Вас выклікае спартландыя» | пэўным сайце ці ў сацыяльных сетках |
| **Экалагічнае выхаванне** | • Складанне медыятэкі дакументальных, мастацкіх, анімацыйных фільмаў на тэмы экалогіі.<br>• Бліц-гульня «Важнае пытанне»: практыкаванне вучняў ва ўменні ставіць пытанні па змесце фільма і крытычна асэнсоўваць атрыманую аўдыявізуальную інфармацыю.<br>• Інтэрв'ю «Твая прапанова па паляпшэнні экалагічнага стану горада (вёскі)».<br>• Заданне «Што тут праўда, што — мана?»: адказы вучняў на праблемныя | • Гульня-дыскусія «Ці згодныя вы, што…» паводле матэрыялаў на тэмы экалагічнага выхавання ў перыядычным друку.<br>• Стварэнне загадак на аснове матэрыялаў перыядычнага друку пра прадстаўнікоў Чырвонай кнігі.<br>• Знаходжанне і абмеркаванне плакатаў, постараў на тэмы экалогіі.<br>• Стварэнне ўласных плакатаў на тэмы прыродаахоўнай дзейнасці («Беражы ваду!», «Чыстае паветра» і інш.).<br>• Знаходжанне ўмоў конкурсаў на экалагічныя | •Ператварэнне друкаваных матэрыялаў на экалагічныя тэмы з перыёдыкі ў радыёпаведамленні, імітаванне выступлення з імі ў прамым эфіры.<br>• Праслухоўванне вуснай інфармацыі радыё з наступным складаннем інсцэніроўкі, сцэнара відэасюжэта, інтэрв'ю.<br>• Конкурс на стварэнне рэкламнага слогану на тэму экалогіі, які мог бы гучаць у радыёпраграмах.<br>• Пошук матэрыялаў розных жанраў для стварэння радыёчасопіса на экалагічную тэму | • Складанне лато «З любоўю да прыроды» паводле фотаздымкаў і ілюстрацый з інтэрнэту.<br>• Наведванне інтэрнэт-сайтаў экалагічных цэнтраў рэспублікі, іншых сацыяльна-культурных устаноў прыродазнаўча-экалагічнага профілю (экалагічныя музеі, батанічны сад і інш.).<br>• Складанне ўласных заданняў па пошуку інфармацыі «Інфармацыйная мазаіка».<br>• Віртуальная выстава творчых вырабаў вучняў на тэмы экалогіі |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | пытанні экалагічнага зместу паводле фрагментаў розных мультфільмаў | тэмы, удзел у іх | | |
| **Сямейнае і гендарнае выхаванне** | • Хіт-парад «Любімыя тэлепраграмы маёй сям'і» з абмеркаваннем інтарэсаў членаў сям'і вучняў.<br>• Складанне ілюстраванага каталога «Любімы фільм (мультфільм) дзяцінства маіх бацькоў».<br>• «Праграма сямейных тэлепраграм»: аналіз праграмы тэлеперадач на тыдзень, вызначэнне.<br>• Стварэнне медыятэкі на тэму «Пад цёплымі крыламі сям'і».<br>• Прагляд і аналіз мультыплікацыйных фільмаў, у якіх прадэманстраваны мудрасць, дабрыня, самаахвярнасць маці.<br>• Абмеркаванне жаночых | • Знаходжанне ў дзіцячых часопісах і газетах артыкулаў пра адзначэнне святаў (Міжнародны дзень сям'і, Дзень маці і інш.).<br>• «Інфармацыйнае скрыжаванне»: абарона лепшага, на думку вучня, выдання для сямейнага чытання. Фарміраванне ўменняў аргументацыі ўласнай пазіцыі.<br>• «Прэс-канферэнцыя»: падбор друкаваных матэрыялаў для бацькоўскіх сходаў на тэмы сямейнага выхавання.<br>• Праект «Сямейная кніга рэкордаў»: мерапрыемства праводзіцца з мэтай павышэння ўвагі да кожнага члена сям'і. Пачаткам яго служыць абмеркаванне | • Арганізацыя экскурсіі на радыё для сем'яў вучняў.<br>• «Сямейнае радыё»: складанне праграмы радыёперадач, цікавых кожнаму члену сям'і.<br>• Праслухоўванне радыёінфармацыі з наступным выкладаннем яе ў выглядзе малюнка, серыі малюнкаў ці коміксаў.<br>• «Самыя ласкавыя словы маёй матулі»: імітацыя размовы ў прамым эфіры.<br>• Складанне сцэнароў радыёпраграм для хлопчыкаў, татаў, дзядуляў; дзяўчынак, мам, бабуль.<br>• «Дзіцячая энцыклапедыя»: запіс на аўдыяносьбіт успамінаў бацькоў пра вясёлыя гісторыі з ранняга | • Распрацоўка сцэнара вэб-квэста — комплекс адукацыйных заданняў на вызначаную тэму, якія адсылаюць вучняў да пошуку інфармацыі па прапанаваных гіперспасылках на канкрэтныя інтэрнэт-старонкі.<br>• Імітаванне зносінаў у сацыяльных сетках «Наш сямейны глобус»: складанне геаграфічнай карты, дзе жывуць сваякі вучняў, усведамленне неабходнасці захавання сямейных традыцый.<br>• Віртуальныя выставы сямейнага малюнка.<br>• Віртуальная экскурсія для ўсёй сям'і па сайце дзіцячага часопіса (газеты) з выкананнем практычных заданняў.<br>• «Школа знешняй і ўнутранай прыгажосці»: пошук інфармацыі |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | і мужчынскіх вобразаў, створаных у літаратуры і кіно.<br>• Давяральная гутарка з хлопчыкамі «Сапраўдны мужчына» з праглядам фрагментаў фільмаў, абмеркаваннем мужчынскіх вобразаў.<br>• Давяральная гутарка з дзяўчынкамі «Мая любімая мультыплікацыйная гераіня» з абмеркаваннем зместу аўдыявізуальных медыятэкстаў, жаночых вобразаў | артыкула пра сям'ю, прадстаўленага ў дзіцячым перыядычным друку.<br>• Абмеркаванне пытання: «Як ствараецца сямейная бібліятэка, фанатэка, медыятэка?»<br>• Стварэнне маляванага часопіса ў выглядзе коміксаў пра розныя сітуацыі з жыцця сям'і | дзяцінства сына, дачкі.<br>• Падрыхтоўка і правядзенне радыёшоу «Барометр сямейнага настрою» (з выкарыстаннем элементаў радыёпраграм розных жанраў).<br>• Забаўляльна-пазнавальная праграма «IQ-фактар»: паглыбленне ведаў вучняў пра народныя сямейныя традыцыі беларусаў, адгадванне загадак, правядзенне міні-інтэрв'ю, віншаванне членаў сям'і са святамі | на адпаведных узросту сайтах і прадстаўленне яе ў выглядзе парадаў для хлопчыкаў і дзяўчынак |
| **Працоўнае і прафесійнае выхаванне** | • Складанне медыятэкі кіна- і мультыплікацыйных фільмаў на тэму «Працавітасць і лянота».<br>• «Вандроўка ў Краіну працавітых людзей»: распрацоўка падарожжа з выкарыстаннем кадраў з твораў кінамастацтва. | • Складанне класнай бібліятэчкі «Свет прафесій на старонках газет і часопісаў».<br>• Стварэнне рэкламнага паведамлення (плаката) пра прафесіі з выкарыстаннем матэрыялаў часопісаў і газет.<br>• Арганізацыя калектыўных сустрэч з журналістамі, якія рыхтуюць матэрыялы для | •Ператварэнне прачытанай слоўнай інфармацыі пра прадстаўніка прафесіі ў слыхавую.<br>• Радыёканал «Выбіраем прафесію.<br>• Аўкцыён адказаў «Магчымасці выкарыстання інфармацыі радыё ў прафесійнай арыентацыі». | • «Фестываль новых старых знаёмцаў»: знаёмства пад кіраўніцтвам настаўніка з працай тэле- і радыёканалаў у інтэрнэт-прасторы<br>• «Знаёмімся з сучаснымі прафесіямі»: пошук інфармацыі (капірайтар, вэб-дызайнер, гейм-дызайнер і інш.) |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | • «Галерэя партрэтаў працавітых герояў кіно і мультыплікацыі» (фотакадры і партрэты, намаляваныя вучнямі).<br>• Складанне сцэнара мультфільма на тэмы працоўнага выхавання.<br>• Стварэнне відэаролікаў «Падарожжа па прафесіях членаў маёй сям'і».<br>• Конкурс найлепшага знаўцу прафесій паводле сюжэтаў мультфільмаў (паштальён Печкін, доктар Айбаліт, цыркавы артыст Баніфацый і інш.) | дзіцячай перыёдыкі з мэтай правядзення даступных узросту вучняў майстар-класаў.<br>• «Мы запрашаем Вас да нас»: устанаўленне кантактаў з людзьмі, пра якіх даведаліся з артыкулаў газет і часопісаў, запрашэнне іх у школу для сумеснага мерапрыемства.<br>• Вызначэнне ролі ілюстрацый і фотаздымкаў у кнігах, часопісах, газетах. Знаёмства з прафесіямі мастака-ілюстратара, фотамастака | • Правядзенне ролевых гульняў з удзелам радыёжурналістаў, якія пазнаёмяць з прафесіяй радыёжурналіста і падрыхтоўкай праграмы да эфіру.<br>• Радыёпадарожжа ў мінулае. Прылады працы, віды дзейнасці старажытных беларусаў.<br>• Радыёвіктарына: адгадванне загадак пра прафесіі, прылады працы, працоўныя заняткі людзей.<br>• Падрыхтоўка аўдыявіншаванняў для бацькоў вучняў напярэдадні прафесійных святаў | • Стварэнне сцэнара камп'ютарнай гульні, вядучая ідэя — неабходнасць авалодання патрэбнымі ў жыцці працоўнымі ўменнямі.<br>• Праца з дэфармаваным тэкстам: аднаўленне прапушчаных слоў з наступнай праверкай на пэўным сайце.<br>• Знаходжанне фотаздымкаў помнікаў людзям розных прафесій (настаўнік, доктар і інш.), абмеркаванне ідэі іх стварэння |
| **Выхаванне культуры побыту і вольнага часу** | • Дыскусія «Медыя і рэжым дня» на аснове абмеркавання жыццёвых сітуацый.<br>• Творчае заданне «Ствараем кулінарную тэлепраграму», «Гатуем беларускія стравы» і інш. | • Выстава творчых вырабаў паводле інструкцый, прапанаваных у дзіцячым перыядычным друку.<br>• Аўкцыён адказаў «Як выбраць заняткі ў вольны час?» на аснове аналізу | • Вусны часопіс «З гісторы радыёпраграм для дзяцей і падлеткаў» (можа быць выкарыстана інфармацыя музея тэлебачання і радыё ў інтэрнэце www.tvmuseum.ru). | «Віртуальны майстар-клас»: стварэнне вырабаў з паперы, кардону, тканіны і інш. паводле інфармацыі адпаведных узросту сайтаў.<br>• Майстар-клас «Догляд свойскіх жывёл», «Вырошчванне пакаёвых |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | па прыкладзе тэлепраграм.<br><br>• Стварэнне сцэнара рэкламнага роліка на сацыяльныя тэмы.<br><br>• Творчы праект «Азбука тэлегледача»: падбор і апісанне прадметаў і з'яў свету тэлебачання, якія маюць значэнне, і планаванне вольнага часу.<br><br>• Калектыўнае стварэнне мультфільма ў адной з тэхнік (пластылінавы, лялечны, маляваны, камп'ютарны) | зместу перыядычных выданняў.<br><br>• Конкурс малюнкаў на асфальце «Вокладкі любімых часопісаў».<br><br>• Конкурс «Спыніся, імгненне!»: стварэнне арыгінальных подпісаў да фотаздымкаў газет і часопісаў.<br><br>• Доўгатэрміновы калектыўны праект «Натхненне».<br><br>• Выкарыстанне матэрыялаў часопісаў і газет для стварэння віктарын, крыжаванак, настольных гульняў (мазаіка, пазлы, лато і інш.) | • Музычны рынг «Роля музыкі, якая гучала ў радыёэфіры ў розныя дзесяцігоддзі, у правядзенні вольнага часу слухачоў».<br><br>• Творчы праект «Радыёпрапанова»: складанне спісаў цікавых і карысных заняткаў у вольны час.<br><br>• Прапанова доўгатэрміновых праектаў па папулярызацыі чытання («Кніга месца», «Каляндар чытача», «Лета з добрай кнігай», «Сямейнае чытанне») у форме радыёпраграмы з удзелам людзей рознага ўзросту | кветак» на аснове інфармацыі інтэрнэт-рэсурсаў.<br><br>• Сюжэтна-ролевая гульня «Прэс-канферэнцыя стваральнікаў і спажыўцоў камп'ютарных гульняў».<br><br>• Аўкцыён адказаў «Шляхі і спосабы выкарыстання інфармацыі інтэрнэт-рэсурсаў у жыцці».<br><br>• Стварэнне віртуальнай выставы фотаздымкаў ці ілюстраванага каталога «Калекцыя нашых захапленняў» |

Асновы медыяграматнасці, закладзеныя ў дзяцінстве, дапамогуць маленькім карыстальнікам медыя ўпэўнена рухацца ў свеце інфармацыі, крытычна асэнсоўваць звесткі, атрыманыя з розных крыніц, авалодаць культурай чытача, гледача, радыёслухача, інтэрнэт-карыстальніка. Пройдзе час, і зусім хутка, у рэальным медыяпадарожжы, кожны з іх павінен будзе самастойна прымаць рашэнні, дзейнічаць згодна з тымі ведамі і інфармацыйнымі ўменнямі, якія сталі яго набыткам.



**Інтэрнэт-рэсурсы для настаўнікаў пачатковай школы**

Раздзел «Пачатковая школа» на партале nastaunik.info з матэрыяламі па тэме:

**http://www.nastaunik.info/workshop/primary**

**Літаратура:**


1. **Журин, А. И.** Интегрированное медиаобразование в средней школе / А. А. Журин. — М. : БИНОМ Лаборатория знаний, 2013. — 405 с.

2. **Фёдоров, А. В.** Медиаобразование : история, теория и методика / А. В. Фёдоров. — Ростов н/Д. : Изд-во ЦВВР, 2001. — 708 с.

3. **Перцев, А.** Чему может научить телевизор? / А. Перцев // Образование. Медиа. Общество. — 2008. — № 3. — С. 26—28.

4. **Иванов, В. В.** Этические проблемы формирования информационной культуры [Электронный ресурс] / В. В. Иванов, С. А. Зайцева. — Режим доступа : http://www.viu-onlin.ru/science/publ/bulletin7/page9.html. — Дата доступа : 29.03.2013.

# Раздзел 3. МЕДЫЯАДУКАЦЯ ПА-ЗА ЎРОКАМ

Гэты раздзел прысвечаны пазакласнай працы. Тут вы даведаецеся, як дапамагчы вучням набыць медыя-інфармацыйныя кампетэнцыі падчас выхаваўчых заняткаў: класных і інфармацыйных гадзін, школьных гурткоў, кінаклуба, працы школьнага прэс-цэнтра і інш. У сваёй выхаваўчай дзейнасці вы можаце выбраць любыя складнікі медыя-інфармацыйнай граматнасці, якія прапануе ЮНЕСКА (гл. малюнак).




Як бачыце, медыявыхавальніку ёсць дзе разгарнуцца! Можаце выбраць прыярытэт для сваёй працы класнага кіраўніка ці гуртковай працы зыходзячы з патрэбаў дзяцей. Аднак вы можаце паступіць і па-іншаму: каб паглыбіць веды вучняў у сваім прадмеце, напрыклад, гісторыі, можна падабраць медыятэкст для класнай ці інфармацыйнай гадзіны, звязаны з тэмай урока, і прапанаваць дзецям для разбору і аналізу тэхнікі яго стварэння, мастацкія якасці і г.д.

Аднак пачнем з навіннай граматнасці як адной з галоўных.

*Тамара Мацкевіч*

## 3.1. Як з карысцю правесці інфармацыйную і класную гадзіну

### 3.1.1. Інфармуем ці фарміруем навінную граматнасць?

Спрабуючы зацікавіць вучняў у падзеях сённяшняга дня праз чытанне прэсы, класныя кіраўнікі звычайна просяць вучняў знайсці артыкулы пра апошнія падзеі (мясцовую / агульнадзяржаўную / міжнародную або спартыўную / эканамічную / палітычную), а потым прэзентаваць іх для класа. Вучні ж, якіх прызначаюць адказнымі за інфармацыйную гадзіну, як правіла, маюць аднолькавы алгарытм працы: шукаюць самыя кароткія артыкулы, капіююць іх і нясуць у клас. Як вынік, праз дзень рэдка хто можа ўзгадаць, пра якія падзеі вялася гаворка. Таму прапануем класным кіраўнікам кардынальна памяняць гэтую завядзёнку.

У гэтым раздзеле мы прапануем некалькі прыкладаў нестандартнага правядзення інфармацыйнай гадзіны. Прапанаваныя метадычныя ідэі дапамогуць вам стварыць умовы, каб вучні зразумелі, наколькі важна ўмець не толькі чытаць, але і аналізаваць навіны.

Пачнём з усведамлення мэтаў інфармацыйнай гадзіны і той карысці, якую яна можа мець як для вучняў, так і для настаўнікаў. Давайце напачатку адмовімся ад мэты «інфармаваць аб апошніх падзеях». Па-першае, гэта малаэфектыўна, бо падзеі адбываюцца бесперапынна, інфармацыі занадта шмат. Сёння найбольш важна сфарміраваць у вучняў здольнасць разбірацца ў патоку гэтай інфармацыі, вылучаць з яго праўдзівую і патрэбную, каб не стаць ахвярай інфармацыйных войнаў і маркетынгавых хітрыкаў СМІ.

Таму мэтай інфармацыйнай гадзіны павінна быць не інфармаванне, а фарміраванне інфармацыйных кампетэнцый вучня, у першую чаргу — навіннай граматнасці. Тым больш, што такі падыход задэклараваны ў артыкуле 91 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адукацыі.

Паспрабуем сфармуляваць спіс навінных кампетэнцый вучня, адказаўшы на пытанне, якімі ведамі, навыкамі і каштоўнасцямі ён павінен валодаць, каб быць навінна граматным.

Вось наша прапанова, у якую вы можаце ўнесці свае ўдакладненні.

**Навінна граматны вучань павінен:**

***Ведаць:***

- якую ролю адыгрываюць сродкі масавай камунікацыі і як яны ўплываюць на асобу і грамадства;
- як праверыць праўдзівасць любой навіны: надзейнай інфармацыю робяць магчымасць праверкі фактаў, паказанні сведкаў, спасылкі на крыніцы;
- чаму ананімныя крыніцы ненадзейныя і спасылацца на іх не варта;
- якія існуюць жанры журналістыкі, іх прызначэнне і адрозненні;
- якія спосабы маніпуляцыі выкарыстоўваюць СМІ, як з дапамогай мантажу відэа, абрэзкі і апрацоўкі фота і гуку можна паўплываць на мэсыдж рэпартажу;
- чаму важна дазваляць фактам і асобам казаць самім за сябе.

***Умець:***

- адбіраць рэлевантныя навінныя каналы і матэрыялы сярод інфармацыйнага смецця;
- адрозніваць факты ад меркаванняў, журналістаў ад каментатараў і тых, хто адстойвае пэўную пазіцыю;
- дэкадаваць (аналізаваць) матэрыялы СМІ, сацыяльных медыя;
- распазнаваць фэйк, маніпуляцыю, схаваную рэкламу і прапаганду ў навінах;
- інтэрактыўна ўзаемадзейнічаць са СМІ, быць стваральнікам інфармацыйнай прасторы.

***Мець каштоўнасныя ўстаноўкі на:***

- крытычнае і рэфлексіўнае стаўленне да даступнай інфармацыі;
- адказнае і этычнае выкарыстанне інтэрактыўных сродкаў інфармацыі, павагу да аўтарскіх правоў;
- трыманне трывалай каштоўнаснай парадыгмы, якая ўключае ў сябе асноўныя правы і свабоды, беларускую нацыянальна-моўную і еўраатлантычную цывілізацыйную ідэнтычнасць як найбольш эфектыўны фільтр для нейтралізацыі шкодных і маніпуляцыйных уздзеянняў.

*Калі імкнуцца да такой мадэлі навінна граматнага вучня, класнаму кіраўніку будзе лягчэй сфармуляваць мэту і падабраць заданне для інфармацыйнай гадзіны. Можна выбраць адну ці некалькі з пералічаных кампетэнцый і заданне, якое б спрыяла яе развіццю.*

Узгадаем прыклад традыцыйнага падыходу да інфармацыйнай гадзіны, прыведзены ў першым абзацы. З улікам кампетэнтнаснага падыходу, заданне класнага кіраўніка магло б выглядаць так: *«У аўторак вы даведаецеся, што робіць інфармацыю надзейнай, і навучыцеся правяраць праўдзівасць навін. Для гэтага прынясіце, калі ласка, тры артыкулы пра адну і тую ж падзею з розных СМІ; пажадана, каб адна крыніца інфармацыі была замежнай».* Звяртаем увагу, што мэту занятку настаўнік паведаміў вучням разам з заданнем. У класе вучні параўнаюць артыкулы, звернуць увагу на загалоўкі, ілюстрацыі, фота і зробяць высновы, што ж адбылося на самой справе. На гэта заданне пойдзе такая ж колькасць часу вучняў, але яно стане нашмат больш карысным для іх, таму што будзе нагода прымяніць навыкі аналізу і сінтэзу. Вучні пры гэтым праявяць большую зацікаўленасць, у іх будзе развівацца крытычнае мысленне.

Існуе шмат спосабаў працы з навінамі, якія будуць спрыяць адначасова і інфармаванню вучняў, і выхаванню медыяграматнасці. Разгледзім некалькі прыкладаў.

### 3.1.2. Інфармацыйная гадзіна: дэкадаванне навін

У любым выпадку навінная граматнасць пачынаецца з навыкаў дэкадавання інфармацыі, гэта значыць з аналізу медыятэксту і адказу на пытанні: хто гэту навіну зрабіў, навошта, што хацелі ад мяне, якія сродкі для гэтага выкарысталі і што я магу зрабіць у адказ. Калі вашы вучні прызвычаяцца задаваць для сябе гэтыя пытанні пастаянна — значыць, вы можаце ганарыцца вынікамі сваёй працы. Але напачатку іх трэба навучыць гэта рабіць.

Для першай спробы дэкадавання выберыце навіну, якая цікавая вучням і адпавядае іх узросту. Магчыма, навіна будзе звязана з тым, што дзеці праходзяць на ўроку, ці з тым, што шырока абмяркоўваецца ў іх коле. Першую навіну падбярыце самі, а надалей можаце даручаць гэта вучням. Вызначыцеся, ці навіна будзе прачытана дома, ці для гэтага будзе час на занятку. Рэкамендуем першую спробу дэкадавання правесці на простым прыкладзе рэкламы, а надалей перайсці да навінных рэпартажаў, публіцыстычных тэкстаў, аналітычных артыкулаў, схаванай рэкламы і г.д.

Праца можа быць арганізавана па наступным плане:

1. Раздайце копіі артыкула ці зачытайце яго для класа. Спытайцеся, пра што гэты артыкул? Якая яго галоўная думка?

2. Нагадайце, што кожнае паведамленне ў СМІ робіцца з нейкай мэтай. Бывае, што мэту адгадаць вельмі проста, а бывае, што яна зашыфраваная. Прывядзіце прыклад рэкламнага роліка, напрыклад, соку «Сочный»: **https://www.youtube.com/watch?v=uDm7aTzguLg**.

   На першы пагляд, ролік распавядае пра хлопчыка і яго сям'ю. Насамрэч мэта гэтага роліка іншая. Дайце вучням магчымасць здагадацца, якая мэта гэтага роліка  (прадаць вам сок «Сочный»).

3. Распавядзіце, што ўсе паведамленні ў медыя — гэта канструкцыі. У іх ёсць два складнікі: медыятэкст (тэкст, гук, фота ці відэа) і пасыл (галоўная ідэя ці мэсыдж). Часта мэсыдж — схаваны ці закадаваны. У гэтага роліка, напрыклад, тэкст кажа пра смешныя паводзіны хлопчыка за сямейным сталом, а схаваны мэсыдж — «купляйце сок!» Мэта аўтараў — не пасмяшыць гледача, а атрымаць прыбытак ад камерцыйнай дзейнасці. Распавядзіце, што зараз будзем вучыцца рабіць дэканструкцыю ці дэкадаваць навіну. Гэта значыць вызначаць, які мэсыдж яна нясе, навошта яе паказалі, напісалі і надрукавалі насамрэч, на што разлічвалі аўтары.

4. Падзяліце клас на групы па 4—5 чалавек і раздайце пытанні для дэкадавання медыятэксту (табліца «Пытанні для аналізу медыятэксту» з 1-га раздзела кнігі). Таксама раздайце пусты бланк, куды вучні павінны запісаць свае адказы на гэтыя пытанні (па адным на групу). Дайце для самастойнай працы 10—15 хвілін.

   **Каментар.** *Пытанні з табліцы трэба адаптаваць да ўзросту вучняў. Можна зменшыць колькасць пытанняў, бо не ўсе яны будуць пасаваць да артыкула, які аналізуецца. Але галоўныя складнікі павінны быць заўсёды: хто аўтар? хто ўласнік медыя? ці надзейная гэта крыніца? што хацеў ад чытача аўтар: якіх думак ці дзеянняў? якія сродкі пераканання выкарыстаў? што можна зрабіць у адказ?*

5. Прыступіце да абмеркавання. Па чарзе задавайце па адным пытанні кожнай групе. Абавязкова прасіце патлумачыць, чаму яны так лічаць. Пасля адказу спытайцеся ў астатніх груп, ці яны згодны з выказанымі думкамі, ці маюць, што дадаць.

6. Пасля абмеркавання падвядзіце вынікі. Ці можна давяраць гэтай інфармацыі? Які яе пасыл? **Што можна зрабіць, каб не стаць ахвярай маніпуляцыі СМІ?** Як вы вызначаеце, чаму можна верыць, а чаму — не?

7. Распавядзіце пра асноўныя метады маніпуляцыі СМІ, раздайце раздрукаваныя постары (**http://www.nastaunik.info/node/14741**).









Папрасіце паглядзець дома які-небудзь выпуск навін разам з бацькамі і прааналізаваць, ці выкарыстоўваліся там гэтыя сродкі.

8. Наступную інфармацыйную гадзіну пачніце з апытання, ці ўдалося навучыць бацькоў дэкадаванню навін. Якая была іх рэакцыя?

***Каментар.*** *Калі ў артыкуле, які вы аналізуеце, ёсць фота, звярніце на яго ўвагу вучняў. Запытайцеся: каго ці што яны бачаць? Ці адпавядае подпіс пад фотаздымкам выяве? Ці пазіруюць людзі, ці яны зняты знянацку? Звярніце ўвагу, што пастановачныя і апрацаваныя ў графічных рэдактарах фота не заўсёды адлюстроўваюць праўду.*

*Карысна на адной з інфармацыйных гадзін выбраць для абмеркавання артыкул, звязаны з медыяадукацыяй зместам, напрыклад — «Як не трапіць у інфармацыйную пастку», надрукаваны ў газеце «Звязда»* (**http://www.nastaunik.info/node/14153**).

**Каб дэкадаваць інфармацыю, трэба:**

- даведацца, пра што інфармацыя (напрыклад, пра што ідзе гаворка ў тэксце арыгінала);
- высветліць крыніцу інфармацыі і мэту аўтара (хто за гэта заплаціў?);
- вызначыць танальнасць інфармацыі, ужытыя элементы пераканання, у тым ліку метады маніпуляцыі;
- праінтэрпрэтаваць інфармацыю, зыходзячы з больш шырокага кантэксту, і вызначыць яе пасыл (чаму і ў які час узнікла, з якімі іншымі падзеямі звязана, якіх дзеянняў ці думак ад мяне чакалі аўтары).

### 3.1.3. Інфармацыйная гадзіна: маніпуляцыі ў навінах*

***Кароткае апісанне***

Паколькі ў сучасным свеце навіны — гэта незаменная крыніца інфармацыі, навінная граматнасць — важны складнік для ўсіх прадметаў, якія выкладаюцца ў школе. На гэтым занятку вучні даведаюцца, як спосаб паведамлення пра падзею, падбор словаў, спрыяе рознаму ўспрыняццю аднаго і таго ж факта. Вучні прааналізуюць розныя артыкулы на адну і тую ж тэму, якія напісаны, каб стварыць станоўчае ці адмоўнае стаўленне да падзеі, пры гэтым у іх няма непраўдзівай інфармацыі. Затым яны напішуць уласныя навіны, каб стварыць пэўнае ўражанне. Так яны навучацца звяртаць увагу на выкарыстанне мовы, граматыкі, на структуру навін, а таксама зразумеюць, як спосаб напісання і рэдагавання навін уплывае на тое, што чытачы лічаць «праўдай».

**Мэты занятку:**

Вучні змогуць:

- ідэнтыфікаваць варыянты падачы газетных рэпартажаў, якія ствараюць розныя ўражанні пра падзеі і людзей;
- зразумець, што «маніпуляцыі» могуць прымяняцца ў навінах і рэпартажах пра падзеі шляхам выбару лексікі і розных тэхнік падачы інфармацыі;
- задумацца над тым, які ўплыў могуць аказваць медыяпаведамленні на нашы перакананні і наша разуменне свету;
- папрактыкавацца ў напісанні інфармацыйных навін, а таксама ў іх афармленні;
- папрактыкавацца ў напісанні навін з мэтай зрабіць пэўнае ўражанне на чытача.

**Мэтавая група:** школьнікі V—XI класаў, студэнты.

***Каментар.*** *Гэты занятак можна правесці не толькі на інфармацыйнай гадзіне, але і на пасяджэнні гуртка журналістыкі, школьнага прэс-цэнтра ці рэдакцыі школьнай газеты. Таксама занятак можа быць адаптаваны для ўрокаў роднай мовы, звязаных з выкарыстаннем лексікі, простай і ўскоснай мовы, ужывання розных стыляў пісьма, напісання эсэ.*

**Час:** 45 хвілін.

**Формы ўзаемадзеяння вучняў:** праца ў парах, праца ў групах.

* Ідэя занятку ўзята з кнігі Шейбе С., Рогоу Ф., Медіаграмотність: Підручник для вчителів / / Перекл. з англ. П. Демешко та К. Макєєв; за загал. ред. В. Ф., Іванова, О. В. Волошенюк. — К. : Центр Вільної Преси, Академія Української Преси, 2014. — 319 с.

**Абсталяванне і матэрыялы:** раздаткі двух артыкулаў з рознымі поглядамі на адну і тую ж падзею — па адным артыкуле на пару вучняў.

**Каментар.** *Тут мы выкарыстаем два артыкулы пра міжнародную акцыю «Ноч музеяў» (**http://7dney.by/ru/issues?art_id=1554**), але пажадана, каб настаўнік ці вучні самі падабралі артыкулы пра апошнія падзеі ці гарачыя тэмы, якія варта абмеркаваць у класе. Калі гэты занятак будзе праводзіцца для журналістаў школьнага прэс-цэнтру ці рэдакцыі школьнай газеты, пажадана, каб для стварэння навін вучні мелі доступ да базавых камп'ютарных праграм, якія дазволяць ім рабіць простую вёрстку, стварэнне калонак з загалоўкамі, устаўку фота з подпісам.*

**Лексіка:** рэпартаж, публіцыстыка, факты, меркаванні, тэхналогія стварэння, маніпуляцыя, загаловак, подпіс, тэндэнцыйнасць, ангажаванасць, эмацыйныя выразы, актыўныя і пасіўныя дзеясловы, прамыя цытаты.

**Падрыхтоўка:**

- У ідэале вучні павінны рабіць гэта практыкаванне, маючы навыкі дэкадавання медыяпаведамленняў (гл. раздзел 1).
- Настаўнікі маюць пераканацца, што навучэнцы ўжо знаёмыя з базавымі тэрмінамі граматыкі (такімі, як прыслоўе, прыметнік, пасіўныя і актыўныя дзеясловы, простая і ўскосная мова), якія яны будуць выкарыстоўваць у сваім аналізе моўных прэферэнцый у артыкуле.
- Хоць гэта і не абавязкова, аднак было б карысна, калі б вучні былі знаёмыя з некаторымі тэрмінамі і канцэпцыямі, якія часта ўжываюцца для стварэння ўражання і маніпуляцый у навінах і рэкламе (гл. раздзел 1). Сярод іх такія паняцці, як «абагульненні», «эўфемізмы» і «двухсэнсоўныя словы», «мова варожасці».

**Ход занятку:**

1. Распавядзіце вучням, што зараз у парах яны будуць чытаць раздадзеныя газетныя артыкулы пра міжнародную акцыю «Ноч музеяў», якая адбылася ў Мінску: **http://7dney.by/ru/issues?art_id=1554**. Ім трэба будзе скласці спіс фактаў пра падзею: што адбылося, калі, якія арганізацыі і людзі прымалі ўдзел у падзеі. Вучні таксама павінны паказаць, ці падалася ім гэтая падзея карыснай, і прывесці доказы з артыкула (папрасіце іх звярнуць увагу на загаловак і спадарожныя фатаграфіі, у газетным варыянце — спосаб вёрсткі і месца на паласе газеты) у падтрымку сваіх высноў. Яны могуць рабіць запісы або адзнакі ў артыкуле, калі пажадаюць.
2. Раздайце артыкулы з газет, па адным артыкуле на кожную пару вучняў. Паколькі ёсць два розныя артыкулы, пераканайцеся ў тым, што кожная

пара вучняў атрымае толькі адзін з гэтых артыкулаў і што гэтых артыкулаў будзе прыкладна пароўну. Вы можаце распрацаваць спецыяльны бланк, куды б вучні заносілі свае назіранні, яго можна раздаць разам з асобнікам артыкула.

3. Дайце вучням 8—10 хвілін на аналіз артыкулаў, за хвіліну да канца нагадайце, што яны павінны завяршаць работу.

4. Папрасіце вучняў спачатку падзяліцца тым, што яны даведаліся з гэтых артыкулаў пра саму падзею. Сачыце, каб вучні адказвалі на пытанні: што? дзе? калі? хто рабіў? — але каб не давалі ацэнак.

5. Папрасіце вучняў падняць рукі, калі яны думаюць, што апісаная ў іх артыкуле акцыя карысная для ўдзелу (магчыма, палова рук падымецца ўверх). Звярніцеся да кожнай з груп, каб яны далі па адным доказе на карысць сваіх уражанняў, шукаючы пэўную тэрміналогію ці іншыя доказы, калі гэта неабходна. Калі ніхто не ўспомніць пра фота, подпісы або загалоўкі, спецыяльна спытайце пра гэта.

***Каментар**. Падчас размовы некаторыя вучні пачнуць заўважаць падабенства ў словах ці інфармацыі ў іх артыкулах, аднак вы можаце ўхіляцца ад адказу, адзначыўшы: «Мы хутка абмяркуем падабенствы, якія часта бачым у навінах».*

6. Папрасіце вучняў падняць рукі, калі яны думаюць, што апісаная ў іх артыкуле акцыя была досыць дрэнная і, магчыма, не вартая наведвання. Папрасіце кожную групу прадставіць доказы на карысць сваіх уражанняў. Калі пары падзеляцца інфармацыяй, вучні, верагодна, зразумеюць, што гаворка ідзе пра рознае адлюстраванне адной і той жа падзеі. Калі хтосьці спытае пра гэта наўпрост, пацвердзіце, што так і ёсць: гэта два розныя артыкулы, абодва належаць журналістам, якія спецыяльна напісалі адзін артыкул, каб падзея выглядала выдатнай, а другі — каб яна здавалася жудаснай. Таксама скажыце вучням, што ўсё, пра што журналісты напісалі ў абодвух артыкулах, праўда.

7. Раздайце па недастаючай копіі артыкула вучням і папрасіце параўнаць іх артыкул з другой версіяй, паклаўшы іх побач.

8. Папрасіце вучняў падкрэсліць у артыкулах роўнай лініяй факты, а хвалістай — меркаванні і ацэнкі аўтараў. Чаго атрымалася болей? Запытайце, як бы яны назвалі жанр, у якім напісаныя артыкулы.

Нагадайце вучням пра важнасць умець адрозніваць навінны рэпартаж ад публіцыстыкі.

Зачытайце ўрывак тэксту «Як чытаць газету?» (крыніца **www.monda.eu/be**):

*«Медыя могуць быць незалежнай крыніцай інфармацыі. Наогул, сур'ёзныя газеты больш надзейныя, чым таблоіды, якія часта публікуюць сенсацыі і скажаюць рэчаіснасць.*

*Важна адрозніваць рэпартаж і публіцыстыку. Рэпартаж — гэта жанр, пазбаўлены эмоцый, які лаканічна, дакладна асвятляе актуальныя і / або невядомыя падзеі. Публіцыстыка скіравана на кантакт з чытачом, на асэнсаванне рэчаіснасці шляхам спалучэння лагічнага і пачуццёва-вобразнага спосабаў даследаванняў і адлюстравання, прыводзіць дапушчэнні і аргументы, робіць высновы. Навінны рэпартаж павінен быць аб'ектыўным, у той час як публіцыстыка перадае меркаванне аўтара, і ўжо ад чытача залежыць, ці пагаджацца з ім.*

*Хоць прэса мае быць безэмацыйнаю, часта можна сутыкнуцца з неаб'ектыўнасцю ў ёй. Журналісты могуць выкарыстоўваць для гэтага розныя метады. Напрыклад, часам цытуюць двух экспертаў з падобным меркаваннем, але не пытаюць кагосьці з супрацьлеглым. Тым свядома (або несвядома) падаюць пэўныя меркаванні як факты і такім чынам даюць толькі частковую інфармацыю.*

*Калі журналіст, працуючы з фактамі, не падае іх крыніцы, то чытач вымушаны быць пільным. Гэта не значыць, што журналіст сказіў факты, але чытач павінен мець магчымасць праўдзіць інфармацыю.*

*Прэс-служба мусіць ужываць нейтральную мову. Не трэба ніякіх экспрэсіўных словаў, бо яны звяртаюцца да эмоцыі і гэта можа паўплываць на тон усяго артыкула, усёй інфармацыі. Чытач можа выявіць суб'ектыўнасць журналіста, калі зверне ўвагу на прыметнікі або прыслоўі, ужытыя ім*».

9. Яшчэ раз папрасіце звярнуць увагу на падкрэсленні ў артыкулах. Запытайцеся, як вонкава можна вызначыць, ці артыкул з'яўляецца навінным рэпартажам, ці публіцыстыкай. (У публіцыстычным артыкуле шмат хвалістых ліній, а ў навінах — іх амаль няма.) Няхай вучні самі зробяць выснову, што калі ў артыкуле шмат меркаванняў, эмоцый, сенсацый, то трэба быць пільным і правяраць інфармацыю. Абмяркуйце тое, у якой меры такія маніпуляцыі з'яўляюцца ў іншых навінах — вольна ці міжволі, — і ролю, якую можа адыгрываць ангажаванасць журналіста ў рэпартажах навін (напрыклад, у каго бяруць інтэрв'ю, як рэдагуюць каментары рэспандэнтаў, якія словы падбіраюць, якія аспекты інфармацыі згадваюцца, а што наўмысна недагаворваецца).

10. Падзяліце вучняў на групы па 4—5 чалавек. Скажыце, што іх задачай будзе знайсці падзею і напісаць пра яе «замоўлены» артыкул. Палова групаў будзе пісаць станоўчы, іншая — адмоўны, пры гэтым у артыкуле не павінна

быць няпраўды. Лепш, каб вучні пісалі артыкул пра адну і тую ж падзею: сённяшні ўрок фізкультуры, школьны спектакль, збор макулатуры, раніца старшакласніка… Прапануйце аб'ём артыкула (напрыклад, 2—3 абзацы) і тэрмін — 10 хвілін.

Прыклад крытэрыяў ацэнкі (наштобузу) для напісання артыкулаў:

- Ці артыкул паведамляе пра падзею?
- Ці ёсць у артыкуле загаловак?
- Ці эфектыўна выкарыстоўваецца мова, цытаты, падбор фатаграфій, каб стварыць станоўчае ці адмоўнае ўражанне?

***Каментар.*** *Напісанне артыкула можа быць у выглядзе індывідуальнага дамашняга задання, тады можна ўдакладніць, што артыкул павінен мець прынамсі адно фота і подпіс пад ім, а таксама аналіз прыёмаў, якія былі выкарыстаны для маніпуляцый.*

11. Папрасіце групы зачытаць свае артыкулы. Кожная прэзентацыя павінна суправаджацца падзякай і апладысментамі. Пры ўдзеле класа падвядзіце вынікі адносна тэхналогій, якія могуць выкарыстоўвацца для маніпуляцый з навінамі.

12. Па жаданні. Пасля таго як вучні напісалі свае артыкулы, стварыце з іх выставу, каб іх пабачылі ўсе вучні ў класе.

**Парады педагогу**

Калі вучням артыкул пра падзеі ў школе або іх мясцовай супольнасці можа падацца занадта складаным, прапануйце напісаць рэпартаж з падзеі, якая транслюецца па тэлебачанні, або зрабіць прамую лінію з спартовых спаборніцтваў ці цырымоніі ўзнагароджання, знайсці ў інтэрнэце фота гэтай падзеі для артыкула. Або падабраць падзею, якая мае дачыненне да школьнай праграмы (напрыклад, будаўніцтва Астравецкай АЭС пры вывучэнні фізікі). Калі вучні выберуць гэтую опцыю, важна, каб яны напісалі свой уласны аналіз, а не проста ўзялі інфармацыю з рэпартажу СМІ.

Вельмі рэкамендуем звярнуць увагу на п. 12. Калі вучні ведаюць, што іх творы ўбачаць шырокая аўдыторыя, а не толькі настаўнік,  якасць працы вельмі паляпшаецца. Гэта таксама дасць магчымасць іншым вучням азнаёміцца з тым, якую ролю ў навінах могуць адыгрываць маніпуляцыі і прадузятае напісанне рэпартажаў.

**Ацэнка**

Выкарыстоўвайце актыўную ацэнку напісаных вучнямі артыкулаў. Настаўнікі могуць сабраць нататкі вучняў, даць ім зваротную сувязь адпаведна крытэрыям:

падкрэсліць доказы станоўчай або адмоўнай скіраванасці артыкула або папрасіць вучняў пералічыць свае аргументы на асобным лісце паперы, які яны здадуць у канцы занятку.

Пасля некалькіх заняткаў, калі вучні прызвычаяцца крытычна ставіцца да навін, вы можаце прапаноўваць розныя метады для аналізу разнастайных актуальных навін: тэлерэпартажаў, рэкламы, фота ў прэсе, паведамленняў з сацыяльных сетак. Заглыбляцца па чарзе ў асаблівасці і спецыфіку кожнага віду медыя, правяраць іх надзейнасць.

### 3.1.4. Карысныя спасылкі на планы гатовых заняткаў, практыкаванні, тэсты.



Старонка для класнага кіраўніка з гатовымі планамі выхаваўчых заняткаў:
**http://www.nastaunik.info/workshop/class-teacher .**

Постары-раздрукоўкі «Маніпуляцыі і магчымыя фэйкі ў друкаваных медыя, сацыяльных сетках і на тэлебачанні»:
**http://www.nastaunik.info/node/14741**.
Калі вучні будуць аналізаваць навіну з сацыяльных сетак, тэлерэпартажаў, друку, прапануйце ім знайсці прыклады адпаведных маркераў маніпуляцый (напрыклад, выкарыстанне неідэнтыфікаваных крыніц, чутак, якія немагчыма праверыць; штучнае аб'яднанне ў адзін артыкул не звязаных паміж сабой падзей; эмацыйна афарбаваныя словы, заклік да дзеянняў ці да бяздзеянняў і г.д.).

«Как распознать фейк?» :
**http://www.stopfake.org/kak-raspoznat-fejk**.
Прапануйце вучням на занятку пачытаць гэты артыкул і вызначыць, ці арыгінальнае фота ці відэа выкарыстана для ілюстрацыі навіны.

Шматмоўны сайт глабальнай адукацыі:
**http://monda.eu/be/modules/thinking/1**,
Модуль па крытычнаму мысленню змяшчае тэсты, практыкаванні, для навучання крытычна думаць, знаходзіць схаваныя кантэксты і чытаць паміж радкоў.

Дэйман Браўн. «Як знайсці праўду ў навінах». Відэаролік і тэкст: **http://www.nastaunik.info/node/13814.**

Навучальна-метадычны комплекс «Медыякод» складаецца з дапаможніка па медыяадукацыі для настаўніка, дапаможніка

для вучня, вучнёўскага працоўнага сшытка і плаката.
http://www.nastaunik.info/node/13523 —
там вы можаце знайсці шмат гатовых
практыкаванняў і метадычныя парады да іх.

### 3.1.5. Класныя гадзіны і выхаваўчыя заняткі з медыяадукацыйным зместам

Выхаваўчая работа ў сучаснай школе пабудавана на асноўных кірунках: грамадска-патрыятычным, эстэтычным, гендэрным, экалагічным, здароўезберагальным і г.д. Пажадана, каб запланаваныя класныя гадзіны адпавядалі кожнаму з іх з перыядычным чаргаваннем. Кожны настаўнік сам выбірае для сябе, на чым засяродзіць увагу пры правядзенні класных гадзін. Напрыклад, калі ўзяць грамадска-патрыятычны кірунак, аб якім выхаванні можа ісці размова, калі кожны год пералічваюцца зярняты ў коласе новага герба ці акцэнтуецца ўвага на прапорцыях адносінах каляровых палосаў дзяржаўнага сцяга? Грамадзянскую пазіцыю можна выхаваць, калі дзеці будуць адчуваць, што яны — частка грамадства, што яны — каштоўныя для сваёй краіны, для сваёй школы. Што іх паважаюць і да іх меркавання прыслухоўваюцца. Нашмат больш прадуктыўна будзе далучаць дзяцей да ладжання нацыянальных святаў, захавання традыцый ці хаця б да аналізу дакументальных фільмаў пра славутых дзеячаў культуры і навукі, якія праславілі Беларусь на сусветным узроўні, пра вядомыя на ўвесь свет гістарычныя помнікі нашай Радзімы. Нашаму народу ёсць чым ганарыцца, і гэта пастаянна пацвярджаецца ў розных медыя.



Прыкладам выхавання грамадзянскай пазіцыі і адначасова медыяадукацыі стаў праект Алены Панкратавай з Оршы. Яе шасцікласнікі знялі цэлую серыю кулінарных шоу «Бабуліны прысмакі». Дзеці разам з бабулямі гатавалі беларускія стравы, пры гэтым бабулі іх вучылі не толькі гатаваць, але і размаўляць па-беларуску. Усё гэта дзеці знялі на відэа і выклалі ў інтэрнэт*: http://www.nastaunik.info/node/14603

Безумоўна, школа павінна выхоўваць асобу дзіцяці. Гэта павінна адбывацца не толькі на запланаваных класных гадзінах, але і на ўроках, калі настаўнік стварае ўмовы для рэалізацыі пастаўленых выхаваўчых задач. Самае галоўнае — вучыць нашых дзяцей не баяцца мець сваю думку і выказваць яе (нават, калі яна супярэчыць меркаванню большасці), пры гэтым з павагай ставіцца да выказванняў іншых.

* https://www.youtube.com/watch?v=nKzBWAHxFT4



**Ідэі для класных і выхаваўчых гадзін з медыяадукацыйным зместам**.

1. Ствараем эскіз новых беларускіх грошай. (Вучні аналізуюць, чым і кім можа ганарыцца наша краіна і як гэта адлюстраваць на нацыянальнай валюце. Пры гэтым разумеюць, што грошы — таксама від медыя.)

2. Бяспека ў інтэрнэце. (Вучні аналізуюць паведамленні ў медыя пра неэтычнае і небяспечнае выкарыстанне прыватных звестак, знойдзеных у інтэрнэце. Робяць высновы.)

3. Мова варожасці і агрэсія ў інтэрнэце. (Аналізуюць выпадкі, апісаныя ў прэсе, і робяць высновы пра свае паводзіны ў сацыяльных сетках.)

4. Што ад нас хоча рэклама? (Аналіз сродкаў пераканання, якія выкарыстоўваюць стваральнікі рэкламы).

5. Здаровы лад жыцця. (Стварэнне рэкламных ролікаў і антырэкламы. Аналіз мовы медыя, маніпуляцыйных прыёмаў).

6. Народныя святы. (Вучні параўноўваюць беларускія традыцыі святкавання, святочныя стравы, рытуалы з святкаваннем краін-суседак. Робяць высновы пра сваю адметнасць і падабенства.)

7. «Сваімі вачыма па тэлевізары бачыла…» — вучым бацькоў глядзець навіны. (Аналізуюць сродкі маніпуляцыі СМІ, маркеры прапаганды, распавядаюць пра іх бацькам.)

### 3.1.6. Сцэнар класнай гадзіны ў VIII—XI класе на тэму: «Сапраўдная прыгажосць»*

**Тэма занятку:** «Сапраўдная прыгажосць».

**Мэты занятку:** вучні вызначаць складнікі паняцця «прыгажосць чалавека», зразумеюць, як медыя могуць маніпуляваць свядомасцю людзей.

**Задачы асобаснага развіцця:** спрыяць выхаванню паважлівых адносін дзяцей адзін да аднаго; развіць уменне працаваць у групе, аналізаваць, рабіць вывады, выказваць сваё меркаванне.

**Мэтавая група:** Старэйшыя школьнікі.

**Час:** 45 хвілін.

**Выкарыстаныя метады:** праца ў групах, метад «Чатыры куты», метад «Мазгавы штурм», метад «Валізка, шуфляда, сметніца».

* Класную гадзіну падрыхтавала і правяла студэнтка біялагічнага факультэта БДУ Вера Мацкевіч. Сцэнар складзены з выкарыстаннем матэрыялаў Таццяны Лабанавай, Орша.

**Абсталяванне:** камп’ютар, мультымедыйны праектар, відэаролік «Dove Evolution» **https://www.youtube.com/watch?v=iYhCn0jf46U**, папера, стыкеры розных колераў, маркеры, вялікія аркушы паперы з намаляванымі на іх валізкай, шуфлядай, сметніцай.

**План занятку:**

1. Арганізацыйны момант — 2 хвіліны.
2. Уводзіны ў тэму — 5 — 7 хвілін.
3. Прагляд відэароліка — 3—5 хвілін.
4. Праца ў групах — 20 хвілін.
5. Падсумаванне — 5—7 хвілін.
6. Рэфлексія — 5—7 хвілін.

**Ход занятку:**

***1. Арганізацыйны момант.***

Настаўнік вітае вучняў, абвяшчае тэму і мэты занятку, знаёміць з планам яго правядзення.

***2. Уводзіны ў тэму.***

Прапануецца пачаць з невялікай дыскусіі. Для яе правядзення добра пасуе метад «Чатыры куты».

Удзельнікам прапануецца адказаць на пытанні паводле вызначанага алгарытму. Настаўнік задае пытанне, якое мае 4 варыянты адказаў. Прычым кожны з варыянтаў адпавядае таблічцы, якая знаходзіцца ў адным з 4-х кутоў памяшкання. Вучні выбіраюць кут у адпаведнасці з адказам. Для ўводзінаў у тэму «Сапраўдная прыгажосць» пытанні могуць быць наступнымі:

1) *Прыгожы чалавек — гэта той, хто…*

   *- мае добрую прычоску і якасны макіяж,*

   *- модна апранаецца,*

   *- мае правільныя рысы твару,*

   *- сочыць за сваёй знешнасцю і здароўем.*

2) *Я люблю чытаць…*

   *- газеты,*

   *- кнігі,*

*- каляровыя часопісы,*

*- не чытаю нічога.*

*3) Каб у свеце было б толькі 4 прафесіі, я б стаў (стала)…*

*- фотамадэллю,*

*- акцёрам,*

*- мэнэджэрам,*

*- аўтамайстрам.*

*4) Каб дасягнуць поспеху ў жыцці, галоўнае — мець...*

*- сувязі,*

*- грошы,*

*- прыгажосць,*

*- доступ да СМІ.*

Таксама настаўнік прапаноўвае вучням скласці топ-10 прыгожых людзей, запісвае прапанаваныя адказы на дошцы і засяроджвае ўвагу, што да гэтага спісу яны вернуцца напрыканцы занятку.

***3. Прагляд відэароліка.***

Удзельнікі праглядаюць відэаролік «Dove Evolution» і абмяркоўваюць яго. Настаўнік прапаноўвае правесці мазгавы штурм на тэму *«Якая галоўная ідэя роліка?».*

***4. Праца ў групах.***

Настаўнік дзеліць вучняў на 4 групы метадам «цукеркі»: вучні выцягваюць цукеркі і паводле колеру абгорткі разбіваюцца на групы.

Кожнай групе прапаноўваецца адказаць на пытанне, запісаць ці намаляваць свае адказы на вялікім аркушы паперы, зрабіць прэзентацыю працы групы.

*Пытанні:*

*- Якія існуюць стэрэатыпы прыгажосці?*

*- Якую ролю ў «трансляцыі ідэальнага вобраза» адыгрываюць СМІ?*

*- Складнікі сапраўднай прыгажосці — гэта…*

*- Прывядзіце прыклады маніпуляцый медыя свядомасцю людзей.*

Групам даецца 10 хвілін на працу.

Прэзентацыя вынікаў — 10 хвілін. Прадстаўнікі кожнай групы па чарзе агучваюць вынікі працы групы, пасля чаго астатнія ўдзельнікі могуць задаць пытанне і выказаць свае меркаванні па тэме, дадаць свой варыянт адказу.

***5. Падсумаванне.***

Настаўнік выказвае падзяку групам, падводзіць вынікі, адзначае самыя важныя ідэі, якія выказалі вучні па ўсіх чатырох пытаннях. Прыводзіць прыклад, які пацвярджае вывады, што зрабілі вучні.

Анджаліна Джолі была названая самай прыгожай жанчынай пачатку XXI стагоддзя. Апытанне праводзілася брытанскай касметычнай кампаніяй *Superdrug*. А ці толькі сваёй знешнасці яна абавязаная дадзенаму тытулу? У Анджаліны Джолі шасцёра дзяцей: Мэддакс, Пакс, Нокс, Захара, Шайло, Віўен. І толькі трое з іх з’яўляюцца біялагічнымі дзецьмі яе і яе мужа Брэда Піта (Шайло, Нокс і Віўен). Астатніх трох сям’я ўсынавіла з краін трэцяга свету. Шырока вядома дабрачынная дзейнасць Анджаліны. Яна з’яўляецца паслом добрай волі ААН. Яна ахвяравала не адзін мільён долараў на дапамогу розным фондам, лякарням, пацярпелым пасля катастроф.

Барбі — эталон прыгажосці многіх дзяўчынак. Па разліках спецыялістаў, калі б Барбі была чалавекам, то пры росце 170 см яна б важыла крыху меней за 50 кг, аб’ём грудзей быў бы 99 см, таліі — 45 см, сцёгнаў — 84 см. З такімі прапорцыямі ў жанчыны было б шмат праблем не толькі з рэпрадуктыўным здароўем, але і проста з балансам. Тым не менш, амерыканка Сіндзі Джэксан зрабіла 58 пластычных аперацый, каб быць падобнай на Барбі. У выніку ў яе засталася сваёй толькі ніжняя вусна. Яна патрапіла ў кнігу рэкордаў Гінэса.

І, вяртаючыся да спісу, што быў зроблены напачатку (з вялікай верагоднасцю ў ім акажуцца зоркі кіно і эстрады), настаўнік задае пытанні класу: «Ці ўплываюць на нас медыя? Ці не навязваюцца нам гэтыя вобразы?»

***6. Рэфлексія.***

Рэфлексію можна правесці з дапамогай метаду «Валізка, шуфляда, сметніца».

Настаўнік прымацоўвае да сцяны тры вялікія аркушы, на адным з якіх намаляваная валізка, на другім — шуфляда, на трэцім — сметніца.

Кожны з вучняў атрымоўвае па тры каляровыя стыкеры, на адным з якіх яны запісваюць адказ на пытанне «Што важнае вы возьмеце з сабой з сённяшняй сустрэчы?», на другім — адказ на пытанне «Што было для вас некарысным?», на трэцім — «Што патрабуе дадатковага абдумвання?» .

Затым па жаданні ўдзельнікі падыходзяць да плакатаў, прыклейваюць да іх лісточкі і коратка каментуюць. Першы лісток прымацоўваецца да аркуша з выявай валізкі, другі — з выявай сметніцы, трэці — з выявай шуфлядкі.

Пасля рэфлексіі настаўнік яшчэ раз выказвае падзяку вучням і абвяшчае заканчэнне занятку.

### 3.1.7. Класная гадзіна: «Белы ручнік». Стварэнне медыяпрадукту*

***Кароткае апісанне***

Падчас гэтага занятку вучні будуць працаваць у малых групах над стварэннем праектаў тэлевізійных ролікаў, рэкламуючы адзін і той жа прадукт, але для розных мэтавых аўдыторый. Вучні паспрабуюць працаваць з персанажамі, дэкарацыямі, дыялогамі, сюжэтам, а таксама з рознымі аспектамі камунікацыі (вобразамі, тэкстам, дыктарскім тэкстам, музыкай), і паколькі іх прадукт — гэта фактычна чыстая дошка (белы ручнік), ім не пазбегнуць навязвання сваіх уласных каштоўнасцей і гіпотэз зададзенай ім мэтавай групе. Кожная група прадставіць свой праект роліка класу, і далейшая дыскусія дапаможа ўсвядоміць, якія тэхнікі пераканання выкарыстоўваюць медыя.

**Мэты занятку:**

Вучні змогуць:

- усвядоміць, што паведамленні ствараюцца для пэўнай мэтавай аўдыторыі з дапамогай візуальных сродкаў, мовы і гуку;
- папрактыкавацца ў планаванні з аўдыявізуальнага паведамлення, выкарыстоўваючы тэхналогію, якую ўжываюць прафесійныя рэжысёры;
- абмеркаваць, якім чынам стэрэатыпы могуць выкарыстоўвацца ў рэкламе для стварэння пэўнага ўражання і пераканання аўдыторыі;
- умацаваць супрацоўніцтва праз працу ў невялікіх групах.

**Мэтавая група:** школьнікі сярэдніх і старэйшых класаў, студэнты. Можа добра спрацаваць і ў малодшых класах пры дадатковай дапамозе настаўніка, і / або калі ў вучняў ёсць досвед працы над творчымі праектамі ў малых групах.

**Час:** 30—45 хвілін у залежнасці ад памеру класа:

- работа ў групах над стварэннем роліка — 10—20 хвілін ;
- прэзентацыя — 1—3 хвіліны на групу;
- завяршальная дыскусія — 5—15 хвілін.

---

* Ідэя занятку ўзята з кнігі Шейбе, С. , Рогоу Ф., Медіа грамотність: Підручник для вчителів // Перекл. з англ. П. Демешко та К. Макєєв; за загал. ред. В. Ф., Іванова, О. В. Волошенюк. — К. : Центр Вільної Преси, Академія української Преси, 2014. — 319 с.

**Абсталяванне і матэрыялы:** раздатак «Раскадроўка» — форма для кожнай групы. Не абавязкова, але рэкамендуецца некалькі аднолькавых белых ручнікоў, каб групы маглі іх выкарыстоўваць пры планаванні і ў сваіх выступах.

**Лексіка:** мэтавая аўдыторыя, стэрэатып, тэхналогіі пераканання.

**Ход занятку:**

1. Падзяліце клас на малыя групы па 4—5 чалавек. Дайце кожнай групе форму раскадроўкі.

2. Растлумачце, што кожная група будзе ствараць праект рэкламнага роліка, каб прадаць белы ручнік. Для гэтага трэба прыдумаць назву для свайго медыяпрадукту, вырашыць, якія персанажы будуць задзейнічаны ў рэкламе (калі такія будуць, то як яны будуць выглядаць, якога ўзросту, полу, з якой прычоскай і г.д.), што яны будуць рабіць, які будзе фон, як будуць развівацца падзеі, што скажа закадравы голас, якая музыка будзе гучаць і г.д. Кожная група створыць план роліка, запаўняючы форму раскадроўкі, як гэта робяць прафесіяналы. Кадры будуць прадстаўлены ў выглядзе візуальных эскізаў для кожнай «сцэны» (гл. дадатак «Раскадроўка»).

3. Растлумачце, што кожная група будзе ствараць камерцыйны прадукт для сваёй мэтавай аўдыторыі. Мэтавыя аўдыторыі можна абвясціць гучна для кожнай групы ці напісаць на форме раскадроўкі. Калі часу дастаткова, можна ціха даць выцягнуць паперкі з пазначанымі мэтавымі групамі, каб пасля прэзентацыі вучні адгадалі, на каго была разлічана рэклама.

   Асноўнымі мэтавымі аўдыторыямі могуць быць:

   - дарослыя жанчыны;
   - дарослыя мужчыны;
   - студэнты;
   - падлеткі;
   - дзеці ва ўзросце 3—9 гадоў (рэклама можа быць накіравана на бацькоў, каб тыя купілі прадукт для дзяцей, ці на саміх дзяцей);
   - маладыя мамы.

   Іншыя варыянты: пажылыя людзі, немаўляты, спартсмены, людзі розных прафесій (лекары, ветэрынары, аўтамеханікі і г.д.). Для вялікага класа можна прызначыць аднолькавую мэтавую аўдыторыю для дзвюх розных груп, каб убачыць, наколькі падобныя або розныя медыяканструкцыі атрымаюцца.

4. Дайце вучням 10—15 хвілін на распрацоўку роліка, а затым папрасіце кожную групу падзяліцца сваімі раскадроўкамі з класам.

5. Хай кожная група пачне прэзентацыю, даючы назву сваёй прадукцыі, але не называе мэтавую аўдыторыю. Папрасіце выступоўцаў апісаць або разыграць сцэны, апісаныя ў іх праекце.

6. Калі група скончыць прэзентацыю, папрасіце іншых вучняў здагадацца, на каго была разлічана рэклама, і даць доказы сваім здагадкам. Потым дайце магчымасць самой групе агучыць мэтавую аўдыторыю і тыя прыёмы, якія яны выкарысталі, каб прыцягнуць увагу менавіта сваіх пакупнікоў. Абмяркуйце эфектыўнасць роліка ў дасягненні сваёй мэтавай аўдыторыі. Запытайцеся ў класа, ці ёсць у іх ідэі, як можна было ўзмацніць уздзеянне роліка.

7. Папрасіце ўсе групы здаць свае раскадроўкі пасля заканчэння занятку.

8. Пасля прэзентацыі кожнай з груп або пасля ўсіх прэзентацый зрабіце падсумаванне. Спыніцеся ў дыскусіі на стэрэатыпах адносна полу, узросту, сацыяльнай прыналежнасці людзей, якія з’явіліся ў рэкламе, на тым, чаму рэкламадаўцы часта выкарыстоўваюць стэрэатыпы (напрыклад, таму, што ў іх мала часу ці месца ў газеце, каб данесці свой мэсыдж, каб людзі хутка зразумелі, што адбываецца, каб навязаць свой тып паводзінаў…). Папрасіце прывесці прыклады стэрэатыпаў, з якім мы часта сутыкаемся ў медыя і ў жыцці.

**Парады педагогу**

- Пераключыце сваю ролю з «рэжыму эксперта» (у рэкламе паказвае на невядомыя навучэнцам рэчы) на «рэжым каардынатара» практычнай дзейнасці. Калі хочаце нешта важнае сказаць — скажыце пра гэта ў форме пытання.

- Акцэнтам гэтага занятку павінна быць разуменне працэсу і метадаў, якія выкарыстоўваюць для стварэння рэкламы (або для іншых пераканаўчых пасылаў). Вучні таксама маюць задумацца над патэнцыйным уплывам такіх мэсыджаў, а не проста вучыцца паспяховаму маркетынгу.

- Будзьце спагадлівымі. Калі ў працэсе абмеркавання навучэнцы не могуць правільна ідэнтыфікаваць мэтавую аўдыторыю, каб не даць ім адчуць, што яны прайгралі, сканцэнтруйцеся на тым, які аспект рэкламы паказваў на іншую мэтавую аўдыторыю і што група магла зрабіць інакш, каб больш яўна паўплываць на зададзеную аўдыторыю (напрыклад, падабраць іншыя фразы, персанажаў, дэкарацыі, начынне).

- Просты белы ручнік такі агульны, што ён прымушае вучняў выкарыстоўваць уласныя домыслы, уяўленні для стварэння рэкламы. Верагодна, яны ўбачаць, што самі маюць стэрэатыпы. У канцы ўсіх прэзентацый можна папрасіць усіх вучняў заплюшчыць вочы і ўявіць свой ролік. Затым папрасіце іх з заплюшчанымі вачыма падняць рукі, калі галоўны персанаж якога-небудзь з ролікаў гаварыў па-беларуску, ці быў нетыпова апрануты, ці быў падобны да кагосьці з суседзяў па кватэры...

  Часта вучні наогул не падымаюць рук. Пасля гэтага мы можам правесці больш глыбокую дыскусію пра тое, чаму гэта так (у прыватнасці, аб факце, што пераважна ў рэкламе з'яўляюцца стэрэатыпныя персанажы). Паколькі мэта гэтага практыкавання — медыяграматнасць, трэба правесці такую дыскусію без абвінавачванняў у расізме, сексізме або ў іншых перадузятасцях.

  - Гэта практыкаванне з высокай верагоднасцю зможа прыцягнуць усіх вучняў, а не толькі тых, каму камфортна выступаць перад класам.

**Ацэнка**

Ацэнка гэтага занятку шмат у чым залежыць ад кантэксту, у якім ён праводзіцца. На класнай гадзіне настаўніку варта сканцэнтравацца на самаацэнцы. Стварыць умовы, каб кожны вучань мог задумацца, наколькі ён сам знаходзіцца ў палоне сваіх стэрэатыпаў.

**Пашырэнне тэмы і адаптацыя**

Занятак можа быць адаптаваны да ўрокаў гісторыі, грамадазнаўства, мовы і літаратуры, эканомікі і інш. Звяжыце дыскусію з вашым навучальным планам, паглыбляючыся ў тэму ўрока. Напрыклад, навучэнцы могуць стварыць экалагічную рэкламу для розных мэтавых груп, выкарыстоўваючы веды з біялогіі і хіміі, ці на ўроках гісторыі і грамадазнаўства — палітычную рэкламу для аднаго кандыдата (гістарычнага ці сучаснага), аднак для рознай аўдыторыі (гэта значыць для мужчын, жанчын, сем'яў, беднага гарадскога насельніцтва, кансерватараў, незалежных, лібералаў). Або дайце заданне, дзе мэтавая аўдыторыя — групы людзей у пэўны перыяд. Напрыклад, падчас грамадзянскай вайны.



Прапануем праглядзець прыклад працы з раскадроўкай. Відэазапіс класнай гадзіны настаўніцы Варатынскай СШ Бабруйскага р-на Вольгі Счасновіч. Класная гадзіна праведзена ў VI класе пасля экалагічнай акцыі «Чысты бераг». Дзеці стваралі ролік сацыяльнай рэкламы.

**Мэты:**

садзейнічаць развіццю навыку «чытання» рэкламных паведамленняў;

стварыць умовы для фарміравання першапачатковага ўмення ствараць уласнае медыяпаведамленне.

**Мэта на мове вучняў:** у канцы ўрока я навучуся аналізаваць сродкі пераканання ў рэкламных паведамленнях і ствару свой медыяпрадукт.

**https://www.youtube.com/watch?v=HeYnoQhZmpA**

**https://www.youtube.com/watch?v=imTM9ZXilCY**

У выніку дзеці склалі сцэнар і знялі па ім уласны ролік.

**https://www.youtube.com/watch?v=F4Z6CUi_gp4**

Больш пра класныя і інфармацыйныя гадзіны – ў раздзеле для класнага кіраўніка: **http://www.nastaunik.info/workshop/class-teacher**

## 3. 2. Кінаграматнасць. Што трэба ведаць пра серыялы?*

Галоўнае, што трэба ведаць, што ўсе серыялы (у адрозненне ад лепшых узораў аўтарскага кіно) ствараюцца з мэтай сацыяльнага праграмавання паводзінаў людзей і трапляюць на экран толькі (!) з мэтай уздзеяння на аўдыторыю, у тым ліку для продажу рэкламы.

**Крыху гісторыі**

Найбольш моцна перапраграмаванне паводзінаў з дапамогай тэле- і радыё-серыялаў было выкарыстана ў сферы аховы здароўя. З канца сямідзясятых ужо з'явіліся мыльныя оперы з умантаваным інструментарыем сацыяльных зменаў. Аўтарам гэтага кірунку стаў мексіканскі рэжысёр Мігель Сабіда. Ён стварыў так званую прасацыяльную мадэль камунікацыі, а яго тэлераманы, якія распаўсюдзіліся на сотню краін, сталі прасоўваць барацьбу з непісьменнасцю, планаванне сям'і, потым барацьбу са СНІДам. Ідэя была ў тым, каб у забаўляльны жанр уставіць адукацыйнае «начынне». Сярод герояў патрабаваўся тыпаж, з якім глядач мог бы ідэнтыфікаваць сябе. Гэта спалучэнне адукацыі і забавы атрымала назву *Edutainment*.

Праўда, варта прызнаць, што асноўнае лязо гэтай «атакі» было накіравана на краіны трэцяга свету. Савецкі Саюз памятае бум вакол мексіканскага серыяла «Проста Марыя». Але тады мы не ведалі пра задачы сацыяльных зменаў, закладзеныя ў ім. А гэта былі пісьменнасць дарослых, праца жанчын. Марыя, калі хто памятае, вучылася грамаце, атрымлівала навыкі шыцця. У выніку гэтыя кінадзеянні атрымалі распаўсюд у рэальнасці, напрыклад, у Перу паўстаў попыт на швейныя машынкі «Зінгер» і ўрокі шыцця. У выніку паўтору такіх сітуацый у многіх краінах «Зінгер» нават падарыў акцёрцы залатую швейную машынку.

Новы этап, які доўжыцца да гэтага часу, пачаўся, калі ў амерыканскія тэлесерыялы сталі дадаваць «медыцынскую» інфармацыю. У ЗША існуе асобная праграма «Галівуд, здароўе і грамадства». У рамках яе якраз і праводзіцца наладжванне сувязяў паміж кіно і медыцынай. У якасці прыкладу з кастрычніка 2009 па кастрычнік 2012 вялася праца з 91 серыялам, 35 тэлесеткамі і тэлешоу, якія сабралі 15 мільёнаў гледачоў. Заходняя медыцына праз серыялы дае інфармацыю ў выглядзе фактараў рызыкі, сімптомаў, магчымых варыянтаў лячэння.

* Крыніца: Георгій Пачапцоў, эксперт па пытаннях камунікацыйных тэхналогій, прафесар, вытрымкі з артыкулаў:
http://what.in.ua/page/georgij-pochepcov-razvivat-ukrainskuju-kulturu-nuzhno-dejstviem-a-ne-jazykom
http://psyfactor.org/kinoprop/agenty2.htm
http://psyfactor.org/kinoprop/serials.htm
http://psyfactor.org/kinoprop/index.html

**Як гэта працуе?**

Паралельна ў гэтую сферу ўключылася навука. Былі знойдзеныя фактары, якія працуюць на ўздзеянне: ідэнтыфікацыя, транспарціроўка* і эмоцыі. З нагоды ідэнтыфікацыі гаворыцца, што людзі навучаюцца на паводзінах тых герояў, якія блізкія ім і якіх яны любяць. Калі блізкасці няма, узнікаюць абмежаванні. Так, еўрапейскія і амерыканскія жанчыны ў фокус-групах не асацыявалі сябе з лацінаамерыканскай сям'ёй. (Таму мексіканскія серыялы паступова сышлі з нашых экранаў.) А што тычыцца эмоцый, даследчыкі прыйшлі да высновы, што моцныя эмоцыі (пазітыўныя і негатыўныя) дапамагаюць транспарціроўцы, хоць эмоцыі і транспарціроўку варта трактаваць як два розныя канструкты.

Тэму нейрабіялогіі наратыву вывучаюць і вайскоўцы. Яны таксама выкарыстоўваюць сцэнары серыялаў для сваіх мэтаў. З аднаго боку, укладаюць сродкі ў навучанне сцэнарыстаў з маладых навукоўцаў, каб вярнуць цікавасць да прыродазнаўчых навук, без якіх не можа быць краіны-лідара. У якасці пазітыўнага прыкладу можна разглядаць серыял «Лічбы», там вучоны выкарыстоўвае матэматычны апарат для дапамогі ФБР. З іншага боку, сёння прайграваюцца сцэнары падрыхтоўкі да падзей, якія проста сышлі з экрана.

Між тым псіхолагі выказалі занепакоенасць тэленавінамі, дзе на першым месцы стаяць забойствы або аварыі. Навіны таксама праграмуюць паводзіны, ствараючы адпаведныя матывацыі.

**Што нам нясуць расійскія серыялы і фільмы?**

Большасць кінатвораў, якія прапануюць нам беларускія тэлеканалы маюць расійскае паходжанне. Можна вылучыць тры асноўныя кантэксты, у якіх разгортваецца дзеянне папулярных расійскіх серыялаў:

- крымінальны кантэкст;

- сталінская эпоха;

- супрацоўнікі ФСБ абараняюць нацбяспеку.

Гэта фільмы, якія мадэлююць разрыўныя сацыясістэмы (раз'яднанне грамадства). Калі нават па сваёй сутнасці іх героі, з аднаго боку, «рамантуюць» гэтыя разрывы, напрыклад, не даюць чачэнскім тэрарыстам падарваць атамную станцыю, усё роўна супрацьстаянне эксплуатуецца мацней за норму. Бо ёсць жа і героі з іншага боку. Часта з дапамогай серыялаў укараняюцца ў свядомасць людзей «умоўныя праціўнікі», закладаецца пазітыўны вобраз будучага захопніка.

* Транспарціроўка, ці трансфер (ад англ. *transference*) — псіхалагічныя феномен, падсвядомы перанос перажытых у адных абставінах пачуццяў, адносінаў, установак, на зусім іншыя абставіны ці людзей. У дадзеным выпадку з віртуальнай прасторы кіно ў рэальную.

Фільмы і навіны эксплуатуюць разрывы сацыясістэмы. Пад разрывамі мы разумеем кропкі, дзе сістэма не працуе так, як трэба. І менавіта людзі ствараюць гэтыя адхіленні. У віртуальнай прасторы (фільмы) або інфармацыйнай (навіны) мы бачым і чуем пра сітуацыю разрыву. Менавіта таму сёння няма і не можа быць фільмаў, напрыклад, пра інжынераў, навукоўцаў, касманаўтаў, мастакоў, таму што яны не падыходзяць пад мэйнстрым. Яны з'яўляюцца стваральнікамі сацыясістэм, а не стваральнікамі разрываў. Яны працуюць на аб'яднанне, а не раз'яднанне грамадства.

Стандартная структура расійскага кіно (ад міліцэйскага да меладрамы) будуецца на супрацьстаянні добрых і дрэнных хлопцаў. Але кожны гістарычны перыяд укладае ў гэта сваё разуменне добрага і дрэннага. Схематычна гэта можна адлюстраваць так:

| **ПЕРЫЯД** | **ДОБРЫЯ ХЛОПЦЫ** | **ДРЭННЫЯ ХЛОПЦЫ** |
|---|---|---|
| Савецкае даваеннае кіно | шахцёры, працоўныя, прадстаўнікі спецслужбаў | ворагі народа |
| Постсавецкае кіно часоў перабудовы (пра дысідэнтаў) | студэнты, творчая інтэлігенцыя | прадстаўнікі спецслужбаў |
| Расійскае кіно пасля 2010 г. * | | |

**Запоўніце радок самастойна.*

Такая прынцыпова канфліктная мадэль свету дазваляе будаваць сюжэт, дзе палітычнае аўтаматычна накладаецца на бытавое. І гэтыя фільмы нясуць дакладную палітычную афарбоўку і адпаведныя мэты.

У інфармацыйнай вайне Расія выкарыстоўвае старыя, савецкія сэнсы і падмену славесных паняццяў. Асноўная ідэя гэтых сэнсаў складаецца ў тым, што ўсе залежныя ад дзяржавы. Насельніцтва жыве ў гэтых сэнсах, дзе ўлада амаль як Бог. Гэта значыць, ніхто не падыме галаву.

Гэтую думку пацвярджае расійскі гісторык і публіцыст Андрэй Скляраў: «В конце Перестройки начали штамповаться и советские сериалы. Всякого рода гардемарины и кавалергарды начали потихоньку пробуждать в народе имперскую ностальгию, которая в общем-то и не сразу пробудилась... У нас нет ни одной свежей истории успеха, ни одного мотивирующего сериала. Мотивирующего меняться, действовать, зарабатывать деньги, становиться на ноги и менять мир вокруг. По большому счёту ценности, которые несут российские телесериалы — это ценности ушедшей эпохи, не имеющей шансов на создание успешных социальных моделей в этом веке. Консервация советского сознания через самоуспокоительные сеансы приведёт в итоге

к стагнации общества и очередному культурному шоку в случае резкого открытия страны миру, которое в ближайшем будущем всё равно случится… Нету фильмов про учёных и самоучек, нет сериалов с интеллектуальным подтекстом. С фантастикой у нас вообще катастрофа — как и с фантазией в общем-то. Ничего нового, ничего современного и цепляющего на российском телеэкране не появилось. Лишь серость, гниль и плесень, оставшиеся с далёких уже восьмидесятых… И порою кажется, что обратно в эти самые восьмидесятые наши телезрители и возвращаются». (**https://rufabula.com/author/sklyarov/776**)

**Якая роля кіно, серыялаў у фарміраванні грамадскай думкі?**

Кіно і серыялы, як і масавая культура ў цэлым, фарміруюць карціну свету. Менавіта таму масавая свядомасць адной краіны адрозніваецца ад іншай. Гэта праграмаванне забяспечвае аднолькавую рэакцыю на ўсё. А яна патрэбна палітыкам і бізнэсу. Канфліктныя сітуацыі таксама трапляюць у мадэль свету і могуць праграмавацца з дапамогай кіно.

Мыльныя серыялы часткова выконваюць функцыю адкладзенага пратэсту. Яны ахопліваюць большую частку насельніцтва, хоць ужо не такую, як у савецкі час. Людзі глядзяць такое кіно — і пачынаюць жыць іншым жыццём, далёкім ад рэальнасці.



**Заданне для роздуму.** Паглядзіце праграму беларускага тэлебачання, прачытайце кароткі змест фільмаў і серыялаў. Якія прафесіі маюць станоўчыя героі? Якая іх мова, нацыянальнасць, памкненні? Які пасыл перадаецца з дапамогай негатыўных вобразаў? Якія сімвалы і знакі закадаваны ў медыятэксце фільмаў, які каштоўнасны змест яны нясуць? Прааналізуйце і зрабіце высновы, якая мадэль грамадства і паводзіны праграмуюцца з дапамогай БТ.

*Міхась Кудзейка*

# 3. 3. Школьны кінаклуб

Спадарства, тут пашукайце адказы на пытанні: Чым аб'яднаць дзяцей, бацькоў, настаўнікаў, каб усім было цікава і карысна? Як навучыцца самаму і навучыць іншых правільна глядзець кіно? Што трэба ведаць для таго, каб арганізаваць кінаклуб? Як трэба планаваць дзейнасць кінаклуба, каб ён заўсёды быў цікавым для яго ўдзельнікаў?

### 3.3.1. Аб месцы кінаклуба ў выхаваўчай сістэме школы

Гаворачы аб выхаванні падрастаючага пакалення, па звычцы мы адводзім вядучую ролю сям'і і школе як асноўным арганізатарам педагагічнага працэсу, не прымаючы пад увагу сучасныя фактары (камп'ютар, інтэрнэт, тэлебачанне, рэклама і г.д.), якія карэнным чынам паўплывалі на з выхаваўчы працэс і сталі дамінуючымі. Развіццё камп'ютарных тэхналогій пашырыла інфармацыйнае поле, якое выйшла за рамкі кантролю з боку грамадства за яго зместам і наступствамі яго ўздзеяння на чалавека, паставіўшы пад сумнеў эфектыўнасць існуючай сістэмы адукацыі.

Кіно любяць усе, ад малога да вялікага. Цяжка ўявіць наша сучаснае жыццё без кіно і тэлесеансаў. Папулярнасць гэтага віду інфармацыі тлумачыцца ўзнікненнем «эфекту саўдзелу і суперажывання» з героямі, даступнасцю і разнастайнасцю. Прапанаваная гледачу інфармацыя падаецца дынамічна, ярка, вобразна і пераканаўча, для многіх людзей аўтарытэтна. Арганізуючы наш адпачынак або забаўляючы, кіно непрыкметна ўздзейнічае на нашы погляды і звычкі; фарміруе меркаванне і ўяўленне; навучае, выхоўвае, развівае; арганізуе зносіны; фарміруе светапогляд і эстэтычнае стаўленне да навакольнага свету; далучае да мастацтва. Як мы можам заўважыць, кінамастацтва валодае велізарным выхаваўчым, навучальным і развіццёвым патэнцыялам... і на гэтым можна было б скончыць апісанне вартасцяў кінематографа з заклікам: «Усе ў кіно!!!», але, на вялікі жаль, з педагагічнага пункту гледжання, такі заклік будзе насіць разбуральны характар, залучаючы, уцягваючы, дэзарганізуючы і дэзінфарміруючы ўдзельнікаў працэсу. Чаму? Звернемся да меркавання савецкага рэжысёра, сцэнарыста і педагога Міхаіла Рома: «*В мире существуют рядом, встречаясь, раскланиваясь, иной раз даже сожительствуя, два кинематографа. Они — разные. Один кинематограф — это искусство. Другой — доходная промышленность. Один кинематограф ищет. Другой подбирает найденное и пускает в оборот. История первого — это прерывистая цепь трудных открытий, блестящих удач и болезненных, подчас смертельных неудач. История второго — густой поток фильмов, похожих на вчерашние, на сегодняшние и даже на завтрашние... Первый кинематограф редко напоминает о себе человечеству*».

Улічваючы густы, погляды, патрэбы і жаданні гледачоў, кіно бывае розным... Разглядаючы кіно як разнавіднасць мастацтва, а гледача — як знаўцу гэтага віду мастацтва, неабходна адзначыць прамую залежнасць паміж узроўнем культуры гледача і ўзроўнем якасці кіно: чым вышэй узровень культуры гледачоў, тым вышэй якасць кіно... На жаль, сучасная рэчаіснасць сведчыць аб нізкай культуры спажыўцоў кінамастацтва, якая вызначае папулярнасць нізкапробных кінаматэрыялаў, якія тармозяць або разбуральна ўплываюць на развіццё асобы гледача, якія фарміруюць скажонае ўяўленне аб кінамастацтве як аб даступнай забаўцы. Разглядаючы праблему фарміравання культуры чытання кінатэкстаў з пазіцыі ўплыву на фарміраванне і развіццё асобы, яе немагчыма вырашыць забаронамі да прагляду аднаго і навязваннем прагляду іншага. Рашыць гэтую праблему магчыма праз працэс навучання і выхавання. Гледача трэба навучыць глядзець, бачыць, разумець, адчуваць, суперажываць, аналізаваць і ацэньваць, што дасць магчымасць павысіць узровень культуры зносін гледача з кінамастацтвам і кінамастацтва з гледачом. На вялікі жаль, сучасная сістэма адукацыі недаацэньвае ўплыў кінамастацтва на фарміраванне асобы і таму амаль не выкарыстоўвае яго выхаваўчы патэнцыял, назапашаны чалавецтвам за час існавання кінематографа.

Становішча, якое склалася, не з'яўляецца крытычным, калі рацыянальна выкарыстоўваць адукацыйны патэнцыял кінамастацтва і папулярнасць кінематографа сярод школьнікаў, бацькоў і настаўнікаў. Умелае кіраванне працэсам навучання на аснове ўліку і задавальнення патрэбаў і інтарэсаў да кінаінфармацыі дае магчымасць не толькі павысіць узровень выхаванасці і адукаванасці ўдзельнікаў працэсу, але і развіць іх крытычнае стаўленне да рэчаіснасці, да ажыццяўлення ацэначнай дзейнасці і фарміравання ўласнай пазіцыі, інтарэсаў і каштоўнасцей.

Спосабаў далучэння вучняў, настаўнікаў і бацькоў да кінамастацтва ў межах установы адукацыі можа быць некалькі. Самы просты і эфектыўны можа ажыццяўляцца з дапамогай выкарыстання кінаматэрыялаў у адукацыйным працэсе школы, класа: на ўроках, выхаваўчых мерапрыемствах і ў пазакласнай дзейнасці (дыскусійны клуб, кіналекторый, вусны часопіс, інтэрнэт-форум, тэматычны блог, дзелавая гульня «Рэдакцыя газеты» або «Здымаем кіно» і г.д.). Вялікае значэнне ў павышэнні цікавасці да кінамастацтва і ведаў у галіне кінаіндустрыі маюць спецыяльна арганізаваныя ўрокі, выхаваўчыя мерапрыемствы, факультатыўныя заняткі і гурткі, накіраваныя не толькі на атрыманне ведаў, але і на набыццё элементарных уменняў у галіне аналізу кінапрадукцыі і яе стварэння (мультфільмы, кароткаметражныя фільмы, відэакліпы, сацыяльная рэклама і г.д.). Найбольш плённай формай далучэння дзяцей і дарослых да кінамастацтва з'яўляецца кінаклуб, які ў рамках сваіх патэнцыйных магчымасцяў не толькі зможа аб'яднаць навучэнцаў, настаўнікаў, бацькоў на аснове агульных інтарэсаў, але і забяспечыць рэалізацыю такіх

функцый, як медыяадукацыя, асвета, выхаванне, сацыялізацыя і зносіны. У рамках кінаклуба ўдзельнікі будуць мець магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі сучаснага кінематографа і прааналізаваць вопыт мінулага; абмяняцца паміж сабой уражаннямі і пачуць меркаванні спецыялістаў; на тэарэтычным і практычным узроўні спазнаць сакрэты кінаіндустрыі; пашырыць уяўленне пра навакольны свет; з карысцю, прыемнасцю правесці час і набыць новых сяброў і аднадумцаў.

### 3.3.2. Механізм стварэння кінаклуба

З чаго пачаць?

**1 этап: Ідэйны**

Арганізацыя кінаклуба ў рамках класа, школы пачынаецца з пошуку аднадумцаў і паплечнікаў. Гэта могуць быць калегі, вучні, бацькі. Каманда дасць магчымасць не толькі распрацаваць адзіны план дзеянняў па рэалізацыі ідэі, але і сумесна ўвасобіць яго ў жыццё.

Перш чым ісці да адміністрацыі школы на ўзгадненне ідэі стварэння кінаклуба, неабходна вызначыцца з фарматам яго работы, мэтамі і задачамі, якія ён будзе вырашаць у межах адукацыйнага працэсу ўстановы адукацыі. Вельмі важна, каб мэта стварэння кінаклуба была сугучная з адным з напрамкаў выхаваўчай работы школы (сацыялізацыя, прававая граматнасць, медыяадукацыя, грамадзянскае выхаванне і г.д.).

Вызначаючы фармат работы кінаклуба, важна ўлічваць кірунак яго дзейнасці, узроставую катэгорыю і інтарэсы ўдзельнікаў. Ён можа быць: экалагічным, прававым, вучэбным, адпачынкавым і г.д. Арыентуючыся на ўзроставую катэгорыю, можна арганізаваць дзіцячы (для вучняў пачатковай школы), падлеткавы (для вучняў V—IX класаў) (**http://kinoclub-gymnasium.blogspot.com.by**), бацькоўскі, сямейны (на аснове рознаўзроставай групы) або педагагічны (школьны, гарадскі) клуб. Улік інтарэсаў дапаможа аб'яднаць аматараў інтэлектуальнага кіно, прыгод і фантастыкі, экранізацыі гістарычных раманаў, аматараў казак, прагляду фільмаў на англійскай (французскай, беларускай) мове, рэтраспектываў фільмаў вядомых рэжысёраў, альтэрнатыўнага кіно, дакументальнага фільма і г.д. Цалкам магчыма, што, вызначаючы фармат кінаклуба, вы будзеце ўлічваць кірунак, узрост і інтарэсы ўдзельнікаў (**http://histrf.ru/ru/biblioteka/book/orghanizatsiia-raboty-kinokluba-v-shkolie-niekotoryie-praktichieskiie-riekomiendatsii)**.

Узгадненне ідэі стварэння кінаклуба з адміністрацыяй школы дазволіць вырашыць шматлікія арганізацыйныя пытанні і надасць клубу статус афіцыйнага аб'яднання. Афіцыйны статус дазволіць прыцягваць да дзейнасці клуба

дзяржаўныя, прыватныя, грамадскія арганізацыі і прадпрыемствы, якія могуць быць зацікаўлены і будуць карыснымі ў працы кінаклуба.

**2 этап: Арганізацыйны**

Афіцыйны статус аб'яднання абавязвае мець статут або палажэнне аб клубе, якое павінна ўтрымліваць наступную інфармацыю:

I. Агульныя палажэнні.

II. Асноўную мэту, задачы клуба і прынцыпы яго дзейнасці.

III. Асноўныя напрамкі і формы дзейнасці.

IV. Сяброўства ў клубе (прыём у члены клуба, правы і абавязкі членаў клуба).

V. Кіраўніцтва клубам.

VI. Дакументацыя клуба.

VII. Спыненне дзейнасці клуба.

Алгарытм стварэння палажэння аб клубе можна паглядзець, перайшоўшы па спасылцы **http://mei--blog.blogspot.com.by/2013/01/blog-post.html.**

***Месца дыслакацыі і наяўнасць неабходнага абсталявання***

Выдатна, калі ў вас у школе можна знайсці або абсталяваць памяшканне, якое не будзе мець нічога агульнага са звычайнай вучэбнай аўдыторыяй. Гэта павінен быць дастаткова прасторны кабінет з мабільнымі зручнымі сядзеннямі і неабходным абсталяваннем: сучасны тэлевізар ці мультымедыйная ўстаноўка з экранам і камп'ютарам. Калі заняткі праходзяць у дзённы час, то, магчыма, спатрэбіцца зацямненне.

Так як пасяджэнні кінаклуба прадугледжваюць не толькі прагляд і абмеркаванне фільмаў, але і выкананне творчых заданняў, значыць, у аўдыторыі пажадана мець некалькі сталоў, якія дазваляюць арганізаваць індывідуальную або групавую працу; спецыяльна адведзеныя месцы на сценах для размяшчэння створанай прадукцыі або інфармацыі аб рабоце клуба; месцы для захоўвання канцылярскіх прылад і набору посуду для чаявання.

***Першае пасяджэнне клуба***

Адкрыццё кінаклуба павінна праходзіць ва ўрачыстай святочнай атмасферы, для таго, каб яно запомнілася ўдзельнікам і прыцягнула ўвагу навакольных. Падрыхтоўка да адкрыцця пачынаецца з планавання першага прагляду: выбару фільма, рэкламы першага пасяджэння і напісання сцэнара.

Выбар першага фільма — вельмі важны і адказны момант. На што неабходна пры гэтым звярнуць увагу? Фільм павінен:

1) адпавядаць кірунку дзейнасці кінаклуба;

2) улічваць узроставыя асаблівасці аўдыторыі;

3) утрымліваць актуальныя праблемы;

4) быць новым для большасці з патэнцыйных удзельнікаў прагляду.

Агітуючы патэнцыйных удзельнікаў, ні ў якім разе нельга абавязваць да наведвання мерапрыемства. Удзельнікі самі павінны зрабіць выбар у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі, патрэбамі і магчымасцямі. Колькасць удзельнікаў не павінна быць занадта вялікай, так як гэта не з’яўляецца паказчыкам паспяховасці праекта. Галоўнае — якасць. Прыцягненне ўдзельнікаў на першую сустрэчу можа ажыццяўляцца рознымі спосабамі: рэклама на стэндах, у інтэрнэт суполцы, вусная аб’ява, буклеты і г.д. Любая рэклама павінна мець інфармацыю пра фільм, тэму пасяджэння і ўмовы правядзення. Калі ў вас тэматычнае пасяджэнне клуба, то павінна выразна праглядацца тэма або праблема, якая плануецца да абмеркавання.

Першая сустрэча павінна спадабацца ўдзельнікам, бо менавіта яна вызначыць іх зацікаўленасць у членстве і далейшым развіцці аб’яднання. Сустрэча павінна дапамагчы:

- наладзіць спрыяльны псіхалагічны клімат паміж членамі кінаклуба;
- вывесці адносіны паміж удзельнікамі і педагогамі на якасна новы ўзровень, дзе не прасочваецца выразная субардынацыя, з-за чаго абодва бакі адчуваюць сябе ў аднолькавай ступені свабодна і разняволена;
- выйсці на пазіцыю пазітыўнага ўспрымання як уласна сябе, свайго «эга», так і навакольных людзей;
- пастарацца адысці ад устаноўкі «пазбяганне няўдач» у бок устаноўкі на поспех у адносінах да сябе, сваіх каштоўнасцяў і сэнсаў жыцця;
- нарэшце, проста стварыць добры настрой у групе, што, безумоўна, адаб’ецца на ходзе правядзення пасяджэння.

Каб так і атрымалася, трэба ўсё прадумаць, загадзя напісаць сцэнар правядзення мерапрыемства, размеркаваць абавязкі па яго падрыхтоўцы і ажыццяўленні сярод аднадумцаў і паплечнікаў. План правядзення мерапрыемства можа быць наступным:

1) урачыстае адкрыццё клуба;

2) знаёмства ўдзельнікаў пасяджэння з палажэннем клуба, яго традыцыямі і перспектыўнымі планамі;

3) падрыхтоўка да прагляду фільма.

Ва ўступным слове даецца кароткая інфармацыя пра стваральнікаў фільма, іх папярэднія працы, каб аўдыторыя магла выйсці за рамкі канкрэтнага твора. Калі ёсць неабходнасць, то спыніцца на гістарычным або палітычным аспекце падзей, не кранаючыся мастацкіх, маральных і іншых адзнак аўтарскай пазіцыі, не пераказваючы фабулу твора. Асаблівай увагі патрабуюць гістарычныя фільмы. Трэба патлумачыць аўдыторыі, што мастацкі гістарычны фільм — гэта выдуманая гісторыя ўчынкаў і думак намаляваных у ім герояў. Але наяўнасць пэўнай адпаведнасці паміж мастацкім творам і мадэллю рэальнага свету абавязковая;

4) успрыманне фільма;

5) размова пра фільм за кубкам гарбаты (у выглядзе дыскусіі або дыспуту).

Гутарка па выніках прагляду фільма павінна грунтавацца на выкананні разнастайных заданняў:

паслядоўнага (пераказ фабулы, пералік падзей медыятэксту);

класіфікацыйнага (вызначэнне тэксту ў гістарычным і сацыякультурным кантэкстах);

аналітычнага (аналіз структуры і мовы медыятэксту, аўтарскіх канцэпцый і г.д.);

асобаснага (апісанне адносін, перажыванняў, пачуццяў, успамінаў, асацыяцый, выкліканых медыятэкстам);

тлумачальна-ацэначнага (фарміраванне меркаванняў аб медыятэксце, аб яго вартасцях у адпаведнасці з эстэтычнымі, маральнымі і іншымі пазіцыямі);

6) выкананне творчага задання. У якасці апошняга можа быць прапанавана напісанне эсэ, сінквейна, стварэння афішы, раскадроўкі, інсцэніроўкі ключавых момантаў і г.д.;

7) падвядзенне вынікаў пасяджэння.

Вельмі добра, калі падвядзенне вынікаў будзе суправаджацца запаўненнем невялікіх анкет, якія дазволяць даць ацэнку мерапрыемству:

1. Дадзены занятак кінаклуба быў для мяне (ацаніць па 5-бальнай шкале кожны пункт):

а) цікавым;

б) крэатыўным;

в) інфарматыўным.

2. Інфармацыя, атрыманая на занятку кінаклуба:

а) пашырае мой кругагляд;

б) не важная для мяне;

в) узмацняе мае веды і ўменні.

3. Жаданне наведаць наступны занятак кінаклуба:

а) ёсць;

б) няма.

**3 этап: Перспектыўны**

Важным момантам у ажыццяўленні дзейнасці клубнага аб’яднання з’яўляецца яго развіццё. Удала праведзены першы занятак — гэта толькі маленькі крок да арганізацыі паспяховай працы кінаклуба. Для таго каб ён доўга існаваў і эфектыўна працаваў, неабходна далейшую працу выбудоўваць на аснове наступных прынцыпаў:

- *Прынцып нефармальных зносін.* У кінаклубе няма вучняў і настаўнікаў — ёсць гледачы. Гледачы, якія любяць кіно, маюць свой пункт гледжання, меркаванне і магчымасць яго данесці да іншых, размаўляючы за кубкам гарбаты. Нефармальная абстаноўка павінна спрыяць прадуктыўным зносінам, рэалізацыі сваіх пазнавальных патрэбаў і магчымасцяў.
- *Прынцып бяспекі.* Арганізацыя пасяджэнняў павінна быць бяспечнай як з пазіцыі захавання жыцця кожнага з членаў аб’яднання, так і з пазіцыі маралі. Памяшканне, абсталяванне павінны адпавядаць патрабаванням тэхнікі бяспекі. Абразы, насмешкі або папрокі і прыніжэнні не павінны праяўляцца паміж удзельнікамі пасяджэнняў.
- *Прынцып рэгулярнасці.* Рэжым іграе важную ролю ў фарміраванні звычак і патрэбаў. Правядзенне пасяджэнняў павінна мець свой рытм рэгулярнасці, які не павінен парушацца і залежаць ад настрою і жадання педагога або актыву кінаклуба.
- *Прынцып актуальнасці.* Мы захопленыя, пакуль нам цікава. Кіруючыся дадзеным прынцыпам, неабходна рабіць пастаянны маніторынг праявы цікавасці да працы клуба. Разумець, што перспектыўнае планаванне

павінна быць гнуткім, рухомым і актуальным для ўдзельнікаў, якое ўлічвае іх інтарэсы, запыты і чаканні (**http://3ade.lv/ru/priglashaem-v-elitarnyi-kinoklub-lilit-dlya-podrostkov-i-starsheklassnikov-2369.html**).

- *Прынцып даступнасці і адкрытасці.* Мы не толькі разам глядзім і абмяркоўваем, але і дзейнічаем, ствараем, арганізоўваем. Аб’яднанне не павінна быць закрытым «элітным» клубам, яно павінна быць адкрытым для ўсіх жадаючых паглядзець, пагутарыць, пацікавіцца, бавіць час. Уваход і выхад з яго павінен быць вольным, без асуджэнняў і пакаранняў. Асобай увагі заслугоўвае вопыт настаўніка гісторыі гімназіі № 3 г. Бабруйска Івана Песенкі, які не толькі арганізаваў школьны кінаклуб, але і стварыў блог, прысвечаны яго дзейнасці. Дзякуючы блогу кожны вучань можа сачыць за працай кінаклуба, яго тэматыкай і праблематыкай, планаваць свой удзел у рабоце школьнага аб’яднання (**http://kinoclub-gymnasium.blogspot.com.by**).

Важным момантам працы кінаклуба з’яўляецца планаванне яго работы.



Прапануем пазнаёміцца з вопытам работы настаўніцы беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 20 г. Оршы Алены Панкратавай, якая са сваімі вучнямі арганізавала медыягурток «Літаратура і кінамастацтва», у рамках якога працуе кінаклуб: **http://www.nastaunik.info/node/15012**

### 3.3.3. Формы і метады работы ў кінаклубе

Плануючы працу клуба, трэба не толькі падабраць цікавыя і актуальныя фільмы для прагляду, але і прадумаць цікавую форму правядзення заняткаў, падабраць адпаведныя прыёмы арганізацыі абмеркавання кінафільмаў. Кожнае пасяджэнне павінна быць арыгінальным і незвычайным, несці ў сабе нешта новае. Такі падыход дазволіць надоўга захаваць актыўнасць асноўных удзельнікаў кінаклуба. Давайце разгледзім некаторыя варыянты арганізацыі і правядзення пасяджэнняў кінаклуба:

***Дыскусія.*** Педагогам прапануецца тэма або праблема для абмеркавання. Знаёмства з праблемай можа адбывацца перад праглядам фільма, каб вызначыць пункты гледжання ўдзельнікаў на дадзеную праблему. Выніковае абмеркаванне адбываецца пасля прагляду фільма.

***Дыспут.*** Педагог дае магчымасць у працэсе абмеркавання праблемы разгледзець палярныя меркаванні і паспрабаваць прыйсці да ісціны. Праблема можа быць сфармуляваная ў выглядзе пытання або сцвярджэння. Пра яе можа быць заяўлена да прагляду фільма ці пасля.

***Дыскусія на аснове мэтавай установкі.*** Яшчэ перад пачаткам прагляду фільма педагог ставіць пэўную мэту, тым самым арыентуючы ўдзельнікаў на асаблівае ўспрыманне інфармацыі. Мэта можа быць агульнай для ўсёй аўдыторыі, а можа быць асобнай для некалькіх груп удзельнікаў. Напрыклад, удзельнікам паведамляецца, што яны сёння будуць глядзець фільм з пазіцыі ўплыву музыкі на ўспрыманне гледачом галоўнага героя.

***Дыскусія на аснове заданняў.*** Яшчэ перад праглядам педагог прапануе некалькі праблемных сітуацый або заданняў. Пры праглядзе фільма ўдзельнікі павінны рашыць праблемныя сітуацыі, выканаць заданні. Пасля разглядаюцца варыянты рашэнняў і адбываецца іх абмеркаванне.

***Гутарка па пытаннях.*** Гэта абмен уражаннямі. Педагог загадзя прадумвае пытанні, якія дазваляюць абмяняцца ўражаннямі і думкамі. Пытанні могуць быць паведамлены ўдзельнікам загадзя, а могуць быць вядомыя толькі вядучаму і задавацца падчас гутаркі.

***Госць у студыі.*** Запрошаным госцем можа быць не толькі рэжысёр фільма. Гэта можа быць вузкі спецыяліст, які зможа выступіць з пазіцыі эксперта. Пасля прагляду фільма ўдзельнікі маюць магчымасць паслухаць меркаванне эксперта і атрымаць адказы на пытанні, якія цікавяць іх.

***Паўторны прагляд.*** Удзельнікам прапануецца паглядзець фільм самастойна. Перад паўторным праглядам педагог прапануе тэму ці праблему і просіць удзельнікаў абмеркаваць яе на аснове першаснага ўспрымання фільма. Пасля паўторнага прагляду педагог вяртаецца да праблемы і яе абмеркавання, выводзячы яе на новы ўзровень актуальнасці.

***Прагляд з прыпынкамі.*** Вядучы загадзя дзеліць фільм на сэнсавыя часткі. У працэсе прагляду фільма педагог робіць прыпынкі, задае пытанні, аналізуе, расстаўляе акцэнты.

***Фільм з канца.*** Педагог прапануе паглядзець канец фільма. На аснове атрыманай інфармацыі выбудоўвае дыскусію па прагназаванні сітуацыі, падзей якія прывялі да такога выніку. Пасля прагляду фільма дыскусія аднаўляецца.

***Фестываль.*** Удзельнікам праекта прапануецца паглядзець некалькі фільмаў з прапанаванага спіса на пэўную тэму. На пасяджэнні клуба ідзе абмеркаванне ўражанняў. У працэсе аналізу фільмаў педагог дэманструе найбольш значныя эпізоды.

***Кінаконкурс.*** Яго можна правесці на апошнім пасяджэнні клуба, перад канікуламі. За год было прагледжана шмат фільмаў. Удзельнікам прапануецца прагаласаваць у розных намінацыях. Журы падводзіць вынікі, вызначаючы лепшыя фільмы ў кожнай з намінацый, і вызначае фільм-пераможцу. Фільм

дэманструецца яшчэ раз, і па завяршэнні ідзе яго абмеркаванне як фільма-пераможцы.

Зрабіць сустрэчы больш цікавымі можна з дапамогай творчых заданняў, якія могуць выконвацца індывідуальна і ў групах пасля прагляду і абмеркавання фільма.

***Выяўленча-імітацыйныя заданні:***

- малюнкі, калажы на тэму;
- стварэнне афішы;
- шаржы, карыкатуры, коміксы.

***Літаратурна-аналітычныя заданні:***

- мазгавы штурм;
- аналіз рэкламных афіш;
- стварэнне лініі часу (паслядоўнасць дзеянняў);
- выбар тэзіса;
- разбіўка на сюжэтныя блокі.

***Тэатралізавана-ролевыя заданні:***

- тэатралізаваныя эцюды;
- агучванне фільма (напрыклад, з перакладам па-беларуску);
- гульнявы праект сюжэтнага эпізоду;
- інтэрв'ю з галоўнымі героямі;
- суд і г.д.

***Літаратурна-імітацыйныя заданні:***

- «Сцэнар рэкламы». Сцэнарныя распрацоўкі рэкламы могуць быць створаны для тэлебачання, радыёпраграмы, друку і г.д.

Гэтак жа:

- напісанне тэксту паведамлення для тэленавін, звязанага з выпадкам з жыцця герояў фільма;
- напісанне верша (сумесна з іншымі ўдзельнікамі) па матывах сюжэту фільма;



- падрыхтоўка газеты, інтэрнэт-сайта з гісторыямі, сюжэты якіх звязаны з жыццём герояў фільма;

- «Трэйлер або прэзентацыя фільма» (як дамашняе заданне).

  Удзельнікі падчас групавой працы ствараюць камп'ютарныя прэзентацыі, якія адлюстроўваюць асноўныя сюжэтныя лініі фільма, выкарыстоўваючы розныя тэхналагічныя прыёмы, кадры з фільма, музычнае суправаджэнне, аўтарскі тэкст, камп'ютарную графіку, анімацыю і г.д.

- «Артыкул для часопіса» (медыя, медыятэксты). Напісаць арыгінальны тэкст (у жанрах артыкула, рэпартажу, інтэрв'ю і інш.) на матэрыяле прагледжанага фільма для газеты, часопіса, сайта і іншых відаў медыя.

### 3.3.4. Прыклады паседжанняў у кінаклубе (аутарства ўдзельнікаў дыстанцыйнага курса «Урок і медыя»)



**1. Педагагічны кінаклуб**

**Магчымая тэма:** Эфектыўнасць адукацыйнага працэсу: праблемы і перспектывы.
**Кінатэкст:** мультыплікацыйны фільм «Буревестник», расійскі кароткаметражны мультфільм 2004 года, камедыя.
Рэжысёр: Аляксей Туркус:
https://www.youtube.com/watch?v=uzPVje9J8MU
**Форма правядзення**: абмеркаванне з паўторным праглядам
**Спампаваць сцэнар:**
http://www.nastaunik.info/node/14223

**2. Сямейны кінаклуб (бацькоўскі сход)**

**Магчымая тэма:** Калі бацькі ў сям'і п'юць.
**Кінатэкст:** кароткаметражны мастацкі фільм «Я сюда больше никогда не вернусь», 1990 год. Рэжысёр: Ралан Быкаў:
https://www.youtube.com/watch?v=QQKIMKT-LYs#t=49.
**Форма правядзення:** тэматычны дыспут.
**Спампаваць сцэнар**: www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/kali_backi_pjuc.docx

**3. Падлеткавы кінаклуб**
**Тэма:** Людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Хто яны?
**Кінатэкст:** кароткаметражны мастацкі фільм «Цырк матылькоў», ЗША. Рэжысёр: Джошуа Вайгель:
https://www.youtube.com/watch?v=cv2z3Ej463k
**Форма правядзення:** тэматычная дыскусія.

**Спампаваць сцэнар:** www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/cyrk_matylkou.docx

**4. Падлеткавы кінаклуб**

**Тэма (праблема):** Учынкі і іх наступствы.
**Кінатэкст:** «Цяжка быць богам».
https://www.youtube.com/watch?v=OstmdJ_yuT0
**Форма:** тэматычная дыскусія.
**Спампаваць сцэнар**: www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/ciazka_byc_boham.docx

**5. Дзіцячы кінаклуб**

**Тэма:** Што гаспадарыць у свеце: дабро ці зло?
**Кінатэкст:** «Синий зонтик».
https://www.youtube.com/watch?v=itlXbGLadTw
**Форма:** тэматычны дыспут.
**Спампаваць сцэнар:** www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/sini_parason.docx

**6. Падлеткавы кінаклуб**

**Тэма:** Ці лёгка стаць моцным?
**Кінатэкст: «**Маленькі кавалачак крэйды».
https://www.youtube.com/watch?v=SfjKaaeaTVE
**Форма:** тэматычны дыспут.
**Спампаваць сцэнар:** www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/kavalak_krejdy.docx

**7. Падлеткавы кінаклуб**

**Тэма:** Выйсці за рамкі, або Як пераадолець жыццёвыя цяжкасці.
**Кінатэкст:** «Маленькі кавалачак крэйды»:
https://www.youtube.com/watch?v=SfjKaaeaTVE
**Спампаваць сцэнар:** www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/vyjsci_za_ramki.docx

### 3.3.5. Карысныя крыніцы для арганізацыі работы кінаклуба



- Блог школьнага кінаклуба гімназіі №3 г. Бабруйска «Сардэчна запрашаем, ці Староннім уваход дазволены»: http://kinoclub-gymnasium.blogspot.com.by
- Фільмы, мульцікі па-беларуску: http://kinakong.by/

- Школьны кінаклуб: **http://www.pandia.ru/text/77/107/554.php**
- Дыскусійны кінаклуб як форма работы з падлеткамі. Метадычнае абаснаванне мэтазгоднасці. Кінаклуб для падлеткаў: спіс фільмаў: **http://3ade.lv/ru/priglashaem-v-elitarnyi-kinoklub-lilit-dlya-podrostkov-i-starsheklassnikov-2369.html**
- Фільмы для бацькоў: **http://pik100.ucoz.ru/forum/2-99-1**
- Мурюкина, Е. В. Эстетические традиции медиаобразования в современных киноклубах для школьников и студентов: монография / Е. В. Мурюкина; под ред. канд. пед. наук, доц. И. В. Челышевой. — Таганрог: Изд-во Таганрог. ин-та имени А. П. Чехова, 2014. — 200 с.
- Пензин С. Н. Анализ фильма: **http://www.stalpenzin.ru/mediaobrazovanie/3/analiz-filma**
- Як зрабіць аналіз фільма: **http://ru.wikihow.com/сделать-анализ-фильма**
- Агафонова Н. А. Общая теория кино и основы анализа фильма: **http://www.twirpx.com/file/268515/**
- Вялікая падборка фільмаў пра мастакоў: **http://gallerix.ru/read/filmy-o-xudozhnikax/**
- Номер журнала «Вести образования» посвящен фильму Андрея Звягинцева «Левиафан»: **http://vogazeta.ru/ivo/info/N111.html**

*Алена Арэшка*

## 3.4. Аб медыяадукацыі навучэнцаў ва ўстанове дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі

### 3.4.1. Установы дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі як спрыяльнае асяроддзе для фармірвання медыйнай граматнасці вучняў

Медыякультура (прэса, друк, радыё, гукапіс, фатаграфія, кінематограф, тэлебачанне, відэаарт, інтэрнэт і г.д.) у сучаснай сацыякультурнай сітуацыі набывае ўсё большыя ўплыў і распаўсюджванне. Яе поспех (перш за ўсё ў моладзевай аўдыторыі) вызначаецца многімі фактарамі. У той жа час медыякультура мае велізарны патэнцыял у сучасным адукацыйным і выхаваўчым працэсе, які вызначаецца шырокім спектрам яе магчымасцяў для развіцця чалавечай індывідуальнасці. Само існаванне медыякультуры абумоўлівае неабходнасць і сутнасную важнасць медыяадукацыі.

Актуальнасць медыяадукацыі вучнёўскай моладзі ў цэнтрах дадатковай адукацыі абумоўлена тым, што праблема падрыхтоўкі падрастаючага пакалення да жыцця ў інфармацыйную эпоху недастаткова актуалізуецца ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі. Выпускнікі школы, як правіла, не гатовы аналізаваць і выяўляць уздзеянні медыя на сваю асобу, арыентавацца ў інфармацыйным патоку, інтэгравацца і творча самарэалізоўвацца ў агульнай інфармацыйнай прасторы.

Школа спрабуе фармальнымі сродкамі рэалізаваць на базе агульнаадукацыйных дысцыплін міжпрадметныя сувязі або мадэляваць практычную творчую дзейнасць у рамках дзелавой гульні ў розных галінах адукацыі, у тым ліку і ў медыяадукацыі, але практыка паказала, што дасягнуць рэальнага поспеху і актыўнай творчай пазіцыі дзіцяці або падлетка ва ўмовах установы агульнай сярэдняй адукацыі не заўсёды ўдаецца.

Стварэнне актыўнага асяроддзя практычнай дзейнасці дзяцей і падлеткаў, якое з высокай ступенню набліжэння мадэлюе элементы нашага соцыума, — важная ўмова эфектыўнай медыяадукацыі. Такое асяроддзе, з'яўляючыся адным з самых дзейсных фактараў у працэсе медыяадукацыі навучэнцаў, можа быць створана ва ўстанове дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Яно ўяўляе сабой незафармалізаваную, больш гнуткую сістэму атрымання адукацыі.

Галоўная мэта медыяадукацыі ва ўстановах дадатковай адукацыі — гэта развіццё медыякампетэнцый дзяцей і моладзі на аснове тэарэтычнай і практычнай дзейнасці ў рамках характэрных для гэтых устаноў аб'яднанняў па інтарэсах.

Адукацыя ў сістэме ўстаноў дадатковай адукацыі накіравана на дзяцей, падлеткаў і моладзь 11—17 гадоў, прычым не толькі тых, хто мае схільнасці да медыятворчасці. Нізкі ўзровень медыякампетэнцыі навучэнцаў прыводзіць да няўмення працаваць з аб'ёмнай, праўдападобнай і супярэчлівай інфармацыяй, крытычна яе ацэньваць, вылучаць патрэбную інфармацыю, выкарыстоўваць свой асабісты вопыт, звесткі з сумежных абласцей. У медыятэкстах, дзе прыводзяцца развагі, аргументацыя, навучэнцы не бачаць розніцы паміж фактамі і меркаваннямі. Навучэнцам з нізкім узроўнем медыякампетэнцыі ўласцівая наіўная вера ў рэальнасць, створаную медыя; аналіз любога медыятэксту заснаваны на нізкіх узроўнях разумення яго спецыфікі.

### 3.4.2. З вопыту медыяадукацыі вучняў у дзіцяча-юнацкай тэлестудыі Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі

Адной з самых дзейсных магчымасцей для фарміравання медыяграматнасці вучняў у сістэме дадатковай адукацыі з'яўляецца арганізацыя дзіцячых або моладзевых тэле- і відэастудый, рэдакцый дзіцячых і моладзевых газет. Прымаючы пад увагу рэсурсы ўстаноў дадатковай адукацыі краіны, аб'яднанні па інтарэсах у гэтай галіне могуць вар'іравацца ад гурткоў па журналістыцы да школ, студый і медыяцэнтраў. У рамках любой формы арганізацыі медыядасуга магчыма атрыманне эфектыўнага выніку медыяадукацыі.

На прыкладзе вопыту работы Дзіцяча-юнацкай тэлестудыі Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі, які можа быць прыдатны для любых аб'яднанняў па інтарэсах, прапануюцца асноўныя мэты, задачы і метады працы з дзецьмі і моладдзю ў галіне медыяадукацыі.

Дзіцяча-юнацкая тэлестудыя ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі была створана ў 2001 годзе. У 2015—2016 навучальным годзе ў складзе гэтай тэлестудыі знаходзіцца 12 аб'яднанняў па вывучэнні асноў электронных і друкаваных СМІ: «Тэлежурналістыка», «Асновы аператарскага майстэрства», «Асновы камп'ютарнага відэамантажу», «Мастацкае афармленне тэлевізійных праграм», «Асновы тэлевізійнагй творчасці», «Асновы майстэрства тэлевядучага», «Асновы друкаванай журналістыкі», «Асновы радыёжурналістыкі», «Камп'ютарны дызайн у рэкламе», «Дзіцячае тэлевізійнае акцёрскае агенцтва», «Крэатыўныя медыя», «Рэклама ў СМІ і інтэрнэце». Матэрыяльна-тэхнічная база тэлестудыі ўключае навучальны кабінет з камп'ютарамі, прыдатнымі для вёрсткі, макетавання газеты, відэамантажу, працы з інтэрнэтам, іншых аперацый па стварэнні «новых» медыя, і асобнае памяшканне, якое служыць тэлевізійным павільёнам для здымак.

Асноўнай мэтай дзейнасці тэлестудыі з'яўляецца авалоданне вучнямі асновамі сучасных тэлевізійных і журналісцкіх прафесій, якое ідзе паралельна з медыяадукацыяй.

Асноўныя задачы:

- стварэнне адукацыйнага асяроддзя, накіраванага на станаўленне асобы дзіцяці;
- стварэнне аптымальных умоў для развіцця маральнага, творчага патэнцыялу дзіцяці праз далучэнне да тэлевізійнай і журналісцкай творчасці;
- развіццё інтэлектуальных, камунікацыйных здольнасцяў;
- развіццё крытычнага стаўлення да СМІ праз знаёмства з тэхнікай і тэхналогіяй стварэння журналісцкага і тэлевізійнага прадукту;
- пашырэнне агульнага кругагляду выхаванца студыі;
- і ў выніку — павышэнне ўзроўню медыякампетэнцыі дзяцей і моладзі.

У аб'яднаннях па інтарэсах структура адукацыйных праграм складаецца з папярэдняга выяўлення ўзроўняў медыяўспрымання і развіцця вучняў, іх здольнасці да паўнавартаснага аналізу твораў медыякультуры (без чаго педагогу нельга меркаваць пра змены, якія адбываюцца ў вучняў у працэсе навучання). Пасля ўступнай часткі (анкетаванне, пісьмовыя працы, вусныя гутаркі) прадугледжваецца пераход да фарміравання ў школьнікаў паўнавартаснага ўспрымання і развіцця здольнасцей да асэнсаванага крытычнага аналізу медыятэкстаў.

На практычных занятках навучэнцы з дапамогай гульнявых методык і тэхнічных сродкаў (відэамагнітафон, відэакамера, камп'ютар, смартфон, планшэт ці інш.) на прыкладзе ўласнай крэатыўнай дзейнасці знаёмяцца з творчым працэсам стварэння медыятэкстаў. Зразумела, гэты працэс не тоесны працэсу медыяўспрымання. Можна ведаць, як ствараюцца медыятэксты, але не ўмець іх аналізаваць. Аднак, далучаючыся (хай нават на элементарным узроўні) да працэсу стварэння медыятэкстаў, навучэнцы маюць магчымасць развіць свае здольнасці медыяўспрымання, індывідуальнага творчага мыслення, што эфектыўна рыхтуе іх да аналізу твораў, створаных прафесіяналамі, якія «атакуюць» іх штодня з экранаў тэлевізараў, маніторах камп'ютараў і г.д.

Дзейнасць дзіцяча-юнацкай тэлестудыі мае на ўвазе абавязковае выданне ўласнай газеты, навучанне асновам практычнай тэлежурналістыкі, тэхналогіі вытворчасці тэлепраграм, відэафільмаў; навучанне спосабам разумення і эфектыўнага выкарыстання «сусветнага павуціння».

У ліст базавых прафесійных кампетэнцый, якія набываюць навучэнцы, уваходзяць:

- праца з крыніцамі інфармацыі (выкарыстанне разнастайных метадаў яе збору, адбору і праверкі);

- знаходжанне важных і надзённых тэм;
- падрыхтоўка журналісцкіх матэрыялаў аператыўна і ў тэрмін;
- выкарыстанне адэкватных моўных і іншых выяўленча-выразных сродкаў і прынятых у прэсе фарматаў, стандартаў і тэхналагічных патрабаванняў;
- разуменне спецыфікі тэлевізійнай інфармацыі і экраннай журналістыкі;
- веданне відаў і методык журналісцкай творчасці на тэлебачанні;
- базавыя ўменні самастойна ствараць тэле- і відэакантэнт;
- эфектыўнае выкарыстанне інтэрнэт-тэхналогій для пошуку, апрацоўкі і распаўсюджвання інфармацыі.

Выхаванцы аб'яднання па інтарэсах, падобнага дзіцяча-юнацкай тэлестудыі, прымаючы самы актыўны ўдзел у розных напрамках яе дзейнасці, атрымліваюць задавальненне ад таго, што веды, якія яны атрымалі на занятках, змогуць адбіцца ў дакументальным або навучальным відэафільме, у артыкуле, рэкламным календары, плакаце, інтэрнэт-сайце. Пры гэтым яны атрымліваюць неабходныя і важныя медыякампетэнцыі: уменне ўспрымаць і перапрацоўваць інфармацыю, якая перадаецца па каналах СМІ; уменне крытычна думаць, разумеючы схаваны сэнс паведамлення; уменне ўключаць інфармацыю ў кантэкст агульнай базавай адукацыі; уменне знаходзіць, рыхтаваць, перадаваць і прымаць інфармацыю, у тым ліку з выкарыстаннем розных медыярэсурсаў.

Любы навучэнец тэлестудыі, атрымліваючы магчымасць самастойна ствараць у рамках дзіцячай тэлестудыі медыйны кантэнт, становіцца больш незалежны ад уздзеяння іншых медыя, даведаўшыся на ўласным досведзе пра ўсе сакрэты і правілы іх стварэння.

І ўсё ж медыяадукацыя навучэнцаў патрабуе ад іх тэарэтычных ведаў па гісторыі і функцыянаванні СМІ.

На працягу 2014—2016 гг. у дзіцяча-юнацкай тэлестудыі праходзіць апрабацыю праграма «Медыяадукацыя навучэнцаў», якая можа як існаваць у якасці праграмы для гуртка, так і ўваходзіць асобнымі тэмамі ў навучальныя планы іншых адукацыйных праграм тэлестудыі.

Дасягненне мэтаў праграмы складаецца з вырашэння канкрэтных задач:

- Азнаямленне з агульнымі базавымі ўяўленнямі аб журналістыцы, аб электронных СМІ.
- Арыентацыя ў сістэме сродкаў масавай інфармацыі.
- Разуменне асноўных механізмаў функцыянавання СМІ.

- Выхаванне медыякультуры і здольнасці супрацьстаяць маніпуляцыям медыя.
- Развіццё інтэлектуальнага патэнцыялу асобы.
- Дыягностыка і развіццё творчых здольнасцей, неабходных для ўсіх відаў і жанраў журналістыкі.

У гэтым артыкуле прадстаўлены адзін з важнейшых раздзелаў праграмы — базавае знаёмства са сродкамі масавай інфармацыі.

### 3.4.3. Тэматыка і змест заняткаў студыі па тэме «Сродкі масавай інфармацыі»

**Мэта:** знаёмства з журналістыкай як сацыяльным інстытутам, а таксама з практыкай і метадамі работы СМІ.

На першым этапе навучэнцы пад кіраўніцтвам педагога, які прадставіў для іх невялікія аглядныя лекцыі, рыхтуюць выступленні для дыскусіі па наступных падтэмах:

1. *Дзяржава, грамадства, СМІ*
   - Што такое сацыяльная роля журналістыкі?
   - Ці выконваюць вядомыя вам СМІ свае задачы?
   - Што ў дзейнасці СМІ выклікае крытычнае да іх стаўленне?
   - Якімі былі першыя газеты?
   - Калі пачалася беларуская журналістыка?
   - Пералічыце і ахарактарызуйце беларускія інфармацыйныя агенцтвы.
   - Калі і дзе з'явілася радыё, тэлебачанне?
   - Што такое «новыя медыя»?
2. *Сістэма СМІ*
   - Назавіце асноўныя віды СМІ.
   - У чым асаблівасць такіх СМІ, як перыядычны друк (газеты і часопісы), тэлебачанне, радыё, інтэрнэт-СМІ?
   - Якія СМІ звернутыя да жыхароў вашага раёна, горада, вобласці?
   - Як вы ацэньваеце іх, ці з'яўляецеся вы іх аўдыторыяй?
   - Што такое блогасфера, якія яе адносіны з журналістыкай?

3. *Практыка СМІ*

- Якія актуальныя праблемы і падзеі склалі парадак дня розных СМІ гэтага тыдня?
- Што найбольш цікава вам?
- Якія перадачы (тэлевізійныя і радыёпраграмы), артыкулы ў газетах, часопісах, паведамленні на інфармацыйных сайтах прыцягнулі вашу асаблівую ўвагу?
- Што ў практыцы СМІ выклікае ў вас негатыўнае стаўленне?
- У чым адрозненне паміж перадачай інфармацыі і яе аналізам? Назавіце інфармацыйныя і аналітычныя праграмы беларускага тэлебачання.
- Каго з беларускіх журналістаў друкаваных і электронных СМІ вы ведаеце, чаму вы іх вылучаеце?
- Што такое забаўляльная журналістыка? Назавіце яе прыклады на беларускім тэлебачанні?

4. *Успрыманне журналістыкі*

- Хто ў нашай краіне найбольш уплывае на змест і форму інфармацыі?
- Ці ёсць у нашай краіне медыярынак і як вы яго разумееце?
- Чаму з'яўляюцца новыя выданні і праграмы, што ўплывае на гэты працэс?
- Чаму вы і ваша сям'я аддаяце перавагу, што вы глядзіце, чытаеце і слухаеце?
- Дзе вашы аднагодкі здабываюць актуальную інфармацыю па розных тэмах, колькімі крыніцамі карыстаюцца?

5. *Этыка ў журналістыцы*

- Што такое сацыяльная адказнасць СМІ?
- Ці заўсёды пазітыўныя і адказныя СМІ ў нашай краіне, ці заўсёды меркаванні СМІ аб'ектыўныя? Прывядзіце прыклады.
- Ці павінна дзяржава, грамадства абмяжоўваць свабоду журналістыкі?

Задача заняткаў па гэтай тэматыцы — далучыць вучняў да рэгулярнага «спажывання» СМІ і выпрацаваць да іх крытычнае стаўленне. Каб выказваць сваё меркаванне аб СМІ — іх трэба ведаць, прычым як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя, а таксама так званую «народную» журналістыку (блогі і г.д.).

Вучні павінны звяртаць увагу на асаблівасці навінавых і аналітычных праграм тэлебачання; ведаць некалькі імёнаў у журналістыцы і блогасферы.

Да тэмы прапануюцца заданні і кантрольныя пытанні:

1. *Пазнаёмцеся з артыкуламі ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ад 17 ліпеня 2008 г. «Аб сродках масавай інфармацыі».*

   Кантрольныя пытанні да задання:

   - Што такое сродкі масавай інфармацыі (мас-медыя)?
   - Ці можна аднесці да сродкаў масавай інфармацыі інтэрнэт, мастацкае кіно, дакументальны фільм, тэатр?
   - Што такое перыядычнае друкаванае выданне?
   - Што такое цэнзура?
   - Ці існуюць ў заканадаўстве Беларусі абмежаванні на дзейнасць СМІ? Калі ёсць, то якія яны?
   - У якім выпадку ў нашай краіне могуць закрыць СМІ? Прывядзіце прыклады.

2. *Праслухайце некалькі радыёперадач і / або прагледзіце некалькі тэлеперадач.*

   Кантрольныя пытанні да задання:

   - Якія радыёперадачы вам спадабаліся і чаму?
   - Якіх радыёжурналістаў вы запомнілі?
   - Якія недахопы або перавагі маюць беларускія тэлевізійныя каналы?
   - У чым адрозненне беларускіх тэлеканалаў ад замежных?
   - Выберыце, на вашу думку, лепшую або самую няўдалую радыё- ці тэлевізійную праграму бягучага тыдня. Чаму вы так палічылі?
   - Што для вас рэклама на ТБ — перашкода, цікавая паўза падчас прагляду і г.д.? Выкажыце сваё стаўленне да рэкламы на ТВ.
   - Тэлевізійныя навіны — гэта тое, што неабходна сучаснаму чалавеку, ці ён сам павінен шукаць крыніцы інфармацыі? Чаму вы так думаеце?
   - Зоркі тэлебачання, тэлевядучыя — якія якасці патрэбныя журналісту, каб адной з іх стаць?

3. *Вывучыце свой «СМІ-профіль».*

   - Да якіх каналаў інфармацыі вы часцей за ўсё звяртаецеся: ТБ, радыё, газеты і часопісы, пасты і форумы ў інтэрнэце, сацыяльныя сеткі і г.д.?
   - Якія тэмы вас прыцягваюць: палітыка, сацыяльныя пытанні, моладзевыя праблемы, жыццё зорак шоу-бізнэсу і г.д.?
   - Напішыце эсэ пра моладзевы СМІ (газету, радыёканал, тэлеканал, інтэрнэт-канал), які пакуль не існуе, але быў бы цікавым для вас і вашых аднагодкаў.

4. *На падставе знаёмства са СМІ нашай краіны адкажыце на кантрольныя пытанні:*

   - Пералічыце жанры журналістыкі. Ці адрозніваеце вы іх, для чаго яны патрэбныя?
   - У чым адрозненне інфармацыйных, аналітычных і мастацка-публіцыстычных жанраў?
   - Знайдзіце ў газетах прыклады нататак, рэпартажаў, каментароў, рэцэнзій, інтэрв'ю.
   - Які жанр вам як пачаткоўцу-журналісту найбольш падыходзіць і чаму?
   - Чым адрозніваюцца паміж сабою тэлевізійныя жанры — навіны, рэпартажы, ток-шоу, інтэрв'ю, гульнявыя забаўляльныя перадачы? Прывядзіце прыклады з беларускага тэлебачання.
   - Напішыце эсэ на выбраную з наступных тэму: «Якімі павінны быць «зоркі» тэлебачання?», «У жыцці і на тэлеэкране — ці ёсць адрозненні?», «Гвалт на тэлеэкране», «Непрыкметныя навіны».

У медыяадукацыі акцэнт робіцца на актыўныя метады з максімальным уцягваннем вучняў у пазнавальны працэс, заахвочваецца самастойны пошук інфармацыі, праца з тэкстамі СМІ. На занятках выкарыстоўваюцца наступныя формы і метады: азнаямленчыя лекцыі, маніторынг тэкстаў СМІ, тэматычныя дыскусіі, справаздачы (выступы) па тэмах з абмеркаваннямі, сустрэчы з запрашэннем дзеячоў СМІ, экскурсіі з прафарыентацыйнай мэтай у рэдакцыі СМІ, стварэнне творчага медыяпрадукту.

Праграмы па медыяадукацыі навучэнцаў у рамках аб'яднання па інтарэсах ва ўстановах дадатковай адукацыі павінны быць нефармальнымі, са зменлівымі тэматычнымі модулямі, якія залежаць ад бягучай сітуацыі, актуальных патрэбаў дзяцей і моладзі ды ад развіцця саміх СМІ.

Аднак са СМІ трэба знаёміцца і больш грунтоўна на гуртках спецыялізаванага кірунку. Як было ўжо сказана вышэй, любы навучэнец тэлестудыі, атрымліваючы магчымасць самастойна ствараць медыйны кантэнт, становіцца больш незалежны ад медыя, даведаўшыся на ўласным вопыце ўсе сакрэты і правілы іх стварэння.

### 3.4.4. Змест праграмы гуртка аб'яднання «Тэлежурналістыка» ( адзін год навучання)

Тэма 1. «**СМІ ў жыцці грамадства. Прафесія — журналіст».**

Тыпы СМІ. Масавыя камунікацыі. Журналістыка як прафесія. Правы і абавязкі журналіста. Тыпы журналісцкіх спецыялізацый. Агульнае і рознае ў працы журналіста газеты, часопіса, радыё, тэлебачання. Уплыў тэлебачання на жыццё сучаснага грамадства.

*Практычная праца.* Падрыхтоўка навучэнцамі па выбары творчых работ (артыкулаў) па тэмах: «Слова — сіла!», «Маё ўяўленне аб найноўшай журналістыцы», «Журналістыка як стыль жыцця»; рэфератаў па тэмах: «Інфармацыйны хаос свету», «Інтэрнэт-стандарты супраць журналісцкіх стандартаў».

Тэма 2. **Гісторыя развіцця сучасных СМІ. Тэлебачанне ўчора і сёння.**

Гісторыя ТБ. Гісторыя айчыннага тэлебачання. Знаёмства з тэхналогіяй вытворчасці тэлевізійных праграм. Спецыфіка вытворчасці тэлевізійнай пастаноўкі, ігравога, дакументальнага кіно і тэлефільма. Асаблівасці вытворчасці тэлевізійнай рэкламы. Паняцце стылю праграмы, фарміраванне задумы, сродкі яе ўвасаблення. Сучасныя тэндэнцыі развіцця тэлебачання.

*Практычная праца.* Прагляд і абмеркаванне тэлевізійных праграм рознага жанру, створаных на БТ у 1980—2000 гг. (з архіву дзіцяча-юнацкай тэлестудыі). Напісанне пілотных праектаў тэлевізійных пастановак і рэкламных ролікаў у версіі ігравога, дакументальнага і тэлевізійнага кіно з выкарыстаннем школьнай літаратурнай класікі.

Тэма 3. **Асноўныя напрамкі і жанры тэлевізійнай творчасці. Сучасныя тэлевізійныя прафесіі.**

Жанры і напрамкі тэлевізійнай творчасці. Патрабаванні да падрыхтоўкі журналісцкіх матэрыялаў для тэлебачання. Запіс праграмы і паняцце прамога эфіру. Рынак сучаснай тэлевізійнай прадукцыі. Роля рэйтынгу глядацкай папулярнасці, паняцце прайм-тайма. Этычныя аспекты тэлевізійных прафесій. Знаёмства са спецыфікай асноўных тэлевізійных прафесій — рэжысёра, аператара, мастака-пастаноўшчыка, мастака па касцюмах, кампазітара,

гукарэжысёра, рэдактара, інжынера відэамантажу і г.д. Роля журналіста і рэдактара ў стварэнні тэлевізійнай прадукцыі.

*Практычная праца.* Прафесійна-арыентаваныя экскурсіі на БТ, АНТ, тэлерадыёкампанію «Мір». Сустрэчы з прадстаўнікамі розных тэлевізійных прафесій у рамках праекта дзіцяча-юнацкай тэлестудыі «Адкрыты аб'ектыў».

Тэма 4. **Жанры тэлежурналістыкі. Асновы майстэрства тэлежурналіста.**

Агульнае знаёмства з жанрамі тэлежурналістыкі. Як выбраць тэму. Асаблівасці збору інфармацыі для тэлебачання.

Інфармацыйныя тэлевізійныя жанры: паняцце навіны; спецыфіка рэпартажаў, інтэрв'ю, апытанняў. Аналітычныя жанры і іх асаблівасці: каментар, журналісцкае расследаванне, агляд падзей. Мастацка-публіцыстычныя жанры. Нарыс. Літаратурнае майстэрства журналіста: праца са словам. Асаблівасці працы рэжысёра, аператара, мастака, гукарэжысёра.

*Практычная праца.* Стварэнне тэлевізійных сюжэтаў (падзеі школьнага жыцця, гарадская хроніка): выбар тэмы, напісанне сцэнарыя, пробная відэаздымка і мантаж (з дапамогай педагогаў) у розных жанрах тэлежурналістыкі.

Тэма 5. **Асновы аператарскага майстэрства.**

Прылада, прынцып працы і органы кіравання відэакамерай. Віды здымак. Кіраванне камерай. Здымка пейзажу, партрэта, інтэр'ера.

*Практычная праца.* Тэст на прафесійную аператарскую тэрміналогію. Самастойная індывідуальная відэаздымка сюжэту па выбары (пейзаж, інтэр'ер, партрэт, рэпартаж). Калектыўная відэаздымка сюжэтаў для тэлеальманаха «Наш Дом».

Тэма 6. **Асновы відэамантажу. Праца з гукам.**

Мантаж — мова рэжысёра. Магчымасці і спосабы мантажу. Адпаведнасць мантажу зместу. Мантажная здымка. Лінейны мантаж. Паралельны мантаж. Дыстанцыйны мантаж. Асновы тэхналогіі камп'ютарнага мантажу. Праца ў праграме Adobe Premiere. Праца з гукавымі дарожкамі.

*Практычная праца.* Удзел у відэамантажы сюжэтаў да телеальманаху тэлестудыі. Навучальныя экскурсіі. Экскурсіі на БТ, АНТ, СТВ. Выніковыя заняткі. Конкурс індывідуальных тэлевізійных сюжэтаў розных жанраў, створаных вучнямі за год. Прэзентацыя конкурсных прац і сюжэтаў да тэлеальманаха.

Як адзначалася, установы дадатковай адукацыі, выкарыстоўваючы перавагі сваёй больш-менш нефармальнай структуры, маюць вялікія магчымасці для медыяадукацыі вучняў. Ёсць магчымасці і неабходнасць навукова-метадычнага

забеспячэння медыяадукацыйнай практыкі ва ўстановах дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі:

- стварэння канцэпцыі медыяадукацыі навучэнцаў;
- распрацоўкі стандарта медыякампетэнцый, які б прывёў да адпаведных зменаў у праграмах аб'яднанняў па інтарэсах у дадатковай адукацыі, стаў бы арыенцірам для педагогаў;
- стварэння модуляў семінараў і трэнінгаў для педагогаў-куратараў дзіцячых СМІ і сацыяльных педагогаў, гатовых павышаць сваю кампетэнцыю ў гэтай галіне;
- распрацоўкі комплексу праграм для гурткоў, накіраваных на выхаванне ў навучэнцаў крытычнага стаўлення да медыя і ўменне распазнаваць метады індактрынацыі ў мас-культуры.

# Раздзел 4.
# СТВАРЭННЕ МЕДЫЯТЭКСТАЎ

## 4.1. Навошта ствараць медыятэксты?

Практыка пацвярджае, што можна тэарэтычна ведаць усе шляхі маніпуляцый, але пры гэтым заставацца аб’ектам маніпулявання. Найлепшы спосаб навучыцца распазнаваць маніпуляцыі — паспрабаваць самастойна стварыць маніпуляцыйнае пасланне. Даўно падмечана, што прапаганда перастае дзейнічаць, калі ведаеш, як яна зроблена.




**Прыклад: Плакат-дэматыватар, створаны для дэманстрацыі маніпуляцыйнага прыёму прапаганды — спасылкі на фальшывых экспертаў.**

У папярэдніх раздзелах кнігі ёсць рэкамендацыі пасля дэкадавання медыяпаведамлення даць вучням заданне напісаць тэкст з мэтай выклікаць пазітыўнае ці негатыўнае стаўленне да адной і той жа падзеі. Калі вы скарыстаецеся гэтай парадай, то на практыцы пераканаецеся ў справядлівасці вышэйнапісанага.

Тое самае можна сказаць і пра любы іншы аспект медыяграматнасці. Напрыклад, найлепшы спосаб растлумачыць вучням ролю медыя ў грамадстве — зрабіць школьную газету, якая будзе выконваць ролю чацвёртай улады ў школе: уздымаць важныя пытанні, быць незалежнай ад адміністрацыі школы, рабіцца самімі вучнямі, прытрымлівацца правілаў журналісцкай этыкі.

*Тамара Мацкевіч, Алена Радзевіч*

## 4.2. Як стварыць медыятэкст?

Інфармацыйнае грамадства робіць усіх нас стваральнікамі медыяпрасторы. Няма, відаць, чалавека, які б хоць аднойчы не напісаў медыпаведамленне: артыкул у прафесійны часопіс, рэкламную абвестку, аб'яву, віншаванне ў газету ці пост у сацыяльную сетку. Настаўнікі ствараюць медыятэксты самастойна і разам з вучнямі. Мы прапануем толькі некалькі рэкамендацый.

1. Падумайце пра мэту вашага паслання і адкажыце для сябе на 3 пытанні: Што я хачу сказаць? Каму? Навошта? (Магчыма, мэтай вашага паслання будзе інфармаванне, прыцягненне ўвагі да важнага пытання, даследаванне, навучанне і г.д.)

2. Вызначце форму, якая найбольш эфектыўна перадасць задуманы вамі пасыл. Гэта можа быць відэафільм, школьная газета, радыёперадача, публіцыстычная нататка, артыкул у педагагічную прэсу, інфаграфіка ці плакат…

3. Калі вы вызначыцеся з формай, то можаце скарыстацца той часткай гэтай кнігі, якая дае парады для стварэння таго, што вы абралі. Магчыма, вы нешта карыснае для стварэння свайго медыяпрадукту знойдзеце ў інтэрнэце.

4. Падумайце пра адказнае карыстанне медыйнай прасторай: бяспеку ў інтэрнэце, захаванне аўтарскіх правоў, пазбяганне плагіяту.

5. Размясціце свой медыяпрадукт там, дзе ён будзе дасяжны для мэтавай аўдыторыі, якую вы вызначылі ў п. 1.

Калі вы вызначыліся з відам медыятэксту, то можаце перайсці да аднаго ці некалькіх параграфаў гэтага раздзела.

### 4.2.1. Пішам эсэ

«Эсэ (франц. *essai* — дослед, накід) — жанр філасофскай, эстэтычнай, мастацка-крытычнай, мастацкай, публіцыстычнай літаратуры, які спалучае індывідуальную пазіцыю аўтара з часта парадаксальным напісаннем, арыентаваным на размоўны стыль». *(Вялікі энцыклапедычны слоўнік.)*

Стваральнікам эсэ лічыцца М. Мантэнь («Спробы», 1580 г.).

У залежнасці ад мэты напісання падбіраецца аўтарам і змест. У любым выпадку эсэ — мастацкая форма разважання.

**Мадэль напісання эсэ:**

1. Папярэдні этап (інвентарызацыя): вылучэнне найбольш важных фактаў, паняццяў і г.д.
2. Праца над чарнавіком.
3. Праўка. Можа ажыццяўляцца ў пары ў працэсе ўзаемаабмену.
4. Рэдагаванне. Выпраўленне заўваг, зробленых у ходзе праўкі.
5. Чытанне на аўдыторыю.
6. Публікацыя.

**Тыпы эсэ**

Існуе шмат розных тыпаў эсэ, кожны з якіх мае пэўную мэту. Ніжэй прыводзяцца прыклады, якія найчасцей выкарыстоўваюцца.

| Тып эсэ | Апісанне | Прыклады тэм |
|---|---|---|
| «Апісальнае» эсэ | Паказвае кірунак або дае інструкцыю, як вырашыць задачу, ці як павінна быць выканана нейкае дзеянне. | Як маніпулююць сродкі масавай інфармацыі і камунікацыі.<br><br>Як займець сяброў.<br><br>Як выйграць спрэчку з калегамі. |
| «Прычынна-выніковае» эсэ | Звяртае ўвагу на ўмовы або сітуацыю і спрабуе адказаць на наступныя пытанні: Чаму? (прычына) або Які вынік? (эфект). | Дрэнныя адзнакі (прычыны і наступствы).<br><br>Пастаянныя спазненні (наступствы).<br><br>Беларуская мова ў школе і ВНУ (прычыны і вынікі). |
| «Параўнальнае» эсэ | Фіксуе адрозненні і / або падабенствы паміж людзьмі, месцамі, рэчамі, ідэямі і г.д. | Параўнанне двух гістарычных дзеячаў.<br><br>Параўнанне двух фільмаў, артыкулаў.<br><br>Параўнанне айчыннага і замежнага адукацыйнага вопыту. |

| | | |
|---|---|---|
| «Эсэ-абгрунтаванне» (заснаванае на аргументах і контр-аргументах) | Засяроджваецца на абгрунтаваным меркаванні адносна прадмета. | Ці павінны настаўнікі выконваць нехарактэрную для іх прафесіі працу?<br>Ці варта забараняць карыстанне некаторымі сайтамі?<br>Ці павінна быць цэнзура на тэлебачанні, іншых СМІ?<br>Ці павінны студэнты адпрацоўваць па абавязковым размеркаванні? |
| Літаратурны аналіз | Разважанні вакол вашых уражанняў ад кнігі, гісторыі, фільма, артыкула, паэмы або п'есы. | Які канфлікт у ____: хутчэй знешні або ўнутраны?<br>Адносіны паміж двума героямі.<br>Наколькі важная гістарычная сімволіка ў раскрыцці значэння ў ____. |
| Аналіз характару | Фокус — вашы разважанні аб персанажы медыятвора.<br>Ваша ацэнка героя грунтуецца на тым, што ён кажа, робіць, і / або на тым, што іншыя персанажы гавораць пра яго. | Апісанне асноўных герояў у ____.<br>Якія асноўныя рысы характару галоўнага героя ў ___?<br>Што прывяло ___ да адчаю? |



Карысныя спасылкі па тэме:

Як зрабіць калаж : **http://ru.wikihow.com/**

Як напісаць нарыс на аснове інтэрв'ю: **http://kmspb.narod.ru/posobie/pismo.htm**

### 4.2.2. Як напісаць артыкул у прафесійнае выданне?

Калі вы вырашылі напісаць артыкул у «Настаўніцкую газету», часопісы «Адукацыя і выхаванне», «Роднае слова», на сайт nastaunik.info ці ў ваш прадметны часопіс, гэта заслугоўвае вялікай павагі, бо вы з веданнем справы зможаце сфармуляваць пасыл для сваіх калег, падзяліцца досведам выкарыстання найлепшых педагагічных практык ці падняць важныя для настаўніцкай супольнасці пытанні.





Перад напісаннем тэксту рэкамендуем вам азнаёміцца з артыкулам Святланы Кірсанавай «Голас настаўніцкай супольнасці, альбо Як стаць педагогам-журналістам», адрасаваным адмыслова настаўнікам-медыяадукатарам: **http://nastgaz.by/?p=22681**

*Святлана Кірсанава*

**Голас настаўніцкай супольнасці, альбо Як стаць педагогам-журналістам**

Дрэнны той медыяадукатар, які не піша артыкулы, не супрацоўнічае са СМІ. Так, ён можа мець выдатную тэарэтычную падрыхтоўку: ведаць методыкі навучання дзяцей крытычнаму аналізу, асэнсаванню і стварэнню медыяпрадуктаў, разбірацца ў медыяманіпуляцыях, але ж… Без вопыту работы ў газеце, на тэлебачанні або радыё для дзяцей ён застанецца нежывым падручнікам па медыя, неаўтарытэтным, так бы мовіць. Каб запаліць цікавасць у школьнікаў да аналізу і стварэння сваіх тэкстаў, медыяадукатару трэба нейкі час пажыць у скуры журналіста. А гэта значыць зведаць хваляванне перад чыстым вордаўскім файлам; недахоп часу на абдумванне тэксту, бо патрэбна аператыўнасць; залежнасць ад ацэнкі твора рэдактарам і чытачом…

***Я паспрабую патлумачыць, чаму настаўніку важна пісаць артыкулы, падзялюся практычнымі ведамі, як падрыхтаваць матэрыял у прафесійную газету, парэкамендую, з чаго пачаць супрацоўніцтва з рэдакцыяй.***

**Мая хата НЕ з краю**

Засвоіць журналісцкую тэхніку не складзе для настаўнікаў цяжкасці, я ў гэтым перакананa. Галоўнае — асэнсаваць, што вам гэта жыццёва неабходна, сфарміраваць унутраную патрэбу ў выказванні сваіх думак праз медыя. А для гэтага трэба адказаць на адно пытанне: «Чаму я павінен пісаць артыкулы ў СМІ?» Адгаворкі накшталт «часу няма», «гэта не мой абавязак», «я не пісьменнік», «не надрукуюць» і г.д. не прымаюцца. Час на занатаванне сваіх думак абавязкова знойдзецца, калі вы ўсвядоміце, што гэта ваш грамадзянска-педагагічны абавязак. Медыяадукатару не можа быць усё роўна, ён — барацьбіт, ён — голас педагагічнай грамадскасці. І літаратурныя здольнасці ў такім выпадку — гэта другасны фактар, першасны — жаданне. Выдатна нехта сказаў: калі ёсць жаданне, то знойдзецца тысяча спосабаў, калі ж яго няма, то адшукаецца тысяча прычын. А ад першага матэрыялу да другога, трэцяга абавязкова набудуцца патрэбныя ўменні.

У лістападзе мінулага года мы, члены клуба «Крыштальны журавель» і рэдакцыя «Настаўніцкай газеты», стварылі дадатак «Форум». Мы паставілі перад сабой мэту агучваць усе праблемы, якія існуюць у сістэме адукацыі Беларусі. У гэтым

месцы бачу скептычныя ўсмешкі на тварах некаторых чытачоў гэтага артыкула: маўляў, газета «міністэрская», надта там аб праблемах не пагаворыш… Яшчэ як пагаворыш. Важна ўмець гэта рабіць. У такой справе патрэбен такт, інтэлігентнасць, абгрунтаванасць. Нельга пісаць з пазіцыі «я адзін ведаю, як трэба, я самы разумны, а чыноўнікі невядома адкуль узяліся, толькі і мараць сістэму адукацыі краіны разваліць». Уважліва паназірайце за людзьмі, калі яны пачынаюць даказваць сваю праўду: адны крычаць, рукамі моцна жэстыкулююць, павышаюць голас… Як вы лічыце, якая ў іх мэта? Найперш звярнуць увагу на сваю персону: вось які я прыгожы і разумны. Ці не так? Калі чалавек хоча дасягнуць выніку, калі ён упэўнены, што мае рацыю па нейкім пытанні, то прывядзе шмат аргументаў на карысць сваёй думкі, будзе старацца тактоўна, каб не зачапіць чалавечую годнасць, усё патлумачыць. Яго мэта — не сябе такога разумнага і прыгожага прадэманстраваць, а зрабіць карысную справу. Важна не стаць крытыканам і абвінаваўцам, а этычна і даходліва патлумачыць свой пункт гледжання.

Папярэджваю ваша пытанне: «Што ж вашаму «Форуму» ўдалося зрабіць?» Для пачатку шмат чаго. Мне здаецца, што мы прымушаем сваім словам настаўніка думаць, што не ўсё ў руках работнікаў міністэрства, многае залежыць ад іх. Хто нічога не робіць, той нічога і не мае. Калі мы хочам пазітыўных перамен, то павінны іх рыхтаваць. Слова мае магутную сілу, калі ім правільна карыстацца. Бачу па «Форуме», як паступова настаўніцкія словы становяцца больш дакладнымі, трапнымі, чапляюць за розум і душу. І сярод нашых аўтараў ёсць сапраўдныя майстры пяра. Як толькі настаўнікі адолеюць свой страх перад публічным выступленнем, «Форум» стане сапраўднай пляцоўкай для дыскусій, як мы і задумвалі.

У нас ёсць суполка педагогаў, якія не толькі актыўна пішуць, а яшчэ і размаўляюць з калегамі пра артыкулы, надрукаваныя ў «Форуме», просяць іх аб зваротнай сувязі. Беларускаму настаўніку ў большасці сваёй, на вялікі жаль, усё роўна, ён нічога не чытае, мала чым цікавіцца (акрамя свайго заробку), таму ўяўляеце, якая перад намі стаіць складаная задача?! Я спытала ў аднаго з актыўных аўтараў «Форуму» кандыдата педагагічных навук Святланы Гін, чаму яна гэта робіць, чаму на кожную праблемную сітуацыю ў сістэме адукацыі ў яе нараджаюцца новыя радкі? Святлана Іванаўна адказала, што гэта яе абавязак, унутраная патрэба. З газетай яна пасябравала яшчэ ў дзяцінстве. Бацькі выпісвалі для дзяўчынкі шмат выданняў. Тады ж, у школьныя гады, яна стала супрацоўнічаць з рэдакцыямі, дасылаць туды свае першыя артыкулы. Гэтая яе добрая звычка захавалася на ўсё жыццё. Святлана Іванаўна супрацоўнічае не толькі з прафесійнай газетай, але і з іншымі рэспубліканскімі СМІ. Яе вострыя словы гатовы надрукаваць многія выданні. Асобныя свае артыкулы Святлана Іванаўна сабрала ў брашуру і назвала яе «Уголас аб школе». Знайшліся тыя, хто ацаніў яе крок як жаданне паганарыцца сваёй творчасцю.

Яны так лічаць, бо не могуць уявіць, што ёсць апантаныя людзі, якія любяць сваю прафесію, свой народ, сваю радзіму. І на сваім узроўні са сваёй магчымасцю імкнуцца змяніць наша, а не толькі сваё жыццё да лепшага. А вы?

**Як ёсць пачатак, будзе і канец**

Калі вы раней ніколі не пісалі артыкулаў, то я параіла б папрактыкавацца наступным чынам: пісаць каментарыі на матэрыялы, надрукаваныя ў газеце, інтэрнэце. Яшчэ абавязкова ўвайсці ў групу медыяадукатараў на Facebook, чытаць матэрыялы, прапанаваныя ўдзельнікамі суполкі, пакідаць свае меркаванні і самому шукаць цікавую інфармацыю па тэме, пісаць рэкамендацыі. Можна таксама завесці блог і пісаць туды невялікія замалёўкі з убачанага, пачутага, перажытага…

Пасля такой практыкі можна брацца і за артыкул. І тут варта ўзгадаць, як нас вучылі ў дзяцінстве пісаць сачыненні. Прынцып адзін і той жа. Усё пачынаецца з Яго Вялікасці Плана. Ён можа быць такі, напрыклад, як карта розуму (для гэтага варта знайсці кнігі Тоні Б’юзана і пачытаць іх), ці традыцыйны, па пунктах. У плане важна адказаць на некалькі пытанняў:

1. Якая асноўная думка артыкула (што я хачу данесці чытачам, што яны атрымаюць ад майго матэрыялу)?

2. Якія факты, гісторыі, цытаты могуць увайсці ў тэкст?

3. Якія парады можна даць чытачу па тэме, якую я ўзнімаю ў матэрыяле?

4. Якую выснову зрабіць у канцы артыкула?

Пад кожным пунктам плана можна занатоўваць коратка свае думкі: не трэба прытрымлівацца парадку, што ў галаву прыходзіць, тое і пісаць.

Калі прыступіце да напісання, старайцеся пісаць як мага хутчэй, не звяртаючы ўвагі на сінтаксіс, правапіс, на сувязь паміж абзацамі. Праганіце ад свайго камп’ютара ўмоўнага настаўніка беларускай мовы ці кіраўніка з яго павучаннямі, якія толькі перашкаджае вашай думцы. Вы рыхтуеце чарнавік. Галоўнае — падтрымліваць энергію думкі. Пасля таго як вам падасца, што больш не засталося ў галаве ніводнага слова, сказа, варта пагуляць, пераключыць увагу на нешта іншае, а пасля перапынку можна ўзяцца за чыстку слоў, косак. Калі адчуеце, што выпраўляць ужо нібыта няма чаго, зачытайце свой артыкул уголас — адразу адчуеце, дзе яшчэ можна папрацаваць, або пакажыце тэкст сябру, каб ён выказаў сваё меркаванне. Не забудзьце падзякаваць сабе за работу, парадавацца за сябе!

Заўсёды, калі пішыце, уяўляйце сваіх чытачоў — мэтавую аўдыторыю. Пісаць трэба проста, каб вас зразумелі ўсе. Недзе чытала, што рэдактар аднаго

выдання, перш чым надрукаваць у газеце складаны тэкст, даваў яго пачытаць прыбіральшчыцы. Калі тая добра яго ўспрымала, то пускаў у друк. Калі хочаце, каб ваша слова зразумела большая колькасць людзей і ім не трэба было лезці ў тлумачальны слоўнік ці звяртацца да Google, то пішыце проста.

На сваім вопыце пераканалася, што калі мне асабіста цікава тэма, на якую я пішу, то дакладна, што і некага з чытачоў яна зачэпіць. Мая захопленасць абавязкова перадасца праз слова, рытм тэксту, а не толькі праз змест. Захапіцеся сваёй тэмай!

Артыкул не павінен быць вялікім. Як нам казаў у летняй школе па медыяадукацыі ў Швецыі рэдактар аднаго вядомага мясцовага штодзённага выдання, тэкст павінен быць не больш за 4 тысячы знакаў, каб не стаміць чытача. Вядома, артыкул павінен быць карысным для чытача.

Калі наб'ецца рука, выпрацуецца ўласны стыль, сыдзе страх перад публічным выкладаннем сваіх думак, перад негатыўнымі каментарыямі на іх, можна наводзіць сувязь з рэдакцыяй.

**Усе тэмы добрыя — выбірай любую**

Часта ў навічкоў узнікае пытанне, пра што напісаць. Пра набалелае — для яго словы самі сабой знаходзяцца. Што вас хвалюе ў гэты момант, над чым вы разважаеце, што абмяркоўваеце з калегамі? Раскажыце, як медыяадукацыю прынялі ў вашай школе дзеці, калегі, бацькі; як рэалізаваць яе ў сваім класе праз свой прадмет.

Калі ж галава зараз свабодная ад праблемных думак, то я магу за вас толькі парадавацца і прапанаваць наступнае. Прагледзець розныя СМІ, што яны пішуць пра адукацыю, абмяркоўваюць. Магчыма, чыесьці погляд, думка, слова, факт узварушаць вас, закрануць асабістае, з'явіцца жаданне выгаварыцца. Я параіла б завесці нататнік для запісу ідэй. Тэмы для будучых артыкулаў могуць быць пачуты ў грамадскім транспарце, у чарзе, прачытаны ў СМІ, агучаны ў калектыве. Важна слухаць, аналізаваць, уяўляць і шмат чытаць. Уважліва аналізуйце падзеі, якія адбываюцца ў вашым калектыве, класе, школе штодня. Магчыма, вам упершыню было цікава знаходзіцца на педагагічным савеце і вы выступалі на ім. Вашы вучні падказалі тэму для абмеркавання. Любая школьная падзея можа стаць падставай для таго, каб узяцца за пяро. Нават самая традыцыйная. Кожны новы дзень у нас розны, не падобны да іншага, але і гэта трэба ўбачыць. Я сказала б нават так: людзі не вельмі жадаюць бачыць перамены. Найперш таму, што яны нязначныя, ці не вельмі хочацца сябе напружваць разважаннямі, аналізам.

Вось не хочуць усе школы збіраць макулатуру, маўляў, не іх гэтая справа. А я ведаю дырэктара, які гэтую «абавязалаўку» ператварыў у школьную традыцыю,

нават сямейную. Усе бачаць у зборы макулатуры толькі адмоўнае — прымус, а ён змог данесці да кожнага педагога, а тыя — да бацькоў і вучняў, што гэта наша з вамі агульнае багацце — лес, і мы яго вартаўнікі, мы яго абаронцы. У кожнай сям'і выдзелена асобная скрынка для непатрэбных папер. Як толькі яна збіраецца поўная, макулатуру пакуюць і адносяць у школу, дзе на вахце ўзважваюць і адзначаюць, хто колькі прынёс. Якая карысць сям'і? Усе — і дарослыя і дзеці — вучацца асобнаму збору смецця, эканоміі, прывыкаюць да парадку і беражлівасці. Школе добра — выконвае план, зарабляе грошы і выхоўвае экалагічна адукаваных дзяцей.

Трэба ў звычайным, штодзённым бачыць незвычайнае, знайсці адкрыццё, на звыклае паглядзець пад новым ракурсам.

Напішыце пра свайго калегу. Пра таго, хто заслугоўвае добрых слоў, каб пра яго ведалі педагогі краіны. Пры падрыхтоўцы замалёўкі пра калегу вы абавязкова будзеце мець з ім зносіны, зможаце ўжо як журналіст запытацца ў яго пра ўсё, аб чым раней, магчыма, саромеліся. Апісваючы свайго калегу, міжволі будзеце параўноўваць яго думкі са сваімі, шмат новага адкрыеце нават у сабе — праверана на вопыце.

Яшчэ адна знаходка па пошуку тэм — выступленні TED. Выступленні, якія за два дзясяткі хвілін здольны прымусіць вас задумацца, пасмяяцца, натхніцца і нават расплакацца. TED — гэта канферэнцыя, якая ўжо больш за дваццаць гадоў запрашае на сваю сцэну таленавітых і разумных людзей, гатовых дзяліцца сваім вопытам. Падборку відэаролікаў з TED-канферэнцый можна лёгка знайсці ў інтэрнэце. Большасць іх англамоўныя, але ёсць пераклад. Вось цікавыя меркаванні адтуль: «Рыта Пірсан: «Дзеці нічому не навучацца ў тых, хто іх не любіць». «Мне не плацяць за тое, каб я любіла дзяцей. Мне плацяць за тое, каб я вяла ўрокі. Я выкладаю — яны вучаць. Гэтага дастаткова», — неяк сказала Рыце Пірсан адна з яе калег. На што Рыта адказала: «Яны нічому ў цябе не навучацца, а твая работа заўсёды будзе цяжкая, балючая». Так і ёсць. Сапраўдны настаўнік вучыць не толькі сваёй прадметнай дысцыпліне, але і ўменню будаваць узаемаадносіны, знаходзіць узаемасувязі, а самае галоўнае — верыць у сябе. Рыта працавала ў складаных класах з нізкай паспяховасцю і расказвае пра тое, як дапамагчы палюбіць школу тым дзецям, жыццё якіх занадта рана вучыць іх быць дарослымі.

У Мінску таксама не так даўно адбылася TED-канферэнцыя. На жаль, мне не ўдалося на яе трапіць, але выступленні адтуль хутка з'явяцца ў сетцы. Пераканана, што, наслухаўшыся нетрадыцыйных думак людзей, ваш мозг таксама заварушыцца.

Першае, што вы можаце апісаць, — свой вопыт. Падумайце, па якім пытанні вы кампетэнтны, дзе можаце даць параду. Калі адчуваеце, што комплекс

непаўнацэннасці ці думка (пра гэта ўжо шмат разоў гаварылася) перашкаджае вам узяцца за пісьмо, то магу сказаць наступнае: і я ў гэтым артыкуле не адкрыла Амерыку, усе факты знаёмыя. Што зрабіла я? Апісала ўсё зыходзячы са свайго вопыту, настрою, пажаданняў заказчыкаў тэксту і яшчэ шэрага нязначных прычын. Заўтра я ўжо б напісала крышку іншы артыкул. Мой тэкст, магчыма, больш суб'ектыўны, чым хацелася б, але я не гуру па напісанні артыкулаў — чытала і лепшыя тэксты. Буду рада, калі ён вас натхніць на напісанне сваіх твораў. Ідэю вашага артыкула можа падказаць і рэдакцыя. Патэлефануйце і спытайце, над якой тэмай зараз працуюць журналісты, можа, патрэбны каментарыі. Журналіст зробіць свой артыкул, а вы пасля выхаду яго ў свет абмяркуеце яго з калегамі і зноў вернецеся да тэмы. Гэта выдатна, калі праблемныя пытанні апісваюцца шмат разоў, амаль да іх вырашэння. У тым і мэта публікацый.

**З кляймом «плагіятар»**

Для некага напісаць артыкул па актуальнай тэме прасцей за ўсё: зайшоў у інтэрнэт, знайшоў там артыкул на неабходную тэму (або некалькі) і перапісаў пад сябе. Аднак я вам скажу: не думайце, што гэты тэкст у інтэрнэце ніхто да вас не чытаў. Калі не хочаце, каб пачатак вашага творчага жыцця быў аклеймаваны плагіятарствам, не рабіце гэтага. Па-першае, некаторыя рэдакцыі вымушаны правяраць артыкулы на плагіят, па-другое, вы можаце запазычыць думкі іншага чалавека, за якімі не ўбачыце падтэкст, таму трапіце ў непрыемнае становішча, не кажу ўжо пра аўтарскія правы.

Аднойчы я прысутнічала на семінары-нарадзе па надзённым пытанні — аб статусе настаўніка. Мне вельмі спадабалася выступленне аднаго педагога — чалавека са стажам, з узнагародамі. Калі ж я выкарыстала яго словы ў сваім артыкуле, пасля выхаду газеты атрымала званок ад чытача, які абураўся, што словы не належаць гэтаму выступоўцу, ён іх запазычыў з тэксту такога вось аўтара, ёсць пацвярджэнне гэтага. І хоць я яго словы ўсяго толькі пераказала, мне было непрыемна. Атрымліваецца, што настаўнік узяў чужы тэкст і зачытаў яго — добра што эмацыйна. Таму я засцерагаю вас ад такой нядобрай практыкі, як плагіятарства.

Каб вас не абвінавацілі ў махлярстве, разумна выкарыстоўвайце звесткі з іншых медыя: рабіце спасылкі, што вы там прачыталі, тое ўбачылі. Для таго каб раскрыць тэму цікава і аб'ектыўна, вельмі важна чытаць артыкулы розных людзей па тэме, але ніколі не выдаваць іх за свае.

Я не хачу сказаць, што нельга нікога капіяваць. Як некалі сказаў вядомы мастак Пабла Пікасо, дрэнныя мастакі капіююць, а добрыя мастакі крадуць. Пад гэтымі словамі трэба разумець тое, што адны людзі проста бяруць чужое і ставяць сваё імя, а іншыя падглядваюць ідэю ў некага, вывучаюць яе, пераасэнсоўваюць, перапрацоўваюць — і атрымліваецца нешта новае, уласнае, унікальнае. Яно

прайшло праз вас — вашу душу, пачуцці, розум. Гэта ўжо новы прадукт. Вынайсці веласіпед вельмі складана. Пра ўсё ўжо даўно напісана. Але толькі вы можаце напісаць аб усіх рэчах па-новаму, калі будзеце пісаць ад свайго імя.

**Якое тваё імя?**

Многія аўтары пачынаюць пісаць свае артыкулы з загалоўка. У мяне бывае па-living рознаму. Здараецца, што спачатку нараджаецца імя матэрыялу, за ім ужо тэкст. А бывае, што тэкст ужо гатовы, а з загалоўкам яшчэ не вызначылася. Зразумела, варта спачатку паглядзець, якія загалоўкі выкарыстоўвае выданне, куды вы дашляце свой матэрыял.

Загалоўкі бываюць розныя. Напрыклад, просты, у якім ужо выкладзена асноўная навіна: «У беларускія школы вяртаецца профільная адукацыя». Адразу зразумела, аб чым хоча паведаміць аўтар навіны.

У 90-я гады мы ўсе зачытваліся загалоўкамі «Камсамольскай праўды», якія былі такія незвычайныя, гарэзлівыя. Расказвалі, што іх прыдумваў цэлы калектыў, людзей спецыяльна падбіралі. Яны больш нічым не займаліся — толькі прыдумвалі загалоўкі да тэкстаў. Сапраўды, загаловак напісаць бывае больш складана, чым тэкст. Гэта асаблівае мастацтва. Часта ў рэдакцыі ўключаем калектыўную думку і разам нараджаем імя твора.

Зараз папулярныя загалоўкі — гэта злёгку змененае ўстойлівае словазлучэнне. Напрыклад, «Крыўда — нішто, імідж — усё. Не дай сябе зняважыць», «Рубель вызначае свядомасць» — абодва артыкулы пра імідж педагагічнай прафесіі.

Можна знайсці ў падручніках па журналістыцы, што СМІ аддаюць перавагу традыцыйным загалоўкам: апавядальным, загалоўкам-паведамленням, загалоўкам-рэзюмэ, загалоўкам-цытатам, зваротам, заклікам, гульнявым загалоўкам і інш.

Магу параіць зайсці на сайт **http://zagolovki.ru/bestheaders** і паглядзець цікавыя загалоўкі, набрацца вопыту, папрактыкавацца.

Пасля загалоўка важна вялікую ўвагу ўдзяліць ліду (ад англійскага *lead* — «узначальваць», «весці»). Лід — лідар. Яго задача, як і загалоўка, — выхапіць чытача з яго думак, прымусіць паглыбіцца ў чытанне. Лід — самы важны абзац у тэксце. Сучаснаму чалавеку прапаноўваецца такі вялізны аб'ём інфармацыі, што яму няма часу вывучаць усе тэксты, ён па першым жа сказе павінен вызначыцца, ці варта на вывучэнне гэтых слоў траціць свой час. Менавіта пасля чытання ліда многія вырашаюць, чытаць ім матэрыял або лепш перайсці да іншага. Піяршчыкі расказваюць пра лід-якар — пра інфармацыю, якая б зачапіла чытача і паабяцала яму задавальненне ад чытання. Я ў гэтым тэксце выкарыстала лід-выклік. Запыталася так: «Вы медыяадукатар і не супрацоўнічаеце з рэдакцыяй, не пішаце артыкулы — тады вы дрэнны медыяадукатар». Хто з чытачоў майго

матэрыялу знаходзіцца на стадыі пробы пяра, той, магчыма, вырашыць уцягнуцца ў тэкст, бо захоча пацвярджэння сваіх думак, што трэба пісаць. А нехта, зразумела, падумае, маўляў, вось яшчэ адна настаўніца знайшлася, зараз дачытаю, што яна там прапануе, і напішу ёй свой злосны каментарый, хай ведае, што мы разумнейшыя за яе. І ў першым, і ў другім варыянце мэта дасягнута. Я была ўзнагароджана вашай увагай, за што вам вялікі дзякуй. Тут ужо мая задача зрабіць усё, каб вашы вочы дайшлі і да гэтага сказа, і да кропкі ў канцы артыкула. А галоўная мэта — узяліся за напісанне свайго матэрыялу. Такім чынам, лід павінен уцягваць чытача ў знаёмства з тэкстам, ствараць уражанне рабіць гэта неадкладна. Яшчэ парада: не пішыце вялікіх лідаў, максімум тры сказы. Вялікія матэрыялы (больш за тры тысячы знакаў) варта падзяліць падзагалоўкамі. Падзагалоўкі — тое ж самае, што і загаловак, можна так сказаць. Яшчэ не забудзьце вызначыць вынаскі. Туды ўвайдуць вашы самыя яркія, цікавыя думкі з матэрыялу. Яны застануцца ў тэксце, але яшчэ будуць візуальна вылучацца з яго. Добра зрабіць інфаграфіку, калі вы ў тэксце выкарыстоўваеце шмат статыстычных звестак. Мы, чытачы, у большасці сваёй візуалы, нам так прасцей складваць усю інфармацыю ў галаве.

Калі вы хочаце, каб ваш матэрыял выдатна выглядаў на газетнай паласе, падумайце над тым, якая фотаілюстрацыя яго будзе суправаджаць, упрыгожваць і дапаўняць. Вядома, што вёрсткай вашага артыкула будуць займацца спецыялісты рэдакцыі, але і вы можаце выказаць свае пажаданні.

**Знайсці свайго рэдактара**

Часта ад настаўнікаў даводзіцца чуць пакрыўджаныя словы, маўляў, падрыхтаваў артыкул, даслаў у рэдакцыю — ён там і пахаваны быў. Мая рэакцыя на такія словы заўсёды аднолькавая: а вы ў рэдакцыю тэлефанавалі (заходзілі), цікавіліся, ці дайшоў ваш тэкст да адрасатаў, пыталіся, як яго ацаніў рэдактар? Не? Дык чаму тады крыўдуеце? Прычын, чаму рэдакцыя праігнаравала ваш твор, можа быць шмат. Напрыклад, электронная пошта можа недапрацаваць — і ваш артыкул не дойдзе да адрасата ці трапіць па нейкіх прычынах у спам, а там яго дакладна не ўбачаць (у мяне так было не раз); рэдактар можа палічыць, што ваш артыкул пакуль не актуальны, таму трэба крыху пачакаць. Канечне, могуць быць нядбайныя работнікі рэдакцыі — і ваш артыкул згубіцца ў кучы аператыўных штодзённых рэдакцыйных абавязкаў… Але ж і вы не павінны быць абыякавымі. Тэлефануйце, цікаўцеся лёсам свайго твора, пытайцеся, што можна зрабіць, каб ён быў надрукаваны. Памятайце, што я пісала ў пачатку артыкула: калі вы хочаце дасягнуць мэты, то выкарыстоўваеце ўсе рэсурсы, каб вашы словы былі надрукаваны. Хто толькі крыўдуе і лаецца, той свайго не дасягае. Лічу, што калі чалавеку нешта трэба, сапраўды трэба, то ён гэта атрымае. Унутраная матывацыя дапамагае пераадольваць усе цяжкасці. Запомніце: вам гэта трэба! Вашы словы годныя таго, каб іх пабачыў свет!

А яшчэ я параіла б вам знайсці свайго супрацоўніка ў рэдакцыі, таго, чый стыль пісьма, падача матэрыялаў, тэматыка публікацый вам падабаецца. Для гэтага, безумоўна, трэба чытаць газету (часопіс), у якім вы плануеце друкавацца. Многія рэспубліканскія СМІ практыкуюць напісанне e-mail сваіх работнікаў пад артыкуламі. Напішыце свайму журналісту па пошце, патэлефануйце, дамоўцеся аб сустрэчы, пакажыце свой твор, атрымайце кампетэнтныя парады. Спытайце ў свайго журналіста пра патрабаванні газеты да фармату тэксту, колькасці знакаў, рубрык, назвы артыкулаў, напісання лідаў.

**Цярпліва, карпатліва, доўга і з захапленнем**

Як кажуць, толькі ў казцы ўсё добра і хутка атрымліваецца. У журналісцкім жыцці ўсё залежыць ад практыкі, практыкі і яшчэ раз практыкі. Аўтарскі стыль выпрацуецца абавязкова. І масцітых пісьменнікаў і журналістаў некалі правілі і перапісвалі рэдактары, але яны не здаваліся. І вам раю быць настойлівымі. Аднаго таленту не хопіць, каб стаць таленавітым журналістам, трэба мець вялікую працаздольнасць, каб шукаць цікавыя тэмы, суразмоўцаў, экспертаў. Людзі жадаюць бачыць нешта арыгінальнае. Не чакайце, што ваш твор адразу ацэняць на выдатна. Вы не мастак, вы толькі вучыцеся, хоць і мастакам ой як сёння дастаецца! Галоўнае — ваш пасыл. Вы хочаце змяніць свет у лепшы бок. Ва ўсякім разе, я пісала менавіта з такім настроем — дапамагчы, як умею сама, людзям паверыць у сябе, што яны могуць напісаць тэкст, які знойдзе станоўчы водгук, падказаць, як можна зрабіць першы крок у журналістыцы, што для гэтага не абавязкова заканчваць Інстытут журналістыкі. Журналістыка — гэта не дыплом, а жаданне данесці да людзей аб’ектыўную інфармацыю, гэта вялікая карпатлівая праца па зборы фактаў, па адборы неабходных слоў, маляванні патрэбных вобразаў. А яшчэ гэта захапляльнае жыццё, якое штодня вымушае думаць над рознымі рэчамі, пытацца меркавання розных людзей, шукаць ісціну.

Жадаю вам радасці ад пісьма, творчасці! Запрашаю вас у мас-медыя!

### 4.2.3. Як стварыць і весці блог

Блог — гэта своеасаблівы інтэрнэт-дзённік, дзе аўтары пішуць артыкулы або змяшчаюць іншыя формы медыятэкстаў для агульнага прагляду. (Бываюць відэаблогі, фотаблогі і г.д.)

Для таго, каб весці блог, не абавязкова мець уласны сайт ці акаўнт у сацыяльнай сетцы. Практычна ўсе масавыя выданні маюць калонку блогаў, дзе кожны чытач можа стварыць сабе старонку. Як правіла, блогі не рэдагуюцца, але не кожны запіс выстаўляецца рэдактарам на галоўную старонку.

Сайт nastaunik.info таксама мае калонку блогаў, і кожны настаўнік, бацька ці маці вучня, можа стаць блогерам сайта. Вось, напрыклад, блог настаўніка

матэматыкі Міхася Булавацкага, дзе ён дзеліцца з чытачамі сваімі думкамі пра адукацыю, матэматыку.

настаўнік.info

Метадычны дапаможнік | Грамадзянская адукацыя | Педагагічная майстэрня | Для школьных святаў | Бацькі і дзеці | Медыякомпас | Нацыянальная адукацыя і выхаванне | Карысная інфармацыя

Галоўная старонка » Blogs » Мой блог

Блог Міхась Булавацкі

Мова мая няродная!

Міхась Булавацкі
28.05.2014

Роздум беларуса пра расейскую мову:
нялюбыя літары - нялюбая мова?
каму зычаць дэманстранты смерці?
мат як элемент расейскай культуры?..

больш падрабязна | 2 каментары | дадаць каментар

Матэматыка супраць інфармацыйных качак

Міхась Булавацкі
15.11.2015

Апошнім часам у медыя з'яўляецца шмат "інфармацыйных качак", якія дапамагае выкрыць простая школьная матэматыка.

З аповесці расійскага пісьменніка Вячаслава Кандрацьева: *"Сталі яны па чатыры ў рад і пайшлі. Чалавек трыста іх было, вось і расцягнулася калона на паўкіламетра..."*

больш падрабязна | 2 каментары | дадаць каментар

Лісты казанскай настаўніцы, або Мары пра новую школу

Міхась Булавацкі
18.04.2015

... голад на новую інфармацыю, на новыя ідэі быў такім вялікім, што настаўнікі гатовы былі ашчаджаць вялікую частку сваёй уласнай зарплаты, каб яго задаволіць. Сёння ўявіць такое немагчыма: у настаўнікаў паступова вытраўляюць памкненні да ўдасканалення якасці сваёй працы, бо вышэй цэніцца зусім іншае, якое раней было другасным.
Я не настальгую па СССР – гэтая дзіка пачварная дзяржава і павінна была сыйсці ў нябыт. Але я настальгую па тым настаўніцкім энтузіязме, які ахапіў савецкіх настаўнікаў у 80-я гады.

больш падрабязна | дадаць каментар

Агляд адукацыйных навінаў

21.04.2016
Лукашэнка: Трэба прымусіць настаўніка такі ж час, як у школе, быць у сям'і свайго вучня
Лукашэнка: Увядзенне рэлігійнай адукацыі ў школах не плануецца
Лукашэнка даручыў збліізіць зарплаты маладых і дасведчаных настаўнікаў
Навучальныя планы сярэдняй школы за гэты і наступны навучальныя гады: параўноўваем
Новы «Гарбузік» прэзентуецца ў «Кніжнай Шафе» – 30 красавіка
14 мая абітурыенты змогуць наведаць адразу некалькі ВНУ

20.04.2016
Апляцыць ЦТ можна будзе ў інфакіёску
Міністр паставіў школе «сямёрку», ВНУ – «шасцёрку»

14.04.2016
Ці заменяць профільныя класы рэпетытараў?

Усе навіны

Апошняе з блогаў

Тамара Мацкевіч
Здаровы лад жыцця хворых людзей / 01.03.2016

Юрась Каласоўскі
Простыя рэчы / 17.02.2016

Міхась Булавацкі
Матэматыка супраць інфармацыйных качак / 15.11.2015

Усе блогі

Крыніца: **http://www.nastaunik.info/blogs/bulavacki**

Мы прапануем вам скарыстацца магчымасцю сайта **http://nastaunik.info/** і змясціць свой запіс у вашым блогу.

Для гэтага дастаткова напісаць запыт на адрас nastaunik.info@gmail.com, каб вам выслалі ўваходныя дадзеныя і пароль для вашай персанальнай старонкі. Вашы запісы пасля змяшчэння адразу будуць бачнымі для ўсіх чытачоў. Вы іх зможаце рэдагаваць, выдаляць, дадаваць новыя.

Блогі, як правіла, вядуцца з нейкай мэтай: камунікацыйнай, прафесійных зносін, самарэалізацыі, хобі... Бываюць мемуарныя блогі, фотаблогі, блогі могуць быць калектыўныя, напрыклад, блог класа ці метадычнага аб'яднання.



Падборка блогаў і сайтаў беларускіх настаўнікаў і вучняў: **http://www.nastaunik.info/info/links**

### 4.2.4. Як стварыць уласны відэаўрок

Відэаўрок — гэта ролік, які дапамагае настаўніку ў тлумачэнні новага матэрыялу або выкарыстоўваецца для таго, каб зацікавіць вучняў тэмай урока. У бліжэйшай будучыні відэаўрокі будуць мець вялікі ўплыў на навучанне. Набірае папулярнасць метад перакуленага класа, які прадугледжвае самастойнае засваенне новага матэрыялу дома, а падчас заняткаў дзеці паглыбляюць свае веды, рашаюць задачы, выконваюць практыкаванні. Для дамашняга задання настаўнік робіць падборку матэрыялаў па новай тэме, але зручней за ўсё мець файл-загатоўку (відэаўрок ці прэзентацыю). Гэты ж файл могуць дома прагледзець і вучні, якія хварэюць ці па іншай прычыне не наведваюць заняткі, каб не адстаць ад класа.



Прапануем паглядзець адзін з такіх відэаўрокаў, створаны Святланай Сяргеевай, настаўніцай гісторыі з Магілёва, для ўрока гісторыі Беларусі, 10 кл. Тэма «Межы Беларусі»: **https://www.youtube.com/watch?v=DZqRZhpwPVM**

Гэты ролік створаны на аснове праграмы «PowerPoint», якая добра знаёма кожнаму настаўніку. Вам толькі спатрэбіцца адзін раз настроіць сваю прэзентацыю, каб анімаваныя карцінкі змяняліся праз пэўны прамежак часу, а потым захаваць файл у фармаце відэа, а не звычайным .ppt. У гэты ж ролік можна дадаць відэа, гук з іншых файлаў, або запісаць іх самастойна, як зрабіла гэта Святлана.

Другая праграма, якая не патрабуе вялікіх навыкаў карыстання, гэта goanimate.com. Але яна мае недахопы. Бясплатнае карыстанне дазволена толькі на працягу 10 дзён пасля рэгістрацыі, атрыманы ролік будзе знаходзіцца ў інтэрнэце ўвесь час, спампаваць яго не вельмі лёгка, але магчыма.



Ролік «Пяць крокаў да актыўнай ацэнкі», зроблены з дапамогай праграмы goanimate.com: **http://goanimate.com/videos/0aZPpos51P-E?utm_source=linkshare&utm_medium=linkshare&utm_campaign=usercontent**

Банк відэаўрокаў, якія ствараюць беларускія настаўнікі для расійскай школы: **www.videouroki.net**

### 4.2.5. Як стварыць сучасную школьную газету

Калі вы маеце ці вырашылі стварыць школьную газету, падумайце пра яе ўплыў на вучняў. Калі школьная газета будзе створана па ўзору беларускіх дзяржаўных выданняў з цэнзурай, дазволенымі і недазволенымі тэмамі, (і прымусовай падпіскай :-)), то лепш яе не ствараць наогул. Такая газета толькі замацуе ў свядомасці маладых людзей стэрэатыпы, што медыйная прастора павінна кантралявацца, падстройвацца пад кан'юнктуру. Калі ж школьная газета будзе створана самімі вучнямі: з цікавымі ім тэмамі, рубрыкамі, расследаваннямі, захаваннем правілаў журналістскай этыкі, то яна можа вучыць дзяцей адказна карыстацца свабодай слова і наогул паказаць ролю прэсы ў грамадстве. Як жа стварыць такую школьную газету, каб яна спрыяла медыйнай граматнасці вучняў?

Прапануем вам у дапамогу *метадычны дапаможнік* «**Як стварыць сучасную школьную газету?**», аўтарства Сяргея Чарняўскага, які ў свой час кіраваў часопісам «5 балаў», прызнаным лепшым моладзевым часопісам Украіны. Пераклаў і адаптаваў кнігу да беларускіх умоваў і нормаў беларускага заканадаўства Юрась Каласоўскі — настаўнік і рэдактар газеты «Статус-КВО» Магілёўскай гарадской гімназіі №1.

Дапаможнік складаецца ажно з 19 невялічкіх раздзелаў, прысвечаных самым розным аспектам стварэння і выдання школьнай газеты. У кнізе паслядоўна разглядаецца ўвесь працэс стварэння школьнай газеты ад вызначэння мэтавай аўдыторыі і да вёрсткі і дызайну, а таксама распаўсюджвання і рэкламы газеты ў сацыяльных сетках.

**Змест дапаможніка:**

Што такое школьная газета?

Ці патрэбна рэгістрацыя школьнай газеты як друкаванага медыя?

Ці патрэбна рэгістрацыя сайта школьнай газеты як электроннага медыя?

Мэта стварэння школьнай газеты. Разнавіднасці школьных газет.

Мэтавая аўдыторыя школьнай газеты. Як мы вызначаем, што хоча чытаць мэтавая аўдыторыя школьнай газеты.

Сістэма нумара школьнай газеты.

Схема рэдакцыі школьнай газеты.

Змест (кантэнт) школьнай газеты.

Жанры школьнай газеты.

Рубрыкі школьнай газеты.

Крыніцы навін для школьнай газеты.

Як планаваць асноўную тэму нумара газеты.

Як прыцягнуць бацькоў да аўтарства ў школьнай газеце.

Як прыцягнуць вучняў да стварэння школьнай газеты.

Хто з настаўнікаў можа ўдзельнічаць у стварэнні газеты.

Фармалізацыя працэсу працы школьнай газеты.

Крыніцы фінансавання школьнай газеты.

Рэгістрацыя сайта школьнай газеты.

Рэгістрацыя і прасоўванне школьнай газеты ў сацыяльных сетках.

Дызайн і вёрстка школьнай газеты.

Тыповыя памылкі пры вёрстцы і падрыхтоўцы матэрыялаў школьнай газеты.

Газета падчас школьнага ўрока.

Конкурсы школьных газет.

Карысныя сайты і кнігі. Крыніцы інфармацыі



Спампаваць кнігу «Як стварыць сучасную школьную газету?» (pdf, 74 стар.): **http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/jak_stvaryc_skolnuju_hazietu_1.pdf**

#### 4.2.6. Карысныя спасылкі для стварэння медыятэкстаў



- Як стварыць рэкламу (антырэкламу): **https://sites.google.com/site/medyaadukatar/medyakantent/reklama**
- Як стварыць інфаграфіку: **https://sites.google.com/site/graficnyaservisydlagistoryka/etap-2/servisy-dla-stvarenna-infagrafiki**
- Як намаляваць гісторыю (скрайбінг): **https://sites.google.com/site/graficnyaservisydlagistoryka/etap-6/skrajbing**

- Як напісаць артыкул у Вікіпедыю: **https://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/f/f9/Wiki_dapamozhnik_offic_0.10beta.pdf**
- Сэрвісы для стварэння інтэрактыўных плакатаў: **https://sites.google.com/site/graficeskieservisyveb20/modul-4/3-etap-interaktivnyj-plakat**
- Просты і эфектыўны рэдактар YouTube: **https://edugalaxy.intel.ru/index.php?automodule=blog&blogid=44356&showentry=9301**
- Як запісаць скрынкаст з дапамогай YouTube: **http://lifehacker.ru/2016/03/04/youtube-screencast/**

*Тамара Мацкевіч*

## 4.3. Аўтарскае права ў інтэрнэце

Сцягваючы з інтэрнэта п’есу Купалы «Тутэйшыя», вы робіце добрую справу. А вось калі бясплатна пампуеце новы альбом Лявона Вольскага — вашы дзеянні, хутчэй за ўсё, нелегальныя.

У кожнага матэрыяла ёсць аўтар. Тое, што матэрыял выкладзены ў сетцы, не азначае, што яго можна ўзяць без запыту. Аўтарскія правы абазначаюцца адмысловым значком капірайту — «©» і дзейнічаюць пры жыцці аўтара, а таксама 70 гадоў пасля смерці. Толькі потым матэрыял пераходзіць у свабоднае карыстанне. А да таго часу гэты кантэнт або платны, або на падставе партнёрскіх пагадненняў з праваўладальнікамі можа знаходзіцца ў адкрытым доступе на пэўных сайтах, напрыклад, YouTube. Аўтары і / ці праваўладальнікі таксама атрымліваюць прыбытак ад распаўсюду кантэнту, часцей за ўсё за кошт рэкламы.

**Што варта ведаць пра ліцэнзіі Creative Commons**

Часта на творах, кнігах, сайтах, іншых матэрыялах замест значка капірайту мы бачым двайную літару «С».

**Creative Commons**, скарочана **CC** — некамерцыйная арганізацыя, якая стварыла бясплатныя для карыстання тыпавыя дагаворы, з дапамогай якіх аўтары могуць перадаць (часткова ці цалкам) свае творы ў адкрыты доступ для грамадства, а спажыўцы могуць легальна і свабодна карыстацца аўтарскімі творамі, не парушаючы аўтарскіх правоў.

Усе ліцэнзіі Creative Commons перш за ўсё маюць «базавыя правы», у склад якіх уваходзяць права на свабоднае выкарыстанне, капіяванне, распаўсюд у любой форме. Ёсць шэсць відаў ліцэнзій CC, кожны з якіх мае свае асаблівасці. Прыкладам, у некаторых выпадках вас просяць пры выкарыстанні пазначаць аўтарства, не змяняць твор ці карыстацца матэрыяламі толькі ў некамерцыйных мэтах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Attribution** by *Пазначэнне аўтарства* | **Share-Alike** sa *На тых жа ўмовах* | **Non-Commercial** nc *Некамерцыйнае выкарыстанне* | **No Derivative Works** nd *Без вытворных прац* |

На праве СС створаны такія сайты, як Вікіпедыя, Youtube або сайт **pixabay.com**, які дазваляе без абмежаванняў (ліцэнзія СС0) пампаваць і выкарыстоўваць фота і іншыя выявы ў добрай якасці для сваіх прэзентацый, сайтаў, блогаў.

Аўтарскія правы не распаўсюджваюцца на ідэі, метады, працэсы і спосабы вырашэння тэхнічных, арганізацыйных ці іншых задач, факты, мовы праграмавання.

Нават калі кантэнт не мае значка капірайту, сеткавы этыкет прадугледжвае ўказанне імя аўтара і спасылкі на арыгінальны тэкст. Калі сумняецеся, ці можна распаўсюджваць або выкарыстоўваць нейкі матэрыял, абавязкова спытайце згоды аўтара. І не забывайце дзякаваць іншым за прадстаўленую інфармацыю!

Калі вы знайшлі ў інтэрнэце матэрыялы, якія парушаюць вашы аўтарскія правы, паведаміце пра гэта.



Як паскардзіцца на парушэнне аўтарскіх правоў на YouTube:

**https://www.youtube.com/watch?v=afuw1NryxIM**

**https://support.google.com/youtube/answer/2807622**

Кейс. Настаўнік выйграў суд у Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, які абвінавачваў яго ў парушэнні аўтарскіх првоў у інтэрнэце:

**http://www.nastaunik.info/news/13984**
**http://www.nastaunik.info/news/14001**
**http://www.nastaunik.info/news/14255**



*Эла Якубоўская*

## 4.4. Як распазнаць плагіят?

*Плагіят — гэта адзіны від крадзяжу,*
*пры якім злодзей паведамляе сваё прозвішча.*

*Невядомы аўтар*

У энцыклапедычным слоўніку: плагіят — (ад лац. *plagio* — выкрадаю) — наўмыснае прысваенне аўтарства на чужы твор літаратуры, навукі, мастацтва, вынаходніцтва ці рацыяналізатарскую прапанову (цалкам або часткова). Прадугледжваецца крымінальная і грамадзянская адказнасць за парушэнне аўтарскіх і вынаходніцкіх правоў. Звычайна пад гэтым тэрмінам разумеюць неўнікальную інфармацыю, якую спрабуюць выдаць за сваю, парушаючы пры гэтым закон аб аўтарскіх правах. Спісванне — самы распаўсюджаны від плагіяту.

Настаўнікам варта вельмі сур'ёзна папярэджваць праявы плагіяту. Па-першае, каб нас саміх не лічылі за ідыётаў, якіх лёгка абдурыць, па-другое, вучні, якія прызвычаіліся пампаваць рэфераты ці спісваць задачы з «рашэбніка», могуць не ведаць, што ў прававых дзяржавах і замежных універсітэтах за адзіны факт падману ці спісвання можна пазбавіцца магчымасці вучыцца ва ўсіх ВНУ краіны. У інфармацыйным грамадстве пляма махляра можа суправаджаць плагіятара ўсё жыццё, перашкаджаць працаўладкаванню і кар'еры.

"On my honor, as a University of Colorado at Boulder student, I have neither given nor received unauthorized assistance on this work."

Крыніца: https://www.cs.colorado.edu/~rhan/plagiarism_policy.htm. Такой фразай (з абавязкам захоўваць Кодэкс гонару), пад якой стаіць уласны подпіс, пачынаецца кожная (!) работа студэнта ўніверсітэта Каларада.

Відавочна, што інтэрнэт з'яўляецца вялізным інфармацыйным рэсурсам з магутнымі пошукавымі сістэмамі, дазваляе адносна хутка і проста знаходзіць інфармацыю па запытанай тэме. Такая прастата пошуку і лёгкасць знаходжання досыць якаснай інфармацыі падштурхоўвае некаторых людзей да незаконных спосабаў выкарыстання чужой працы. Агульны аб'ём работ, якія публікуюцца

ў інтэрнэце, велізарны, таму без выкарыстання спецыяльнага інструментарыю часам бывае досыць складана вызначыць, ці сапраўды гэта аўтарскі тэкст ці плагіят. Праверыць тэкст на ўнікальнасць можна некалькімі спосабамі: з дапамогай спецыяльных праграм або з дапамогай сайтаў, якія маюць такія паслугі. Падобных сэрвісаў і праграм на самай справе вельмі шмат. Усе яны працуюць з рознымі параметрамі праверкі, з рознымі магчымасцямі і ўмовамі. Разгледзім толькі некалькі.

Спачатку праграмы для праверкі тэкстаў.

AdvegoPlagiatus Сайт: **http://advego.ru/plagiatus/**

Etxt Antiplagiat Сайт: **http://www.etxt.ru/antiplagiat/**

Карыстацца імі дастаткова проста: спачатку трэба скапіяваць тэкст у акно, затым націснуць кнопку праверкі. Праз некалькі хвілін ці секунд (у залежнасці ад аб'ёму) праграма выдасць вынік. Напрыклад, дадзены тэкст мае вынік 97 % унікальнасці, дастаткова добры (праграма знайшла некаторыя абароты, якія часта сустракаюцца на іншых сайтах). Сайты, дзе знайшліся такія ж часткі тэксту, адлюстроўваюцца ў ніжнім акне праграмы. Таксама можна правяраць на ўнікальнасць усе старонкі сайта, выдаючы падрабязную справаздачу па сайце. Трэба адзначыць, што праверка тэксту праграмай *Etxt Antiplagiat* доўжыцца больш, але правяраецца ён больш старанна. Звычайна ў гэтай праграме працэнт унікальнасці тэксту ніжэйшы, чым у шматлікіх іншых сэрвісах. Праграмы для праверкі ўнікальнасці тэкстаў дапамогуць вам, калі няма магчымасці скарыстацца *online* сэрвісамі з-за хуткасці інтэрнэт-злучэння ці не заўсёды ёсць магчымасць выхаду ў сетку.

Прыводзім сэрвісы, якімі карыстаецца большасць тых, хто правярае тэксты.

**http://www.content-watch.ru/text/**. Сэрвіс працуе дастаткова хутка. Рэгістравацца для праверкі на сайце не трэба. Пры наборы тэксту паказвае яго даўжыню (колькасць знакаў). Пасля праверкі пакажа ўнікальнасць тэксту і тыя адрасы, дзе ён знайшоў копіі. Вельмі зручна: магчымасць ігнаравання вызначанага сайта пры праверцы (карысна, калі вы правяраеце інфармацыю, якую размясцілі на сваім сайце, ці не скапіяваў яе хто-небудзь).

**http://www.antiplagiat.ru/**. Сэрвіс патрабуе рэгістрацыі (можна скарыстацца для ўваходу рэгістрацыяй у якой-небудзь сацыяльнай сетцы). Правяраць можна як тэкставы файл, загрузіўшы яго на сайт, так і проста тэкст, скапіяваўшы яго ў акно. Да кожнага тэксту, які вы загрузілі на сайт, будзе дадзена справаздача.

**http://istio.com/rus/**. Сэрвіс аналізу тэкстаў і сайтаў. Паказвае такія параметры, як даўжыня тэксту, найбольш частыя словы ў тэксце і іншыя карысныя дробязі. Дадатковай функцыяй сэрвісу з'яўляецца праверка тэксту на ўнікальнасць —

калі артыкул быў скапіяваны з інтэрнэту, то сэрвіс пакажа спіс сайтаў, на якіх можна яго знайсці.

Самы просты і даступны спосаб выявіць тыя сайты, якія запазычылі ў вас кантэнт. У любой папулярнай пошукавай сістэме (Google, Yahoo, Яндэкс, Rambler) уводзім у пошукавы радок частку тэксту, бярэм гэты тэкст у двукоссі, што на мове пошукавых сістэм азначае «знайсці поўную адпаведнасць», і глядзім вынік пошуку.

*Алена Палейка*

## 4.5. Бяспека ў інтэрнэце

Новыя тэхналогіі не толькі пашыраюць нашы магчымасці, але і ўтрымліваюць розныя рызыкі. Каб быць паспяховым і адказным медыястваральнікам, неабходна не толькі ўмець творча выкарыстоўваць медыясродкі, але заўсёды разглядаць гэты працэс у кантэксце:

- этыкі і каштоўнасцей у медыя-інфармацыйным асяроддзі;
- бяспекі ў медыя-інфармацыйным асяроддзі;
- правоў у медыя-інфармацыйным асяроддзі.

**Этыка і медыя**

Этычна ці неэтычна? Напрыклад, вялікую дыскусію ў медыя выклікала публікацыя гэтага (цяпер ужо сусветна вядомага) фота.




Крыніца: Reuters/Stringer.

**Ствараючы ўласны медыятэкст, трэба памятаць:**

Інтэрнэт — гэта публічная прастора. Па-першае, любая закрытая інфармацыя можа стаць шырока вядомай. Па-другое, публікацыі ў многіх супольнасцях першапачаткова адкрыты для ўсіх карыстальнікаў.

Большая частка інфармацыі, апублікаваная ў інтэрнэце:

- можа быць знойдзена праз пошукавікі;
- можа быць убачана велізарнай колькасцю людзей; можа быць скапіяваная, перасланая іншым;
- яе практычна немагчыма выдаліць, яна пачынае распаўсюджвацца ў той момант, калі яе ўпершыню публікуюць.

Людзі адразу губляюць кантроль над інфармацыяй, якую апублікавалі ў інтэрнэце, таму трэба думаць пра гэта загадзя.



Правілы карыстання сацыяльнымі сеткамі.

1. «Правіла бабулі»: не публікуй у сацыяльных сетках тое, што б ты не хацеў, каб ведала твая бабуля (а таксама мама, настаўнік, будучы працадаўца).
2. Ніколі не пішы ў сацыяльныя сеткі, калі ў цябе кепскі настрой, альбо ты ўзлаваны. Пачакай, пакуль эмоцыі схлынуць.
3. Не пішы ў інтэрнэце таго, што не зможаш сказаць чалавеку ў твар, стоячы перад знаёмымі.

Беларускія незалежныя журналісты склалі для сябе Маніфест сумлення і прытрымліваюцца правілаў прафесійнай этыкі. З імі можна пазнаёміцца ў Дэкларацыі прынцыпаў прафесійнай этыкі журналіста (БАЖ)*.

**А вось правілы, якія сфармуляваны ў навучальна-метадычным комплексе для настаўнікаў «Медыякод»**

**Публікуйце дакладныя навіны**

- Роля, якую адыгрываюць СМІ ў грамадстве, а таксама давер грамадскасці абавязваюць іх прадстаўляць дакладныя і аб’ектыўныя навіны (паведамленні).
- Неабходна крытычна ставіцца да крыніц навін. Правярайце дадзеныя настолькі старанна, наколькі гэта ўяўляецца магчымым у канкрэтных абставінах, нават калі гэтыя дадзеныя былі апублікаваныя раней. Дайце чытачу / слухачу / гледачу магчымасць адрозніваць факты ад каментароў.
- Зводкі і анонсы навін, загалоўкі і ўводныя раздзелы павінны мець тэкставы эквівалент.

* https://baj.by/be/prabaj

- Пераканайцеся ў сапраўднасці фота. Сачыце за тым, каб выявы і графічныя ілюстрацыі былі карэктнымі і не дэзарыентавалі. Шануйце правы на недатыкальнасць прыватнага жыцця.
- Будзьце асцярожныя, агалошваючы якую-небудзь інфармацыю, якая можа парушаць недатыкальнасць прыватнага жыцця.
- Заўсёды выяўляйце максімальна магчымую чуласць у адносінах да ахвяр злачынстваў і здарэнняў.
- Не прыцягвайце ўвагу да расы, полавай прыналежнасці, нацыянальнасці, роду дзейнасці, палітычнай арыентацыі або рэлігійных перакананняў, калі гэтыя падрабязнасці, якія тычацца пэўнай асобы, няважныя для кантэксту ці прыніжаюць чыю-небудзь годнасць.

**З асцярожнасцю выкарыстоўвайце малюнкі і фота**

- Пры мантажы ці апрацоўцы малюнка (фота) пры дапамозе электронных прылад, а таксама пры падборы тэксту подпісаў да выявы вынікам працы не павінен быць падмануты чытач. Заўсёды ўказвайце побач з фота, ці было яно зменена з дапамогай мантажу ці апрацоўкі. Тыя ж правілы дзейнічаюць у дачыненні да падобнага матэрыялу, які захоўваецца ў архіве.

**Прыслухоўвайцеся да меркавання кожнага з бакоў**

- Паспрабуйце прадставіць магчымасць аб'ектам крытыкі ў фактычным рэпартажы даць адказ на крытыку там жа. Імкніцеся да таго, каб думкі ўсіх зацікаўленых бакоў былі прадстаўлены.
- Памятайце, што перад законам чалавек, які падазраецца ў здзяйсненні правапарушэння, з'яўляецца невінаватым, пакуль не будзе даказана іншае. Зыход любой справы павінен быць паведамлены грамадскасці.

**Збор матэрыялу**

- Улічвайце слушныя прапановы асоб, у якіх бралі інтэрв'ю, з нагоды таго, як і дзе іх выказванні будуць апублікаваны.
- Асаблівую ўвагу надавайце тым асобам, якія не прызвычаіліся да інтэрв'юіравання. Паінфармуйце асобу, ці будзе інтэрв'ю апублікавана або гутарка вядзецца толькі для атрымання інфармацыі.
- Не падрабляйце інтэрв'ю ці фота.

- Не паддавайцеся вонкаваму ціску, які мае на мэце перашкодзіць правамернай публікацыі або абмежаваць яе.
- Выконвайце аўтарскія правы, а таксама правілы цытавання і публікацыі фатаграфій.

*Паводле матэрыялаў навучальна-метадычнага комплекса «Медыякод»* ***http://www.nastaunik.info/media?page=1***

**Кампетэнтнасць у галіне медыя-інфармацыйнай бяспекі**

У наш электронны век бяспека з'яўляецца вельмі складаным пытаннем. Па прычыне з'яўлення ўсё больш новых тэхналогій і звязаных з імі рызык, а таксама ўлічваючы навізну тэмы, скласці вычарпальны спіс кампетэнцый у гэтай галіне няпроста. Медыяграматнасць у галіне бяспекі перадачы інфармацыі ўключае кампетэнцыі:

- забеспячэння недатыкальнасці асабістага жыцця, абароны ад сеткавага кантролю;
- забеспячэння ананімнасці, бяспекі зносін, працы і камерцыйных здзелак;
- прадухілення залежнасці ад медыя і разумнага і бяспечнага выкарыстання медыя.

Згубныя наступствы ігнаравання пэўных аспектаў, звязаных з бяспекай выкарыстання медыя, могуць праявіцца вельмі хутка або толькі праз некалькі гадоў. Яны могуць быць адкрытымі (напрыклад, крадзёж важных дадзеных з неабароненага камп'ютара) або ўтоенымі (адсочванне кола сяброў праз сацыяльныя сеткі).

У кантэксце перадачы інфармацыі заўсёды неабходны кампраміс паміж выгодай і бяспекай, бо немагчыма прапанаваць нейкі набор парадаў для забеспячэння поўнай бяспекі. Аднак у такіх кампрамісах заўсёды варта кіравацца здаровым сэнсам. Вельмі важна таксама зразумець няўхільную ісціну: бяспека — гэта не пастаяннае становішча, а працэс. (Крыніца: Каталог медыя-інфармацыйных кампетэнцый. Лічбавая будучыня*.)

**Агрэсары і ахвяры інтэрнэту.**

Агрэсіўныя паводзіны — даволі распаўсюджаная з'ява як у рэальным жыцці, так і ў інтэрнэце, таму вельмі важна ўмець правільна ёй супрацьстаяць. Раней настаўніку з агрэсіўнымі паводзінамі дзяцей было спраўляцца лягчэй, усё адбывалася на вачах. Цяпер цкаванне перайшло ў кіберпрастору. Найбольш распаўсюджанымі формамі агрэсіі ў інтэрнэце з'яўляюцца тролінг і кібербулінг.

* https://drive.google.com/file/d/0B9VvtmwWQKEhV2YxMGJuUG11QWc/view

**Тролінг** (англ.: *trolling*) — размяшчэнне ў інтэрнэце (на форумах, вікі-праектах, інш.) правакацыйных паведамленняў з мэтай выклікаць канфлікты паміж удзельнікамі, узаемныя абразы і інш. Асобу, якая займаецца тролінгам, завуць тролем.

**Кібербулінг** — віртуальнае цкаванне.

У якасці агрэсара могуць выступаць як знаёмыя людзі, так і цалкам старонніх. Ахвярай кібербулінгу можа стаць кожны карыстальнік сеткі, незалежна ад яго ўзросту і полу, таму не варта саромецца і маўчаць, калі вы самі трапілі ў падобную сітуацыю. Часта бяздзейнасць ахвяры і беспакаранасць агрэсара яшчэ больш правакуюць на пераслед і цкаванне.

Пры сутыкненні з агрэсіўнымі паводзінамі трэба імкнуцца не паддавацца на правакацыі агрэсара, не спрабаваць правучыць яго, а звярнуцца за падтрымкай. Акрамя таго, варта выконваць шэраг правілаў зносін у інтэрнэце, каб даць рады кібербулінгу і самому не стаць тролем.



**Парады для пераадолення праблемы пераследу і цкавання ў віртуальнай прасторы (інфармацыя для вучняў):**

1. **Не спяшайся выкідваць свой негатыў у кіберпрастору.** Трэба раіцца з дарослымі, перш чым адказваць на агрэсіўныя паведамленні. Старэйшым дзецям: перш чым пісаць і адпраўляць паведамленні, варта супакоіцца, пачакаць, калі пройдзе злосць, крыўда, гнеў.

2. **Ствараў уласную онлайн-рэпутацыю, не купляючыся на ілюзію ананімнасці.** Хоць кіберпрастора і дае дадатковыя магчымасці адчуць свабоду і раскаванасць дзякуючы ананімнасці, дзіця павінна ведаць, што існуюць спосабы даведацца, хто стаіць за пэўным нікнэймам. І калі некарэктныя дзеянні ў віртуальнай прасторы прыводзяць да рэальнай шкоды, усё таемнае становіцца відавочным. Інтэрнэт фіксуе гісторыю, якая складаецца з публічных дзеянняў удзельнікаў, і вызначае онлайн-рэпутацыю кожнага — назапашаны вобраз асобы ў вачах іншых удзельнікаў. Заплямiць гэтую рэпутацыю лёгка, выправіць — цяжка.

3. **Неабходна захоўваць пацверджанне фактаў нападаў.** Калі дзіця вельмі знервавала паведамленне, малюнак, відэа і г.д., варта неадкладна звярнуцца за дапамогай да бацькоў і настаўнікаў, а старэйшым дзецям — захаваць ці раздрукаваць старонку самастойна, каб параіцца з дарослымі ў зручны час.

4. **Ігнаруй адзінкавы негатыў.** Аднаразовыя абразлівыя паведамленні лепш ігнараваць — часта кібербулінг з прычыны такіх паводзінаў спыняецца на пачатковай стадыі. Дасведчаныя ўдзельнікі інтэрнэт-дыскусій прытрымліваюцца правіла: «Лепшы спосаб барацьбы з неадэкватнымі — ігнор».

5. **Калі ты стаў відавочцам кібербулінгу**, правільнымі паводзінамі будзе:

   - выступіць супраць агрэсара, даць яму зразумець, што яго дзеянні ацэньваюцца негатыўна,
   - падтрымаць ахвяру — асабіста або ў публічнай віртуальнай прасторы прадаставіць ёй эмацыйную падтрымку,
   - паведаміць дарослым аб факце некарэктных паводзінаў у кіберпрасторы.

6. **Заблакуй агрэсараў.** У праграмах абмену паведамленнямі ёсць магчымасць блакавання паведамленняў з пэўных адрасоў. Паўза ў зносінах часта адбівае ў агрэсара жаданне працягваць цкаванне.

7. **Не варта ігнараваць агрэсіўныя паведамленні, калі лісты невядомага вам адпраўніка сістэматычна ўтрымліваюць пагрозы або парнаграфічныясюжэты.** У гэтым выпадку варта скапіяваць гэтыя паведамленні і звярнуцца да праваахоўнікаў. Калі абразлівая інфармацыя размешчана на сайце, варта зрабіць запыт да адміністратара для яе выдалення. (Крыніца: **http://psyfactor.org/lib/cyber-bullying.htm**)



**Карысныя спасылкі**

Прапануем праглядзець некалькіролікаў, створаных кампаніяй *Google*, дзе сцісла распавядаецца пра асноўныя правілы захавання бяспекі ў інтэрнэце. Гэтыя ролікі спатрэбяцца вам і пры працы з дзецьмі:

**https://youtu.be/3Ap1rKr0RCE**

**https://youtu.be/AMCsvZXCd9w**

**https://youtu.be/5YhdS7rrxt8**

Сямейны комікс-серыял «Прыгоды Супер-Піфа» раскажа пра тое, як засцерагчы сябе ў інтэрнэце. Як абараніць сваю

асабістую інфармацыю ад цікаўных вачэй, як зберагчы свае паролі, файлы, паштовыя скрыні ад нядобразычліўцаў, як засцерагчы «онлайн-фінансы» ад зламыснікаў і інш.: **http://www.nastaunik.info/workshop/it/9431**

Каталог медыя-інфармацыйных кампетэнцый. Лічбавая будучыня: **https://drive.google.com/file/d/0B9VvtmwWQKEhV2YxMGJuUG11QWc/view?pref=2&pli=1**

Як навчити дітей онлайн-безпеки: дев'ять інтерактивних ресурсів: **http://osvita.mediasapiens.ua/mediaprosvita/kids/yak_navchiti_ditey_onlaynbezpeki_devyat_interaktivnikh_resursiv/**

Интернет: возможности, компетенции, безопасность: Методическое пособие для работников системы общего образования. — М. : Google, 2013. : **http://detionline.com/assets/files/research/Book_Praktikum.pdf**

Займальныя мульцікі (2-3 хвіліны) па бяспецы ў інтэрнэце. Можна выбраць мову прагляду. Глядзець тут: **http://www.sheeplive.eu/**

Плакаты пра правілы паводзінаў у інтэрнэце і карысныя спасылкі ад рэсурса mediaktitika. by: **http://mediakritika.by/article/3634/eto-petya-petya-zhurnalist-eshche-ochen-umnyy**

Практикум «Безопасный Интернет»: увлекательные ўроки для школьников: **http://detionline.com/assets/files/journal/20/praktikym.pdf**

*Ала Лазіцкая*

# Раздзел 5. АБ СТВАРЭННІ СІСТЭМЫ МЕДЫЯАДУКАЦЫІ Ў СУЧАСНАЙ ШКОЛЕ

## 5.1. Перадумовы для стварэння ў школе сістэмы медяадукацыі вучняў

Ці ёсць яны, гэтыя перадумовы? Вядома ж, так. Звернем увагу на наступныя: а) наяўнасць педагагічнага досведу фарміравання медыяграматнасці і матывацыя настаўнікаў да яе ўкаранення; б) нарматыўнае прававое забеспячэнне медыяадукацыйнай дзейнасці.

Што рабіць настаўніку-медыяадукатару ў сваёй практычнай дзейнасці, многім педагогам зразумела. З кожным годам становіцца ўсё больш настаўнікаў, матываваных да набыцця і ўдасканалення медыякампетэнцый і фарміравання новых педагагічных ведаў. Яны з імпэтам шукаюць медыяпатэнцыял адукацыйнага зместу, спосабы яго ўвасаблення, імкнуцца максімальна выкарыстаць даступнае інфармацыйнае асяроддзе. Прастора для творчасці вялікая і неабсяжная, кожная з прапанаваных у папярэдніх раздзелах кнігі ідэй на практыцы дае пэўны вынік, які матывуе настаўніка і вучняў, натхняе на далейшае ўкараненне медыяадукацыі.

Але ж любая прафесійная дзейнасць мае шанец на поспех толькі пры ўмове яе мэтанакіраванасці і сістэмнасці. Таму пажадана стварэнне ў школе сістэмы медыяадукацыі, калі мы жадаем аб’яднаць намаганні і скіраваць іх на фарміраванне медыяграматнасці вучняў.

Як зрабіць, каб педагогі ўсвядомілі важнасць медыяадукацыі ў дзейнасці сучаснай школы? Нехта скажа: інавацыйныя пляцоўкі — першы грунтоўны крок. Так. Але толькі крок, дзе-нідзе вельмі аднабаковы ці толькі фармальны.

Паспрабуем зазірнуць у сярэднестатыстычную сярэднюю школу, дзе нехта нешта ведае пра інтэграцыю медыя ў адукацыйны працэс і робіць (часта нават паспяхова). Валодаючы пэўнымі ведамі пра медыяадукацыю як пра напрамак педагогікі і працэс фарміравання медыяграматнасці, культурна-асветніцкую ці грамадска-асветніцкую дзейнасць, кожны настаўнік зможа ўзгадаць, якія медыяадукацыйныя праекты здзяйсняюцца ўжо цяпер у яго ўстанове адукацыі

альбо рэгіёне. Прыкладаў бывае пералічана шмат: стварэнне і выкарыстанне прэзентацый (першае, што звычайна называюць), выпуск насценгазеты, інфармацыйныя гадзіны, удзел у конкурсах сачыненняў, эсэ, малюнкаў, публікацыі артыкулаў у газетах і на інтэрнэт-рэсурсах, стварэнне кадрапланаў, буктрэйлераў да літаратурных твораў, выкарыстанне іх экранізацый (маўляў, не чытаюць жа, няхай хоць паглядзяць!), нават рэпартажы на школьным радыё і тэлебачанні. Гэты спіс можна працягваць. Думаю, што кожны з вас цяпер таксама нешта ўзгадаў.

Апошнім часам маштаб гэтых падзей, фактаў урочнай і пазаўрочнай школьнай рэчаіснасці набывае ўсё большы размах. Добра, што тэхнічныя ўмовы дазваляюць, інфармацыйны век патрабуе адпавядаць, а творчы энтузіязм уласцівы і настаўнікам, і вучням заўсёды.

Ці маюць рацыю тыя з нас, хто перакананы, што мова ідзе пра медыяадукацыю? Не заўсёды. Калі дамовіцца, што вынікам медыяадукацыі з'яўляецца медыяграматнасць (медыякампетэнтнасць), то ўсё пералічанае і непералічанае мае дачыненне да медыяадукацыі толькі ў тым выпадку, калі накіравана на фарміраванне пэўных медыякампетэнцый (**http://www.ifapcom.ru/files/News/Images/2013/mil_cat_rus.pdf**), валоданне якімі, між іншым, і дазваляе якасна здзяйсняць творчыя праекты.

Такім чынам, ёсць пэўны, у большасці неасэнсаваны вопыт многіх настаўнікаў, скіраваны на фарміраванне ў вучняў тых або іншых медыйных кампетэнцый. Гэты вопыт мае станоўчае значэнне як сістэмаствaральная перадумова. Яна сведчыць пра тое, што засталося зусім недалёка да таго, каб гэтыя разнастайныя і шматлікія складнікі набылі ўсе характарыстыкі сапраўднай мэтанакіраванай, сістэмна арганізаванай дзейнасці ў школе.

Звернемся да **нарматыўнага прававога забеспячэння медыяадукацыйнай практыкі**. На якой падставе можна ўкараняць медыяадукацыю ў школе тым настаўнікам і кіраўнікам, якія ўжо ўсвядомілі, што гэта надзвычай актуальна і жыццёва неабходна?

Канцэпцыі медыяадукацыі ў нас няма. Пакуль няма. Сярод усёй нарматыўнай базы, якая рэгламентуе дзейнасць сучаснай сярэдняй школы, тэрміны «медыяграматнасць», «медыякампетэнтнасць», «медыякультура» наогул не сустракаюцца. Затое можна «вынайсці» пэўныя нарматыўныя патрабаванні, якія, на самай справе, спрыяюць стварэнню ўмоў для інтэграцыі медыяадукацыі ў адукацыйны працэс, надаюць медыяадукацыі характар пажаданага і неабходнага накірунку, ствараюць рамачную прастору для яе здзяйснення.

Далей — проста дайджэст дзеючых нарматыўных дакументаў, што дазваляюць стварэнне сістэмы медыяадукацыі і скіроўваюць адміністрацыю ўстаноў адукацыі і педагогаў на медыяадукацыйную дзейнасць.



1. У Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адукацыі (http://etalonline.by/?type=text&regnum=Hk1100243#load_text_none_1_) адным з асноўных патрабаванняў да выхавання (п. 4 арт. 18) адзначана «стварэнне ўмоў для **развіцця творчых здольнасцей** навучэнцаў, уключэнне іх у розныя віды **сацыяльна значнай дзейнасці**». Пры гэтым «асноўнымі складнікамі выхавання з’яўляюцца:

5. 1. **грамадзянскае** і патрыятычнае **выхаванне**, накіраванае на фарміраванне ў навучэнца **актыўнай грамадзянскай пазіцыі**, патрыятызму, прававой, палітычнай і **інфармацыйнай культуры**;

5. 3. **маральнае выхаванне**, накіраванае на далучэнне навучэнца да **агульначалавечых** і **нацыянальных каштоўнасцяў**;

5. 4. **эстэтычнае выхаванне**, накіраванае на фарміраванне ў навучэнцаў **эстэтычнага густу**, развіццё **пачуцця прыгожага**;

5. 5. **выхаванне культуры самапазнання і самарэгуляцыі асобы**, накіраванае на фарміраванне ў навучэнца **патрэбы ў самаразвіцці** і **сацыяльным узаемадзеянні**, псіхалагічнай культуры;

5. 11. **выхаванне культуры бяспечнай жыццядзейнасці**, накіраванае на фарміраванне ў навучэнца **бяспечных паводзін у сацыяльнай і прафесійнай дзейнасці, паўсядзённым жыцці**…»

Чым не прастора для медыяадукацыі?

Угэтымжадакуменцесяродасноўныхпатрабаванняўдаарганізацыіадукацыйнага працэсу названыя: забеспячэнне якасці адукацыі; **кампетэнтнасны падыход**; стварэнне ўмоў для развіцця творчых здольнасцяў навучэнцаў, заахвочванне іх да розных відаў сацыяльна значнай дзейнасці… (з арт. 91 Кодэкса аб адукацыі).

2. У Канцэпцыі непарыўнага выхавання дзяцей і навучэнскай моладзі ў Рэспубліцы Беларусь (http://adu.by/?p=7769) **пра паняцце *інфармацыйная культура*, змест** дзейнасці па яе фарміраванні, **умовы** фарміравання, **улік узроставых асаблівасцяў** гаворыцца ў пп. 20—24 у раздзеле «Ідэалагічнае выхаванне».

Адметна, што разам з успрыманнем інфармацыйнай культуры ў кантэксце камп’ютарнай і ІКТ-граматнасці (што ўласціва ўсім нарматыўным, інструктыўна-метадычным дакументам і правакуе такое ж успрыманне ў педагагічным асяроддзі наогул), зроблены акцэнты на адказнасць за распаўсюджванне інфармацыі, на ўменне крытычна ўспрымаць, ацэньваць і аналізаваць інфармацыю, стымуляванне актыўнасці і праяву творчай ініцыятывы навучэнцаў у практычнай дзейнасці, на забеспячэнне інфармацыйнай бяспекі. Упершыню ўжыты тэрмін ***медыяадукацыя*** як умова фарміравання інфармацыйнай

культуры (п. 23): «**выкарыстанне ў выхаваўчым працэсе рэсурсаў медыяадукацыі (СМІ: прэсы, радыё, тэлебачання, інтэрнэту)**».

3. Канцэпцыя інфарматызацыі сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь на перыяд да 2020 года (**http://giac.unibel.by/main.aspx?guid=14591**), акрамя тэхніка-тэхналагічнага падыходу да самога **працэсу *інфарматызацыі***, ужо звяртае ўвагу і на «актуальнасць адукацыйнай праблемы адаптацыі чалавека да жыцця ва ўмовах новага інфармацыйнага асяроддзя чалавечай цывілізацыі — інфасферы», дае **вызначэнне *інфармацыйнага грамадства*** як сучаснага этапу развіцця цывілізацыі, які адрозніваецца дамінуючай роляй ведаў і інфармацыі ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства, вырашальным уздзеяннем ІКТ на лад жыцця людзей, іх адукацыю і працу, а таксама на ўзаемадзеянне дзяржавы і грамадскасці.

4. Метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі і правядзенні інфармацыйных гадзін ва ўстановах адукацыі (**http://adu.by/?p=7769**) сцвярджаюць, што «навучыць карыстацца інфармацыяй, атрымліваць тую, якая будзе ўплываць на фарміраванне інтэлектуальных якасцей навучэнцаў, іх грамадзянскай пазіцыі, разумення свету, магчыма толькі ў тым выпадку, калі перад установай адукацыі пастаўлена **задача *сістэмна ўплываць на фарміраванне інфармацыйнай культуры навучэнцаў***».

Адзначана, што «навучэнцаў неабходна навучыць узважана ставіцца да матэрыялаў сумнеўнага паходжання, тэндэнцыйнасці, аднабаковай арыентацыі…»

«**Мэта *інфармацыйнай гадзіны***— дапамагчы вучням арыентавацца ў патоку падзей, выпрацаваць актыўную грамадзянскую пазіцыю, свядома ўдзельнічаць у грамадскім жыцці краіны, адстойваць асабістыя інтарэсы з улікам уласнай пазіцыі».

5. Канцэпцыі, стандарты, вучэбныя праграмы па прадметах прадугледжваюць працу з рознымі крыніцамі інфармацыі, **фарміраванне** такіх **метапрадметных кампетэнцый**, як пошук, усведамленне, асэнсаванне, аналіз, супастаўленне інфармацыі, яе ацэнка, інтэрпрэтацыя, стварэнне і інш. Далейшае — залежыць ад прафесіяналізму, матывацыі, творчасці настаўніка.

Такім чынам, можна працягваць і паглыбляць агляд нарматыўнай прасторы медыяадукацыйнай дзейнасці. Але… Трэба канстатаваць, што аднаго канцэптуальнага дакумента, які ўпарадкаваў бы тэрміналогію ў адпаведнасці з міжнароднымі тэндэнцыямі і падыходамі, вызначыў мэты, кірункі, формы і змест медыяадукацыі на нацыянальным узроўні, усё ж не хапае…



## 5.2. Кампаненты сістэмы медыяадукацыі вучняў і настаўнікаў

З якіх кампанентаў складаецца сістэма школьнай медыяадукацыі, адлюстравана ў мадэлі, што прапануецца ніжэй і мае хутчэй рэкамендацыйны характар. Яна заснаваная на асобасна-арыентаваным, сістэмна-дзейнасным, сінергетычным прынцыпах адукацыі. Укараненне такой мадэлі базуецца на семіятычнай, культуралагічнай і экалагічнай тэорыях медыяадукацыі, у першую чаргу на тэорыі крытычнага мыслення.

**Мадэль медыяадукацыі вучняў сродкамі развіцця крытычнага мыслення**

**Мэта:** высокі ўзровень медыяграматнасці і развіцця крытычнага мыслення вучняў

**Задачы**

**I ступень**
Вучні ***ведаюць***:
- што крыніцы інфармацыі бываюць розныя, як і інфармацыя ў іх
***умеюць***:
- шукаць неабходную інфармацыю;
- вызначаць галоўную думку (паведамленне);
- суадносіць змест звычайнага тэксту і аудыявізуальных тэкстаў

**II ступень**
Вучні ***ведаюць***:
- асноўныя тэарэтычныя паняцці, віды медыя, спосабы медыяўплыву
***умеюць:***
- адрозніваць факты ад іх інтэрпрэтацыі;
- дэкадаваць медыятэксты (у т.л. аўдыявізуальныя) на дастатковым узроўні;
- ствараць асобныя віды медыятэкстаў

**III ступень**
Вучні **ведаюць**:
- тэарэтычныя асновы медыяграматы;
- спосабы медыяўплыву;
спосабы ацэнкі дакладнасці інфармацыі
**умеюць:**
- працаваць з рознымі крыніцамі інфармацыі;
- дэкадаваць медыятэксты на высокім узроўні;
- ствараць розныя віды медыятэкстаў

апытанне, тэсціраванне, назіранне і г.д. — **дыягнастычны кампанент** — канстатацыя ўзроўняў медыяграматнасці

тэарэтычны складнік — **змястава-мэтавы кампанент** — практычны складнік

навучанне тэорыі | развіццё матывацыі паводзін | практычнае навучанне | творчая дзейнасць

даследванне ўзроўняў успрымання медыятэкстаў — **выніковы кампанент** — выніковае тэсціраванне ўмення крытычнага аналізу медыятэкстаў

**Вынік:** высокі ўзровень медыяграматнасці вучняў, развіцця крытычнага ўспрымання і аналіза медыятэкстаў розных відаў, жанраў; сфарміраваны медыя-інфармацыйны светапогляд

Пра змест модуляў гэтай мадэлі размова пойдзе ніжэй.

Трэба дадаць яшчэ некалькі словаў пра арганізацыйна-метадычнае суправаджэнне медыяадукацыйнай дзейнасці. Асаблівасць яе спецыфікі ў тым, што роля настаўнікаў не толькі ў рэалізацыі праекта, а, перш за ўсё, у павышэнні ўзроўню асабістай медыяграматнасці і ў авалоданні неабходнымі прафесійнымі кампетэнцыямі. Гэта павінна абумовіць дыферэнцыяцыю арганізацыйна-метадычнай дзейнасці, прадугледзіць выбар аптымальных формаў развіцця прафесійнай кампетэнтнасці педагогаў.

Не менш важна забяспечыць эфектыўнае кіраванне працэсам. У дадзеным выпадку адміністратыўны падыход не працуе на вынік. Толькі карпаратыўны. Дарэчы, практыка сведчыць, што ідэі медыяадукацыі спрыяюць стварэнню атмасферы даверу, супольнага ўзаемадзеяння, праявам ініцыятывы і творчасці ў калектыве, ствараюць умовы для развіцця школы як адкрытай адукацыйнай прасторы.

Слушна было б забяспечыць кансалтынг, унутраны (сіламі настаўнікаў-медыяадукатараў) і знешні (стасункі са знешнімі экспертамі), што дапаможа выявіць эфектыўнасць медыяадукацыйнай дзейнасці ў адпаведнасці з вызначанымі крытэрыямі яе ацэнкі і ўнесці своечасовыя карэктывы.

## 5.3. Аб вопыце стварэння ў школе сістэмы медыяадукацыі

Прадстаўлены ніжэй вопыт мае кантэкстны характар, паколькі адпавядае адукацыйным рэаліям, якія характарызуюцца адсутнасцю нацыянальнай канцэпцыі медыяадукацыі.

КРОК 1. Ствараем суполку аднадумцаў.

Як і ў любой справе, нехта павінен пачаць. Нехта вельмі зацікаўлены. Пачаць так прыгожа і годна, каб іншым, неабыякавым, захацелася ўключыцца ў справу. Хутчэй за ўсё, можа быць два сцэнары ангажавання педагогаў у праект (і абодва правільныя).

Першы (больш верагодны) — некалькі настаўнікаў зацікавяцца ідэяй медыяадукацыі, усвядомяць яе актуальнасць і неабходнасць. Яны будуць чытаць, шукаць, «адкрываць Амерыку», абмяркоўваць, спрачацца, пагаджацца, спрабаваць. Па закону варонкі яны зацікавяць яшчэ кагосьці з калег.

Другі (таксама верагодны) — на ініцыятыву нечакана адгукнецца шмат народу (з розных прычын — цікава, сучасна, актуальна, незвычайна, каб быць у трэндзе, нарэшце, я ж не горшы!). Але хутка-павольна нехта адсеецца, застануцца толькі сапраўдныя аднадумцы. І гэта добра. Гэта і будзе тая творчая каманда, што здолее арганізаваць працу.



КРОК 2. А навошта?

Насамрэч ён павінен быць першым. Маю на ўвазе мэтавызначэнне. Але ж адзін можа ставіць мэту толькі сабе. А для такой працаёмкай і сур'ёзнай спробы, як стварэнне сістэмы медыяадукацыі, — толькі разам.

Такім чынам, мэтавызначэнне. Пры гэтым трэба абавязкова ўлічваць некалькі нюансаў:

1. Аксіёма: медыяадукацыя — частка асноўных правоў кожнага грамадзяніна любой краіны. Што мы, на жаль, пакуль рэалізуем недастаткова. Акрамя таго, гэта адна з ключавых кампетэнцый сучаснага чалавека.

2. Не трэба вынаходзіць ровар. У розных краінах, далёкіх і блізкіх, назапашаны надзвычай разнастайны і грунтоўны вопыт укаранення медыяадукацыі. Мадэлі створаны, сістэмы працуюць і развіваюцца, не губляючы актуальнасці, бо медыяадукацыя — рэч невычарпальная. Застаецца толькі пазнаёміцца з імі, вызначыць, што прымальна для нас.

3. Абавязкова вучымся, асэнсоўваем паняцці *медыя, медыяадукацыя, медыяграматнасць (медыякампетэнтнасць), медыякультура* і іншыя, з якімі збіраемся працаваць. Гэта важна. Бо няслушны варыянт азначэнняў гэтых паняццяў скіруе вашу дзейнасць не зусім у патрэбным кірунку.

Распаўсюджаны дзве асноўныя памылкі ва ўсведамленні паняцця медыяадукацыя. Па-першае, часта медыяадукацыю асацыююць з інфарматызацыяй, таму яе мэтай лічаць навучанне выкарыстоўваць сучасныя камп'ютарныя і іншыя лічбавыя сродкі, праграмы, рэсурсы. Па-другое, лічаць, што медыяадукацыя скіравана выключна на дасведчанасць аўдыторыі пра механізмы дзеяння СМІ, магчымасці масавай камунікацыі наогул і наступствы яе ўздзеяння на грамадства.

Далучаючыся да калег-аўтараў гэтага выдання, хочацца адзначыць, што медыяадукацыя мае мэтаю навучанне адбору, інтэрпрэтацыі, аналізу і ацэнцы інфармацыі, дасягненне рэальнай незалежнасці ад медыя, пераўтварэнне навучэнцаў у паўнавартасных і адказных удзельнікаў камунікатыўных працэсаў у сучасным грамадстве. Ці згодныя вы?

4. Аналізуем свае ўмовы і магчымасці: нарматыўныя, матэрыяльныя, тэхнічныя, тэхналагічныя, кадравыя, метадычныя, зместавыя і іншыя. Шчыра адказваем на пытанні: Што мы маем? Што мы можам ужо зараз?

5. Фармулюем жаданы вынік, рэальна дасягальны ў канкрэтных умовах канкрэтнай школы за канкрэтны тэрмін. Гэта цяжка, але магчыма. Гэта і стане нашай мэтай, якую лепш разбіць на пакрокавыя задачы для кожнага этапу рэалізацыі. Памятаем, што мы гаворым пра дзейнасць усёй школы.

Што ж можа быць **мэтай**? Прыкладам, *фарміраванне медыяграматнасці*. Далей, *каго*? Вучняў, настаўнікаў, бацькоў? На дадзеным этапе не будзем распыляцца. Вызначымся: *вучняў*. Магчыма яшчэ дадаць: *праз што*? А калі *праз развіццё крытычнага мыслення*? Што атрымалі? Мэта стварэння сістэмы медыяадукацыі ў школе: ***фармірванне медыяграматнасці вучняў сродкамі развіцця крытычнага мыслення***.

Удакладнім гэту мэту. **Плануецца, што ў выніку вучні будуць ведаць:**

- асноўныя паняцці медыяадукацыі;

- метады і стратэгіі пошуку інфармацыі;

- адрозненні паміж фактам і меркаваннем, крытыкай (інтрэпрэтацыяй), чуткамі;

- адметныя асаблівасці медыятэкстаў рознага характару і прызначэння;

- спосабы маніпуляцыйнага ўплыву;

- правілы камунікацыі ў сацыяльных сетках.

**Будуць умець**

- свядома адбіраць крыніцы інфармацыі, вызначаць іх надзейнасць;

- адрозніваць факты ад іх інтэрпрэтацыі;

- эфектыўна і адказна карыстацца рознымі каналамі камунікацыі;

- дэкадаваць медыятэкст;

- ствараць медыятэксты рознага характару і прызначэння.

КРОК 3. Мадэлюем + праграмуем + кансалідуем намаганні.

Існуе шмат падыходаў да праектавання адукацыйнай дзейнасці. Мы не будзем іх разглядаць. Гэта шырокая прастора для творчасці. Няма мэты нікога абмяжоўваць. Далей будзе пра суб’ектыўны досвед, не ў якасці ўзору, а для разважання і абмеркавання.

Акрамя вызначанага намі ў папярэдніх кроках, неабходна канкрэтызаваць галоўнае: 1) хто што робіць; 2) кірункі дзейнасці і этапы рэалізацыі; 3) якія задачы будуць вырашаны пры гэтым (чаканы вынік кожнага этапу); 4) праз якія формы і змест; 5) па якіх крытэрыях і як вымераць вынік; 6) як абагульніць, сістэматызаваць, прэзентаваць вынікі; 7) хто і якім чынам будзе кансалідаваць дзейнасць усіх выканаўцаў-удзельнікаў. Вынікам адказаў на гэтыя выклікі стане **мадэль** (гл. п. 5. 2).

У нашым варыянце яна складаецца з трох **асноўных кампанентаў**:

1) **дыягнастычнага** (скіраваны на вызначэнне і канстатацыю ўзроўней развіцця медыяграматнасці і ўспрымання медыятэкстаў);

2) **змястоўна-мэтавага**, у тым ліку яго тэарэтычнага (вывучэнне асноўных паняццяў, тэрміналогіі, канцэптуальных падыходаў медыяадукацыі, спосабаў уплыву медыя на чалавека і г.д.) і практычнага (развіццё ўмення крытычна ўспрымаць медыятэксты, ствараць і прэзентаваць уласныя медыятэксты) складнікаў;

3) **выніковага** (выніковая дыягностыка, выяўленне тэндэнцый у працэсе фарміравання і развіцця медыякампетэнцый, канстатацыя вынікаў інтэграцыі медыяадукацыі).

Далей ствараем паэтапную праграму дзейнасці, для кожнага этапу фармулюем задачы. Напрыклад:

**Падрыхтоўчы этап**

Распрацаваць схему кіравання ўстановай адукацыі на перыяд укаранення мадэлі медыяадукацыі. Улічыць, што такое ўкараненне магчымае толькі пры супрацы адміністрацыі з дасведчанымі настаўнікамі, якія маюць лідарскія здольнасці ды схільнасць да медыяадукацыйнай дзейнасці.

Матываваць як мага больш настаўнікаў, аб'яднаўшы іх у ініцыятыўную (творчую, праблемную) групу.

Арганізаваць навукова-метадычнае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне медыяадукацыйнай дзейнасці.

**Дыягнастычны этап**

Вывучыць гатоўнасць і матывацыю настаўнікаў да ўкаранення мадэлі медыяадукацыі, зрабіць узроўневую дыягностыку іх прафесійнай кампетэнтнасці ў сферы медыяадукацыі.

Вызначыць узровень развіцця крытычнага мыслення і медыяграматнасці вучняў.

**Этап планавання**

Кіраўніцтву супольна з ініцыятыўнай групай інтэграваць медыяадукацыю ў вучэбныя прадметы і пазаўрочную дзейнасць на ўзроўні планаў і асобных распрацовак.

**Практычны этап рэалізацыі**

Забяспечыць павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў праз даступныя інструменты.

Далучыць бацькоў да супрацы ў павышэнні ўзроўню медыяграматнасці і крытычнага мыслення вучняў (і саміх жа бацькоў).

Укараніць медыяадукацыю ў розныя формы адукацыйнай дзейнасці.

**Падагульняльны этап**

Памераць узровень медыякампетэнтнасці вучняў.

Даследаваць дынаміку ўзроўню медыяграматнасці і развіцця крытычнага мыслення вучняў.

Зрабіць аналіз вынікаў медыяадукацыйнай дзейнасці.

Вызначыць больш эфектыўныя прыёмы і механізмы інтэграцыі медыяадукацыі ў адукацыйны працэс.

Абагульніць эфектыўны педагагічны досвед у медыяадукацыі.

Сістэматызаваць вучэбна-метадычнае і дыдактычнае забеспячэнне фарміравання тэарэтычных ведаў пра асновы медыяадукацыі, методыкі і тэхналогіі рэалізацыі медыяпатэнцыялу адукацыйнага працэсу.

Распрацаваць метадычныя рэкамендацыі да ўкаранення мадэлі медыяадукацыі ў сярэдняй школе.

Можна пайсці іншым шляхам. Не праектаваць дзейнасць на доўгі тэрмін, а абмежавацца адным годам (менш ужо нерацыянальна). Уводзіць у практыку дзейнасці ўстановы пэўныя напрамкі медыяадукацыі. У такім разе, адпаведна, і мэта, і праграма дзеяння будуць іншымі.

КРОК 4. Вымяральна-дыягнастычны

Існуе шмат анкет, апытальнікаў, дыягностык. Гэтым арсеналам добра валодаюць школьныя псіхолагі, якія адыгрываюць вельмі значную ролю ў працэсе рэалізацыі праекта. Для якаснага выніку трэба вызначыцца, што мы хацелі б вымераць / дыягнаставаць у адпаведнасці з крытэрыямі ацэнкі дзейнасці.

Калі важна даведацца, якімі крыніцамі інфармацыі карыстаюцца рэспандэнты, з чаго складаецца іх медыядзень, альбо колькі часу яны бавяць за камп’ютарам, з якой мэтай, то такі апытальнік можна скласці і самастойна. Для больш сур’ёзных вымярэнняў у адпаведнасці з распрацаванымі крытэрыямі ацэнкі падыходзіць толькі спецыяльны дыягнастычны інструментарый. Прыкладам, крытэрый *камфорт вучняў у існуючым медыяасяроддзі (узровень трывожнасці пры медыякантактах, успрымальнасць да маніпуляцыйнага медыяўплыву* дапамогуць вызначыць тэсты Спілбергера, Філіпса, крытэрый *узровень успрымання тэксту* — тэст Р. Амтгаўэра і г.д.).

Але ж, мабыць, асноўным дапаможнікам на гэтым этапе будуць тэсты, анкеты, апытанні, распрацаваныя А. В. Фёдаравым і яго калегамі (**http://window.edu.ru/catalog/pdf2txt/803/63803/34150?p_page=1**). Гэты інструментарый дазваляе праводзіць дыягностыку па ўзроўнях медыяграматнасці асобна альбо комплексна, у залежнасці ад вызначанай мэты.

Пажадана пачаць усё ж з дыягностыкі медыяграматнасці настаўнікаў. Бо самая асноўная перашкода ў стварэнні сістэмы медыяадукацыі — менавіта недастатковы ўзровень медыяграматнасці настаўнікаў, іх прафесіянальная і псіхалагічная непадрыхтаванасць (што цалкам натуральна). Таму наступны крок.

КРОК 5. Навучы+ся, бо не навучыш.

І тут усе апынуліся ў няроўных умовах, таму што ў настаўнікаў вельмі розная ступень паглыблення ў праблему: ад «што вы тут яшчэ навыдумлялі» да «гэта ж відавочна! гэта не проста цікава, а вельмі неабходна!» Першая праблема, якую трэба вырашыць, — выраўноўванне кампетэнцый, і метадычных, і медыйных. Калі не пераадолець гэтую супярэчнасць, пра стварэнне сістэмы прыйдзецца забыць. У выйгрышы стане ўстанова, дзе акадэмічная мабільнасць настаўнікаў — традыцыя, частка школьнага паветра. У іншых усё атрымаецца павольней. Якія магчымасці ў нас ёсць? Не такія ўжо і абмежаваныя… для матываваных.

Першае і галоўнае — самаадукацыя. Важна паставіць сабе правільную мэту. Матэрыялаў тэарэтычных і практычных у вольным доступе шмат. Стварыце сваю віртуальную медыячытанку. Акцэнтуйце ўвагу на выданні пра канцэптуальныя падыходы, практычныя мадэлі медыяадукацыі суседніх краін (вельмі цікавыя матэрыялы на сайтах **http://aup.com.ua/?cat=editions&subcat=library, http://www.ifap.ru/library/#08** і інш.).

Другое — магчымасці нацыянальнай сістэмы дадатковай адукацыі дарослых. Вельмі цікавыя і змястоўныя семінары, трэнінгі з удзелам лепшых беларускіх медыяпедагогаў ладзяць Нацыянальны інстытут адукацыі, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, некаторыя рэгіянальныя інстытуты развіцця адукацыі. У чэрвені 2015 года адбыўся аўтарскі медыяадукацыйны летнік Мікалая Запрудскага.

Трэцяе — патэнцыял нефармальнай адукацыі. Грамадскія аб’яднанні адукацыйнага кірунку (найперш Таварыства беларускай школы) прапануюць удзел у трэнінгах, сустрэчах, майстар-класах. Апошнім часам ТБШ вядзе некалькі дыстанцыйных курсаў, якія выклікаюць вялікую зацікаўленасць беларускіх педагогаў, дазваляюць у даволі кароткі тэрмін набыць пэўныя медыякампетэнцыі, здзейсніць першыя практычныя медыяадукацыйныя спробы пад кіраўніцтвам ментара, з дапамогай іншых студэнтаў, атрымаць

асалоду ад гэтай дзейнасці, упэўніцца ў яе актуальнасці, знайсці сяброўскую падтрымку.

Чацвёртае — узаеманавучанне. Ва ўстанове, што спрабуе ўкараняць сістэму медыяадукацыі, магчыма існаванне розных формаў узаемадзеяння: фокус-групы, творчыя, праблемныя групы, іншыя метадычныя фарміраванні, дзе можна раіцца, абмяркоўваць свае маленькія і вялікія знаходкі і спробы, назапашваць лепшае, сістэматызаваць яго, вызначаць далейшыя планы, перспектывы, рызыкі і г.д.

Пятае і, мабыць, не апошняе — інтэрнэт-пляцоўкі (прыкладам, Медыякомпас на **http://www.nastaunik.info/media/edu**, суполкі ў сацыяльных сетках, такія як «Медыяадукатар» на Facebook, Google+ і іншыя). Вельмі каштоўна, што там ёсць магчымасць публікаваць свае матэрыялы, абмяркоўваць іх, дзяліцца публікацыямі іншых аўтараў, спрачацца, прапаноўваць, атрымліваць вельмі каштоўны нефармальны досвед.

Яшчэ трэба сказаць пра міжнародныя летнія школы, адукацыйныя візіты ў іншыя краіны (Літву, Польшчу, Украіну, Чэхію, Швецыю), падчас якіх можна спасцігнуць рэальны вопыт медыяадукацыі не ва ўмовах укаранення, а ў рэжыме развіцця, вопыт, выпрабаваны дзесяцігоддзямі, вопыт настолькі арганічны ў сістэме адукацыі, што не заўсёды яго можна адасобіць ад адукацыйнага працэсу ўвогуле. А галоўнае — магчымасць зразумець, што мы на правільным шляху і ўжо шмат зрабілі для сваёй сістэмы медыяадукацыі.

Выснова: калі педагог мае патрэбу, калі адчувае, што гэта важна не толькі для яго асабіста, магчымасць знойдзецца. Але ж крочым далей!

КРОК 6. Інтэграцыя медыяадукацыі ва ўрок.

Кораценька аб бясконцым. Яскрава і markdownразнабакова распавялі пра гэты кірунак аўтары гэтага выдання. Прапанавалі методыкі, формы, змест. А колькі разынак медыяадукацыйных рассыпалі! Толькі збірай і здзіўляйся, што не дадумаўся раней, не заўважыў, не ўзгадаў.

Рыхтуючы ўрок, адкажам сабе на пытанні: якую медыякампетэнцыю на ім можна фарміраваць? на чым зрабіць акцэнт? што ўзяць у дапамогу? Мяркую, трэба ўсвядоміць, што ёсць два напрамкі стварэння медыянасычанага ўрока: агульны інфармацыйны кантэнт навучальнай праграмы і кантэнт інфармацыйнага асяроддзя па-за школай (друкаваных, лічбавых медыя, рэкламы, кіно, жывапісу, магчыма, проста аб'явы або паштоўкі і г.д.). Вызначыцца з медыяпатэнцыялам тэматычнага раздзела або асобнай тэмы дапаможа ўжо не раз згаданы Каталог навыкаў медыя- і інфармацыйнай граматнасці (**http://www.ifapcom.ru/files/News/Images/2013/mil_cat_rus.pdf**). У любым выпадку адбудзецца ўключэнне

медыякампетэнцый у сістэму ключавых кампетэнцый, прадугледжаных вучэбнымі праграмамі.

КРОК 7. Медыяадукацыя па-за ўрокам.

На жаль, у разнастайнасці праграм факультатыўных заняткаў, што існуюць у нашай адукацыі, у кантэксце медыяадукацыі знайшлося месца пакуль толькі для факультатыва Ірыны Буторынай «Інфармацыйны навігатар» для вучняў III—IV класаў. Ён сапраўды цікавы і змястоўны.

Сярод іншых — ёсць праграмы, не накіраваныя на медыяадукацыю, але з вялікім медыяадукацыйным патэнцыялам. Прыкладам, «Інфармацыйна-адукацыйныя рэсурсы ў сетцы інтэрнэт», X клас; «Мультымедыя ў сучасным жыцці», XI клас; «Обыкновенное чудо: содружество литературы и других видов искусства», VI клас. Але ў большасці сваёй падыход да інтэграцыі медыяадукацыі на факультатыўных занятках можа быць толькі такім, які прапанаваны для ўрочнай дзейнасці — медыянасычаныя заняткі.

Што тычыцца іншых напрамкаў пазаўрочнай дзейнасці, то гэтае выданне назапасіла шмат прыкладаў правядзення інфармацыйных гадзін, стварэння школьнай газеты, арганізацыі кінаклубу і інш. Для арганізацыі выхаваўчага працэсу — прастора дзейнасці неабсяжная.

Мне ўсё ж падаецца, што на першым этапе мэтазгодна для кожнага класа распрацаваць і правесці цыкл заняткаў па элементарнай медыяграматнасці, а далей працаваць з вучнямі на больш складаных узроўнях. Бо ёсць спакуса і ў настаўніка, і ў дзяцей абагнаць час і выйсці адразу на творчы ўзровень: пачаць ствараць медыяпрадукты рознага кшталту і ў вялікай колькасці, не засвоіўшы азы медыяграматнасці. Лепш не трэба, пакуль не спрацавала сістэма тэарэтычнага і практычнага навучання, грунтоўнага, мэтанакіраванага, эфектыўнага і надзвычай цікавага для дзяцей і дарослых. Без гэтага медыятворчасць — спецэфект для тых, хто не разбіраецца. А самае сумнае — дзеці набываюць звычку выдаваць пажаданае за сапраўднае, прызвычайваюцца да фармалізму. Таму мы пойдзем належным шляхам і трапім на гэты самы высокі творчы ўзровень медыяграматнасці пасля вывучэння і аналізу лепшых узораў таго, што ствараем.

КРОК 8. Нарэшце ствараем медыя!

Дачакаліся, навучыліся! І працягваем вучыцца, ствараючы свае артыкулы, газеты, буктрэйлеры, выпускі навін, постары, ілюстрацыі, чытацкія флэшмобы, звароты, крэатыўныя аб’явы і небанальныя, недылетанцкія прэзентацыі, ствараем сцэнарыі, вядзем відэаблогі. Колькі цікавага ўмеем, робім і плануем зрабіць!

Што ж насамрэч адбылося? Мы дапамаглі нашым дзецям (ды і сабе) быць больш незалежнымі ад медыяўплыву, бо мы ведаем, як ствараюцца медыяпаведамленні і навошта, якія існуюць сродкі ўплыву і данясення інфармацыі. Мы ўмеем самі ствараць медыятэксты.

КРОК 9. Вымяральна-выпраўляльна-прагнастычны.

Вернемся да кроку 4: дыягнастуем, даследуем, вымяраем тымі ж інструментамі, каб вызначыць, ці сапраўды адбыліся якасныя змены, скарэктаваць далейшую дзейнасць, паставіць новыя мэты, таксама дасягальныя і вымяральныя. Далей будуем новыя планы на новым узроўні, з новымі выклікамі часу. Настаўнікі-практыкі становяцца трэнерамі-мультыплікатарамі, таму задач будзе на адную болей: распаўсюджваць медыяадукацыйныя веды далей, трансляваць досвед свой і сваіх калег, досвед, які так непрыкметна набыўся, нібыта сам па сабе. А насамрэч, вялікай супольнай, а таму вельмі каштоўнай працай.

Вельмі хочацца спадзявацца, што агульныя намаганні дазволяць эфектыўна выкарыстоўваць бязмежны і пакуль не надта ўсвядомлены патэнцыял медыяадукацыі, каб напоўніць адукацыйны працэс сучасным зместам, забяспечыць нашым дзецям права быць медыяграматнымі і адчуваць сябе ўпэўнена і абаронена ў сучасным інфармацыйным грамадстве, раскрыць свае творчыя здольнасці, інтэграваць школьныя веды ва ўласнае жыццё.

## Заключэнне

Напэўна, можна выдзеліць некалькі груп чытачоў, кожная з якіх у рознай ступені пазнаёмілася са зместам кнігі. Першая група — педагогі, якія прагарталі наш дапаможнік. Другая — прачыталі адзін ці два раздзелы. Трэцяя — уважліва прачыталі ўсе пяць раздзелаў. Чацвёртая — не толькі прачыталі саму кнігу, але і выконвалі практыкаванні, вывучалі матэрыялы па шматлікіх спасылках на інтэрнэт-рэсурсы. Да якой групы належыце вы, паважаны чытач? Думаецца, што вы разумееце: ступень медыйнай кампетэнтнасці наўпрост залежыць ад глыбіні вашага паглыблення ў праблему.

Прачытаўшы першы раздзел, вы, напэўна, зразумелі актуальнасць медыйнай граматнасці для сучаснага чалавека, валодаеце адпаведнай тэрміналогіяй, разумееце месца медыя ў сучасным свеце і тое, што валоданне крытычным мысленнем і тэхнікамі аналізу тэкстаў робіць чалавека абароненым у акіяне інфармацыі, больш паспяховым у жыцці, навучанні і прафесійнай дзейнасці.

Матэрыялы другога раздзела дапамаглі вам зразумець, як інтэграваць медыяадукацыю ў працэс вывучэня школьнах прадметаў. Вы знайшлі канкрэтныя рэкамендацыі па фарміраванні медыйнай граматнасці вучняў.

Вы, калега, звярнулі ўвагу на разнастайнасць матэрыялаў наступных раздзелаў: на рэкамендацыі для правядзення інфармацыйных і класных гадзін, школьнага кінаклуба, выдання школьнай газеты. Калі вам было цікава, вы паглыбіліся ў пытанні стварэння медыятэкстаў, пазнаёміліся з парадамі па напісанні артыкула ў педагагічныя выданні, усвядомілі важнасць захавання інтэрнэт-бяспекі і аўтарскіх правоў, пазнаёміліся з досведам фарміравання медыяграматнасці вучняў ва ўстанове агульнай сярэдняй адукацыі і ва ўстановах дадатковай адукацыі.

Цудоўна, калі вы вызначыліся на далейшае павышэнне сваёй медыяадукацыйнай кампетэнтнасці, для чаго будзеце выкарыстоўваць шматлікія спасылкі, якія раскіданы па ўсім тэксце дапаможніка-навігатара, будзеце самі знаходзіць патрэбныя матэрыялы ў СМІ і выкарыстоўваць іх у сваёй практычнай дзейнасці. Альтэрнатывы гэтаму няма, бо дзеці ў значнай ступені знаходзяцца ў віртуальным свеце, ім трэба дапамагчы не толькі паспяхова ў ім арыентавацца, крытычна ацэньваць інфармацыю, але і з карысцю для сябе, грамадства, краіны, выкарыстоўваць у сваім жыцці, вучобе і прафесійнай дзейнасці.

Мы спадзяемся, што вы станеце мультыплікатарам ведаў — будзеце на семінарах, майстар-класах, кансультацыях перадаваць свае ўменні, свае каштоўнасці тым педагогам, якія пакуль не чулі ці мала ведаюць пра медыяграматнасць, метады і сродкі яе фарміравання. Поспехаў вам!

## Літаратура*:


1. Полонников, А. А. Дискурс-анализ событий образования. Критическое исследование / Полонников, А. А. — Минск: БГУ, 2013. — 343 с.
2. Scheibe, C. The teacher's guide to media literacy : Critical thinking in a multimedia world / C. Scheibe, F. Rogow. — Thousand Oaks. Corwin, 2012.
3. Медыяадукацыя ў школах Беларусі, тэматычны модуль / «Народная асвета» — 2016 — №3.
4. Запрудскі, М. Застацца ў жывых, або інструкцыя па выжыванні ў медыяасяроддзі / М. Запрудскі // Настаўніцкая газета, — 2014. — 2 снежня
5. Запрудскі, М. Медыяафарбоўка для ўрока / М. Запрудскі // Настаўніцкая газета — 2016. — 23 крас.
6. Шматмоўны сайт глабальнай адукацыі. Модуль «Крытычнае мысленне» [Электронны рэсурс] — Рэжым доступу: **http://monda.eu/be/modules** — Дата доступу: 06.09.2016.
7. Концепция информатизации системы образования Республики Беларусь на период до 2020 года — Рэжым доступу: **http://edu.gov.by/ru/main.aspx?guid=5551&queryText=%D0%B8%D0%BD%D1%84%D0...**
8. Рэкамендацыі Еурапарламента і Савета Еўропы аб ключавых кампетэнцыях навучання на працягу жыцця (2006/962/EC) — Рэжым доступу: **http://eur-lex.europa.eu/legal-content/EN/TXT/?uri=CELEX%3A32006H0962**
9. Медыяадукацыя. Еўрапейскія практыкі і беларуская рэчаіснасць. Аналітычная запіска. **http://www.nastaunik.info/node/14752**
10. Рэкамендацыі Севільскай канферэнцыі «Медыяадукацыя моладзі» (ЮНЕСКА, 2002) — Рэжым доступу: **http://www.unesco.ru/rus/pages/bythemes/stasya26012005152727.php**
11. UNESCO: Media and Information Literacy Curriculum for Teachers, 2011 — Рэжым доступу: **http://unesdoc.unesco.org/images/0019/001929/192971e.pdf**
12. Концепції впровадження медіа-освіти в Україні — Рэжым доступу: **http://www.medialiteracy.org.ua/index.php/19-publikatsii/164-kontseptsiy...**
13. Katalog kompetencji medialnych i informacyjnych. **https://nowoczesnapolska.org.pl/wp-content/uploads/2012/05/Cyfrowa-Przys...**
14. Полонников, А. , Барченок , А. К вопросу о кризисе современного белорусского образования / Наша адукацыя — Мінск, 2012. — **http://www.nastaunik.info/sites/default/files/page/files/nasa-adukacyja.pdf**


* Кожны параграф кнігі мае ўласныя спасылкі ці спісы рэкамендаванай літатаруры. Тут даюцца толькі выбраныя спасылкі да найбольш канцэптуальных крыніц, якія дазваляюць заглыбіцца ў тэарэтычныя асновы медыяадукацыі.

## Гласарый

**Аналіз медыятэксту** — вывучэнне і трактоўка медыятэксту. Адрозніваюць наступныя віды аналізу: кантэнт-аналіз, структурны, сюжэтны, аўтабіяграфічны, іканаграфічны, семіятычны, ідэнтыфікацыйны, ідэалагічны, філасофскі, эстэтычны, этычны і да т.п.

**Аўдыторыя медыя** — устойлівая сукупнасць людзей, аб'яднаных агульнымі інфармацыйнымі патрэбамі.

**Бяспека медыйная** — супрацьстаянне негатыўнаму ўздзеянню на індывідуальную і супольную свядомасць і псіхіку людзей, а таксама на крыніцы інфармацыі.

**Вайна гібрыдная** — мадэль вайны, якая спрабуе схаваць свой ваенны характар, а таксама ўдзел у ёй дзяржаўных структур. Менавіта таму ў ёй рэзка ўзрастае роля інфармацыйнага складніка. Дзяржава, якая вядзе гібрыдную вайну, задзейнічае недзяржаўных выканаўцаў — баевікоў, крымінальнікаў, групы мясцовага насельніцтва, арганізацыі, сувязь з якімі фармальна цалкам адмаўляецца. Гібрыдная вайна — гэта від вайны, якая вядзецца сіламі палітычнай прапаганды, тэрору, дэзынфармацыі і эканамічнага ціску на праціўніка. Гібрыдная вайна ўключае таксама падрыўную дзейнасць спецслужбаў на тэрыторыі праціўніка і розныя тэхнікі скажэння інфармацыі. Само слова «гібрыдная» азначае ў дадзеным кантэксце выкарыстанне адразу некалькіх рычагоў, сярод якіх баявыя дзеянні складаюць хоць і важную, але ўсяго толькі частку.

**Вайна інфармацыйная** — камунікатыўная тэхналогія ўздзеяння на інфармацыю і інфармацыйныя сістэмы праціўніка з мэтай дасягнення інфармацыйнай перавагі ў інтарэсах нацыянальнай стратэгіі, пры адначасовай абароне ўласнай інфармацыі і сваіх інфармацыйных сістэм.

**Відэагульні** — непрадуктыўная дзейнасць, матыў якой заключаецца ў самім працэсе. Дзеянні гульцоў каардынуе камп'ютарная праграма, якая арганізуе гульнявую прастору і можа выступаць у ролі партнёра або ўсталёўваць сувязь паміж гульцамі.

**Відэакліп (Відэаролік)** — кароткі аўдыявізуальны медыятэкст (рэкламны, музычны і г.д.).

**Віртуальная рэальнасць (Кібер-прастора)** — штучна сканструяваная камп'ютарнымі сродкамі прастора з усімі прыкметамі рэальнасці, дзе адбываецца *online* камунікацыя. У кібер-прасторы індывіды ўзаемадзейнічаюць, абменьваюцца ідэямі, дзеляцца інфармацыяй, ажыццяўляюць сацыяльную

падтрымку, вядуць бізнэс, ствараюць творы мастацтва, гуляюць у гульні, вядуць палітычныя дыскусіі і г.д. як з людзьмі, так і з віртуальнымі персанажамі, што прыводзіць часта да замяшчэння рэальнага жыццёвага вопыту віртуальным, набытым толькі праз інтэрнэт.

**Дэкадаванне (Дэканструкцыя)** — расшыфроўка, трактоўка інфармацыі, медыятэксту, знаходжанне скрытых і закадаваных паведамленняў і пасылаў.

**Грамадства інфармацыйнае** — прыступка ў развіцці сучаснай цывілізацыі, якая характарызуецца павелічэннем ролі інфармацыі і ведаў у жыцці грамадства, узрастаннем долі інфармацыйных прадуктаў і паслуг у валавым унутраным прадукце (ВУП), узнікненнем глабальнай інфармацыйнай прасторы, якая забяспечвае эфектыўнае ўзаемадзеянне людзей і доступ да сусветных інфармацыйных рэсурсаў, задавальненне розных грамадскіх і асабовых інфармацыйных інтарэсаў.

**Граматнасць візуальная** — вынік візуальнай адукацыі, прадугледжвае ўменне «чытаць», аналізаваць і дэкадаваць візуальны медыятэкст, веданне асноў візуальнай культуры.

**Жанр медыйны** — група медыятэкстаў, аб’яднаных на аснове падабенства іх тыпу, стылістыкі, унутранай будовы (трагедыя, камедыя, драма, меладрама, інтэрв’ю, рэпартаж і г.д.).

**Інтэрактыўнасць** — магчымасць спажыўцоў сучасных медыя ствараць уласнае інфармацыйнае поле, браць удзел у шматбаковым абмеркаванні, наладжваць уласны канал дастаўкі навін.

**Інфармацыя** — любыя звесткі, створаныя чалавекам для перадачы ў часе і / або прасторы.

**Інфатэйнмент** (ад спалучэння англ. слоў: *information* і *entertainment*) — інфармуючы, забаўляй. Прадугледжвае спосаб падачы матэрыялу, які прадугледжвае спалучэнне / сінтэз атрымання інфармацыі (навін) і правядзення вольнага часу. Паводле аналогіі: эдутэйнмент — спалучэнне адукацыі і забавы.

**Канвергентная журналістыка** — працэс зліцця, інтэграцыі інфармацыйных і камунікатыўных тэхналогій у адзіны інфармацыйны рэсурс, магчымасць атрымоўваць інфармацыю з дапамогай розных сродкаў і носьбітаў.

**Кібербулінг** — віртуальнае цкаванне.

**Кібергрумінг** — уваходжанне ў давер да дзіцяці з мэтай выкарыстання яго ў сэксуальных мэтах.

**Крытычнае мысленне (бачанне, ацэнка)** — у адносінах да сістэмы медыя гэта складаны рэфлексіўны працэс мыслення, здольнасць да ўспрымання

паведамленняў такімі, якія яны ёсць, глыбокае і дэталёвае разуменне гістарычнага, эканамічнага і мастацкага кантэкстаў, прадстаўленых у паведамленнях, здольнасць улоўліваць нюансы ў падачы інфармацыі, аналізаваць і рабіць лагічныя высновы аб моцных і слабых баках паведамлення.

**Маніпуляцыя медыйная** — сістэма прыёмаў і спосабаў медыйных уздзеянняў на аўдыторыю з мэтай навязвання якіх-небудзь ідэй, меркаванняў, паводзінаў або ўвядзення ў зман.

**Масавая камунікацыя** — працэс збору, апрацоўкі і распаўсюду сацыяльна значнай інфармацыі праз адмысловыя каналы на вялікую і размешчаную ў розных месцах аўдыторыю.

**Мас-медыя (Сродкі масавай камунікацыі, СМК)** — каналы распаўсюджвання масавай камунікацыі. Да асноўных М.-М. адносяцца перыядычны друк, радыёвяшчанне, тэлебачанне, інтэрнэт-медыя.

**Медыяадукацыя** (англ. *media education*) — галіна ведаў у педагагічнай тэорыі і практыцы, навучанне тэорыі і практычным уменням для асваення сучасных мас-медыя; выкарыстанне мас-медыя ў адукацыйным працэсе. Медыяадукацыя звязана з усімі відамі медыя (друкаванымі, графічнымі, гукавымі, экраннымі і г.д.) і рознымі тэхналогіямі; яна дае магчымасць людзям зразумець, як масавая камунікацыя выкарыстоўваецца ў іх соцыумах, авалодаць здольнасцямі выкарыстання медыя ў камунікацыі з іншымі людзьмі; забяспечвае чалавеку веданне таго, як: 1) аналізаваць, крытычна асэнсоўваць і ствараць медыятэксты; 2) вызначаць крыніцы і аўтараў медыятэкстаў, іх палітычныя, сацыяльныя, камерцыйныя і / або культурныя інтарэсы, кантэкст; 3) інтэрпрэтаваць медыятэксты і каштоўнасці, якія распаўсюджваюць медыя; 4) адбіраць адпаведныя медыя для стварэння і распаўсюджвання сваіх уласных медыятэкстаў і дасягнення зацікаўленай у іх аўдыторыі; 5) атрымаць магчымасць свабоднага доступу да медыя як для ўспрымання, так і для стварэння. Медыяадукацыя з'яўляецца часткай асноўных правоў кожнага грамадзяніна любой краіны свету — права на свабоду самавыяўлення і права на інфармацыю і з'яўляецца інструментам падтрымкі дэмакратыі. Медыяадукацыя рэкамендуецца да ўкаранення ў нацыянальныя навучальныя планы ўсіх дзяржаў, у сістэму дадатковай, нефармальнай і адукацыі на працягу ўсяго жыцця (UNESCO, 1999).

**Медыяграматнасць** — вынік медыяадукацыі, заключаецца ў сукупнасці матываў, ведаў, уменняў і магчымасцей, якія спрыяюць адбору, выкарыстанню, крытычнаму аналізу, ацэнцы, стварэнню і перадачы медыятэкстаў розных форм, жанраў, а таксама аналізу складаных працэсаў функцыянавання медыя ў грамадстве.

**Медыязалежнасць** — разлад валявых паводзін, які праяўляецца ў злоўжыванні медыя (залішні час спажывання медыяпрадукцыі, зніжэнне самарэгуляцыі,

звужэнне інтарэсаў толькі да сферы медыя з пагаршэннем у іншых сферах жыцця і да т.п.).

**Медыякампетэнцыя** — адказная рэалізацыя сацыяльных зносін у грамадскай практыцы, г. зн. здольнасць адбіраць, разумець, аналізаваць і ацэньваць змест медыя, выкарыстоўваць медыя падчас навучання і вольнага часу; уменне і жаданне быць стваральнікам асабістай медыяпрасторы, валодаць навыкамі самапрэзентацыі і зносін з іншымі карыстальнікамі медыя і крытычна ацэньваць уласную медыяактыўнасць.

**Медыясацыялізацыя** — з’ява інфармацыйнага грамадства, калі асноўныя арыенціры ўзаемадзеяння з соцыумам і фармавання ўласнай ідэнтычнасці дзіця набывае не ў сямейных стасунках, а пад уплывам СМІ.

**Медыятэкст** (англ. *media text*, *media construct*) — паведамленне, пераказанае ў любым відзе і жанры медыя (газетны артыкул, тэлеперадача, відэакліп, фільм і г.д.).

**Мэсыдж** (англ. *message*) — паведамленне, пасыл, галоўная ідэя (мэта) медыятэксту.

**Новыя медыя** — тэрмін, які ў канцы XX ст. сталі прымяняць да інтэрактыўных электронных выданняў і новых форм камунікацыі для абазначэння адрозненняў ад традыцыйных медыя (напрыклад, газет).

**Прапаганда** — сістэма прыёмаў і спосабаў уздзеяння на аўдыторыю з мэтай навязвання якіх-небудзь ідэй, меркаванняў, высноваў.

**Продакт плэйсмент** (англ. *product placement*) — інтэграцыя рэкламы прадукцыі ў сюжэт кіно ці тэлефільма, кліпа, тэлеперадачы.

**Раскадроўка** (англ. *storyboard*) — пакадравае планаванне медыятэксту на стадыі яго стварэння.

**Рэклама прыхаваная («Джынса»)** — рэкламныя матэрыялы, якія размяшчаюцца ў СМІ пад выглядам журналісцкіх.

**Сімвал** — умоўны знак, які абазначае пэўны сэнс, вобраз прадмета, які мае некалькі значэнняў.

**Сімулятары** — відэагульні, у якіх камп’ютарная праграма імітуе аспекты рэчаіснасці або выдуманы свет. Выкарыстоўваюцца ў навучальных мэтах.

**СМІ (Сродкі масавай інфармацыі)** — сродкі данясення інфармацыі (славеснай, гукавой, візуальнай) паводле прынцыпу шырокавяшчальнага каналу, які ахоплівае вялікую аўдыторыю і дзейнічае на пастаяннай аснове. Вельмі часта тэрміны «сродкі масавай камунікацыі» (СМК) і «сродкі масавай інфармацыі»

(СМІ) ужываюцца як сінонімы. Аднак паняцце СМК шырэйшае, бо мае на ўвазе інтэрактыўнае ўзаемадзеянне, а не толькі інфармаванне.

**СМК (Сродкі масавай камунікацыі)** — гл. мас-медыя.

**Стэрэатыпы медыйныя** — схематычныя, звыклыя, стабільныя ўяўленні аб жанрах, сацыяльных працэсах / падзеях, ідэях, людзях, якія дамінуюць у медыятэкстах, разлічаных на масавую аўдыторыю.

**Тролінг** (англ. *trolling)* — размяшчэнне ў інтэрнэце правакацыйных паведамленняў з мэтай выклікаць флэйм, канфлікты паміж удзельнікамі, узаемныя абразы і інш. Асобу, якая займаецца тролінгам, завуць тролем.

**Тэлесерыял** — мастацкі альбо дакументальны кінамастацкі твор, які складаецца з мноства серый і прызначаны для ўздзеяння на масавую аўдыторыю з мэтай фармавання сацыяльных паводзін, прыцягнення ўвагі да рэкламы.

**Флэйм** (ад англ. *flame* — агонь, полымя) — «спрэчка дзеля спрэчкі», акт размяшчэння відавочна некарэктнага, пагрозлівага альбо абразлівага паведамлення, звычайна, ў кантэксце дыскусій у інтэрнэце.

**Формы медыяадукацыі** — інтэграцыя ў традыцыйны навучальны прадмет, аўтаномныя ўрокі, лекцыі, семінары, факультатывы, гурткі, медыя / кінастудыі, медыя / кінаклубы, абавязковы прадмет у спецыялізаваных навучальных установах, спецкурсы і інш.

**Фэйк** — слэнгавы тэрмін, які абазначае падробку, копію або фальсіфікацыю. У дачыненні да СМІ пад фэйкам разумеюць навіну, якая не мае нічога агульнага з праўдай, так бы мовіць, падробку навіны. Фэйкі могуць закранаць за жывое тых, хто іх чытае: у гэтым выпадку ў чалавека адключаецца логіка, уключаюцца эмоцыі і ён верыць нават у самую неверагодную інфармацыю. Звяртаем увагу на рэсурс http://www.stopfake.org/, дзе можна знайсці падрабязныя інструкцыі аналізу медыятэкстаў (фота, відэа, пост у сацсетцы ды інш.) на фэйк .

**Web 2.0** — другая версія інтэрнэту, якая адрозніваецца ад «Web 1.0» інтэрактыўнасцю, яе асацыююць са свабодай абмену інфармацыяй, інтэраперацыйнасцю і супрацоўніцтвам.

# Звесткі пра аўтараў

**Алена Ананчыкава** — настаўніца фізікі, намесніца дырэктара СШ № 13 г. Жлобіна, настаўнік-метадыст, фіналіст конкурсу “Настаўнік года — 2011», сябра клуба “Крыштальны журавель”. E-mail: ananchikova@mail.ru.

**Алена Арэшка** — загадчыца Дзіцяча-юнацкай тэлестудыі Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі. E-mail: alena_areshka@yahoo.com.

**Міхась Булавацкі** — настаўнік матэматыкі, грамадскі дзеяч, сябра Таварыства беларускай школы, Таварыства беларускай мовы. E-mail: bulavacki@gmail.com.

**Ірына Буторына** — метадыст аддзела метадычнага забеспячэння пачатковай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. E-mail: irina.butorina2012@yandex.by.

**Вольга Жыткая** — настаўніца біялогіі Ушацкай сярэдняй школы, настаўнік вышэйшай катэгорыі, лаўрэат абласнога этапу конкурсу «Настаўнік года — 2014». E-mail: olgazhitkaja@gmail.com.

**Мікалай Запрудскі** — прафесар кафедры педагогікі і менеджменту адукацыі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, кандыдат педагагічных навук. E-mail: zaprudskyn@mail.ru.

**Наталля Ільініч** — настаўніца гісторыі і грамадазнаўства, краязнаўца, рэдактар сайта www.aacenka.by. E-mail: n.illinich@gmail.com.

**Наталля Катчанка** — настаўніца замежнай мовы (англ. і франц.) Нясвіжскай гімназіі, настаўнік вышэйшай катэгорыі. E-mail: natha@tut.by.

**Святлана Кірсанава** — журналіст. E-mail: kirsanovas1972@gmail.com.

**Міхась Кудзейка** — дацэнт кафедры прыватных методык ІПКіП БДПУ ім. М. Танка, кандыдат педагагічных навук. E-mail: mkudejko@gmail.com.

**Ала Лазіцкая** — дырэктар СШ № 2 г. Століна, настаўніца рускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі, кіраўнік раённага пастаянна дзеючага семінара «Медыяадукацыя ў сярэдняй школе». E-mail: alalozliza@gmail.com.

**Тамара Мацкевіч** — намесніца старшыні РГА «Таварыства беларускай школы», каардынатар курсаў дыстанцыйнага навучання «Медыяадукацыя ў школе». E-mail: tmackievic@gmail.com.

**Алена Палейка** — метадыст вышэйшай катэгорыі аддзела метадычнага забеспячэння гісторыка-грамадазнаўчай і сацыякультурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. E-mail: alenapaleika@gmail.com.



**Алена Радзевіч** — начальнік Цэнтра прафесійнага развіцця і інавацыйнай адукацыі Дзяржаўнай установы адукацыі «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі». E-mail: lenaradevich@tut.by.

**Алена Сеген** — метадыст вышэйшай катэгорыі ўпраўлення вучэбна-метадычнай работы Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. E-mail: selada@mail.ru.

**Галіна Сухава** — настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 5 г. Віцебска, настаўнік-метадыст, выдатнік адукацыі, лаўрэат конкурсу «Настаўнік года —2009», . E-mail: galaktika2972@mail.ru.

**Эла Якубоўская** — настаўніца фізікі гімназіі № 1 г. Жодзіна, настаўнік-метадыст. E-mail: elayakubouskaya@gmail.com.

## Падзяка

Таварыства беларускай школы і аўтары кнігі выказваюць шчырую падзяку шведскаму медыяінстытуту FOJO і асабіста медыяпедагогу Ёрану Андэрсану за навучанне і арганізаваныя для беларускіх настаўнікаў адукацыйныя стажыроўкі, Акадэміі ўкраінскай прэсы і асабіста Аксане Валашанюк за змястоўную дапамогу і пераклады замежных крыніц, а таксама іншым людзям і арганізацыям, якія далучыліся да выхаду друкаванай версіі кнігі.

Дзякуем настаўнікам-практыкам, на аснове досведу якіх была напісана гэтая кніга: Артуру Адамовічу, Таццяне Барткевіч, Таццяне Батуры, Зміцеру Бондару, Ліліі Булай, Наталлі Вішаватай, Анастасіі Гавінай, Віктару Герцыку, Але Гулюк, Алене Казловай, Юрасю Каласоўскаму, Аляксандру Лічыку, Святлане Локіс, Наталлі Ляшкевіч, Таццяне Маркевіч, Веры Мацкевіч, Алене Міхайлавай, Віталіне Папковіч, Алене Парахні, Яўгену Пархоменку, Юліі Паўлавай, Івану Песенку, Аляксандру Плятнёву, Вользе Прыгун, Аксане Русовіч, Галіне Руціч, Кацярыне Сабалеўскай, Вользе Саўчанцы, Галіне Свентухоўскай, Святлане Свірэпе, Алене Сеген, Паўлу Сінілу, Алене Сом, Вользе Счасновіч, Святлане Сяргеевай, Юрыю Тарасевічу, Таццяне Хачанковай, Юліі Цвірко, Вользе Цуканавай, Наталлі Чэрнікавай, Іне Шымко, Наталлі Шынкевіч, Аляксандру Якубоўскаму, Яніне Ярашынскай, Але Яцкевіч.




**Таварыства беларускай школы** — добраахвотная грамадская культурна-асветная арганізацыя, якая аб'ядноўвае грамадзян з мэтай садзейнічання фарміраванню сучаснай нацыянальнай сістэмы адукацыі. Вядзе традыцыі ад Таварыства беларускай школы (ТБШ), заснаванага 7 снежня 1921 г. у Радашковічах Браніславам Тарашкевічам.

ТБШ шчыльна супрацоўнічае з дзяржаўнымі, грамадскімі, прыватнымі навучальнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь, аказвае метадычную дапамогу дзеля абнаўлення адукацыйнай практыкі, удзельнічае ў напісанні новага пакалення падручнікаў, дапаможнікаў, метадычных распрацовак на аснове нацыянальных каштоўнасцей і абапіраючыся на найноўшыя дасягненні айчынных і замежных спецыялістаў. ТБШ усталёўвае і падтрымлівае сталыя дачыненні з адукацыйнымі арганізацыямі еўрапейскіх дзяржаў; ладзіць семінары, міжнародныя канферэнцыі, праводзіць абмен спецыялістамі, вучнямі і настаўнікамі. Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай школы» зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 30 жніўня 1996 г.




[www.nastaunik.info](http://www.nastaunik.info)

**Інфармацыйна-метадычны партал для настаўнікаў**

Навіны адукацыі. Новыя тэхналогіі і метады выкладання. Грамадзянская адукацыя і нацыянальнае выхаванне. Адукацыйны досвед беларускіх настаўнікаў: распрацоўкі ўрокаў, школьных святаў, пазакласных мерапрыемстваў. Падручнікі, метадычныя дапаможнікі, навучальныя відэа- і аўдыясродкі. Конкурсы і абвесткі. Сайт мае адмысловы раздзел «Медыякомпас», прысвечаны медыяадукацыі.

Nastaunik.info – гэта грамадскі праект, створаны настаўнікамі і для настаўнікаў як пляцоўка для ўзаемадапамогі, абмену досведам, публікацыямі і педагагічнымі ідэямі.

# Медыяадукацыя ў школе:
## фарміраванне  медыяграматнасці вучняў

**Дапаможнік-навігатар для настаўнікаў**

Укладанне *Тамара Мацкевіч*
Рэдактар *Мікалай Запрудскі*
Тэхнічны рэдактар *Юрась Новікаў*
Карэктар *Вольга Крукоўская*
Дызайн вокладкі *Андрэй Бандарэнка*

Падпісана да друку 17.09.2016. Фармат 70x100 1/16.
Гарнітура Myriad. Папера афсетная. Наклад 299.

Издательство «Юстинус»
(г. Белгород, ул. Центральная, 103а)

Отпечатано: Типография «С-Принт»,
214020, г. Смоленск, ул. Шевченко, 71 оф. 48.